ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Ліпень—Жнівень

№ 7—8
(21) (22)

1932

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАЇНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ



ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ

№ 7-8 (21-22)




МЕНСК — 1932

## Ад рэдакцыі

У пастанове ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе падкрэсьлена вялізарнейшае значэньне організацыі работы адпаведных навукова-дасьледчых інстытутаў у кірунку вывучэньня і абагульненьня вопыту, накопленага практычнымі работнікамі школы, у асаблівасьці па політэхнізацыі. Вывучэньне вопыту лепшых школ і практычных работнікаў школы у мэтах пераняесеньня гэтага вопыту ў іншыя школы, вывучэньне гісторыі школ, якія пасьпяхова вырашаюць проблему політэхнізацыі школы і якія дасягнулі добрых вынікаў у справе ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, зьяўляецца аднэй з найважнейшых задач краязнаўчых організацый, асабліва школьных сэкцый, краязнаўчых ячэек і краяведаў-настаўнікаў.

Матар'ялы, якія зьмяшчаюцца ў гэтым нумары, зьяўляюцца спробай навуковых працаўнікоў Навукова-дасьледчага інстытуту комвыхаваньня і практычных работнікаў школы выявіць вопыт у галіне работы нашых школ, паказаць дасягненьні і недахопы ў справе пабудовы політэхнічнай школы на аснове пастановы ЦК УсеКП(б). Гэтыя матар'ялы зьяўляюцца толькі пачаткам тэй вялізарнейшай работы, якая павінна быць разгорнута па выяўленьню вопыту перабудовы работы політэхнічнае школы і якая (работа) павінна знайсьці сваё асьвятленьне на старонках нашага часопісу.

Краяведы-пэдагогі павінны заняцца вывучэньнем дасягненьняў політэхнічнай школы і паказаць, як у практычнай рабоце школ выкарыстоўваецца краязнаўчы матар'ял, наколькі гэты матар'ял кладзецца ў аснову прапрацоўкі школьных програм, як і ў якой меры школьнае акружэньне выкарыстоўваецца ў вучэбна-выхаваўчых мэтах школы. Вельмі патрэбна, каб работнікі школ далі жывы малюнак барацьбы паасобных школ за рэальнае ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б), напісалі гісторыю перадавых школ, найлепш вырашаючых задачу політэхнічнага навучаньня.

У наступных нумарох „Савецкае Краіны“ будуць зьмяшчацца матар'ялы, якія будуць выяўляць практыку, вопыт школ і інструкцыі па выкарыстаньню мясцовага матар'ялу ў школьнай рабоце. У выяўленьні вопыту лепшых школ і распрацоўцы інструкцый актыўны ўдзел павінны прыняць усе навуковыя працаўнікі і практычныя работнікі школ.

*Рэдакцыя*

# Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе

## Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г.

ЦК УсеКП(б) устанаўляе, што ў галіне пачатковай і сярэдняй школы па РСФСР за апошні год адбыліся значныя зрухі ў сувязі з увядзеньнем усеагульнага абавязковага навучаньня, пераходам да сыстэматычнага ўсваеньня навук на аснове пэўных навучальных плянаў, програм і раскладаў. Аднак, яшчэ ня зьнішчаны да канца карэнны недахоп школы, які заключаецца ў тым, што „навучаньне ў школе недае выстарчальнага аб'ёму агульна-асьветных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навукі (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш.)“. (Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 г.).

Важнейшымі прычынамі гэтага зьяўляюцца недахопы програм (у асаблівасьці для 2-га концэнтру школы—5, 6, 7 групы), нездавальняючасьць мэтодаў школьнай работы і слабасьць мэтодычнага кіраўніцтва з боку народных камісарыятаў асьветы і іх мясцовых органаў, слабая дысцыпліна ў школе, а іншы раз адсутнасьць усякай дысцыпліны і парадку.

Трэба таксама адзначыць адсутнасьць увязкі паміж рознымі зьвеньнямі школьнай сыстэмы, у выніку чаго пачатковая і сярэдняя школы ні па выпускаемых контынгентах, ні па ўзроўні ведаў не адпавядаюць задачам падрыхтоўкі кадраў для паступленьня ў тэхнікумы, ВТНУ і ВНУ.

ЦК УсеКП(б) пастанаўляе:

### 1. Аб навучальных програмах

Констатуючы, што пасьля пастановы Цэнтральнага Камітэту ад 5 верасьня 1931 году навучальныя програмы Наркамасьветы РСФСР для пачатковай і сярэдняй школы, у асаблівасьці програмы 1-ай ступені, значна палепшыліся, сталі вышэйшымі па аб'ёму ведаў і больш сыстэматычнымі па разьмяшчэньню вучэбнага матар'ялу ў параўнаньні з програмамі мінулых год, ЦК лічыць, што яны ўсё яшчэ маюць істотныя недахопы і павінны быць — у частцы програм 5, 6, 7 г. г.—пераапрацаваны.

Асноўнымі недахопамі програм зьяўляюцца:

а) Перагрузка програм вучэбным матар'ялам, якая прыводзіць да таго, што рад дысцыплін праходзіцца ў школе насьпех, а веды

і

навыкі дзецьмі цьвёрда ня ўсвойваюцца і не замацоўваюцца (па матэматыцы—аддзел стэрэомэтрыі ў 7-й групе, па літаратуры—уключэньне ў вучэбныя програмы твораў, недаступных вучням і г. д.).

б) Невыстарчальнасьць і нават адсутнасьць увязкі паміж паасобнымі програмамі, у асаблівасьці паміж програмай па матэматыцы і чарчэньні, а таксама паміж програмамі па матэматыцы, фізыцы, хэміі і програмай па працы і г. д. (геомэтрычныя веды, якія патрабуюцца програмай па чарчэньні 5-га году, даюцца толькі ў 6-м годзе, вывучэньне фізыкі ў 5, 6 і 7 гадох не забясьпечана аб'ёмам матэматычных ведаў і г. д.).

в) Наяўнасьць прынцыповых памылак у радзе програм і ўпрашчэнцка-вульгарызатарскі падыход некаторых складальнікаў програм да сваёй задачы (адсутнасьць разуменьня аб паскарэньні, разуменьня аб сіле і законах Н'ютона ў курсе фізыкі, змазваньне разуменьня аб клетцы ў курсе біолёгіі, адсутнасьць орыентоўкі на карту ў курсе географіі, паасобныя палітычныя памылкі ў курсе грамадазнаўства).

г) Невыстарчальнасьць гістарычнага падыходу да програм па грамадзкіх прадметах, якая выяўляецца ў тым, што ў іх надзвычай слаба даецца ўяўленьне аб гістарычным мінулым народаў і краін, аб разьвіцьці чалавечага грамадзтва і г. д.

Істотным недахопам зьяўляецца і тое, што не распрацаваны яшчэ програмы па гісторыі.

У адпаведнасьці з гэтым ЦК прапануе.

1. Наркамасьветы РСФСР перапрацаваць да 1-га студзеня 1933 году програмы для пачатковай і сярэдняй школы такім чынам, каб забясьпечыць сапраўднае, добрае і сыстэматычнае ўсваеньне дзецьмі асноў навук, веданьне фактаў і навыкі правільнай гутаркі, пісаньня матэматычных практыкаваньняў і інш.

2. Пры перапрацоўцы програм кіравацца наступным:

а) Правесьці ўнутранае пераразьмеркаваньне вучэбнага матар'ялу програм па матэматыцы, фізыцы, хэміі і біолёгіі для груп 2-га концэнтру, прывёўшы аб'ём і характар вучэбнага матар'ялу гэтых програм у поўную адпаведнасьць з узроснымі асаблівасьцямі дзяцей кожнай з гэтых груп. Адначасова з гэтым неабходна зрабіць і частковае скарачэньне програм 2-га концэнтру па матэматыцы, фізыцы, біолёгіі і хэміі з тым, каб бязумоўна забясьпечыць цьвёрдае і добрае ўсваеньне і замацаваньне асноў кожнай навукі.

б) Зьнішчыць існуючыя факты невыстарчальнай увязкі паміж вучэбнымі програмамі 2-га концэнтру па матэматыцы, фізыцы і хэміі, а таксама паміж програмамі па гісторыі, грамадазнаўству, літаратуры і мовах.

в) Улічыць неабходнасьць выкарыстаньня ў вучэбных занятках (практыкаваньні па расійскай мове, матэматыцы, грамадазнаўству і г. д., лябораторныя работы па фізыцы, хэміі і прыродазнаўству) матар'ялу соцыялістычнага будаўнітцва, забясьпечыўшы дакладны падбор даступнага дзецям матар'ялу.

г) Значна ўзмацніць элемэнты гістарызму ў програмах па грамадазнаўству, па мове і літаратуры, географіі, ілюструючы

асноўныя разьдзелы і тэмы гэтых дысцыплін неабходным фактычным матар'ялам, гістарычнымі экскурсамі і параўнаньнямі.

д) Прадугледзець павялічэньне колькасьці гадзін на матэматыку, пабудаваўшы курс матэматыкі ў пачатковай і сярэдняй школе такім чынам, каб забясьпечыць пераход да наступных ступеняў профтэхнічнай асьветы.

е) У праграмах па фізыцы—увесьці адсутныя элемэнты статыкі, разуменьне аб сіле, аб законах Н'ютона; па біолёгіі—разуменьне аб клетцы і клетачнай будове організму; па хэміі—неабходна больш сыстэматычнае складаньне праграмы, разьлічанае на цьвёрдае ўсваеньне элемэнтарных хэмічных паняцьцяў; па геаграфіі—праграма павінна забясьпечыць веданьне карты, у асаблівасьці карты СССР, асноўных паняцьцяў фізычнай географіі, асноўных элемэнтаў фізычнай, прыроднай і экономічнай географіі СССР як у цэлым, так і кожнай з рэспублік, краёў і абласьцей у паасобку; у вучэбныя праграмы па географіі павінны быць уключаны ў належным аб'ёме і веды па географіі капіталістычных краін.

ж) Прызнаць неабходным, каб сярэдняя школа абвязкова забясьпечыла веданьне аднэй чужаземнай мовы кожнаму, які канчае школу.

з) Адзначаючы, ня гледзячы на некаторае палепшаньне, усё яшчэ нездавальняючы стан праграм і выкладаньне роднай мовы і грамадазнаўства, ЦК УсеКП(б) прапануе Наркамасьветы РСФСР зьвярнуць асаблівую ўвагу на распрацоўку праграм па гэтых прадметах і палепшаньне выкладаньня іх.

Праграма па роднай мове павінна забясьпечыць усваеньне сапраўды сыстэматычнага і дакладна акрэсьленага кола ведаў, а таксама добрых навыкаў правільнага чытаньня, пісаньня і вуснага говару, увёўшы ў практыку навучальнай работы вучняў самастойныя пісьмовыя работы, граматычны разгляд і інш. як у клясе, так і на даму.

і) Прызнаць неабходным у вучэбныя праграмы па грамадазнаўству, літаратуры, мовах, географіі і гісторыі ўвесьці важнейшыя веды, якія датычаць нацыянальных культур народаў СССР, іх літаратуры, мастацтва, гістарычнага разьвіцьця, а таксама і элемэнты краязнаўства СССР (прыродныя асаблівасьці, прамысловасьць, сельская гаспадарка, соцыяльна-экономічнае разьвіцьцё і г. д.).

к) Надаючы вялікае значэньне пастаноўцы працоўнага навучаньня ў політэхнічнай школе, прызнаць неабходным перааправацаваць вучэбныя праграмы па працы з тым, каб забясьпечыць сапраўднае злучэньне навучаньня з продукцыйнай працай і вывучэньне „ў тэорыі і на практыцы галоўных галін вытворчасьці" [праграма УсеКП(б)], кіруючыся ўказаньнямі Леніна, што політэхнічны прынцып „не патрабуе навучаньня ўсяму, але патрабуе навучаньня асновам сучаснай індустрыі наогул" (запіс Леніна на III сэсіі УсеЦВК 7-га скліканьня 26-27 верасьня 1920 году па дакладу Наркамасьветы).

Выходзячы з гэтага, неабходна забясьпечыць, як указваў Ленін, наступныя „асновы політэхнічнай асьветы": „асноўныя

паняцьці аб электрычнасьці", „прыстасаваньне электрычнасьці да мэханічнай прамысловасьці", „таксама да хэмічнай", „таксама аб пляне электрыфікацыі РСФСР", наведваньне „ня менш 1—3 раз электрычнай станцыі, заводу, савгасу", „ведаць такія-та асновы агрономіі і г. д (распрацаваць дэталёва мінімум ведаў)".

У сувязі і побач з гэтым вучням у сярэдняй школе павінна быць забясьпечана аўладаньне асноўнымі інструмантамі і атрыманьне навыкаў па апрацоўцы дрэва, мэталю і інш.

## II. Аб арганізацыі вучэбнай работы і ўмацаваньні школьнага рэжыму

Адзначыць, што ў адносінах арганізацыі вучэбных заняткаў у школе пасьля пастановы ЦК ад 5 верасьня 1931 году ўстаноўлен большы парадак (цьвёрдыя расклады, больш выразная арганізацыя вучэбнай работы і ходу вучэбных заняткаў).

Аднак, ня гледзячы на ўказаньне ЦК у гэтай пастанове аб тым, што ні адзін мэтод ня можа быць прызнан асноўным і унівэрсальным мэтодам вучобы, у практыцы работы школ атрымаў пашырэньне, як асноўны, так званы „лябораторна-брыгадны мэтод" (у радзе школ ён стаў унівэрсальным), які справаджаўся арганізацыяй пастаянных і абавязковых брыгад, прывёўшых да скажэньняў у выглядзе абязьлічкі ў вучэбнай рабоце, да зьніжэньня ролі пэдагога і ігнараваньня ва многіх выпадках індывідуальнай вучобы кожнага вучня.

ЦК УсеКП(б) прапануе народным камісарыятам асьветы саюзных рэспублік ліквідаваць гэтыя скажэньні лябораторна-брыгаднага мэтоду, а вучэбны працэс у школе арганізаваць на наступнай падставе:

а) Асноўнай формай арганізацыі вучэбнай работы ў пачатковай і сярэдняй школе павінен зьяўляцца ўрок з данай групай вучняў са строга вызначаным раскладам заняткаў і цьвёрдым складам вучняў. Гэта форма павінна ўключыць у сябе пад кіраўніцтвам настаўніка агульна-групавую, брыгадную і індывідуальную работу кожнага вучня з ужываньнем рознастайных мэтодаў навучаньня. Пры гэтым павінны ўсяляк разьвівацца колектыўныя формы вучэбнай работы, не практыкуючы арганізацыі пастаянных і абавязковых брыгад.

б) Настаўнік абавязан сыстэматычна, пасьлядоўна выкладаць сваю дысцыпліну, усямерна прывучаючы дзяцей да работы над падручнікам і кнігай, да рознага роду самастойных пісьмовых работ, да работы ў габінэце, у лябораторыі, вучэбнай майстэрні і шырока ўжываючы, пабач з гэтымі асноўнымі мэтодамі, рознага роду дэмонстрацыі вопытаў і прыбораў, экскурсіі (на завод, у музэй, у поле, у лес і інш.); пры гэтым настаўнік павінен усямерна дапамагаць дзецям пры затрудненьнях у іх вучэбных занятках. Трэба сыстэматычна прывучаць дзяцей да самастойнай работы, шырока практыкуючы розныя заданьні, у меру аўладаньня пэўным курсам ведаў (рашэньне задач і практыкаваньняў, выраб модэляў, работа ў лябораторыях, зьбіраньне гербарыяў, выкарыстаньне прышкольных вучасткаў для вучэбных мэт і інш).

ЦК абавязвае Наркамасьветы і іх органы бязумоўна забясьпечыць ва ўсёй вучэбнай рабоце школы кіруючую ролю настаўніцкага пэрсоналу.

в) У аснову ўліку школьнай работы павінен быць пакладзен бягучы індывідуальны сыстэматычна правадзімы ўлік ведаў вучняў. Настаўнік павінен у процэсе вучэбнай работы ўважліва вывучаць кожнага вучня. На аснове гэтага вывучэньня настаўнік абавязан у канцы кожнай чвэрці складаць характарыстыку пасьпяховасьці кожнага вучня па даным прадмеце. Усякія складаныя схэмы і формы ўліку і справаздачнасьці—забараніць.

Лічыць неабходным устанаўленьне ў канцы году праверачных іспытаў для ўсіх вучняў.

г) Прапанаваць Наркамасьветы тэрмінова распрацаваць мэтодыкі па асобных дысцыплінах, а таксама па розных відах вучэбна-выхаваўчай работы (напрыклад, у ляబараторыі, на вытворчасьці, на прышкольным участку) дастасоўна да ўзросных асаблівасьцяў вучняў.

д) У радзе выпадкаў адміністрацыя школы і пэдагогі не зварачаюць увагі на парушэньні парадку ў школе і не праяўляюць ініцыятывы да ўмацаваньня сьвядомай дысцыпліны вучняў. З прычыны гэтага абавязаць загадчыкаў школ і пэдагогаў павесьці настойлівую выхаваўчую работу, змагаючыся з учынкамі вучняў, якія парушаюць парадак у школе, прыцягваючы да гэтай справы грамадзкія організацыі, бацькоў, комсамольскія і піонэрскія організацыі, а непапраўных з вучняў, хуліганствуючых, якія зьневажаюць настаўніцкі пэрсонал і парушаюць распараджэньні адміністрацыі школы і пэдагогаў і якія ломяць школьны рэжым, псуюць або крадуць маемасьць школы,—выключаць са школы бяз права паступленьня ў школу тэрмінам ад аднаго да трох год.

е) Прапанаваць народным камісарыятам асьветы распрацаваць рад мерапрыемстваў па сыстэматычнай пэдагогічнай пропагандзе, прыступіўшы неадкладна да складаньня і выданьня популярнай пэдагогічнай літаратуры для бацькоў.

ж) У мэтах узьняцьця эфэктыўнасьці пэдагогічнай работы ў школе і ўлічваючы вялізарнае значэньне для гэтага забесьпячэньня школы такімі неабходнымі прыналежнасьцямі настаўніцкай працы, як вучэбныя падручнікі, вучэбная апаратура для габінэтаў і вучэбна-вытворчае абсталяваньне майстэрань і іншыя віды вучэбных падручнікаў,—распрацаваць у двухмесячны тэрмін плян разгортваньня выпуску і забесьпячэньня пачатковай і сярэдняй школы вучэбнымі дапамогамі (картамі, глёбусамі, нагляднымі табліцамі і г. д.), вучэбнай апаратурай для прырода-навуковых і фізыка-матэматычных габінэтаў, а таксама і плян стандартнага абсталяваньня рабочых пакояў і школьных майстэрань адпаведнымі варштатамі, інструмантамі і матар'яламі ў мэтах падвядзеньня належнай вучэбнай базы для організацыі політэхнічнай школы.

Плян пашырэньня выпуску і паляпшэньня забесьпячэньня школ гэтымі падручнікамі павінен быць распрацаваны з такім разьлікам, каб ужо ў 1932-33 навучальным годзе дабіцца значнага павышэньня матар'яльнай вучэбнай базы ўсёй школьнай работы.

## III. Аб настаўніцкіх кадрах

1. Адзначаючы значны рост актыўнасьці настаўніка і павышэньне яго адказнасьці за работу на працягу апошніх год, ЦК УсеКП(б) падкрэсьлівае ўсё ўзрастаючую ролю настаўніка ў справе навучаньня дзяцей асновам навук, выхаваньня ў іх сьвядомай дысцыпліны і комуністычных адносін да вучобы і працы.

ЦК УсеКП(б) абавязвае народныя камісарыяты асьветы саюзных рэспублік, савецкія і партыйныя органы ўсямерна забясьпечыць настаўніку ў яго рабоце неабходныя ўмовы для пасьпяховага выкананьня ім адказных і ганаровых абавязкаў па навучаньню і выхаваньню маладога пакаленьня Саюзу соцыялістычных савецкіх рэспублік. Сыстэматычная работа над павышэньнем ідэёва-палітычнага ўзроўню, агульнай асьветы і пэдагогічнага майстэрства настаўніка, безагаворачнае і дакладнае выкананьне дырэктыў ЦК і СНК СССР аб прыраўнаньні настаўніка па снабжэньню продуктамі і прамтаварамі да прамысловага рабочага, сваечасовая выплата заработнай платы, клопаты аб кватэры, сям'і і адпачынку настаўніка, чулыя адносіны да яго штодзенных патрэб,—усё гэта павінна характарызаваць сцраўднае выкананьне савецкімі і партыйнымі органамі дырэктыў партыі аб ленінскіх адносінах да настаўніка.

2. Наркамасьветы ўстанавіць дакладны парадак пераводу і назначэньня настаўнікаў і такую расстаноўку кадраў на мясцох, якая забясьпечвала-б правільнае выкарыстаньне на рабоце вопытных настаўнікаў і сыстэматычную дапамогу з боку апошніх маладым настаўніцкім кадрам.

Прапанаваць мясцовым органам не адрываць настаўніка для грамадзкай работы ў часе заняткаў у школе і падрыхтоўкі да іх (падрыхтоўка да лекцый, самаадукацыя, удзел на курсах і ў мэтодычных нарадах і г. д.), катэгорычна забараніўшы выкарыстаньне настаўніка для выкананьня розных тэхнічных даручэньняў па рабоце сельсавету, райвыканкому і г. д.

3. Лічыць неабходным рабіць прыёмы дзяцей настаўніцтва ў тэхнікумы, ВНУ і ВТНУ нароўні з рабочымі.

4. ОГИЗ'у да 1 студзеня 1933 году організаваць падбор і рассылку настаўнікам па даступнай цане комплектаў кніг, найбольш неабходных пэдагогам па асобных галінах ведаў і пэдагогічных пытаньнях.

Наркамасьветы сумесна з кнігагандлюючымі організацыямі апублікаваць у месячны тэрмін ільготныя ўмовы куплі і атрыманьня кніг настаўнікамі.

5. Наркамасьветы прыняць меры да таго, каб у найкарацейшы тэрмін паставіць належным чынам усю справу пэдагогічнай асьветы, завочнага і кароткатэрміновага навучаньня настаўнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на аўладаньне настаўніцтвам мэтодыкай і інструмантамі пэдагогічнай працы (умелае скарыстаньне для навучаньня падручнікаў, прыбораў, карты, наглядных табліц, кіно, радыё і г. д.).

Усямерна пашырыць практыку заахвочаньня і прэміяваньня настаўнікаў за лепшыя ўзоры работы, а таксама ўлік і выкарыстаньне ў кіраўніцтве дасягненьняў перадавых школ і настаўнікаў.

## IV. Аб старэйшых групах сярэдняй школы

У мэтах ажыцьцяўленьня програмы партыі—„аб правядзеньні бясплатнай і абавязковай агульнай і політэхнічнай (якая знаёміць у тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці) асьветы для ўсіх дзяцей абодвух родаў да 17 год“ (програма УсеКП(б), а таксама ў мэтах хутчэйшага ўзьняцьця ўзроўню агульнаасьветнай і політэхнічнай падрыхтоўкі вучняў сярэдняй школы, пашырэньня падрыхтаваных контынгентаў для вышэйшай школы і зьнішчэньня ўзроснай неадпаведнасьці паміж сярэдняй і вышэйшай школай, прыступіць, пачынаючы з 1932-33 навучальнага году, да рэорганізацыі сямігадовай політэхнічнай школы ў дзесяцігадовую.

Выходзячы з гэтага, прапанаваць СНК СССР у месячны тэрмін зацьвердзіць конкрэтны плян і разьмеры організацыі ў надыходзячым навучальным годзе над сямігодкай 8-х груп, як першы крок да дзесяцігадовай школы.

**ЦК УсеКП(б).**

# Аб рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе

## Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б працоўныя БССР дабіліся значных посьпехаў у будаўніцтве савецкай політэхнічнай школы.

З посьпехам завершана ў БССР увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня на базе пачатковай школы і прыступлена да ўвядзеньня ўсенавучу за сямігодку па ўсіх гарадох, прамысловых цэнтрах і 17 раёнах. Агульны ахоп школай дзяцей ад 8 да 12 год складае па БССР каля 98 проц., прычым дзеці ахоплены навучаньнем на роднай мове. Увядзеньне ўсенавучу зьяўляецца буйнейшай перамогай ня толькі на культурным, але і на гаспадарчым і на політычным франтох.

Гэтыя посьпехі асабліва яркія на фоне катастрофічнага заняпаду і дэградацыі культуры ў капіталістычных краінах, асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе фашысцкай Польшчай разбураюцца апошнія рэшткі беларускіх школ, дзесяткі тысяч дзяцей працоўнага насельніцтва знаходзяцца па-за школай.

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе вызначыла сабой новы этап будаўніцтва савецкай політэхнічнай школы, сконцэнтраваўшы асаблівую ўвагу на барацьбе за якасьць школьнай работы.

ЦК КП(б)Б адзначае, што ў процэсе практычнай рэалізацыі гэтай пастановы праведзена значная работа па выкрыцьцю праваопортуністычных і „лявацкіх“ скажэньняў лініі партыі ў тэорыі і практыцы школьнай работы. Узмацнілася ўвага парторганізацыі да школ.

Дасягнуты некаторыя зрухі ў галіне перабудовы і організацыі школьнай працы, стварэньня пры школах майстэрань і рабочых пакояў. Станоўчым момантам зьяўляецца пераход на новыя програмы і прадметны мэтод выкладаньня. Пачата перабудова дзіцячага самакіраваньня, з мэтай пераключэньня яго на барацьбу за якасьць навучаньня і сьвядомую дысцыпліну.

У выніку гэтага некаторыя школы ўжо даюць прыклады добрай работы (20 і 25 ФЗС г. Менску, яўрэйская сямігодка ў Жыткавічах, сямігодка ў Капылі і інш.).

ЦК адзначае, што пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб масавай школе значна ўзьнялі актыўнасьць асноўных мас насельніцтва і паказаныя вышэй посьпехі дасягнуты таксама дзякуючы

прыкладнай рабоце значнай часткі настаўнікаў, паказаўшых ударныя тэмпы работы.

Аднак, ЦК констатуе, што гэтыя зрухі ў параўнаньні з тымі вялікімі задачамі, якія прад'яўляюцца школе сучасным этапам соцбудаўніцтва, зусім нязначныя, што тэмпы рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б застаюцца нездавальняючымі і належнага павароту ў рабоце школ яшчэ няма. Карэнным недахопам школ па-ранейшаму застаецца недастатковасьць аб'ёму агульнаасьветных ведаў і нездавальняючае вырашэньне задачы падрыхтоўкі для тэхнікумаў і ВНУ зусім пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук. ЦК лічыць, што асноўнымі прычынамі гэтага зьяўляецца:

1) Невыстарчальны паварот апарату НКА, раёну і профсаюзу працасьветы да конкрэтнага опэрацыйнага кіраўніцтва школамі ў адпаведнасьці з пастановаю ЦК.

2) Зусім слаба пастаўлена непасрэднае мэтодычнае кіраўніцтва школай і практычная дапамога настаўніцтву, як з боку НКА, таксама і раённых аддзелаў асьветы.

Работа раённых і сельскіх мэтодаб'яднаньняў зусім не наладжана. Інструктары-мэтодысты яшчэ і да гэтага часу не займаюцца вывучэньнем вопыту і дапамогай школе, а працуюць у пераважнай большасьці як інспэктары-контралёры, грамадзкія інспэктары амаль не скарыстоўваюцца АНА.

3) Як паказвае абсьледваньне 4-х раёнаў (Дрыса, Вушачы, Лепель, Ворша), зусім слаба пастаўлена конкрэтнае опэрацыйнае кіраўніцтва, праверка прынятых пастаноў і зацікаўленасьць работай школ з боку РК КП(б)Б і асабліва парт'ячэек.

Комсамольская організацыя, як шэф усенавучу, зусім слаба дапамагае ў рабоце школ, у прыватнасьці па кіраўніцтву школьнымі піонэрорганізацыямі.

Зусім невыстарчальная ўвага да пытаньня работы школ з боку РВК і сельсаветаў.

4) Ня гледзячы на надзвычай нізкі ўзровень падрыхтоўкі тых настаўнікаў, якія прайшлі кароткатэрміновыя курсы, ня створаны неабходныя ўмовы для павышэньня іх кваліфікацыі. Настаўніцтва, асабліва актыў, перагружана ўсялякімі нагрузкамі, нават тэхнічнага парадку, і зусім ня мае часу ня толькі для павышэньня сваёй кваліфікацыі, але нават для падрыхтоўкі да заняткаў. Завочнае навучаньне зусім слаба разгорнута. Мае месца недапушчальная практыка адрыву настаўнікаў ад заняткаў у школе на ўсялякую іншую работу.

5) У цэлым радзе раёнаў, сельсаветаў ня выкананы дырэктывы партыі і ўраду ў галіне забесьпячэньня настаўніцтва і несваечасова выплачваецца зарплата, ёсьць незабесьпячэньне харчовымі і прамтаварнымі фондамі, факты разбазарваньня іх, няўважлівыя адносіны з боку снабжаючых органаў да справы снабжэньня настаўніцтва.

6) Ня выкананы дырэктывы ЦК з боку НКА, НК Лёгпраму, Сампрамсаюзу, НКлесу аб організацыі вырабу абсталяваньня для школьных майстэрань і навучальных прылад, у выніку чаго школы вельмі слаба абсталяваны. Школьнае будаўніцтва зры-

ваецца ў цэлым радзе раёнаў, галоўным чынам, з-за няўвагі да гэтай справы з боку раённых кіруючых органаў.

7) Масавыя формы работы (культпаход, адзіны плян, саветы, культбудаўніцтва) не атрымалі далейшага пашырэньня і якаснага паляпшэньня і вельмі слаба скарыстаны ў барацьбе за выкананьне пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.

8) Побач з вялізарным ростам соцыялістычнай грамадзкасьці ў школе, з уцягненьнем значнай масы вучняў, асабліва старэйшых груп, да непасрэднага ўдзелу ў соцбудаўніцтве, соцспаборніцтве і ўдарніцтве і г. д., мелі месца асобныя выпадкі праяўленьняў клясава-варожых уплываў і антыграмадзкіх учынкаў з боку вучняў, асабліва ў тых школах, дзе дрэнна пастаўлена работа наогул і ў прыватнасьці праяўлена няўменьне арганізаваць па-зашкольную, выхаваўчую і грамадзкую работу вучняў.

Выходзячы з гэтага ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

## 1. Аб увядзеньні ў БССР усеагульнага абавязковага сямігадовага навучаньня і разгортваньні дзесяцігадовай школы

У выкананьне пастановы сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б, увесьці па ўсёй БССР з восені 1932 г. ўсеагульнае навучаньне за сямігадовую школу шляхам пераводу ўсіх скончыўшых у 1932 г. 4-гадовую школу ў 5 групы ФЗС і ШКМ з наступным распаўсюджаньнем усеагульнага абавязковага навучаньня на 6-ю і 7-ю групы. Увесьці абавязковасьць навучаньня для ўсіх дзяцей, якія зараз вучацца ў 6-х і 7-х групах ФЗС і ШКМ.

У мэтах ажыцьцяўленьня програмы партыі аб агульнай і політэхнічнай асьвеце дзяцей і падросткаў да 17-гадовага ўзросту, арганізаваць у гг. Менску, Віцебску, Гомлі і інш. прамысловых цэнтрах з новага навучальнага году 30-40 восьмых груп.

Прапанаваць НКА і Дзяржпляну не пазьней 1-га сьнежня 32 г. распрацаваць пэрспэктыўны плян укараненьня ў БССР усеагульнага навучаньня ўсіх дзяцей і падросткаў ад 7 да 17 год.

## 2. У галіне барацьбы за якасьць навучаньня

1. ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае, што важнейшай задачай кожнай школы, кожнага настаўніка і органаў нарасьветы зьяўляецца далейшая ўпартая барацьба за павышэньне пісьменнасьці вучняў і аўладаньне імі асновамі навук. Ускласьці на кожнага настаўніка адказнасьць за поўнае асваеньне вучнямі акрэсьленага програмамі аб'ёму ведаў па кожнай групе і дысцыпліне, за якасьць кожнай лекцыі, патрабуючы ад настаўніка дасканалай падрыхтоўкі да лекцыі, ліквідацыі дарэмнай траты часу і поўнага скарыстаньня завочных і навучальных дапаможнікаў. Шырока скарыстаць экскурсіі на прадпрыемствы, МТС, саўгасы, колгасы, ляборыторыі і г. д.

2. У мэтах ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі ў навучальнай справе і ўзмацненьня адказнасьці за работу даручыць НКА прапрацаваць да новага навучальнага году формы і мэтоды ўліку працы як вучняў, так і настаўнікаў, устанавіўшы адказнасьць

кожнага настаўніка за поўнае аўладаньне вучнямі вызначанага програмамі матар'ялу па кожнай дысцыпліне.

3. Прапанаваць НКА правесьці шырокую грамадзкую праверку якасьці выпушчаных програм. Да пачатку навучальнага году забясьпечыць новымі програмамі кожную школу і правесьці работу па грунтоўным азнаямленьні з імі ўсіх настаўнікаў.

4. У мэтах выяўленьня лепшага вопыту работы школ, даручыць НКА сыстэматычна організоўваць даклады настаўнікаў аб рацыяналізатарскай рабоце ў школах, дыскусіі і дыспуты па паасобных вучастках школьнай работы, выстаўкі лепшага школьнага вопыту, праводзіць ня менш двух-трох разоў у год конфэрэнцыі настаўнікаў па асобных дысцыплінах.

5. Прапанаваць НКА і РК КП(б)Б намеціць там, дзе яшчэ не намечаны, узорныя школы, праверыць працу існуючых школ і комплектаваць іх лепшымі пэдагогічнымі сіламі з тым, каб гэта работа была скончана не пазьней, як да пачатку новага навучальнага году, праверыць склад інструктароў-мэтодыстаў, укомплектаваўшы іх найбольш вытрыманымі і кваліфікаванымі пэдагогамі.

Прапанаваць СНК разгледзець пытаньне аб павялічэньні пэнсіі інструктаром-мэтодыстам.

6. Прымаючы пад увагу, што політэхнізацыя школы, як правіла, праводзіцца яшчэ нездавальняюча, прапанаваць НКА:

а) даць па школах конкрэтныя мэтодычныя ўказаньні аб увязцы тэорытычнага навучаньня з вытворчым навучаньнем у майстэрнях, рабочых пакоях і на вытворчасьці, дыфэрэнцыяваўшы іх па паасобных галінах вытворчасьці;

б) праверыць разам з партыйнымі і комсамольскімі ячэйкамі вынікі за мінулы год працы школ, прымацаваных да вытворчасьці.

НКА і НДІ комвыхаваньня выдаць да новага навучальнага году некалькі кніг з узорамі работ лепшых школ у галіне політэхнізацыі.

7. НКА разам з ЦК ЛКСМБ праверыць працу дзіцячага самакіраваньня і распрацаваць практычныя мерапрыемствы па хутчэйшай перабудове і большай актывізацыі дзіцячага самакіраваньня на барацьбу за рэалізацыю пастаноў аб школе, за ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны.

8. Прапанаваць ДВБ і ДВС НКА забясьпечыць выданьне да новага навучальнага году новых падручнікаў. Лічыць магчымым у патрэбных выпадках вызваляць ад непасрэднай працы і грамадзкіх нагрузак аўтараў на тэрмін, патрэбны для напісаньня падручнікаў.

9. Прызнаць абсолютна недапушчальным карыстаньне ў паасобных школах забароненымі клясава-варожымі падручнікамі.

Прыняць да ведама заяву тав. Платуна, што НКА яшчэ раз зацьверджаны па ўсіх раёнах сьпіс забароненых падручнікаў з катэгорычнай забаронай імі карыстацца.

### 3. Аб выкладаньні грамадазнаўства

1. Адзначаючы нездавальняючую пастаноўку выкладаньня грамадазнаўства ў значнай частцы школ, абавязаць НКА разам з РК КП(б)Б праверыць выкладаньне грамадазнаўства ў школе і палепшыць склад грамадаведаў. Наладзіць сыстэматычную працу па павышэньню кваліфікацыі грамадаведаў праз Інстытут павышэньня кваліфікацыі, розныя курсы, гурткі і забесьпячэньне іх марксысцкай літаратурай.

Культпропу організаваць інструктаж грамадаведаў праз партгабінэты, дамы комасьветы і г. д.

2. Значна пашырыць контынгенты прыёму на грамадазнаўчыя аддзяленьні пэдінстытуту і забясьпечыць належную якасьць набору студэнтаў на іх.

3. Абавязаць РК КП(б)Б організаваць у школах і піонэратрадах сыстэматычную політычную інформацыю па важнейшых пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбе ў СССР і ва ўсім сьвеце.

### 4. Аб настаўніцкіх кадрах

ЦК лічыць, што важнейшай умовай, якая забясьпечвае якасьць навучаньня ў школе, зьяўляецца організацыя сыстэматычнай работы па павышэньню кваліфікацыі настаўніцтва, аказаньня яму пастаяннай мэтодычнай дапамогі і стварэньня нормальных умоў для працы. Выходзячы з гэтага:

1) Абавязаць НКА і ЦП працасьветы ахапіць усіх настаўнікаў першага концэнтру, якія ня маюць пэдагогічнай сярэдняй асьветы, завочным навучаньнем за пэдтэхнікум з тым, каб у далейшым ахапіць іх вышэйшай асьветай. Значна пашырыць ахоп настаўнікаў завочным навучаньнем за вышэйшую пэдагогічную школу.

2) СНК у дэкадны тэрмін вырашыць пытаньне аб павялічэньні тэрміну навучаньня ў пэдагогічных інстытутах.

3) Усім РК КП(б)Б рашуча ліквідаваць перагрузку настаўнікаў, забясьпечыўшы ім ня менш 3-х вечароў у дэкаду для самастойнай работы па павышэньню сваёй кваліфікацыі. НКА і ЦП працасьветы сконцэнтраваць работу гарадзкіх настаўнікаў па магчымасьці ў аднэй школе. Лічыць ненормальным скарыстаньне настаўнікаў па сумяшчальнасьці на пасадах, якія адрываюць значны час настаўніка ад яго асноўнай работы. Усім РК КП(б)Б уцягнуць усю масу настаўнікаў у адпаведныя формы партасьветы.

4) Даручыць НКА, ЦП Працасьветы і ДВБ да новага навучальнага году стварыць у кожным раёне ня менш аднэй пэдагогічнай бібліотэкі, забясьпечыўшы праз яе прасоўваньне ў настаўніцкія масы твораў Леніна, Маркса, Энгельса, Сталіна і лепшых твораў пэдагогічнай літаратуры, неабходных справачнікаў і г. д.

5) Прызнаць асабліва нездавальняючай работу прокуратуры па разглядзе спраў аб скажэньні дырэктыў партыі па матар'яльнаму забесьпячэньню настаўнікаў. Прапанаваць прокуратуры рэс-



публікі ўсе паданыя справы разгледзець не пазьней, як праз месяц, вылучыўшы асабліва злосныя ў грамадзка-паказальныя процэсы.

6) У выкананьне пастановы сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б, Белкоопсаюзу і Колгасцэнтру разам з НКА і ЦК Працасьветы організаваць на працягу жніўня шырокую праверку забесьпячэньня настаўнікаў з тым, каб было праверана кожнае сельспажыўтаварыства, а злосныя вінаватыя ў разбазарваньні настаўніцкіх фондаў былі прыцягнуты да судовай адказнасьці. Даручыць Белкоопсаюзу ўстанавіць строгі контроль за забесьпячэньнем настаўніцтва і такую сыстэму справаздачнасьці сельспажыўтаварыства і райспажыўсаюзу, якая-б выключала магчымасьць разбазарваньня і несваечасовай выдачы настаўніцкіх фондаў. Прасіць ЦКК прасачыць за выкананьнем гэтага.

7) Організацыя спэцыяльных настаўніцкіх разьмеркавальнікаў зьяўляецца фактам грубага скажэньня дырэктыў ЦК УсеКП(б), у якой зусім выразна сказана: „забесьпячэньне настаўнікаў праводзіць праз прымацаваньне да закрытых рабочых разьмеркавальнікаў і сталовак па нормах прамысловых рабочых". Наркамснабу і Белкоопсаюзу ў дэкадны тэрмін даць указаньне аб ліквідацыі настаўніцкіх разьмеркавальнікаў, прымацаваўшы настаўнікаў да закрытых рабочых разьмеркавальнікаў.

### 5. У галіне ўзмацненьня матар'яльнай базы школ

1) Абавязаць РК КП(б)Б няўхільна выканаць пастанову ЦВК і СНК СССР і БССР аб высяленьні да новага навучальнага году са школ усіх прыватных жыхароў, таксама рознага роду ўстановы для дарослых (вячэрнія курсы, тэхнікумы), прыраўняўшы школы ў гэтых адносінах да дамоў ваенведу і НК шляхоў зносін. Уставіць, што памяшканьні працоўных школ павінны быць скарыстаны выключна для работы з дзяцьмі. Прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б вызваліць усе школьныя будынкі, якія скарыстаны не па прызначэньню, і перадаць іх школам. Усе конфіскаваныя кулацкія дамы павінны быць перададзены школам і могуць быць скарыстаны для іншых патрэб толькі ў тым выпадку, калі яны для школ не патрэбны.

2) Забараніць правядзеньне ў школах рознага роду вечароў, спэктакляў і г. д., ня зьвязаных са школьнай работай.

3) РК КП(б)Б да 10 жніўня праверыць ход школьнага будаўніцтва і плян забесьпячэньня школ будынкамі, вылучыўшы адказнага працаўніка за гэту справу. РК КП(б)Б забясьпечыць поўнае выкананьне пляну новага будаўніцтва.

4) Прапанаваць СНК паскорыць вырашэньне пытаньня аб організацыі вырабу політэхнічнага і навучальнага абсталяваньня для школ з такім разьлікам, каб з пачатку навучальнага году асноўная маса школ была абсталявана партамі, сталамі, навучальнымі прыладамі, а майстэрні і рабочыя пакоі—неабходнымі інструмантамі.

## 6. Аб разгортваньні па-зашкольнай работы з дзяцьмі

Адзначаючы вялізарнае значэньне па-зашкольнай работы з дзяцьмі, ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1) ЦСПСБ, НКА і Белдзяржкіно забясьпечыць шырокае скарыстаньне для дзяцей устаноў мастацкага і фізкультурнага абслугоўваньня, устанавіўшы спэцыяльныя гадзіны, калі гэтыя ўстановы павінны абслугоўваць дзяцей.

2) У 1932-33 г. арганізаваць у кожным раёне дзіцячую політэхнічную станцыю.

3) Прапанаваць Белдзяржкіно і Радыёцэнтру радыёфікаваць і кінофікаваць усе ўзорныя школы і распрацаваць плян кінофікацыі і радыёфікацыі ўсіх школ БССР.

4) З восені 1932 г. арганізаваць пры Менскім пэдінстытуце аддзяленьне па-зашкольнай работы з дзяцьмі. НКА пашырыць сетку па-зашкольных аддзяленьняў пры пэдтэхнікумах і арганізаваць перападрыхтоўку ўсіх піонэрважатых і па-зашкольных працаўнікоў.

5) Наркамату лёгкай прамысловасьці і ВСФК у найкарацейшы тэрмін арганізаваць выраб і забясьпечыць належную якасьць дзіцячага спортінвэнтару (канькі, лыжы і г. д.).

6) Даручыць НКА разам з ЦК ЛКСМБ і НК Аховы здароўя на працягу 20 дзён распрацаваць пытаньне аб аздаравіцельнай рабоце сярод дзяцей і ўнесьці ў сакратарыят ЦК.

## 7. У галіне будаўніцтва нацыянальнай школы

У выніку правільнага ажыцьцяўленьня КП(б)Б ленінскай нацыянальнай палітыкі, дасягнуты значныя зрухі ў будаўніцтве школ нацменшасьцяў. За апошні год сетка польскіх школ узрасла з 147 у 1931 г. да 226 у 1932 годзе, яўрэйскіх адпаведна з 220 да 230, расійскіх, літоўскія, латыскіх і іншых ад 123 да 139, узмацнілася матар'яльная база гэтых школ (створаны стыпэндыі, інтэрнаты і г. д.).

Разам з тым ЦК адзначае, што нацменаўскія школы невыстарчальна забясьпечаны настаўніцкімі кадрамі і падручнікамі на роднай мове, асабліва польскія школы. Маюць месца асобныя выпадкі пастаноўкі нацменаўскіх школ у больш дрэнныя матар'яльныя ўмовы, чым беларускія (яўрэйская школа м. Кублічы, польская школа в. Васілевічы, Вушацкага раёну, і некаторыя іншыя), а таксама асобныя выпадкі беспадстаўнага пераводу нацменаўскіх школ у беларускія, што зьяўляецца грубейшым скажэньнем лініі партыі ў нацпытаньні.

Выходзячы з гэтага:

1) ДВБ і НКА забясьпечыць выданьне і закупку ў іншых савецкіх рэспубліках падручнікаў для нацменаўскіх школ з тым, каб забясьпечыць імі ў патрэбнай колькасьці ўсе нацменаўскія школы.

2) НКА і РК КП(б)Б укомплектаваць усе нацменаўскія школы настаўніцкімі кадрамі, разгарнуўшы з гэтай мэтай кароткатэрмі-

новыя курсы і перакінуўшы ўсіх настаўнікаў, якія ўладаюць нацыянальнымі мовамі, на работу ў нацменаўскія школы.

3) НКА і РК КП(б)Б не пазьней 15 жніўня праверыць усе выпадкі пераводу нацменаўскіх школ у беларускія і неадкладна скасаваць такі перавод там, дзе ён зроблены без належных падстаў.

## 8. Кіраўніцтва школай

Для забесьпячэньня опэрацыйнага кіраўніцтва:

1) Вылучыць у штаце НКА інструктароў-мэтодыстаў па асобных дысцыплінах, укомплектаваўшы штат інструктароў-мэтодыстаў лепшымі пэдагогамі-спэцыялістамі.

2) Дабіцца належнага пералому ў рабоце школ шляхам:

а) дыфэрэнцыяванага опэрацыйнага кіраўніцтва школай;

б) наладжаньня працы раённых і сельскіх мэтод аб'яднаньняў, інструктароў-мэтодыстаў і грамадзкіх інструктароў, даўшы па пытаньню работы мэтодбюро і інструктароў падрабязныя інструкцыі;

в) рассылкай непасрэдна ў школы інструкцыйных мэтодычных лістоў па прыватных мэтодыках;

г) стварыць навакол школ грамадзкі актыў з ліку рабочых, колгасьнікаў, працоўных для штодзеннай рэальнай дапамогі школе.

3) Прапанаваць ЦК ЛКСМБ праверыць выбарачным парадкам рад раённых організацый КСМ і дабіцца значна большай увагі комсамольскіх організацый да работы школ, у прыватнасьці, завастрыць пытаньне аб кіраўніцтве з боку РК і ячэек КСМ працай школьных і піонэрскіх організацый.

4) РК і ГК КП(б)Б у мэтах узмацненьня парткіраўніцтва школамі і павышэньня адказнасьці парт'ячэек за работу школ, правесьці прымацаваньне школ да парт'ячэек. Ячэйкам КП(б)Б вылучыць аднаго члена бюро ячэйкі, асноўнай нагрузкай якога будзе работа ў школе.

5) Прызнаць ненормальным, што работнікі ўстаноў НКАсьветы систэматычна адрываюцца ад сваёй непасрэднай працы і пасылаюцца організацыямі на іншыя кампаніі. Катэгорычна забараніць скарыстаньне на іншай рабоце інструктароў-мэтодыстаў.

6) У мэтах ліквідацыі абязьлічкі ў кіраўніцтве групамі, устанавіць ва ўсіх школах групаводаў з ліку лепшых настаўнікаў, усклаўшы на іх пэрсанальную адказнасьць за навучальную і выхаваўчую работу ў школе.

Пастаўленыя ЦК УсеКП(б) задачы карэннага паляпшэньня якасьці работы школ і задачы ўвядзеньня сямігадовага ўсенавучу патрабуюць ад усёй КП(б)Б яшчэ большага кіраўніцтва, актыўнага і непасрэднага ўдзелу ў справе школьнага будаўніцтва, на аснове барацьбы на два фронты, асабліва з правай небясьпекай, памятаючы, што далейшыя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў значнай ступені залежаць ад вырашэньня гэтых задач.

# Па-бальшавіцку ажыцьцявіць пастанову ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г. „Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе“

5 верасьня надыходзіць гадавіна пастановы ЦК УсеКП(б) „Аб пачатковай і сярэдняй школе“. Напярэдадні гэтай выдатнай гадавіны, 25 жніўня г.г., ЦК УсеКП(б) выдаў яшчэ адну важнейшую пастанову „Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе“. Гэта пастанова ідзе ў разьвіцьцё пастановы ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 г., конкрэтызуе і дапаўняе яе, і ў сукупнасьці прадстаўляе сабою адзіны комплекс мерапрыемстваў у справе барацьбы комуністычнай партыі за новую політэхнічную школу Маркса—Леніна, школу, здольную выхаваць новае маладое пакаленьне, якое зможа ажыцьцявіць комунізм.

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 году і зьмяшчаемая ў гэтым нумары пастанова „Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе“—баявая і разгорнутая програма барацьбы шырокіх рабочых, колгасных і настаўніцкіх мас за такую школу, якая патрэбна нам для таго, каб завяршыць у другой пяцігодцы пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.



Гэтыя пастановы зьяўляюцца яскравым прыкладам конкрэтнага опэрацыйнага і, разам з тым, сугуба прынцыповага кіраўніцтва з боку партыі справай школьнага будаўніцтва. Яны—вынік глыбокага вывучэньня і аналізу становішча школы на сучасным этапе і ўліку тых карэнных недахопаў, правых, „левых“ і права-„лявацкіх“ скажэньняў генэральнай лініі партыі, якія яшчэ сустракаюцца да гэтага часу ў практыцы работы школы. Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня дае ключ і яскрава вызначае шлях, ідучы па якому ў найхутчэйшы тэрмін можна зьнішчыць карэнны недахоп школы, які заключаецца ў тым, што „навучаньне ў школе не дае выстарчальнага аб'ёму агульнаасьветных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навук“... (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г.) і пабудаваць сапраўды ленінскую політэхнічную школу. Таму растлумачыць гэтую пастанову шырокім масам рабочых, колгаснікаў і настаўніцтва, мобілізаваць іх на рашучае змаганьне за яе ажыцьцяўленьне—неадкладная і актуальнейшая задача краязнаўчых організацый БССР.



Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня гэтага году зьяўляецца вынікам глыбокай і грунтоўнай праверкі з боку партыі і яе ленінскага ЦК навучальных програм, мэтодаў работы пачатковай і сярэдняй школы і ўсяго школьнага рэжыму. Пастанова ЦК—баявая програма для ўсіх партыйных і савецкіх організацый, органаў нарасьветы і ўсіх школ у справе пабудовы політэхнічнай школы, узьняцьця яе на вышыню задач, пастаўленых партыяй у другой пяцігодцы.

Адзначаючы значныя зрухі, якія адбыліся ў галіне сярэдняй і пачатковай школы за апошні год у сувязі з увядзеньнем усеагульнага навучаньня, пераходам да сыстэматычнага засваеньня асноў навук на падставе цьвёрдых навучальных плянаў, програм і раскладаў, ЦК УсеКП(б) і ў гэтай пастанове яшчэ адзначае, што карэнным недахопам школы зьяўляецца недастатковае ўладаньне вучнямі асновамі навук. Аднэй з галоўнейшых прычын гэтага зьяўляюцца недахопы програм, нездавальняючыя мэтоды школьнай работы і слабае мэтодычнае кіраўніцтва школаю з боку Наркамасьветы і яго органаў на мясцох.

Школьныя програмы, асабліва 2-га концэнтру, маюць цэлы рад вялікіх недахопаў: перагрузка програм навучальным матар'ялам, недастатковасьць і нават адсутнасьць належнай увязкі паміж паасобнымі програмамі, наяўнасьць прынцыповых памылак і спрашчэнцка-вульгарызатарскі падыход да дысцыплін, невыстарчальнасьць гістарычнага падыходу да програм па грамадзкіх навуках і інш.

Пастанова ЦК дае зусім конкрэтныя ўказаньні, у якім кірунку павінны быць перабудаваны програмы, якія мэтоды трэба ўжываць пры выкладаньні розных дысцыплін і як організаваць усю работу ў школе для таго, каб забясьпечыць добраякаснае ўсваеньне „асноў навукі“ і належную сувязь паміж паасобнымі дысцыплінамі ведаў з жыцьцём, з соцыялістычным будаўніцтвам.

Пастанова ЦК УсеКП(б) „Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе“ дае рашучую і яскравую дырэктыву аб пераапрацоўцы програм з улікам асаблівасьцяў дзяцей кожнай групы, у кірунку забесьпячэньня належнага выкарыстаньня ў навучальных занятках матар'ялу соцыялістычнага будаўніцтва, даступнага дзецям, узмацненьня і паглыбленьня ведаў, якія датычацца нацыянальных культур народаў СССР, і элемэнтаў краязнаўства (прыродныя асаблівасьці, прамысловасьць, сельская гаспадарка, соцыяльна-экономічнае разьвіцьцё і г. д.), і сапраўднага злучэньня навучаньня з вытворчай працай.

Гэтыя ўказаньні ЦК абавязваюць Дзяржаўны вучоны савет Наркамасьветы БССР, Навукова-дасьледчы інстытут комвыхаваньня, раённыя мэтодычныя бюро, практычных работнікаў школ—настаўнікаў, краяведаў—прыняць самы актыўны ўдзел у прапрацоўкі і складаньні програм, у вывучэньні спосабаў найлепшага ўжываньня featuresнастайных мэтодаў навучаньня, організацыі навучальна-выхаваўчай работы ў школе, у пабудове вучэбна-пэдагогічнага процэсу.

Навукова-дасьледчы ін-т комвыхаваньня павінен шырока організаваць вывучэньне практычнага ажыцьцяўленьня ў школах па-

становы ЦК УсеКП(б) у галіне найлепшай перабудовы програм, іх найлепшай рэалізацыі ў школе, організаваць вывучэньне дасягненьняў у сыстэматычным і цьвёрдым засваеньні школьных дысцыплін, у справе забесьпячэньня сапраўднага злучэньня навучаньня з вытворчай працай вучня, выкарыстаньня ў навучальна-выхаваўчых мэтах школьнага акружэньня і ўмоў раёну (прыродных асаблівасьцяў, соцыялістычнага будаўніцтва), уцягнуўшы шырокія масы настаўніцтва, школьна-краязнаўчыя сэкцыі, рабочых, колгасьнікаў да актыўнага ўдзелу ў школьным будаўніцтве для няўхільнага і рашучага ажыцьцяўленьня пастановы ЦК УсеКП(б) „Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе“.

У справе перадачы практыкі лепшых школ, якія дасягнулі добрых посьпехаў у пабудове ленінскай політэхнічнай школы на аснове ажыцьцяўленьня пастановы партыі ад 5 верасьня 1931 г. „Аб пачатковай і сярэдняй школе“, надзвычайна вялікае значэньне мае вывучэньне гісторыі паасобных школ, іх барацьбы за якасьць усваеньня асноў навук, за організацыю пэдагогічнага процэсу, сувязь навучаньня з вытворчай працай і соцыялістычным будаўніцтвам, за комуністычнае выхаваньне вучняў.

Школьна-краязнаўчыя сэкцыі Цэнтральнага і раённых бюро краязнаўства разам з раённымі мэтодычнымі бюро павінны па-бальшавіцку, па-сапраўднаму заняцца пытаньнем дапамогі настаўніцтву ў выкарыстаньні краязнаўчага матар‘ялу пры выкладаньні розных дысцыплін у школе, у распрацоўцы мэтодыкі краязнаўчых экскурсій, у вывучэньні прадпрыемстваў, саўгасаў, колгасаў, МТС, школьнага акружэньня і ўмоў свайго раёну, у складаньні краязнаўчых дапаможнікаў для настаўнікаў і вучняў, а таксама ў вывучэньні лепшай практыкі школ і паасобных настаўнікаў.

Мобілізаваць для гэтага шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, беднякоў і серадпякоў-аднаасобнікаў і настаўніцтва—баявая і неадкладная задача краязнаўчых організацый у справе рэалізацыі пастановы ЦК ад 25 жніўня г. г.

---

# Да гадавіны пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе

У верасьні 1932 году надыходзіць гадавіна пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе.

Гэтая гістарычная пастанова ЦК знамянуе сабою надзвычай адказны этап у справе будаўніцтва савецкай політэхнічнай школы Маркса — Энгэльса — Леніна. Зьяўляючыся разгорнутай праграмай бальшавіцкага наступленьня на фронце школьнага будаўніцтва—аднаго з адказьнейшых участкаў барацьбы пролетарыяту за соцыялізм—пастанова ЦК зьявілася адпраўным пунктам на шляху зьнішчэньня карэнных недахопаў у рабоце савецкай політэхнічнай школы з тым, каб праз зьнішчэньне гэтых недахопаў ажыцьцявіць у адносінах да школы заветы Леніна, каб выканаць програму комуністычнай партыі ў адносінах да школы.

Паводле програмы партыі „школа павінна быць ня толькі праваднікам прынцыпаў комунізму наогул, але і праваднікам ідэйнага організацыйнага выхаваўчага ўплыву пролетарыяту на паўпролетарскія і непролетарскія слаі працоўных мас у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм“ (з програмы УсеКП(б).

Для таго-ж, каб ажыцьцявіць програму партыі аб школе, для таго, каб школа сапраўды пасьпяхова выканала сваю задачу „падрыхтаваць усебакова разьвітых членаў комуністычнага грамадзтва“, яна павінна быць політэхнічнай, цесна ўвязана з жыцьцём, забясьпечваць цьвёрдую ўвязку практычнай работы дзяцей з сыстэматычным і цьвёрдым засваеньнем навук (фізыкі, хэміі, матэматыкі, географіі, гісторыі ды інш.), мець строга вызначаныя і старанна разработаныя програмы. А для гэтага ў аснову практычнай работы школы павінны быць пакладзены ўказаньні Леніна, даныя ім яшчэ ў 1920 годзе ў заўвагах на тэзісы Н. К. Крупскай аб політэхнічнай асьвеце.

Гэтыя заўвагі заключаюцца ў наступным:

1. „Унікаць раньняй спэцыялізацыі, распрацаваць інструкцыю аб гэтым.

2. Расшырыць ва ўсіх профтэшколах агульнаадукацыйныя прадметы.

3. Бязумоўным заданьнем паставіць неадкладны пераход да політэхнічнай адукацыі, або, вярней, неадкладнае ажыцьцяўленьне раду даступных зараз-за крокаў да політэхнічнае асьветы...

Нам патрэбны столяры, сьлесары зараз-жа. Бязумоўна, усе павінны зрабіцца столярамі, сьлесарамі ды інш., але з такім-та дадаткам агульнаадукацыйнага і політэхнічнага мінімуму.

Задача школ 2-й ступні (12-17), вярней, вышэйшых кляс 2-й ступені, даць цалкам ведаючага сваю справу, зусім здольнага зрабіцца майстрам і замяніць практычна падрыхтаванага да гэтага столяра, сьлесара і г. д. з тым, аднак, каб гэты „рамесьнік“ меў шырокую агульную адукацыю (ведаў мінімум асновы такіх-та і такіх-та навук—указаць даклада якіх); быў комуністам (дакладна ўказаць, што павінен ведаць), меў політычны кругавід і пачаткі асновы політэхнічнае адукацыі.

Іменна:

а) асноўныя паняцьці аб электрычнасьці (дакладна вызначыць якія);

б) аб дапасаваньні электрычнасьці да мэханічнай прамысловасьці;

в) тое самае—да хэмічнай;

г) тое самае аб пляне электрыфікацыі РСФСР;

д) наведаў ня менш 1-3 разоў электрычную станцыю, завод, савгас;

е) ведаў такія-та асновы аграноміі і г. д., „распрацаваць дэталёвы мінімум ведаў“.

Гэтыя ўквзаньні Леніна і былі пакладзены ў аснову будаўніцтва савецкай політычнай школы.

На гэтым шляху да пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б у верасьні 1931 году Савецкі Саюз дасягнуў значных посьпехаў.

У асноўным гэтыя посьпехі, як указваецца ў гэтай пастанове, заключаюцца ў расшырэньні сеткі школ, у агромным ахопе дзяцей пролетарскіх і працоўных мас школай, у карэнным зьмяненьні социяльнага складу школьнікаў у тым кірунку, што дзеці рабочых і шырокіх мас працоўных сталі асноўным контынгентам школы, навучаньнем на роднай мове ахоплены самыя адсталыя нацыянальнасьці Савецкага Саюзу, уводзіцца ўсеагульнае навучаньне за пачатковую школу ва ўсім Саюзе і інш.

Асабліва відочныя посьпехі мы наглядаем у нацыянальных акраінах СССР і, у прыватнасьці ў БССР, як нацыянальна-колёніяльнай акраіне былой царскай імпэрыі, акраіне забітай, прыгнечанай, экономічна і культурна адсталай у выніку царскага буржуазна-колёніяльнага рэжыму.

Посьпехі БССР у справе культурнага будаўніцтва заключаюцца, як у колькасных паказальніках—пашырэньне пачатковай і сярэдняй школы, ахоп на 97 проц. дзяцей школьнага ўзросту ўсеагульным навучаньнем за пачатковую школу, мерапрыемствы па ўвядзеньню ўсенавучу за сямігодку і інш.,—а таксама і ў якасных паказальніках работы школ—перабудова іх работы, абслугоўваньне дзяцей насяляючых БССР нацыянальнасьцяў на іх роднай мове, клясавае, інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне дзяцей, перабудова програм і ачышчэньне програм і падручнікаў ад клясава-варожага і, у прыватнасьці, нацдэмаўскіх установак, прыцягненьне дзяцей да практычнага ўдзелу ў соция-

лістычным будаўніцтве, павышэньне адноснай вагі школ у грамадзкім жыцьці, правядзеньне значнай работы па політэхнізацыі.

Чым-жа тлумачыцца, што пры наяўнасьці такіх вялізарных дасягненьняў у школьным будаўніцтве зьявілася патрэба ў выданьні пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе? Гэта тлумачыцца тымі карэннымі недахопамі ў практыцы работы школы, тымі скажэньнямі ў школьным будаўніцтве, якія меліся ў практыцы работы школы. Гэтыя недахопы ў пастанове ЦК УсеКП(б) формулююцца так: „карэнны недахоп школы ў даны момант заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульнаадукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі да тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, географія ды інш.). З прычыны гэтага політэхнізацыя школы набывае ў радзе выпадкаў формальны характар і не падрыхтоўвае дзяцей, як усебакова разьвітых будаўнікоў соцыялізму, увязваючых тэорыю з практыкай і ўладаючых тэхнікай".

Выданьне пастановы ЦК аб школе выклікана і тым, што права і „лева"-опортуністычныя скажэньні ў школьным будаўніцтве рознымі шляхамі цягнулі школу назад, да старой славеснай схолястычнай школы. Спроба правых опортуністаў адарваць політэхнізацыю ад сыстэматычнага і цьвёрдага засваеньня навук, асабліва фізыкі, хэміі, матэматыкі, якраз і цягнула школу на шлях славеснасьці, схолястычнасьці, адарванасьці ад жыцьця. Спроба-ж „лёвых" опортуністаў з іх мэханічным насаджэньнем у рабоце школы „мэтоду проектаў", са зьніжэньнем ролі настаўніка і ператварэньнем яго з актыўнага організатара пэдпроцэсу ў школе ў пасыўнага консультанта, вяла фактычна да разбурэньня школы, да „адміраньня школы", а самую ідэю політэхнізацыі зводзіла да голага тэхніцызму.

Само сабою зразумела, што нельга было дапусьціць далейшых скажэньняў у практыцы школьнага будаўніцтва, нельга было цярпець тых карэнных недахопаў, якія мелі месца ў рабоце школы. Патрэбна была разгорнутая програма барацьбы за савецкую політэхнічную школу, каб у пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, калі школа зрабілася адным з участкаў клясавай барацьбы, зьнішчыць карэнныя недахопы ў рабоце школы, рашуча ўдарыць па опортуністычных скажэньнях і павысіць якасьць продукцыі школы. А для гэтага дзецям, будучым актыўным будаўніком комуністычнага грададзтва, патрэбны веды асноў навук, бо „комуністам можна зрабіцца толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданьнем тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва" (Ленін, т. XXV, стар. 388). І магчымасьць аўладаць „багацьцямі, якія выпрацавала чалавецтва", дае толькі савецкая політэхнічная школа Маркса—Энгельса—Леніна, работа якой пабудавана паводле ўказаньняў Маркса—Энгэльса—Леніна аб школе.

Вось чаму пастанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе патрабуе:

1) акрэсьліць круг сыстэматычных ведаў і організаваць марксысцкую праработку програм з тым, каб з 1 студзеня 1932 г. школы пачалі работаць па новым програмам;

2) не дапушчаць лёгкадумных адносін да мэтодаў выкладаньня ў школе, ужываючы толькі тыя, праверанныя на практыцы, мэтоды, якія садзейнічаюць найлепшаму засваеньню асноў навук;

3) разгарнуць і паставіць на належную вышыню навукова-дасьледчую работу, пабудаваўшы яе на строга марксысцка-ленінскіх пачатках і прыцягнуўшы да гэтай работы лепшыя навуковыя сілы;

4) шырока разгарнуць пры школах сетку майстэрань і працоўных паказаў, спалучаючы гэтую работу з прымацаваньнем школ да прадпрыемстваў, саўгасаў, МТС і колгасаў;

5) грамадзка-вытворчую работу вучняў падпарадкаваць навучальным і выхаваўчым мэтодам школы;

6) стварыць сетку ўзорных школ, паставіўшы іх у больш спрыяючыя матар'яльныя ўмовы і ўкомплектаваўшы іх лепшымі пэдагогічнымі сіламі;

7) організаваць сетку політэхнічных музэяў, а таксама спэцыяльных політэхнічных аддзяленьняў пры існуючых краязнаўчых музэях, стварыць тыповыя політэхнічныя бібліотэкі;

8) партыйным організацыям узяць пад непасрэдны нагляд пастаноўку выкладаньня грамадзка-політычных дысцыплін ў школах-сямігодках, у пэдтэхнікумах і ў пэдагогічных ВНУ;

9) лепш паставіць мэтодычную работу школ, забясьпечыўшы кіраўніцтва гэтай работай лепшымі марксысцка-ленінскімі сіламі;

10) асаблівую ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў пэдагогаў, забясьпечыць паляпшэньне іх матар'яльна-бытавых умоў;

11) узмацніць і палепшыць матар'яльную базу школ як у сэнсе забесьпячэньня школ будынкамі, так і наглядными дапаможнікамі і падручнікамі;

12) усямерна палепшыць кіраўніцтва пачатковай і сярэдняй школаю, забясьпечыць ажыцьцяўленьне адзінаначальля, а работу дзіцячага самакіраваньня ў школе паставіць так, каб яна, галоўным чынам, была накіравана на падвышэньне якасьці вучобы і ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны ў школе.

Дэталёва вызначаючы гэтыя конкрэтныя пункты разгорнутай програмы барацьбы за патрэбную нам школу, ЦК УсеКП(б) з асаблівай настойлівасьцю падкрэсьлівае неабходнасьць барацьбы з тымі элемэнтамі ў органах асьветы, якія супраціўляюцца павароту ў рабоце школы, і весьці рашучую барацьбу на два фронты супроць опортуністычных скажэньняў політыкі партыі ў галіне школьнай работы.

Год работы БССР на аснове пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе—слаўны шлях барацьбы за рашучы паварот у школьным будаўніцтве, за гэнэральную лінію партыі. На гэтым участку социялістычнага будаўніцтва, БССР дасягнула значных конкрэтных посьпехаў, атрымаўшы

бліскучыя перамогі на гэтым участку ў барацьбе з правым і „левым“ ухілам і прымірэнцтвам да іх у школьным будаўніцтве.

У 1932 годзе, годзе няўхільнага ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, з посьпехам завяршыла ўвядзеньне ўсенавучу на базе пачатковай школы і прыступіла да ўвядзеньня ўсенавучу за сямігодку ва ўсіх гарадох, прамысловых цэнтрах і 18 раёнах. Ахоплена школай 98 проц. дзяцей ад 8-12 год на роднай мове, праведзена значная работа па выкрыцьцю праваопартуністычных і „лявацкіх“ скажэньняў лініі партыі ў тэорыі і практыцы школьнай работы, маюцца значныя зрухі ў справе перабудовы работы школ стварэньнем майстэрань і рабочых пакояў, адбыўся пераход у рабоце на новыя програмы і на прадметны мэтод выкладаньня, пачата перабудова дзіцячага самакіраваньня ў кірунку барацьбы за якасьць навучаньня і сьвядомую дысцыпліну, узьнята актыўнасьць асноўных мас насельніцтва, мае месца ў многіх выпадках прыкладная і ўдарная работа значнай часткі настаўніцтва, маюць месца досыць значныя ўзорныя дасягненьні раду школ у галіне політэхнізацыі (20 і 25 ФЗС у Менску, Жыткавіцкая яўрэйская сямігодка, сямігодка ў Копылі, Ленінская ШКМ і інш.), узмоцнена ўвага парторганізацый БССР да справы школьнага будаўніцтва, што адыгрывае надзвычай важнае значэньне і забясьпечвае пасьпяховы далейшы ход перабудовы школы, поўнага ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе.

У гадавіну пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе нельга абмежавацца толькі дасягненьнямі. Неабходна падкрэсьліць і тыя недахопы, якія маюць месца ў рабоце школы. Гэта патрэбна нам для таго, каб ясна паставіць перад сабою тыя практычныя задачы, за выкананьне якіх неабходна біцца, каб хутчэй ажыцьцявіць гістарычныя пастановы аб школе. Гэтыя недахопы яскрава падкрэсьлены ў пастанове Бюро ЦК КП(б)Б аб „рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе“ („Зьвязда“ ад 30 ліпеня 1932 г., № 169 (4421). „ЦК констатуе, што гэтыя зрухі ў параўнаньні з тымі вялікімі задачамі, якія прад'яўляюцца школе сучасным этапам соцбудаўніцтва, зусім нязначныя, што тэмпы рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б застаюцца нездавальняючымі і належнага павароту ў рабоце школ яшчэ няма. Карэнным недахопам школ па-ранейшаму застаецца *недастатковасьць аб'ёму агульна-асьветных ведаў і нездавальняючае вырашэньне задачы падрыхтоўкі для тэхнікумаў і ВНУ зусім пісьменных людзей,* добра ўладаючых асновамі навук“. Асноўнымі прычынамі гэтага карэннага недахопу, ЦК КП(б)Б лічыць наступныя:

1) недастатковы паварот адпаведных устаноў і арганізацый да конкрэтнага опэрацыйнага кіраўніцтва школамі;

2) слабае кіраўніцтва мэтодычнай работай школ і слабая дапамога настаўніку ў яго паўсядзеннай рабоце з боку НК Асьветы і РайАНА, слабая работа мэтодаб'яднаньняў, адсутнасць вывучэньня практыкі работы школ і дапамогі школе з боку інструк-

тароў-мэтодыстаў, невыкарыстаньне з боку РайАНА грамадзкіх інспэктароў;

3) адсутнасьць конкрэтнага опэрацыйнага кіраўніцтва і праверкі прынятых пастаноў з боку Райкомаў КП(б)Б і партячэек;

4) слабае кіраўніцтва і дапамога школе з боку комсамольскіх організацый, як шэфу ўсенавучу, і асабліва слабае кіраўніцтва школьнымі піонэрорганізацыямі;

5) невыстарчальная ўвага школе з боку райвыканкомаў і сельсаветаў;

6) неналаджанасьць справы падвышэньня кваліфікацыі настаўнікаў, слабае разгортваньне завочнага навучаньня, перагрузка настаўніцтва іншай работай не па спэцыяльнасьці, адрыў настаўнікаў на ўсякую іншую работу;

7) невыкананьне дырэктыў партыі аб матар'яльным забесьпячэньні настаўніцтва;

8) невыкананьне дырэктыў партыі з боку раду ўстаноў і організацый аб будаўніцтве школ, школьнага абсталяваньня і інш.;

9) слабае скарыстаньне для выкананьня пастаноў аб школе масавых форм работы (культпаходаў, адзіны плян саветаў культбудаўніцтва);

10) выпадкі праяўленьня клясава-варожых уплываў і антыграмадзкіх учынкаў вучняў, як вынік слабай грамадзка-політычнай і выхаваўчай работы ў радзе школ.

Асноўныя задачы, якія вынікаюць з неабходнасьці хутчэйшай ліквідацыі адзначаных недахопаў, вельмі яскравы. Коратка яны могуць быць сформуляваны так: увядзеньне ўсеагульнага навучаньня за сямігодку, рашучая барацьба за павышэньне якасьці вучобы ў кірунку поўнага аўладаньня асновамі навук і належнай ўвязкі вытворчай работы вучняў з вучэбнымі і выхаваўчымі мэтамі школы, узмацненьне бальшавіцкай пільнасьці ў выкладаньні грамадзка-політычных дысцыплін у школе, барацьба з праявамі клясава-варожай ідэолёгіі ў школе і зьнішчэньне самой магчымасьці варожых уплываў на вучняў, узмацненьне падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пэдкадраў, забесьпячэньне штодзённага падвышэньня кваліфікацыі настаўніцтва, выкананьне поўнасьцю дырэктыў партыі і ўраду аб матар'яльным забесьпячэньні настаўніцтва, сталая мэтодычная дапамога настаўніку, організацыя шырокага завочнага навучаньня, забесьпячэньне школ будынкамі, як шляхам хутчэйшай пабудовы распачатых будаўніцтвам об'ектаў, зваротам школам занятых не па прыналежнасьці школьных будынкаў, так і скарыстаньнем пад школы былых кулацкіх будынкаў, выкананьне адпаведнымі ўстановам і організацыямі дырэктыў аб вырабе для школ наглядных дапаможнікаў і абсталяваньня, узмацненьне кіраўніцтва школай з боку партыйных, комсамольскіх, профсаюзных і савецкіх організацый, хутчэйшае ажыцьцяўленьне адзінаначальля, перабудова работы вучнёўскага самакіраваньня і работы школьных піонэрорганізацый у кірунку барацьбы за больш высокую якасьць работы школы і сьвядомую дысцыпліну.

Асобна трэба выпукліць задачы ў галіне будаўніцтва нацыянальнай школы. Тут трэба рашуча пакончыць з тымі хібамі, якія яшчэ часам наглядаюцца ў асобных месцах, як пастаноўка нацме-

наўскіх школ у больш дрэнныя ўмовы, чым беларускія (Кублічы, Васілевічы Вушацкага раёну), беспадстаўны перавод нацменаўскіх школ у беларускія, дрэнны падбор пэдкадраў для нацменаўскіх школ і зусім дрэннае забесьпячэньне іх—асабліва польскіх школ—падручнікамі на роднай мове. Трэба безадкладна закупіць падручнікі для гэтых школ, укомплектаваць лепшымі кадрамі, разгарнуўшы для гэтых мэт работу кароткатэрміновых курсаў, перакінуць настаўнікаў, якія ўладаюць нацыянальнымі мовамі для работы ў нацменаўскіх школах, праверыць выпадкі пераводу нацменаўскіх школ у беларускія і скасаваць такія пераводы там, дзе яны зроблены без належных падстаў.

Як вынікае з усяго сказанага, перад партыяй, урадам, грамадзкасьцю стаіць рад конкрэтных задач, якія падлягаюць неадкладнаму выкананьню для таго, каб ажыцьцявіць гістарычныя пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе. Выкананьне гэтых задач не пад сілу аднаму толькі настаўніцтву і вучням. Патрэбна мобілізацыя рабочай і колгасьніцкай актыўнасьці і ўвагі на вырашэньне гэтых задач. Патрэбна конкрэтнае опэрацыйнае сталае кіраўніцтва школай з боку партыйных, комсамольскіх, профсаюзных і савецкіх організацый, патрэбна сыстэматычная праверка выкананьня пастаноў і дырэктыў партыі аб школе, патрэбна далейшае разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах. Толькі пры гэтых умовах школа здолее выканаць тыя задачы, якія ставіць перад ёю сучасны этап соцыялістычнага будаўніцтва, каб выканаць асноўныя задачы, якія ставіць перад школай другая пяцігодка—пяцігодка пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

Праф. П. Панкевіч

# Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах БССР

„ЦК УсеКП(б) прапануе наркамасьветы саюзных рэспублік згрупаваць работу адпаведных дасьледчых інстытутаў, галоўным чынам, на вывучэньні і абагульненьні вопыту, накопленага практычнымі працаўнікамі школы, у асаблівасьці політэхнізацыі". (З пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе ад 5-га верасьня 1931 году.).

## Соцспаборніцтва, як комуністычная форма работы

Пролетарыят Савецкага саюзу пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў барацьбе за канчатковую пабудову соцыялізму ў нашай краіне з посьпехам ажыцьцяўляе ленінскі лёзунг соцспаборніцтва. Шырокая хваля соцыялістычнага спаборніцтва ахапляе сабой ня толькі фабрыкі і заводы, але і саўгасы, МТС і колгасы. З асаблівым энтузіязмам працоўныя масы разгарнулі соцспаборніцтва ў сувязі з першай пяцігодкай і яшчэ больш яно разгортваецца зараз у барацьбе за другую пяцігодку, якая зьяўляецца плянам канчатковай пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва. XVI Усесаюзная партыйная конфэрэнцыя, якая зацьвердзіла плян першай пяцігодкі, падкрэсьліла наступнае: „Соцспаборніцтва і пяцігодка непарыўна зьвязаны паміж сабою. Пад знакам выкананьня гэтых задач пролетарыят СССР ідзе ў далейшы наступ на клясавых ворагаў пролетарскай дыктатуры". Падагульняючы барацьбу за першую пяцігодку, IX Усесаюзны зьезд профсаюзаў, які адбыўся ў красавіку 1932 году, адзначыў вялікія дасягненьні ў галіне разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

У рэзолюцыі паказанага зьезду мы чытаем: „Соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ўжо зрабіліся асноўным зьвяном ў ажыўленьні і палепшаньні ўсёй работы профсаюзаў. Профсаюзы пад кіраўніцтвам партыі павялі перадавыя шарэнгі ўдарнікаў, а разам з імі і астатнія масы рабочых, у соцыялістычны наступ за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. Соцыялістычнае спаборніцтва зрабілася магутнай сілай ва ўздыме продукцыйнасьці працы, у соцыялістычным выхаваньні рабочых і ўцяненьні самых шырокіх мас у справу гаспадарчага кіраваньня. Ударнік зрабіўся цэнтральнай фігурай вытворчасьці і профруху. Соцспа-

борніцтва набыло самыя рознастайныя формы: грамадзкі агляд, пераклічкі, конкурсы, грамадзкі буксір, скразныя ўдарныя брыгады, сустрэчны плян, брыгадны гаспадарчы разрахунак, зьменасустрэчны і г. д. Зараз няма такой галіны социялістычнай вытворчасьці, дзе-б ня было разгорнута социялістычнае спаборніцтва: апошняе ахоплівае сабой усе зьвеньні і ўмовы вытворчага процэсу, ад якога залежыць пасьпяховае выкананьне пяцігодкі. Гэты масавы рух мільёнаў зараз уздымаецца на вышэйшую ступень: барацьба разгортваецца ўсё больш і больш ня толькі за колькасныя паказчыкі, але і за якасьць продукцыі, за якасьць работы. Адлюстраваньнем вышэйшай формы барацьбы за выкананьне і перавыкананьне пяцігодкі зьяўляюцца гаспразрахунковыя брыгады, якія зьяўляюцца сапраўднай школай кіраўніцтва социялістычнай гаспадаркай. Разьвіцьцё гаспразрахунковых брыгад набыло вялікі размах: да 1-га лютага 1932 году іх налічвалася 150 тысяч з ахопам 1,5 мільёна рабочых". („Правда", 29 красавіка 1932 г. № 119). Социялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва робяцца магутнай зброяй у барацьбе за перабудову работы на аснове шасьці ўмоў тав. Сталіна. Перадавыя брыгады рашуча змагаюцца супроць ураўнілаўкі, абязьлічкі, за падрыхтоўку пролетарскіх кадраў і г. д. На гэтай падставе гаспадарча-разрахунковыя брыгады дасягнулі вялікіх посьпехаў, выконваючы і перавыконваючы вытворчыя заданьні, а таксама бязупынна паляпшаючы якасьць работы.

„У чым моц мільёнаў ударнікаў Савецкай краіны?

У чым моц рабочай клясы СССР, якая атрымала гіганцкія перамогі, завяршыла пабудову фундаманту социялістычнай экономікі і выконвае пяцігодку ў чатыры гады?"—пытае газэта „Правда" і правільна адказвае: „Адным з важнейшых фактараў гэтых гістарычных перамог зьяўляецца магутны размах социялістычнага спаборніцтва, які доказвае, што ў СССР сапраўды адбываецца карэнны пераварот ў поглядах мільённых мас на работу. Социялістычнае спаборніцтва для мільёнаў рабочых і колгасьнікаў ператварае работу з зазорнага і цяжкага брэмені, якім яна лічылася раней, у справу гонару, справу славы, справу доблесьці і геройства" (Сталін).

Вялізарнейшыя посьпехі СССР навочна сьведчаць аб ўсеперможнай творчай моцы работы, якая вызвалена ад акоў капіталістычнага наёмнага рабства" („Правда", 29 красавіка 1932 г. № 119).

Социялістычнае спаборніцтва, якое зараз ахапляе мільёны рабочых і колгасьнікаў, магчыма толькі ў нас, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту. У капіталістычных краінах, дзе грамадзкаполітычны лад пабудаваны на аснове эксплёатацыі, працоўныя масы знаходзяцца пад страхам галоднай сьмерці, астаюцца цёмнымі і забітымі і разглядаюць работу, як ненавіснае, цяжкое брэмя. Социялістычнае спаборніцтва ёсьць адна з форм клясавай барацьбы пролетарыяту супроць буржуазіі. Ленін з выключнай выразнасьцю падкрэсьліваў вялікае політычнае значэньне социялістычнага спаборніцтва ў сыстэме савецкага ладу і прынцыпова адрозьніваньне яго ад капіталістычнай конкурэнцыі.

„Арганізацыя спаборніцтва павінна заняць віднае месца сярод задач савецкай улады у экономічнай галіне,—кажа Ленін.—Буржуазныя экономісты ня раз выступалі ў сваёй крытыцы социялізму з заявай аб тым, што быццам соцыялісты адмаўляюць значэньне спаборніцтва ці не даюць яму месца ў іх сыстэме, ці, як яны выражаліся, у іх пляне грамадзкай пабудовы. Нельга і казаць, наколькі нялепа гэта абвінавачваньне. Нападкі соцыялістаў ніколі не накіроўваліся на спаборніцтва, як такавое, а толькі на конкурэнцыю. Конкурэнцыя-ж зьяўляецца асаблівай формай спаборніцтва, уласьцівага капіталістычнаму грамадзтву і складаючагася ў барацьбе паасобных вытворцаў за кавалак хлеба, за ўплыў, за месца на рынку. Зьнішчэньне конкурэнцыі, як барацьбы, зьвязанай толькі з рынкам вытворцаў, ніколі не адзначае зьнішчэньня спаборніцтва; наадварот, іменна зьнішчэньне таварнай вытворчасьці і капіталізму адкрывае дарогу магчымасьці організаваць спаборніцтва ў яго нязьверскіх, а чалавечых формах. Іменна ў сучасны момант ў Расіі, пры тых асновах палітычнай улады, якія створаны савецкай рэспублікай, організацыя спаборніцтва на соцыялістычных пачатках павінна прадставіць сабой адну з найбольш важных і найбольш удзячных (благодарных) задач рэорганізацыі грамадзтва“.

Ленін не аднойчы падкрэсьлівае, што толькі соцыялістычныя адносіны параджаюць умовы для разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва. „Соцыялізм—піша ён,—ня толькі ня тушыць спаборніцтва, а, наадварот, упяршыню стварае магчымасьць ужываць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавым разьмеры, уцягнуць сапраўды большасьць працоўных на арэну такой работы, дзе яны могуць праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасьці, выявіць таленты, якіх у народзе непачатая крыніца і якія капіталізм мяў, давіў, душыў тысячамі і мільёнамі“. Таксама і тав. Сталін спыняецца на пытаньні адрозьніваньня соцыялістычнага спаборніцтва ад капіталістычнай конкурэнцыі. „Прынцып конкурэнцыі,—кажа ён,—нараджэньне і сьмерць адных, перамога і панаваньне другіх. Прынцып соцыялістычнага спаборніцтва—таварыская дапамога адстаўшым з боку перадавых з тым, каб дамагчыся агульнага ўздыму. Конкурэнцыя гаворыць—дабівай адстаўшых, каб умацаваць сваё панаваньне. Соцыялістычнае спаборніцтва гаворыць: адны працуюць дрэнна, другія добра, трэція лепш—наганяй лепшых і дабіся агульнага ўздыму. Гэтым, уласна, і тлумачыцца той нябывалы вытворчы энтузіязм, які ахапіў мільённыя масы працоўных у рэзультаце соцыялістычнага спаборніцтва. Нечага і гаварыць, што конкурэнцыя ніколі ня можа выклікаць чаго-небудзь падобнага на гэткі энтузыязм мас“. Такім чынам, сутнасьць соцыялістычнага спаборніцтва зводзіцца да таго, каб у процэсе соцыялістычнага будаўніцтва наганяць перадавых, раўняцца па лепшай рабоце і каб па-таварыску дапамагаць адстаўшым у мэтах агульнага ўздыму соцыялістычнай вытворчасьці.

## Соцспаборніцтва, як мэтод комуністычнага выхаваньня

Кажучы аб выхаваньні ў будучыні, Маркс ў свой час пісаў, што навучаньне дзяцей павінна быць злучана з іх вытворчай работай і што гэта будзе ня толькі мэтодам уздыму грамадзкай

вытворчасьці, але і мэтодам стварэньня ўсебакова разьвітых людзей. Социялістычнае спаборніцтва якраз і зьяўляецца такім мэтодам, які садзейнічае ня толькі ўздыму социялістычнай вытворчасьці, але і комуністычнаму выхаваньню мас. Ударныя брагады зьяўляюцца адбіткам новых социяльных адносін, характэрных для краіны дыктатуры пролетарыяту, дзе будуецца социялізм. У гэтых брыгадах рыхтуецца рабочы актыў, растуць новыя пролетарскія кадры з вышэйшай кваліфікацыяй, выяўляюцца найбольш каштоўныя элемэнты для ўступленьня ў партыю.

Ударнікі актыўна ўдзельнічаюць у вытворчым і палітычным жыцьці прадпрыемства, высоўваючы з свайго асяродзьдзя арганізатараў і кіраўнікоў для грамадзкай, адміністрацыйнаи і гаспадарчай работы. Практыка перадавых ударнікаў у социялістычнай прамысловасьці пераносіцца на колгасы, савгасы, коопэрацыю і ў савецкі апарат.

Задача зьнішчэньня перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей на працягу другой пяцігодкі можа быць вырашана толькі пры ўмове ўпартай, няўстаннай, бязьлітаснай барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі ў нашай краіне. Клясавая барацьба ў паасобныя моманты і на паасобных участках будзе абвастрацца нават і ў другой пяцігодцы, ня гледзячы на тое, што ў бліжэйшай будучыні зьнікнуць клясавыя адрозьненьні і клясы наогул. Праз социялістычнае спаборніцтва пролетарыят робіць свой ідэйны і організацыйны ўплыў і на вёску.

„Яно (спаборніцтва—*П.П.)* зьяўляецца для рабочай клясы мацнейшай зброяй социялістычнага выхаваньня колгаснага сялянства, барацьбы з кулацкімі ўплывамі, з дробна-буржуазнымі перажыткамі“ („Правда“, 29 красавіка 1932 году). „Социялістычнае спаборніцтва ўмацоўвае новыя грамадзкія сувязі, паказваючы правільны шлях ад разбурэньня векавога ўкладу да пабудовы новага“ (тамсама).

Соцспаборніцтва ахапіла сабой ня толькі дарослых-рабочых і колгасьнікаў, але і дзіцячы комуністычны рух і школу. „Наказ піонэрскага зьлёту“ 1929 году зьяўляецца наказам социялістычнага будаўніцтва і програмай соцспаборніцтва.

Зараз ужо заключаны ўмовы на соцспаборніцтва паміж піонэрамі Амэрыкі і Украіны, Норвэгіі і Закаўказьзя, Швайцарыі і Ніжняй Волгі. Соцумовы ставяць перад сабой задачу організацыі птушкаводных таварыстваў, домікаў для куранят, контрольных гнёзд, кураводзтва, зьбіраньня уціль-сыравіны, радыёфікацыі вёскі, ліквідацыі няпісьменнасьці і г. д. Піонэрскі зьлёт у сваёй соцумове намячае такія мерапрыемствы: палепшыць сельска-гаспадарчую работу атрадаў шляхам організацыі пры кожнай сельскай школе гароду, пратручваньня насеньня ў колгасах і бядняцкіх гаспадарках, вырабу да 1 млн шпакоўняў за год для барацьбы з шкоднікамі і 4 млн мышаловак, зьнішчэньня 500 тысяч сусьлікаў, узмацненьня дрэванасаджэньня і г. д.

Трэба спыніцца на соцумове 3-х, якая заключана паміж піонэрскімі організацыямі БССР, Азарбайджанскай ССР і Заходняй вобласьці на социялістычнае спаборніцтва па ўдзелу ў социялістычным будаўніцтве. У цэнтры работы ставіцца барацьба за выка-

наньне прамфінпляну прадпрыемстваў, арганізацыі дзетвары за ауладаньне навукай і тэхнікай. Высоўваецца задача стварыць ў БССР 50 дзіцячых агро-тэхнічных станцый, у АССР—35, а ў Заходняй вобласьці—51. Прапануецца змагацца за ленінскі плян электрыфікацыі, за нафту і торф. Патрабуецца, каб кожны піонэр сабраў ня менш 20 кг жалезнага лому, падпісаўся на дзяржаўную пазыку ня менш як на 50 кап., каб кожнае зьвяно завербавала 10 укладчыкаў ў ашчадкасу. Ставіцца задача ўдзельнічаць у ліквідацыі прарываў па транспорце, у барацьбе за рабочае забесьпячэньне, за колектывізацыю ўсёй сельскае гаспадаркі, наладзіць вайсковую работу сярод вучняў, змагацца за выхаваньне піонэра інтэрнацыяналіста і антэрылігійніка.

Недахопам гэтай соцумовы зьяўляецца тое, што тут ні слова ня сказана аб школе.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове аб рабоце піонэрскай арганізацыі (21 красавіка 1932 году) патрабуе „рашучай перабудовы работы атрадаў Ю. П. у тым кірунку, каб цэнтральнае месца ў ёй займала арганізацыя самімі дзяцьмі, пад кіраўніцтвам комсамолу, у цясьнейшай сувязі са школьнымі арганізацыямі і органамі народнай асьветы, барацьбы за якасьць вучобы, за сьвядомую дысцыпліну, за політэхнізацыю ў школе, за разьвіцьцё дзіцячай фізкультуры, за правільную арганізацыю дзіцячага адпачынку і за падвышэньне ўсёй работы па комуністычнаму выхаваньню дзіцячых мас, супроць усякіх спроб працягваньня ў дзіцячае асяродзьдзе чуждай пролетарыяту ідэолёгіі“. Пастанова ЦК партыі ставіць перад піонэрскай арганізацыяй зусім конкрэтныя задачы, якія накіраваны на ўзмацненьне барацьбы за якасьць вучобы, за палепшаньне школьнай работы і за аздараўленьне маладога пакаленьня. Выкананьне гэтых задач можа быць забясьпечана пры ўмове разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва сярод дзяцей.

Соцыялістычнае спаборніцтва зьяўляецца мэтодам комуністычнага выхаваньня мас. Аднак, было-б няправільна думаць, што мэтоды комуністычнага выхаваньня мас вычэрпваюцца соцыялістычным спаборніцтвам. Спэцыфічная асаблівасьць соцспаборніцтва заключаецца ў тым, што яно, будучы комуністычнай формай арганізацыі работы, зьяўляецца сродкам мобілізацыі працоўных мас на выкананьне конкрэтных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Яно зьмяняе паводзіны людзей у кірунку барацьбы за ўздым соцыялістычнай вытворчасьці, разьвівае соцыялістычныя адносіны да работы, выхоўвае сьвядомую дысцыпліну.

У капіталістычнай грамадзе работа зьяўляецца прымусам. У нас, у Савецкім саюзе, працоўныя масы добраахвотна змагаюцца за тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, і работа ператвараецца ў натуральную патрэбу людзей. Соцспаборніцтва ёсьць выражэньне добраахвотнай работы і ў гэтым яго выхаваўчая роля.

Важным момантам соцыялістычнага спаборніцтва зьяўляецца пляніраваньне работы. Бяз пляну нельга пабудаваць соцыялізм. Маладое пакаленьне павінна навучыцца плянаваць. І гэта дасягаецца ў значнай ступені праз соцыялістычнае спаборніцтва. Соцумова ёсьць ні што іншае, як плян. Тут вызначаюцца асноўныя

моманты работы і паказчыкі, якія павінны быць выкананы на працягу пэўнага часу.

Важна тое, што соцумова абгаварваецца на розных паседжаньнях, сходах і конфэрэнцыях, ператвараючыся ў продукт колектыўнай пролетарскай творчасьці.

Социялістычнае спаборніцтва выклікае неабходнасьць ня толькі работаць па пляну, але *змагацца* за выкананьне і перавыкананьне пляну. Кожны момант работы строга правяраецца, улічваецца, ацэньваецца. Бяз учоту работы немагчыма і соцспаборніцтва. Апошняе прывучае людзей крытыкаваць рэзультаты сваёй работы, адзначаць недахопы, улічваць дасягненьні. Соцспаборніцтва дае працоўным магчымасьць „праявіць сябе, разгарнуць свае здольнасьці, выявіць таленты“. Яно садзейнічае разьвіцьцю організацыйных звычак, дапамагае вылучаць організатараў і кіраўнікоў для социялістычнай гаспадаркі і культуры з асяродзьдзя рабочых і колгасьнікаў. Для таго, каб ударная брыгада сапраўды мела магчымасьць змагацца за тэмпы і якасьць работы, яна павінна правільна і ўмела наладзіць работу ўнутры брыгады. Практыка ўдарных брыгад потым робіцца здабыткам ўсёй пролетарскай грамадзкасьці.

У барацьбе за выкананьне вытворчых заданьняў перадавыя павінны цягнуць за сабой адстаючых, аказваючы апошнім таварыскую дапамогу. Такім чынам, соцспаборніцтва разьвівае пачуцьці пролетарскай солідарнасьці і колектывізму. Усё гэта кажа аб тым, якую вялізарную ролю адыгрывае соцспаборніцтва ў справе комуністычнага выхаваньня мас. Яно павінна знайсьці адпаведнае месца і ў школе.

Сярод пэўнай часткі пэдагогаў сустракаліся думкі, быццам соцспаборніцтва зьяўляецца унівэрсальным мэтодам выкладаньня і выхаваньня, выключаючым усе іншыя мэтоды. Гэткія думкі— няправільны: яны сьведчаць аб тым, што некаторыя колы настаўнікаў не зразумелі сутнасьці соцспаборніцтва і яго ролі ў школьнай рабоце. Соцспаборніцтва ў школе ёсьць мэтод барацьбы за тэмпы і якасьць вучобы і выхаваньня. Яно зьяўляецца ня мэтодам выкладаньня тэй ці іншай дысцыпліны, а мэтодам социялістычнай організацыі школьных заняткаў ў кірунку найлепшага выкананьня програм і плянаў вучобы. Гэты мэтод ні ў якім разе не выключае іншых мэтодаў організацыі школьнай работы, напрыклад, клясна-лекцыйную сыстэму, а, наадварот, іх прадпалагае.

Праз ужываньне соцспаборніцтва вучні мобілізуюцца на выкананьне пэўных вызначаных ў соцумове заданьняў ў галіне комуністычнага выхаваньня.

Для таго, каб ажыцьцявіць ў школе ленінскі лёзунг соцспаборніцтва, небходна рашуча змагацца супроць права і „лева“-опортуністычных тэорый і скажэньняў на практыцы.

Правыя пэдагогі, якія імкнуцца паставіць школу на шлях схолястычнага выкладаньня, адмаўляюць выхаваўчае значэньне соцспаборніцтва і не жадаюць практыкаваць гэты мэтод ў школе. „Левыя“ опортуністы імкнуліся падмяніць соцспаборніцтва мэтодам проектаў і, значыцца, таксама накіроўваюць свае намаганьні супроць яго распаўсюджаньня ў справе выхаваньня. М. Д. Асіп-

цоў піша: „Але калі мы прааналізуем, як фактычна праходзіць соцыялістычнае спаборніцтва, дык убачым, што спаборніцтва зьяўляецца па сутнасьці нутраным бокам цэлага раду дзеяньняў, якія працякаюць па пэўнаму пляну проекту“ [1]).

Аўтар адкрыта даводзіць, што спаборніцтва зьяўляецца толькі нутраным бокам мэтоду проектаў. Гэта значыць, мэтод проектаў падпарадкуе сабе соцыялістычнае спаборніцтва, якое, нібы-та, знаходзіцца ў гэтым мэтодзе. Далей Асіпцоў некалькі раз паўтарае сваю думку. „Часамі ў рабоце школы—піша ён—соцспаборніцтва, як такавое, можа быць проектам“. „Звычайна-ж у мэтах пэдагогічных яно (соцспаборніцтва—*П. П.)*, абумовіўшы абраньне проектаў, затым уваходзіць складанай часткай у проект. Гэта значыць, што сучасны проект павінен быць так організаваны, каб у ім, як адзін з складаных момантаў павінна быць у наяўнасьці спаборніцтва [2])“. Такім чынам, аўтар зусім разглядае спаборніцтва, як складаную частку мэтоду проектаў. Далей ён даходзіць да атоежсамленьня спаборніцтва з капіталістычнай конкурэнцыяй на той аснове, што быццам тое і другое характарызуецца агульным момантам—эмоцыянальнай рэакцыяй. Асіпцоў піша: „Пры соцспаборніцтве новым момантам, момантам надзвычай важным ва ўсіх гэтых зьявах, зьяўляецца жывая эмоцыйная рэакцыя на ўвесь процэс соцспаборніцтва. Гэтая рэакцыя, якую ў буржуазным грамадзтве ў школе культывуюць, як пачуцьцё конкурэнцыі і супарства, у нашых умовах атрымоўвае характар выразнай соцыяльнай эмоцыі, паколькі мэта работы ня толькі індывідуальная, а адначасова шырока грамадзкая“ [3]). Асіпцоў думае, што важнейшым момантам соцспаборніцтва зьяўляецца не яго грамадзкая значымасьць, а псыхолёгічная функцыя—рэакцыя спаборніцтва і што, нібы-та, гэтая-ж рэакцыя спаборніцтва ёсьць і ў капіталістычнай конкурэнцыі. Розьніца паміж соцыялістычным спаборніцтвам і капіталістычнай конкурэнцыяй, як сьцьвярджае Асіпцоў, толькі ў тым, што ў першым выпадку рэакцыя спаборніцтва ў нашых умовах набывае характар „выразнай соцыяльнай эмоцыі“, паколькі тут „мэта работы ня толькі індывідуальная, а адначасова шырока грамадзкая“. Такім чынам, соцыялістычнае спаборніцтва, паводле думкі Асіпцова, зводзіцца да псыхолёгічнага моманту—рэакцыі спаборніцтва, якая, да рэчы сказаць, выдумана аўтарам, бо яшчэ навука аб паводзінах чалавека гэтай рэакцыі ня ведае.

А выдумана яна Асіпцовым для таго, каб абгрунтаваць рэакцыйную тэорыю падабенства паміж соцыялістычным спаборніцтвам і капіталістычнай конкурэнцыяй.

„Левыя“ опортуністы не разумеюць пролетарскай сутнасьці соцыялістычнага спаборніцтва. Толькі ў жорсткай барацьбе на два фронты ў галіне школьнага будаўніцтва магчыма дасягнуць таго, што соцспаборніцтва зробіцца сапраўдным ленінскім мэтодам комуністычнага выхаваньня ў школе.

---

[1]) „На путях к методу проектов“, стар. 84.

[2]) М. Д. Асіпцоў—„Сельская школа и социалистическое соревнование“. Раб. просвещ.“ 1930 г., стар. 13.

[3]) „На путях к методу проектов“, стар. 84.

Неабходна змагацца супроць мэханічнага перанясеньня практыкі соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў нашых соцыялістычных прадпрыемствах на школу.

Некаторыя пэдагогі сур'ёзна думаюць, што школа павінна цалкам падражаць фабрыцы, заводу, саўгасу, колгасу ў справе арганізацыі спаборніцтва. Адсюль часамі назіраюцца выпадкі ўжываньня ў школе ўсіх тых мэтодаў уплыву, якія маюць месца ў соцыялістычнай вытворчасьці, напрыклад, чорныя і чырвоныя дошкі, гаспадарча-разьліковыя брыгады, прэміяваньне і г. д. Але тут ня ўлічваецца тое, што школа зьяўляецца не гаспадарча-вытворчай арганізацыяй, а навучальна-выхаваўчай. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школе носяць свае спэцыфічныя асаблівасьці і павінны быць падпарадкаваны задачам навучаньня і выхаваньня. Мэханічнае перанясеньне мэтодаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва з прадпрыемстваў у школу ёсьць ні што іншае, як рэцыдыў „лявацкага“ характару, бо тут праяўляецца тэндэнцыяператварыць школу ў цэх заводу. З такой тэндэнцыяй трэба рашуча змагацца.

## Як трэба арганізаваць соцспаборніцтва ў школе

Для таго, каб высьветліць выхаваўчую ролю соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школе, Навукова-дасьледчы інстытут комуністычнага выхаваньня БССР арганізаваў адпаведны досьлед. 1931/32 навучальны год зьяўляецца годам рашучага пералому ў рабоце савецкай школы. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе зрабіла круты паварот ў справе школьнага будаўніцтва, адзначыла дасягненьні і недахопы савецкай школы, намеціла далейшы шлях разьвіцьця школьнай работы ў сувязі з актуальнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва на сучасным этапе. На працягу 1931-32 навучальнага году наша школа на хаду перабудоўвала сваю работу ў кірунку ажыцьцяўленьня пастановы ЦК, праводзячы рашучую барацьбу за палепшаньне вучобы, за зьнішчэньне свайго „карэннага недахопу“, за павялічэньне аб'ёму агульнаадукацыйных ведаў вучняў. У гэтай барацьбе за якасьць вучобы вялікую ролю павінна адыграць і сапраўды адыграла соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод вучняў і настаўнікаў. Вось чаму мы лічылі асабліва каштоўным вывучыць гэтую проблему ў першы год работы савецкай школы на падставе пастановы ЦК партыі, у год крутога пералому ў справе школьнага будаўніцтва.

Мы паставілі перад сабой задачу высьветліць пытаньне, наколькі соцспаборніцтва і ўдарніцтва робяць выхаваўчы ўплыў на вучняў. Таму мы абмежавалі гэтую задачу вывучэньнем толькі саміх вучняў. Проблему-ж соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод настаўнікаў мы сьвядома тут не асьвятляем, хаця, зразумела, мы не адмаўляем таго, што і гэтая проблема мае вялікае значэньне ў справе барацьбы за якасьць вучобы.

Інстытут комвыхаваньня сабраў матар'ял аб становішчы соцспаборніцтва і ўдарніцтва па 50 школах БССР. Сюды ўвайшлі важнейшыя школы раёнаў.

У якасьці асноўнага матар'ялу для вывучэньня былі ўзяты соцумовы паміж школамі, паміж школамі і прадпрыемствам ці колгасам, паміж клясамі і вучнёўскімі брыгадамі, а таксама протоколы розных організацый школы—школьнага савету, самакіраваньня, штабаў па соцспаборніцтву, піонэрскіх організацый і г. д. Па дванаццаці школах было праведзена анкетаваньне сярод вучняў і матар'ял зьбіраўся па спэцыяльнай схеме:

1. Калі школа пачала спаборніцтва.

2. Якія соцумовы заключаны паміж вучнямі па соцспаборніцтву.

3. Сабраць усе соцумовы.

4. Колькі вучняў ахоплена соцспаборніцтвам на сёнешні дзень:

а) па школе цалкам;

б) па групам;

в) па ўзростам у кожнай групе;

г) па полу ў кожнай групе;

д) па соцыяльнаму становішчу ў кожнай групе;

е) па нацыянальнасьці ў кожнай груце;

ж) па адносінам да піонэраў і космамолу ў кожнай групе.

5. Колькі вучняў было ахоплена соцспаборніцтвам раней, спачатку 1931/32 навучальнага году па тым-жа адзнакам, як у пункце 4.

6. Хто складае ўмовы па соцспаборніцтву школы, брыгад і паасобных вучняў.

7. Па чыёй ініцыятыве пачалося соцспаборніцтва: па ініцыятыве настаўнікаў, вучняў, бацькоў, піонэраў або якіх-небудзь організацый і г. д.

8. Якія былі праведзены сходы вучняў па соцспаборніцтву (дадаць протоколы).

9. Як на гэтых сходах праяўлялася клясавая барацьба сярод вучняў у сувязі з соцспаборніцтвам.

10. Ці ўсе вучні ведаюць добра соцумову, наколькі ўмова па соцспаборніцтву даведзена да кожнага вучня.

11. Якую ролю адыгрываюць органы самакіраваньня вучняў у справе соцспаборніцтва.

12. Як справа соцспаборніцтва адбіваецца ў пляне работы вучнёўскага самакіраваньня

13. Якімі мэтодамі вучнёўскае самакіраваньне мобілізуе актыўнасьць вучняў на выкананьне плянаў у школе ў сувязі з соцспаборніцтвам.

14. Якую ролю адыгрывае ў справе соцспаборніцтва насьценная газэта школы (артыкулы, іх характар і г. д.).

15. Якую ролю адыгрываюць у справе соцспаборніцтва настаўнікі і загадчык школы.

16. Якую ролю адыгрываюць у справе соцспаборніцтва ўдарнікі-вучні.

17. Колькі вучняў ахоплена ўдарніцтвам (якія конкрэтныя абавязкі бярэ на сябе кожны ўдарнік, дадаць адпаведны матар'ял).

18. Колькі маецца ўдарных брыгад і як яны комплектуюцца (па соц. становішчу, па нацыянальнасьці, па полу, па ўзросту і г. д.).

19. Якія мэтоды ўжываюць ударнікі ў справе выкананьня плянаў школы—грамадзкі буксір, сустрэчны плян, скразныя брыгады і г. д.

20. Як ударнікі-вучні змагаюцца за дысцыпліну ў школе, які яны робяць уплыў на астатніх вучняў у справе барацьбы за дысцыпліну і за якасьць работы.

21. Як выконваецца соцумова па месяцам с пачатку году.

22. Які адсеў вучняў у школе.

23. Як выконваюцца програмы школы (процант і якасьць выкананьня).

24. Колькі вучняў маецца адстаючых, іх склад (па соц. паходжаньню, па нацыянальнасьці, па роду, узросту і г. д.).

25. Колькі ў школе маецца дэзорганізатараў і іх роля ў школе.

26. Якая школьная пасьпяховасьць ударнікаў—вучняў (высьвятліць шляхам тэстаў-анкет).

27. Якімі мэтодамі і формамі ўлічваюцца рэзультаты соцспаборніцтва.

28. Якія створаны стымулы для разгортваньня ўдарніцтва—прэміяваньне, чырвоныя і чорныя дошкі, ударныя карткі і г. д.

29. Колькі прэміяваных ударнікаў-вучняў і брыгад.

Якія рэзультаты абсьледваньня?

Большасьць вывучаных намі школ перайшлі на мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў пачатку 1931/32 навучальнага году зараз-жа пасьля апублікаваньня пастановы ЦК партыі аб школе. І толькі невялікая група школ пачала ўжываць соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў самы апошні час, гэта значыць, у канцы гэтага навучальнага году (1931/32); рад-жа школ стаў разгортваць соцспаборніцтва і ўдарніцтва яшчэ ў 1929 годзе.

Школы ўжываюць соцспаборніцтва дваякага тыпу—колектыўнае і індывідуальнае. Асабліва распаўсюджана першае.

Колектыўнае соцспаборніцтва разгортваецца паміж школамі, клясамі, групамі і брыгадамі. Найбольш каштоўным зьяўляецца спаборніцтва паміж групамі адной і той-жа клясы ў шматкомплектных школах, а таксама спаборніцтва паміж навучальнымі брыгадамі аднэй і тэй-жа групы. У гэтым выпадку суб'екты соцспаборніцтва маюць перад сабой агульныя задачы і програмы, дзякуючы чаму магчыма больш выразна, чым пры іншых варыянтах параўнаць рэзультаты соцспаборніцтва. Вось чаму пажадана разгортваць спаборніцтва ў напрамку комбінацыі, напрыклад, 5 групы „А“ з 5-ай групай „Б“, 6-ая групы „А“ з 6-ай групай „Б“ і г. д. Але, зразумела, ні ў якім разе нельга выключаць і іншых варыянтаў, напрыклад, спаборніцтва 4 групы з 5, або 6 групы з 7 і г. д. Паміж іншым, на практыцы некаторыя школы іменна так і робяць. Калі праводзіцца колектыўнае спаборніцтва, неабходна змагацца супроць абязьлічкі, дзеля таго патрэбна точна вызначыць абавязкі кожнага члена данай брыгады і групы, каб кожны ўдзельнік спаборніцтва добра ведаў, за што іменна ён адказвае і што ён павінен выконваць. Індывідуальнае спаборніцтва сярод вучняў распаўсюджана слаба, не вядзецца ў школе сталага вучоту яго рэзультатаў, нават часта зусім ня фіксуюцца

і не зацьвярджаюцца ўмовы соцспаборніцтва паміж паасобнымі вучнямі. На зьнішчэньне гэтага недахопу нашы школы павінны зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Для таго, каб паказаць, наколькі вучні глыбока ахоплены соцспаборніцтвам, падамо некалькі прыкладаў па тым школам, дзе гэтая справа пастаўлена найбольш здавальняюча.

## ШКМ комуны БВА імя Варашылава

У гэтай школе ўсе вучні ўступілі ў соцспаборніцтва і ўсе яны добра ведаюць зьмест соцумовы.

У гэтай школе 178 вучняў, з якіх 61 проц. хлапцоў і 38 проц. дзяўчат, 71 проц. дзяцей колгасьнікаў, 91 проц. беларусаў і 59 проц. піонэраў.

Школа гэтая мае шмат пераросткаў: па першаму концэнтру—40 вучняў або 47 проц., а па другому—27 вучняў або 29 проц, Гэты процант пераросткаў надта вялікі. Школа недастаткова ахапіла вучняў піонэрскай організацыяй. Хаця адміністрацыя школы лічыць, што ўсе вучні ўступілі ў соцспаборніцтва, самі вучні ў некаторых выпадках гэта адмаўляюць. Напрыклад, па 5 групе ўдзельнічалі ў запаўненьні спэцыяльнай анкеты 35 вучняў, з іх 3 вучні паказалі, што яны ня прымаюць удзелу ў соцспаборніцтве. Гэта сьведчыць аб тым, што школа яшчэ не наладзіла дасканалага вучоту.

У школе налічваецца 27 ударнікаў. Анкетаваньне па ведам дае высокі коэфіцыент—85—100 проц.

## Мсьціслаўская 1-я беларуская ШКМ (узорная)

Тут таксама ўсе вучні ахоплены соцспаборніцтвам, але ня ўсе яны ведаюць зьмест соцумовы. Добра памятаюць вучні аб групавых соцумовах; агульна-школьная ўмова некаторымі вучнямі забыта, асабліва па першаму концэнтру, дзе ёсьць 15—20 процантаў вучняў, якія ня ўдзельнічаюць у соцспаборніцтве.

Гэтая школа мае пераросткаў па першаму концэнтру 26 чалавек або 17 проц., а па другому концэнтру—26 вучняў або 26 проц. Гэты процант зьяўляецца значным; у бліжэйшай будучыні школа павінна яго паменшыць. У школе вучыцца 151 хлапец (58,3 проц.) і 108 дзяўчат (41,7 проц.). Па соцыяльнаму становішчу вучні падзяляюцца так: 104 дзяцей колгаськікаў (40,1 проц.), 52 дзяцей служачых (20 проц.), 34 дзяцей рабочых (13,1 проц.) і г. д. Такім чынам, школа мае большасьць дзяцей колгаськікаў. Па нацыянальнасьці большасьць беларусаў, якіх лічыцца 209 чалавек, або 80,7 проц. Школа мае 170 піонэраў, што складае 65,6 проц. і 25 комсамольцаў. Цікава тое, што ў першым концэнтры даволі шырока практыкуецца індывідуальнае соцспаборніцтва: яно ахоплівае 98 проц. вучняў, тады як у другім концэнтры пераважае брыгаднае соцспаборніцтва, у якое ўключылася 15 брыгад 5 і 6-й групы. У школе значна пашырана сярод вучняў ударніцтва, якім ахопліваецца 124 чал. або 47,5 проц. Калі ўсе піонэры ўступілі ў соцспаборніцтва, дык, на жаль, ня

ўсе яны зрабіліся ўдарнікамі. Абвясьцілі сябе ўдарнікамі толькі 90 піонэраў з агульнага ліку 170, што складае 53 проц. Такім чынам, піонэры яшчэ не разгарнулі соцспаборніцтва да канца і ня выканалі сваіх абавязкаў быць добрым прыкладам для іншых вучняў у гэтай справе. Неабходна зьнішчыць паказаны недахоп у бліжэйшы час. З 25 камсамольцаў зьяўляюцца ўдарнікамі 20 або 80 проц. Тут справа абстаіць больш здавальняюча.

Але, зразумела, мы павінны паставіць перад сабой задачу, каб усе комсамольцы былі ўдарнікамі без выключэньня. Школа здавальняюча выканала навучальную програму, прыблізна на 90—95 проц. Якасьць вучобы за апошні год значна павысілася, асабліва па першаму концэнтру. Пры анкетаваньні вучні другога концэнтру далі коэфіцыент ведаў—78—85 проц.

## Гарадкоўская ШКМ Глускага раёну

Вучні цалкам ахоплены соцспаборніцтвам. Соцумовы даведзены да кожнага вучня. У школе налічваецца 246 чалавек.

Перарosткі: па першаму концэнтру 35 або 31,5 проц., а па другому—37 або 25,5 проц. Хлапцоў і дзяўчат у школе па роўну. Па соцыяльнаму складу большасьць належыць да дзяцей колгасьнікаў—39 проц., потым ідзе група рабочых—18,7 проц. і г. д. Па нацыянальнасьці школа беларуская, мае 107 піонэраў, 46 акцябрат і 10 комсамольцаў. Налічваецца 82 ударнікі, што складае 33,3 проц. Ня ўсе піонэры, комсамольцы і акцябраты зьяўляюцца ўдарнікамі, а іменна сярод піонэраў налічваецца 45 ударнікаў (42 проц.), сярод комсамольцаў—5 (або 50 проц.) і сярод акцябрат—11 чалавек, (або 24 проц.). Такім чынам, неабходна разгарнуць работу школы ў тым кірунку, каб піонэры і комсамольцы зрабіліся сапраўды перадавымі барацьбітамі за якасьць вучобы. А школа адстае па вучобе, ня гледзячы на соцспаборніцтва: за першае паўгодзьдзе програма выканана толькі на 60 проц., пасьпяховасьць вучняў недастатковая. Трэба адзначыць, што 4 брыгады абвясьцілі сябе ўдарнымі, але толькі адна брыгада № 2 зьяўляецца сапраўды ўдарнай. У школе назіраецца ілжэўдарніцтва.

## Любаньская беларуская ШКМ

Школа лічыць, што ўсе вучні ўцягнуты ў соцспаборніцтва. Але самі вучні гэтага не пацьвярждваюць. Пры анкетаваньні высьветлілася, што па групе 5 „Б“ анкеты запоўнілі 46 вучняў, з якіх ніводзін не адзначыў свой ўдзел у соцспаборніцтве. Па групе 6 „А“ з 28 вучняў не соцспаборнічаюць 17. Гэта сьведчыць аб тым, што школа яшчэ не наладзіла дасканалага вучоту рэзультату соцспаборніцтва і што некаторыя вучні, якія ўзялі на сябе пэўны абавязак, зараз адмовіліся выконваць соцумову.

Магчыма і тое, што соцумова не даведзена да кожнага вучня, дзякуючы таму некаторыя вучні проста ня ведаюць аб соцспаборніцтве. Асабліва мала ведаюць вучні аб соцспаборніцтве па першаму концэнтру.

Калі лічыць нормальным узростам для першага концэнтру 8-11 год і для другога—12-15 год, дык трэба адзначыць наяўнасьць па школе вялікай колькасьці пераросткаў, а іменна: па першаму концэнтру 35,2 проц. вучняў, па другому концэнтру 61,2 проц. На долю хлапцоў прыпадае—284 чал. (59,2 проц.) і на долю дзяўчат—195 чал. (41,8 проц.).

У адносінах соцыяльнага складу пераважаюць вучні, бацькі якіх зьяўляюцца аднаасобнікамі і плацельшчыкамі падаткаў. На гэтую групу прыходзіцца 240 вучняў з 479, ці 50,1 проц.

Далей ідуць дзеці колгасьнікаў—121 чал. (25,2 проц.), а потым дзеці аднаасобнікаў, якія вызвалены ад падаткаў—45 вучняў. У школе вучыцца выключная большасьць беларусаў, 475 чал. (95,4 проц.). Піонэраў у групе 5 „А“—16 чалавек, па групе 5 „Б“—12, па групе 6 „А“—12, па групе 6 „Б“—11 і па 7 групе—4 чал. Такім чынам па другому концэнтру налічваецца 55 піонэраў. Апрача таго ёсьць 24 комсамольцы. Ударнікаў у школе—50 чалавек, з якіх піонэры і комсамольцы складаюць прыблізна 21 чалавек. Толькі 28,3 проц. піонэраў і комсамольцаў лічаць сябе ўдарнікамі. Программа школы выканана прыблізна на 95 проц. Ровень ведаў вучняў даволі высокі. Анкегаваньне дае коэфіцыент—83-100 проц. па старэйшаму концэнтру.

## Талочынская польская ШКМ

Школа пачала соцспаборніцтва яшчэ ў 1929 годзе.

У школе налічваецца 151 вучань, у соцспаборніцтва ўступіла—101, гэта значыць, 67,3 проц. Ударніцтвам ахоплена 76 або 50,3 проц. Для гэтай школы зьяўляецца характэрным тое, што значная частка вучняў, якая ўступіла ў соцспаборніцтва, абвясьціла сябе ўдарніцкай. Тут ударнікі складаюць 74,2 проц. ад тых вучняў, якія спаборнічаюць.

Па першаму концэнтру пераросткі ў гэтай школе складаюць 7 чалавек або 18,4 проц., а па другому концэнтру—18 чалавек або 44 проц. Шмат пераросткаў прыпадае на старэйшыя групы. У школе налічваецца 60 хлапцоў (58,4 проц.) і 41 дзяўчынка (41,6 проц.). Па полу разьмеркаваньне вучняў больш-менш роўнамернае. Сярод вучняў пераважаюць дзеці колгасьнікаў, якіх налічваецца 71 чалавек або 70,2 проц. Другое месца займаюць дзеці рабочых, на якіх прыпадае 20 вучняў або 19,7 проц. Па нацыянальнасьці вучні амаль цалкам належаць да палякаў. Школа мае 48 піонэраў і 21 комсамолец. Налічваецца 18 ударных брыгад, з якіх па першаму концэнтру—7 і па другому—11. Усяго ўдарнікаў у школе—76. У першым концэнтры ёсьць 35 ударнікаў, у другім концэнтры—41. Сярод піонэраў налічваецца па старэйшым групам—22 ударнікі, а сярод комсамольцаў—12, што складае ў першым выпадку—61,1 проц., а ў другім—57,4 проц. Піонэры і комсамольцы яшчэ ня цалкам перайшлі да

ўдарніцтва. Выкананьне навучальных програм па школе магчыма бачыць з наступнай табліцы (у працантах):

| Назва прадметаў | 5 група | 6 група | 7 група |
|---|---|---|---|
| 1. Грамадазнаўства | 80 | 85 | 85 |
| 2. Літаратура і мова | 85 | 90 | 90 |
| 3. Фізыка і матэматыка | 90 | 85 | 95 |
| 4. Прыродазнаўства і хэмія | 80 | 85 | 85 |
| 5. Географія | 85 | 85 | 90 |

Такім чынам, выкананьне програм па навучальным прадметам хістаецца ў межах 80-95 проц. Анкетаваньне па ведам дае лічбу для 5 групы—51,2 проц., а для 6 і 7 груп—80—82 проц.

### Нова-Барысаўская расійская ФЗС № 11

У гэтай школе ўсе 316 вучняў ахоплены соцспаборніцтвам. Па прыблізным даным перарасткаў па-першаму концэнтру налічваецца каля 15 або 13 проц., а па другому—прыблізна—16 чалавек або 12,2 проц. Колькасьць перарасткаў у гэтай школе параўнаўча нязначная. Па полу вучні падзяляюцца амаль на роўныя часткі—53,4 проц. хлапцоў і 46,6 проц. дзяўчат. Такім чынам, дзяўчаты ў вялікай колькасьці, як і хлапцы, удзельнічаюць у соцспаборніцтве. У адносінах да соцыяльнага складу вучняў школа зьяўляецца пераважна рабочай. Дзеці рабочых складаюць 59,1 проц., потым ідуць дзеці служачых, на якіх прыпадае 39 проц.

Па нацыянальнасьці пераважаюць расійцы. На іх долю прыпадае 59,1 проц. Другое месца займаюць яўрэі, на якіх прыпадае 19,6 проц. Школа мае шмат піонэраў, а іменна: 211 чалавек альбо 66,7 проц. Калі ўзяць разам піонэраў, комсамольцаў і акцябрат, то мы атрымаем лічбу—267, што складае 84,5 проц. У асноўным школа зьяўляецца піонэрска-комсамольскай. Таксама вялікі коэфіцыент мы маем тут па ўдарніцтву. Абвясьцілі сябе ўдарнікамі 199 вучняў, або 61,4. проц. Ударных брыгад налічваецца 8.

У першым концэнтры ўдарныя брыгады сустракаюцца толькі ў 3 і 4 групах. Няма ўдарных брыгад і ў 7 групе, хоць ударнікі тут ёсьць. Выкананьне навучальнай програмы па школе хістаецца ў межах 85-97 проц. Відавочна, школа зьяўляецца перадавой у барацьбе за якасьць вучобы.

Мы лічым, што вышэйпаданых прыкладаў досыць для таго, каб атрымаць дастатковае ўражаньне аб становішчы соцспаборніцтва ў нашых школах.

Якія агульныя вынікі магчыма зрабіць з агляду шасьці вышэйпаказаных школ?

Па-першае, соцспаборніцтва, як мэтод комуністычнага выхаваньня, усё больш і больш заваёўвае месца ў сыстэме работы савецкай школы. Соцспаборніцтвам ахопліваюцца вучні ня толькі

старэйшых груп, але і малодшага концэнтру, і ня толькі хлапцы, але і дзяўчаты ў аднолькавай ступені. Аднак, ёсьць яшчэ школы, у якіх вучні ня ўцягнуты ў соцспаборніцтва цалкам. Асабліва ненормальным зьявішчам трэба прызнаць тое, што ў соцспаборніцтве недастатковы ўдзел прымаюць піонэры і комсамольцы. Пры анкетаваньні па 12 школам высьветлілася, што з 1.885 вучняў другога концэнтру ўцягнута ў соцспаборніцтва толькі 1.219 чалавек, што складае 64,1 проц. Мы павінны імкнуцца да таго, каб процант ахопу вучняў соцспаборніцтвам у бліжэйшы час наблізіўся да 100. Па тым-жа школам хлапцы і дзяўчаты амаль аднолькава па колькасьці ўдзельнічаюць у соцспаборніцтве.

На долю першых прыпадае 93,5 проц, на долю апошніх—90 проц. Такім чынам, не апраўдваецца сьцьверджаньне некаторых рэакцыйных элемэнтаў, быццам дзяўчаты зьяўляюцца найбольш адсталымі сярод вучняў. Сапраўды-ж, яны разам з хлапцамі дружна змагаюцца за якасьць вучобы, скарыстоўваючы перадавыя соцыялістычныя мэтоды работы—соцспаборніцтва. Згодна анкетам, піонэры ў 12 школах, галоўным чынам па старэйшаму концэнтру, даюць па ўдзелу ў соцспаборніцтве 87,2 проц., комсамольцы—92,6 проц. Трэба дамагацца, каб ня было ніводнага піонэра і комсамольца, якія ня ўдзельнічаюць у соцспаборніцтве. Яны павінны ня толькі ўдзельнічаць у соцспаборніцтве, а быць перадавымі ў гэтай справе і весьці за сабой астатніх рэбят.

Асабліва вялікі прарыў назіраецца ў Круглянскай ШКМ, дзе піонэры ўцягнуты ў соцспаборніцтва толькі на 34 проц., а комсамольцы на 63,6 проц. Неабходна ліквідаваць гэты прарыў ў бліжэйшы час.

Па- другое. Незаўсёды школы зьвяртаюць увагу на наладжваньне вучоту па соцспаборніцтву. Бываюць выпадкі, калі школа зусім ня ведае аб тых вучнях, якія ўступілі ў соцспаборніцтва (напрыклад, Чачэрская ШКМ). Часамі назіраецца тое, што школа мае матар'ял, які не адпавядае рачаіснасьці (напрыклад, Любаньская беларуская ШКМ па 5 групе „Б" і 6 гр. „А"). А гэта садзейнічае прарывам па выкананьню соцумоў і разьвіцьцю ілжэўдаўніцтва.

Пры гэткіх выпадках у вучняў разьвіваюцца формальныя адносіны да сваіх абавязкаў па соцспаборніцтву.

Па-трэцяе. Сустракаюцца вучні, якія ня ведаюць соцумовы. Гэта сьведчыць аб тым, што школы часамі ня цікавяцца соцспаборніцтвам, не падхопліваюць ініцыятыву дзяцей ў кірунку разгортваньня барацьбы за выкананьне школьных плянаў і програм, ня ўжываюць належных мер па давядзеньню соцумовы да кожнага вучня (напрыклад, у Рэчыцкай беларускай ФЗС).

У гэтай ФЗС больш паловы вучняў ня ведаюць соцумовы. Зразумела, пры такім становішчы немагчыма спадзявацца на дадатны вынік соцспаборніцтва. Паміж іншым Рэчыцкая беларуская ФЗС запісвае ў свой актыў тое, што ў ёй вучні ахоплены соцспаборніцтвам на 95 проц. Ясна, што гэты процант зьяўляецца фіктыўным.

Большасьць вучняў тлумачыць сваё няведаньне соцумовы тым, што яны ня прысутнічалі на сходзе, калі абгаварвалася

гэтая соцумова. Зразумела, дрэнна, што вучні не наведваюць сходы. Самы гэты факт кажа аб слабой падрыхтоўцы школы ў справе мобілізацыі вучняў на соцспаборніцтва. Але іншыя спосабы для ўвядзеньня вучняў у курс соцумовы па соцспаборніцтву, як насьценная газэта, інформацыя піонэра або комсамольца ў групе і брыгадзе, друкаваньне соцумоў, гутарка выкладчыка, грамадзкі буксір і г. д., ня былі выкарыстаны для гэтага Рэчыцкай ФЗС.

Па-чацьвертае. Большасьць школ недаацэньваюць індывідуальнае спаборніцтва вучняў, дзякучы чаму гэтая форма надта мала распаўсюджана ў нашай школе. Часьцей за ўсё разгортваецца спаборніцтва паміж школамі і паміж групамі ў межах адной і той-жа школы.

Часамі сустракаецца брыгадная форма. Але ўсяго гэтага недастаткова. Трэба яшчэ шырока разгарнуць індывідуальнае спаборніцтва. Яно павінна ісьці паміж вучнямі адной і той-жа брыгады і групы, а таксама паміж паасобнымі вучнямі розных брыгад і груп. Карысна заключаць умовы ў парадку індывідуальнага спаборніцтва паміж вучнямі і бацькамі, або па лініі політэхнічнай адукацыі паміж вучнямі, рабочымі і колгасьнікамі. Пры гэтым асноўнай установкай заўсёды павінна быць задача навучаньня і выхаваньня, задача барацьбы за выкананьне школьнай програмы. Індывідуальнае соцспаборніцтва ў злучэньні з колектыўным можа даць значны выхаваўчы эфэкт.

Па-пятае. Нашы школы пачынаюць пaступова разгортваць ударніцтва сярод вучняў. Але яны недастаткова ўжываюць гэткія мэтоды соцспаборніцтва, як грамадзкі буксір, сустрэчны плян і г. д. Грамадзкі буксір ужываецца у Гарадкоўскай і Чачэрскай ШКМ, а сустрэчны плян—у Любаньскай ШКМ. Практыка ўжываньня гэтых мэтодаў настолькі бедна, што яшчэ нельга зрабіць адпаведных вывадаў. У бліжэйшы час неабходна перавесьці соцспаборніцтва ў школах на вышэйшую ступень, разгортваючы ўдарніцтва больш шырока, чымся дагэтуль, практыкуючы грамадзкі буксір, сустрэчны плян, скразныя брыгады, грамадзкі агляд, пераклічкі, конкурсы і г. д. Усё гэта павінна быць падпарадкавана нявучальна-выхаваўчым задачам школы. Мэханічнае запазычаньне для нашых школ практыкі фабрык, заводаў, саўгасаў і колгасаў у справе соцспаборніцтва няўхільна прывядзе да опортуністычных скажэньняў. Таму трэба ўжываць вышэйпаказаныя мэтоды соцспаборніцтва толькі ў той ступені і ў той форме, якія садзейнічаюць зьнішчэньню карэннага недахопу школы.

Ініцыятарамі спаборніцтва ў школе бываюць настаўнікі і самі вучні. Часамі спаборніцтва пачынаецца па ініцыятыве піонэраў і комсамольцаў. Пры разгортваньні соцспаборніцтва сярод вучняў ні ў якім разе нельга дапускаць бюрократычнага кіраўніцтва і адміністрацыйнага нажыму з боку пэдагогаў і загадчыка школай. У тых выпадках, калі мае месца „бюрократызацыя“ справы соцспаборніцтва, вучні ня могуць быць і сапраўды не зьяўляюцца сьвядомымі ініцыятыўнымі барацьбітамі за выкананьне школьнай програмы, бо тут адсутнічаюць прадпасылкі для разьвіцьця

самадзейнасьці і актыўнасьці дзяцей. Соцспаборніцтва ёсьць добраахвотная справа. Самі вучні павінны усьвядоміць неабходнасьць рашучай барацьбы за тэмпы і якасьць вучобы. Разам з тым, яны павінны зразумець, што найбольш падыходзячым мэтодам гэтай барацьбы зьяўляецца соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Перадавыя вучні і, у першую чаргу, піонэры і КСМ павінны весьці за сабой адсталых. Піонэры і комсамольцы павінны ісьці наперадзе ў барацьбе за якасьць вучобы, трымаючы цьвёрда ў сваіх руках сьцяг ленінскага спаборніцтва. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб рабоце піонэрскай організацыі ад 21 красавіка 1932 г. адзначае наступнае: „Найбольш слабым месцам піонэрскай работы зьяўляецца тое, што дагэтуль аграмадная актыўнасьць дзяцей не накіравана ў дастатковай ступені на важнейшую задачу дзіцячага комруху ў сучасны момант, якая заключаецца ў барацьбе за якасьць вучобы ў школе, за аўладаньне „асновамі навук“, за ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны ў асяродку дзяцей і асабліва ў школе, без чаго нямысьліма пасьпяховая падрыхтоўка з падрастаючага пакаленьня будаўнікоў комуністычнага грамадзтва“. Далей пастанова ЦК партыі, як паказана вышэй, устанаўлівае кірунак перабудовы работы піонэрскай організацыі. Цэнтральнае месца павінна займаць „барацьба за якасьць вучобы, за сьвядомую дысцыпліну, за політэхнізм у школе, за разьвіцьцё дзіцячай фізкультуры, за правільную організацыю дзіцячага досугу і за падвышэньне ўсёй работы па комуністычнаму выхаваньню дзіцячых мас, супроць усякіх спроб працягваньня ў дзіцячае асяродзе чуждай пролетарыяту ідэолёгіі“. Тут дана разгорнутая програма працы піонэрскае організацыі. Гэтая програма і павінна быць пакладзена ў аснову соцспаборніцтва сярод вучняў. Застрэльшчыкамі соцспаборніцтва павінны быць піонэры, якія дзейнічаюць пад кіраўніцтвам комсамолу ў цясьнейшай сувязі з школьнымі організацыямі і органамі народнай асьветы. Падкрэсьліваем, што соцспаборніцтва разгортваецца сярод дзяцей ня стыхійна, не па шляху самацёку, а пад кіраўніцтвам настаўнікаў, школьных організацый і комсамолу на падставе разьвіцьця самадзейнасьці і актыўнасьці дзяцей пры захоўваньні вядучай ролі піонэраў.

Непасрэдная работа па організацыі соцспаборніцтва павінна праводзіцца вучнёўскім самакіраваньнем. Апошняе павінна наладзіць сходы, падрыхтаваць проект соцумовы, разгарнуць кампанію па абгаварэньню пытаньняў соцспаборніцтва, мобілізаваць вучняў на выкананьне школьных плянаў і програм, організаваць ударніцтва, пропагандаваць праз насьценны друк лепшыя прыклады барацьбы за якасьць вучобы, змагацца супроць ілжэўдарніцтва, наладзіць сыстэматычны вучот рэзультатаў соцспаборніцтва.

Соцспаборніцтва сярод вучняў можа даць належны выхаваўчы эфэкт толькі пры тых умовах, калі пэдагог і загадчык школай будуць прымаць самы актыўны ўдзел у рабоце вучнёўскіх організацый. Прынцыпіяльныя пытаньні соцспаборніцтва павінны сыстэматычна абгаварвацца ў школьным савеце і на вытворчых нарадах. Асабліва трэба зварочваць увагу на такія пытаньні, як зьмест соцумовы, організацыя вучняў для ўдарніцтва,

вучот рэзультатаў соцспаборніцтва. Пастановы школьнага савету павінны быць канчатковымі для вучняў. У школе неабходна стварыць такія ўмовы, каб настаўнікі былі здольны па сваёй частцы кіраваць соцспаборніцтвам. Нельга забываць асноўнага прынцыпу, што соцспаборніцтва мае сэнс у школе пастолькі, паколькі яно садзейнічае падвышэньню якасьці вучобы і налажваньню комуністычнага выхаваньня наогул. А цэнтральнай фігурай школьнай працы зьяўляецца настаўнік.

Для таго, каб конкрэтна паказаць сутнасьць работы школьных організацый у кірунку разгортваньня соцспаборніцтва сярод вучняў, пададзім некалькі прыкладаў, запазычаных з практыкі розных школ.

Вучнёўская самакіраваньне можа справіцца з сваімі задачамі толькі тады, калі будзе правільна і рацыянальна пабудавана яго работа. Тут перш за ўсё павінна быць выканана адна з шасьці ўмоў тав. Сталіна, а іменна: барацьба супроць абязьлічкі. Кожны член самакіраваньня павінен атрымаць конкрэтную работу, яго абавязкі павінны быць строга вызначаны. Ён павінен ведаць, за што іменна нясе адказнасьць.

Другім важнейшым організацыйным момантам ў рабоце самакіраваньня, апроч барацьбы супроць абязьлічкі, зьяўляецца пляnаваньне.

На жаль, нашы школы зварачаюць недастатковую ўвагу на гэты бок работы. Па лініі соцспаборніцтва вучком 1-й Мсьціслаўскай школы ўстаноўлівае, напрыклад, гэткі календарны плян:

„На паседжаньні 28 сакавіка (1932 г.) — „Абгаварэньне вынікаў соцспаборніцтва і намечаньне мерапрыемстваў на далейшы час“.

31 сакавіка — агульны сход вучняў — „Аб выкананьні ўмоў соцспаборніцтва па ўсім галінам школьнае работы“.

28 красавіка — „Праверка соцспаборніцтва па Здароўскім раёне“.

28 мая — „Вынікі соцспаборніцтва па правядзеньню пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе“.

Такім чынам, у пляне работы вучнёўскага самакіраваньня 1-ай Мсьціслаўскай школы адводзіцца больш-менш дастатковае месца пытаньням соцспаборніцтва. У той-жа школе штаб па соцспаборніцтву мае наступны плян сваёй работы за першы квартал 1931 году:

1. Паседжаньне штабу рабіць 28-га кожнага месяца.
2. Заключыць умовы з 2-й ШКМ.
3. Разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва, уцягнуўшы вучнёўства і настаўніцтва, заключыць соцспаборніцтва паміж клясамі.
4. Організаваць і прасачыць за выкананьнем соцумоў паміж клясамі, уцягнуўшы настаўніцтва і тэхпэрсонал. Даручыць гэту справу: па VII клясе „А“—К...ву, VII клясе „Б“—Ш...ву, VI клясе „А“—Кр-аў, VI кляс „Б“—Б...ву. Закончыць гэтую работу да 1-га сьнежня 1931 году.
5. Разгарнуць соцспаборніцтва паміж піонэр-атрадамі, зьвеньнямі і комсомольскай ячэйкай, даручыць тав. Кр-ну.

Разгарнуць соцспаборніцтва паміж добраахвотнымі організацыямі, даручыць тав. К...ву.

7. Прыняць удзел у заключэньні дагавору з падшэфным колгасам „Ротэ-Фанэ".

8. Рабіць праверку выкананьня соцумовы: школьнай—кожны квартал, па групам—кожны месяц, паміж школамі і колгасам—2 разы ў год".

Паданы плян намячае шырокі ахоп вучняў і школьных організацый соцспаборніцтвам. Трэба лічыць недарэчнасьцю тое, што ні піонэры і ні комсамольцы выступаюць ініцыятарамі соцспаборніцтва ў атрадах, зьвеньнях і комсамольскай ячэйцы, а вучком па лініі штабу.

У сувязі з пастановай ЦК УсеКП(б) аб школе, штаб па соцспаборніцтву прадугледжвае ў сваім пляне цэлы рад новых задач на другі квартал 1932 г., напрыклад:

1. Зрабіць перазаключэньне соцумоў у сувязі з рэорганізацыяй школы.

2. Разгарнуць ударніцтва на падставе пастановы ЦК партыі аб школе.

3. Прыняць ход соцспаборніцтва па ўсім відам організацыі ў сьвятле пастановы ЦК.

4. Праверыць пасьпяховасьць паміж клясамі, выразіўшы яе ў процантах.

5. Разгарнуць соцспаборніцтва з прыгараднай гаспадаркай на правядзеньне бальшавіцкай вясны і г. д.

У гэтым пляне робіцца націск на ажыцьцяўленьне пастановы ЦК партыі аб школе, чаго ня было раней.

Пры разгортваньні соцспаборніцтва трэба зьвярнуць увагу на правільнае абраньне той організацыі, або ўстановы, або асобы, з якімі пажадана ўступіць ў соцспаборніцтва. Пад якім пунктам погляду робяць гэтае абраньне? Перш за ўсё, неабходна заключаць ўмовы з такімі організацыямі, установамі і асобамі, соцспаборніцтва з якімі можа даць максымальны навучальна-выхаваўчы эфэкт. Па-другое, трэба прыняць пад увагу ўмовы і акалічнасьці, якія-б дазволілі выканаць абавязкі па соцспаборніцтву. Сюды ўваходзяць такія моманты, як, напрыклад, адлегласьць гэтых організацый, устаноў і асоб ад школы, санітарна-гігіенічныя ўмовы, адпаведнасьць пастаўланых задач фізычным сілам і разуменьню вучняў і г. д. Трэба памятаць, што заданьні, якія ставяцца перад дзяцьмі і якія непасільны ім, узбуджаюць у іх няўпэўненасьць у сваіх сілах і здольнасьцях, разьвіваюць формальныя адносіны да абавязкаў і няўхільна вядуць да зрыву соцспаборніцтва. Таму трэба заўсёды зьвяртаць увагу на даступнасьць заданьняў для вучняў і на об'ектыўную магчымасьць выкананьня пастаўленых задач.

І—па трэцяе, неабходна сачыць за тым, каб соцспаборніцтва не парушала ўстаноўлены распарадак школы і садзейнічала выкананьню і перавыкананьню школьных програм і плянаў. Бываюць выпадкі, калі ў рэзультаце спаборніцтва мы можам атрымаць пэўны выхаваўчы эфэкт за кошт зрыву нормальнай школьнай работы (напрыклад, удзел вучняў у той ці іншай політычнай

кампаніі пры невыкананьні плянаў школы). Такія выпадкі павінны быць рашуча адхілены. Раней чым пачаць соцспаборніцтва, вучнёўскае самакіраваньне павінна пільна абмеркаваць, з кім лепш за ўсе заключаць соцумовы з пункту погляду вышэй паказаных крытэрыяў. Організацыйна кіруючая роля вучкому мае тут вельмі важнае значэньне. Вельмі важна належным чынам організаваць абгаварэньне ўмоў па соцспаборніцтву на сходах, вытворчых нарадах, пэдсавеце. Вельмі карысна організаваць агульныя конфэрэнцыі вучняў тых школ, якія ўступаюць у соцспаборніцтва паміж сабой. Таксама трэба практыкаваць агульныя сходы вучняў разам з рабочымі і колгасьнікамі ў тых выпадках, калі соцумова заключаецца паміж школай і прадпрыемствам, або колгасам. Пры разглядзе соцумоў на агульных сходах піонэры і комсамольцы павінны выступаць з прапановамі, якія прыняты ў піонэрскіх атрадах і комсамольскай ячэйцы. Трэба ўлічыць тое, што вакол соцспаборніцтва разгортваецца клясавая барацьба ў школе. Назіраюцца спробы сярод вучняў сарваць соцспаборніцтва або навязаць такія пункты па соцумове, якія супярэчаць прынцыпам комуністычнага выхаваньня. Зразумела, што гэтым праявам клясавага ворага трэба даць належны адпор, організаваны піонэрскай і комсамольскай організацыяй, а таксама і перадавымі настаўнікамі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Рабочыя і колгасьнікі, абгаварваючы соцумову са школай, звычайна з вялікай ахвотай ідуць на соцспаборніцтва з вучнямі. Яны правільна бачаць у гэтым адзін з важнейшых сродкаў комуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня. Напрыклад, агульны сход рабочых і служачых Любаньскага райкомбінату, абмеркаваўшы пытаньне аб заключэньні соцумовы з Любаньскай сямігодкай, вынес наступную рэзолюцыю: „Мы, рабочыя Любаньскага райкомбінату, абавязуемся агульнымі сіламі зьвязацца з вучнямі Любаньскай сямігодкі і заключыць паміж сабою ўмову, каб даць вучням усе тыя веды, якія патрэбны ў пабудове соцыялістычнага ладу“.

Вучнёўскае самакіраваньне павінна ня толькі організаваць соцспаборніцтва, але сыстэматычна кіраваць яго ходам і разьвіцьцём.

Самакіраваньне павінна ўжыць цэлы рад конкрэтных мерапрыемстваў па разгортваньню соцспаборніцтва, напрыклад, чыстку ўдарнікаў, стварэньне нарады ўдарных брыгад, організацыю кутка соцспаборніцтва і г. д. Вось гэта апошняе мерапрыемства—організацыя кутка соцспаборніцтва—зьяўляецца асабліва каштоўным, бо яно дае магчымасьць сыстэматычна сачыць за выкананьнем соцумоў і наогул за дасягненьнямі і недахопамі ў працы школ.

Куток па соцспаборніцтву, пры правільнай яго організацыі, можа зьявіцца зброяй мобілізацыі вучнёўскіх мас на барацьбу за якасьць вучобы. Таму мы рэкомэндуем нашым школам шырока правесьці ў жыцьцё гэтае мерапрыемства.

Вучнёўскае самакіраваньне павінна ня толькі організаваць соцспаборніцтва і сачыць за яго ходам, але разам з тым устанавіць сыстэматычны вучот яго рэзультатаў: наладзіць праверку выкананьня соцумоў. Калі мы жадаем навучыць дзяцей быць аку-

ратнымі да сваіх абавязкаў, сур'ёзна адносіцца да соцспаборніцтва, даводзіць да канца вырашэньне пастаўленых задач, зрабіць вучняў добрымі організатарамі і выканаўцамі,—мы павінны зьвярнуць належную ўвагу на вучот усёй работы школы, у тым ліку і на вучот рэзультатаў соцспаборнітва. Гэты вучот у пэўнай пасьлядоўнасьці праводзіцца па брыгадам, групам і клясам; потым вынікі абгаварваюцца і зацьвярджаюцца на агульных сходах вучняў школы. Організатарам вучоту зьяўляецца вучком, які і дае адпаведнуо інформацыю на вучнёўскіх сходах і на школьным савеце. Для прыкладу пададзім вынятку з протоколу агульнага сходу вучняў 6-ае клясы Старадароскай ШКМ ад 16 сакавіка 1932 году. Першым пунктам парадку дня стаіць пытаньне аб выніках выкананьня соцумовы. Дакладчык інформуе: „Маюцца недахопы: маецца спазьненьне, недастатковая дысцыпліна з боку некаторых вучняў. Няма вестак аб наведваньні па-зашкольных гурткоў. Пункт соцумовы па дапамозе бедным вучням ня выконваецца. П-ва гэтай працай ня цікавіцца. Прапанаваць у 5-дзенны тэрмін зрабіць суботнік у дапамогу бедным вучням. Падпіска на пазыку „Трэці рашаючы" выконваецца слаба, носяць па кішэнях грошы. Даручыць Ж-цу ў дэкадны тэрмін організаваць суботнік. Колектыўны ўклад у ашчадкасу выконваецца, за выключэньнем паасобных вучняў, якія не далі ні капейкі. Маецца вялікі прарыў у распаўсюджваньні газэт сярод насельніцтва. Упаўнаважаны па гэтай справе, Зьм-іч ня ўзяўся за сваю работу. Акцыі Трактарацэнтру не распаўсюджваюцца. У парадку выказваньняў тав. Ж-вец адзначае, што наша соцумова ў асноўным выканана. Ёсьць прарывы—вярбоўка ў ашчадкасу, кампанія па пазыцы „Трэцяга рашаючага", акцыі Трактарацэнтру, распаўсюджваньне газэт. Прапануе ўзяцца за выкананьне гэтых пунктаў. Абавязуецца завербаваць на газэты 20 падпісчыкаў. Выклікае ўсіх комсамольцаў і піонэраў. Вучань П-ня выклік прымае поўнасьцю, Ж-вец—на 10 падпісчыкаў, М-цаў—на 5" і г. д.

Агульна-школьная конфэрэнцыя Парыцкай беларускай ШКМ ад 16-га лютага 1932 году, заслухаўшы справаздачу вучкому, вынесла наступаую рэзолюцыю:

„Уся работа вучкому была накіравана на выкананьне тых вялікіх гістарычных задач, якія пастаўлены ленінскай комуністычнай партыяй і савецкай уладай перад нашай працоўнай політэхнічнай савецкай школай. У выніку гэтага мы маем наступныя дасягненьні. Пазыкі сабрана 825 рублёў, што складае 134,8 проц. заданьня; распаўсюджана газэт 508 экз., тады як па пляну дана 500; організацыйная работа пастаўлена на належную вышыню; друк зьяўляецца сапраўднай майстэрняй (!?) нашага жыцьця і быту вучняў (выпушчана 9 нумароў насьценнай газэты); білеты Чырвонага крыжу распаўсюджаны на 119 рублёў; лётарэйных білетаў—на 56 р., была ўзьнята грамадзкая думка вакол пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе, у выніку чаго мы маем зрух у пасьпяховасьці (7 група мае 1 непасьпяваючага); у сувязі з гэтай пастановай была ўзьнята праца мэтод-камісіі школы, гурткі па клясам былі рэорганізаваны, што дало штуршок ў пасьпяховасьці; на падставе пастановы ЦК партыі, школа пачынае пераключаць сваю

работу ў бок барацьбы за якасьць вучобы; школай была ўдзелена належная ўвага дапамозе колгасам, якім аддана 1.700 працадзён; у гэтым годзе, параўнаўча з мінулым палепшылася работа камісіі пры прэзыдыуме вучкому; таксама ўзьняло сваю актыўнасьць і настаўніцтва ў рабоце школы; арганізавана ячэйка Аўтодору; палепшылася работа I концэнтру (4 групы знаходзяцца на чырвонай дошцы, сабрана на 13 рублёў літаратуры і 30 рублёў пазыкі); наладжваецца работа добраахвотных таварыстваў: Асоавіяхэму, МОПР'у, ячэйкі „Прэч няпісьменнасьць“ і г. д.; работа вучкому праводзіцца на падставе цьвёрдага пляну. Таму, першая агульная школьная конфэрэнцыя лічыць работу вучкому здавальняючай. Але разам з тым, мы маем і недахопы, а іменна: слаба і несыстэматычна вялася работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню; па збору попелу і распаўсюджваньню літаратуры; недастаткова разгорнута політэхнізацыя; слаба ажыцьцяўляецца шэфства над колгасам; недастаткова разгорнута культурна-бытавая і санітарна-гігіенічная работа ў школе (ніводнага вечара самадзейнасьці, па клясам не праводзіліся санітарныя агляды); недастаткова разгорнута работа з ударнікамі; ваенізацыя школы знаходзіцца ў заняпадзе з прычыны адсутнасьці фізкультурніка; не наладжаны антырэлігійны фронт у школе; слаба пастаўлены вучот; дысцыпліна ў школе не знаходзіцца на належнай вышыні. У далейшым прапанаваць новаму самакіраўніцтву зьвярнуць галоўную ўвагу на ўзьняцьце якасьці работы на тое, каб грамадзка-політычную работу школы (трэба было сказаць вытворчую работу—*П.П.)* падпарадкаваць вучэбна-выхаваўчым мэтам школы. Падняць на належную ступень політэхнізацыю школы і мобілізаваць вучнёўскую масу на ліквідацыю ўсіх недахопаў, якія маюць месца ў рабоце школы, зварачаючы галоўную ўвагу на інтэрнацыянальнае выхаваньне, на разгортваньне крытыкі і самакрытыкі, а таксама на конкрэтнае опэрацыйнае кіраўніцтва“.

Мы падалі гэтую доўгую рэзолюцыю вучнёўскай конфэрэнцыі Парыцкай беларускай ШКМ для таго, каб паказаць на прыкладзе аднэй школы процэс перабудовы школьнай работы ў кірунку ажыцьцяўленьня пастановы ЦК партыі аб школе. У рэзолюцыі ёсьць некалькі недасканалых формулёвак. Напрыклад, конфэрэнцыя, адзначаючы работу вучняў на карысьць колгасу ў разьмеры 1.700 працадзён, не паказвае наколькі гэтая работа была падпарадкавана навучальна-выхаваўчым задачам школы. У рэзолюцыі ня робіцца нацiск на мобілізацыю вучняў для ажыцьцяўленьня пастановы ЦК аб школе, хоць, праўда, некалькі разоў аб гэтай пастанове тут успамінаецца. Усё-такі, ня гледзячы на гэтыя недахопы, у школе адчуваецца пэўны пералом у кірунку барацьбы за якасьць работы. Трэба больш рашуча разгарнуць барацьбу вучняў за павялічэньне аб'ёму і якасьці ведаў, за аўладаньня „асновамі навук“. На жаль, піонэрскія і комсамольскія організацыі, як вядучыя і кіруючыя сярод дзяцей і падросткаў, не заўсёды і не паўсюды пераключыліся на рэйкі гэтай барацьбы. У той-жа Парыцкай беларускай ШКМ, аб якой зараз мы казалі, сход ячэйкі КСМ (комсамолу) ад 6-га мая 1932 году, заслухаўшы справаздачу старшыні вучкому аб праробленай рабоце за другое

паўгодзьдзе з 10-га лютага па 10-га сакавіка 1932 году, адзначае ў сваёй рэзолюцыі: „На працягу гэтага тэрміну зроблена наступнае: агульных сходаў было 3, паседжаньняў вучкому—6; суботнікаў—3, выканана пазыкі па школе—136 руб. 25 кап., распаўсюджана літаратуры сярод сялян на 500 рублёў; попелу сабрана на 217 пудоў 38 фунтаў; распаўсюджана газэт 372 экз.; сабрана ўціль-сыравіны 20 пудоў 15 фунтаў; у ашчадкасу завербавана ўкладаў на суму 460 руб.; інтэрнацыянальных вечароў было 3; бацькоўскіх сходаў—1; распаўсюджана білетаў Асоавіяхэму на 132 руб., Аўтодору—на 5 руб.

Пастанавілі: Работа школьнага савету прайшла пад знакам 100 проц. выкананьня і перавыкананьня пляну соцспаборніцтва. Разам з гэтым сход лічыць, што меліся некаторыя прарывы, а іменна: з прычыны нядбайных адносін настаўнікаў у апошні час да грамадзкай работы школы маецца паслабненьне работы брыгад і дабраахвотных таварыстваў. Вучком мала зварочваў увагу на пасьпяховасьць вучняў па клясам. Вучком мала зварочваў увагу на работу малодшага концэнтру".

Ці магчыма прызнаць гэтую рэзолюцыю здавальняючай? Па-мойму, нельга. У дакладзе вучкому ні слова ня сказана аб барацьбе за ажыцьцяўленьне пастановы ЦК аб школе. Тут уся ўвага сконцэнтравана на грамадзкай рабоце. Тое, што школа праводзіць грамадзкую работу, зразумела, не зьяўляецца адмоўным паказчыкам. Але, бязумоўна, зьяўляецца адмоўным паказчыкам тое, што вучком у сваёй справаздачы забыў падкрэсьліць асноўнае—самае галоўнае: барацьбу вучняў за аўладаньне „асновамі навук". Ці вялася такая барацьба—рэзолюцыя аб гэтым маўчыць. Праўда, сказана надта глуха толькі адно—„вучком мала зварочваў увагі на пасьпяховасьць вучняў па клясам".

Такая формулёўка надта агульная, абстрактная. Яна ня можа быць дырэктывай для вучкому. Трэба было-б высьветліць да канца падрабязна ўсе недахопы па барацьбе за пасьпяховасьць вучняў, паказаць прычыны непасьпяховасьці і намеціць мерапрыемствы па зьнішчэньню гэтых прычын. Комсамольская ячэйка Парыцкай ШКМ гэтага якраз і не зрабіла. Апроч таго, у рэзолюцыі адзначаюцца недбайныя адносіны настаўнікаў да грамадзкай работы.

Нельга прызнаць здавальняючай і пастанову пэдагогічнага савету Парыцкай ШКМ па таму-ж дакладу вучкому ад 6-га сакавіка 1932 году. Што патрабуецца ад пэдагогічнага савету пры заслухоўваньні справаздач вучкому? Самых конкрэтных паказаньняў, як трэба наладзіць работу. Вось гэтай конкрэтнасьці і няма ў пастанове пэдагогічнага савету Парыцкай школы. Апроч таго, і тут, як і ў рэзолюцыі комсамольскай ячэйкі, ня выпячваецца галоўнае—барацьба за якасьць вучобы.

Гэтая рэзолюцыя пэдсавету Парыцкай ШКМ суцэльна-агульная, не конкрэтная, ня мае у сябе ніводнага практычнага паказаньня, як конкрэтна вучкому наладзіць работу і зьяўляецца яркім прыкладам толькі таго, як ня трэба пэдсавету кіраваць вучнёўскімі організацыямі.

## Ударніцтва ў школе

Соцспаборніцтва непарыўна зьвязана з ударніцтвам. Для таго, каб сапраўды выканаць соцумову і школьную праграму, неабходна разгарнуць работу ўдарнымі тэмпамі. Ударнік у школе—гэта самы лепшы вучань, які змагаецца за тэмпы і якасьць вучобы, дае ўзоры сьвядомай дысцыпліны і актыўна ўдзельнічае ў вытворчай і грамадзка-палітычнай рабоце школы. Ударнік гэта самы перадавы вучань. Ударнікам у першую чаргу павінен—быць піанэр і комсамолец. Калі вучань называе сябе ўдарнікам і адначасова дрэнна вучыцца, калі ён недысцыплінаваны, ня цікавіцца грамадзкай і вытворчай работай школы, ён тады не змагаецца за выкананьне школьнай праграмы і таму зьяўляецца ілжэўдарнікам. Выкрываць ілжэўдарнікаў—неабходная ўмова соцспаборніцтва. Ударніцтва ў школе разгортваецца, галоўным чынам, па тром кірункам: вучоба, дысцыпліна, грамадзкая работа. Значная частка вучняў абвяшчае сябе ўдарнікамі адразу па некалькім кірункам. Аднак, ёсьць ня мала вучняў, якія бяруць на сябе абавязкі па ўдарніцтву толькі ў адным якім-небудзь кірунку. Напрыклад, у Дрыбінскай ШКМ, згодна протоколу агульнага сходу вучняў школы ад 27 сьнежня 1931 году, абвясьцілі сябе ўдарнікамі 23 вучні, з якіх 8 вучняў—па вучобе і грамадзкай рабоце, 8 чалавек—толькі па вучобе, 7 чалавек—па грамадзкай рабоце. У Крычаўскай яўрэйскай школе, згодна протоколу паседжаньня вучкому ад 25 сакавіка 1932 году, выяўлена 10 ударнікаў, з якіх 4 чалавекі—па вучобе і грамадзкай рабоце, 3 вучні—толькі па вучобе, 2—толькі па грамадзкай рабоце і 1 вучань—па дысцыпліне. У асноўным—большасьць вучняў абвяшчае сябе ўдарнікам, па якой-небудзь аднэй задачы, па якому-небудзь аднаму абавязку.

Калі разглядзець пытаньне пашырэньня ўдарніцтва ў концэнтрах школ, то прыходзіцца зрабіць вывад, што ў справе ўдарніцтва першы концэнтр мае тэндэнцыю не адставаць ад другога концэнтру. Вось аб чым кажуць матар'ялы аб ударніцтве па пяці школах:

| Назва школы і концэнтру | Колькасьць вучняў у школе | Колькасьць ударнікаў | Процант да агульнай колькасьці вучняў |
|---|---|---|---|
| 1. Сураская ШКМ | | | |
| 1 концэнтр . . . | 224 | 50 | 22,3 |
| 2 „ . . . | 227 | 84 | 37 |
| 2. XI Нова-Барысаўская | | | |
| 1 концэнтр . . . | 185 | 129 | 69,6 |
| 2 „ . . . | 131 | 65 | 49,6 |

| Назва школы і концэнтру | Колькасьць вучняў у школе | Колькасьць ударнікаў | Процант да агульнай колькасьці вучняў |
|---|---|---|---|
| 3. Талочынская ШКМ | | | |
| 1 концэнтр . . . | 62 | 35 | 56,4 |
| 2 „ . . . . | 89 | 41 | 46 |
| 4. Гарадкоўская | | | |
| 1 концэнтр . . . | 114 | 34 | 29,8 |
| 2 „ . . . . | 132 | 48 | 66,3 |
| 5. 1-я Мсьціслаўская беларуская ШКМ | | | |
| 1 концэнтр . . . | 159 | 75 | 47,1 |
| 2 „ . . . . | 100 | 49 | 48 |
| Разам: 1 концэнтр . . . | 744 | 323 | 43,4 |
| Разам: 2 „ . . . . | 679 | 387 | 42,2 |

Як відаць, сярэдні процант ударнікаў па першаму концэнтру ў 5 школах нават некалькі вышэй, чым у другім концэнтры. Асабліва высокі коэфіціент па першаму концэнтру дае XI-я Нова-Барысаўская школа. Іншыя школы маюць большы коэфіцыент па другому концэнтру. Ва ўсякім выпадку, лічбы паказваюць, што першы концэнтр ў асноўным не адстае ад другога концэнтру па колькасным паказчыкам ударніцтва. Цікава тое, што абвяшчаюць сябе ўдарнікамі нават вучні 7 і 8 год.

Па Гарадкоўскай школе сярод ударнікаў большасьць складаюць дзеці рабочых і колгасьнікаў. Аднак, калі браць удзельную вагу кожнай соцыяльнай групы, дык атрымоўваецца наступная паступовасьць па ўдарніцтву для Гарадкоўскай школы: на першым месцы стаяць дзеці служачых—57,1 проц., потым колгасьнікі—43 проц., далей ідуць рабочыя—32,6 проц., арганізаваныя саматужнікі—32,1 проц. і, урэшце, сяляне-аднаасобнікі—8,1 проц.

Для іншых школ гэтая паступовасьць не заўсёды паўтараецца. Напрыклад, Талочынская польская школа па ўдзельнай вазе мае на першым месцы дзяцей рабочых—64,2 проц., потым ідуць колгасьнікі—38,6 проц., сяляне-аднаасобнікі—34,8 проц., а астатнія даюць 33,3 проц.

У Рэчыцкай беларускай ФЗС па ўдзельнай вазе зноў на першы плян выходзяць дзеці служачых—82,1 проц., на другім месцы стаяць дзеці рабочых—55,1 проц., затым ідуць колгасьнікі—46,3 проц., сяляне-аднаасобнікі—23,3 проц., і, урэшце, іншыя даюць 13,3 проц. Зразумела, нельга зрабіць канчатковых вывадаў на падставе матар'ялу трох школ. Але-ж і гэты матар'ял выразна паказвае, што дзеці трох соцыяльных груп—рабочых, колгась-

нікаў і служачых—праяўляюць вялікую актыўнасьць у справе ўдарніцтва.

Зараз высьветлім, у якой ступені ахоплены ўдарніцтвам піонэры і комсамольцы. Для гэтага мы праналізуем рэзультаты анкетаваньня па старэйшаму концэнтру 12 школ БССР. Матар'ял прадставім у наступнай табліцы (гл. табл. на стар. 55).

Аб чым кажа гэта табліца? Перш за ўсё, аб тым, што піонэры і комсамольцы недастаткова ахоплены ўдарніцтвам. Па некаторым школам коэфіцыент ахопу ўдарніцтвам зьяўляецца надзвычайна нізкім.

Калі ўзяць ня колькасьць школ, а колькасьць вучняў ў гэтых школах, то мы атрымаем тыя-ж самыя вынікі. Па ўсім дванаццаці школам налічваецца 1.733 вучняў, з іх—783 піонэры, 252 комсамольцы, 576 ударнікаў.

Сярод ударнікаў ёсьць 250 піонэраў і 104 комсамольцы.

Па гэтым школам ўдзельная вага ўдарнікаў складае—33,2 проц. Удзельная вага піонэраў—46,3 проц. і комсалольцаў—14,5 проц. Удзельная вага піонэраў-ударнікаў—16,8 проц. і комсамольцаў-ударнікаў — 6 проц. Удзельная вага піонэраў-ударнікаў сярод ударнікаў — 50,1 проц. і комсамольцаў-ударнікаў—18 проц.

Такім чынам, піонэры маюць ў школе большую ўдзельную вагу, чым комсамольцы, паколькі першыя пераважаюць комсамольцаў па абсолютным лічбам. Але па ступені колькаснага ахопу ударніцтвам комсамольцы пераважаюць піонэраў; на долю першых прыпадае 41,3 проц., а на долю другіх—37 проц.

Трэба констатаваць, што гэтыя лічбы па ступені ахопу ўдарніцтвам зьяўляюцца нездавальняючымі як па групе піонэраў, так і па групе комсамольцаў.

У бліжэйшы час мы павінны паставіць перад сабой задачу—ахапіць соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам піонэраў і комсамольцаў на 100 проц.

У якой ступені зараз ахоплены ўдарніцтвам па школе хлапцы і дзяўчаты? Гарадкоўская ШКМ, як паказана вышэй, мае сярод ударнікаў—36 хлапцоў і 46 дзяўчат. Ужо адзін гэты прыклад павінен зьнішчыць ўсякае сумненьне наконт актыўнасьці дзяўчат. Калі ёсьць школы, у якіх дзяўчаты ўдзельнічаюць ва ўдарніцтве ня ў мешай ступені, чым хлапцы, а нават у большай ступені,—гэта значыць, што ў справе соцспаборніцтва і ўдарніцтва зусім не адстаюць дзяўчаты ад хлапцоў, а ў некаторых выпадках, будучы перадавымі, вядуць іх за сабой. Пасьпяховае будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне сапраўды вызваляе жанчыну ад спрадвечнага рабства. І гэты процэс пераробкі людзей ў сувязі з індустрыялізацыяй краіны і колектывізацыяй вёскі выразна адбіваецца на маладым пакаленьні і, паміж іншым, на дзяўчатах, якія зараз па грамадзка-палітычнай актыўнасьці ня ўступаюць хлапцам. Па тым-жа 12 школам, па якім налічваецца 1.733 вучні, мы маем 986 хлапцоў і 747 дзяўчат. Такім чынам, хлапцы складаюць 56,9 проц. і дзяўчаты—43,1 проц. Разьмеркаваньне вучняў па родавым групам дае невялікую перавагу хлапцам—усяго на 13,8 проц. Сярод хлапцоў налічваецца ўдарнікаў 362, што складае 36,8 проц. да агульнай колькасьці хлапцоў, а сярод дзяўчат—232 чалавек, што складае 29,8 проц. Па колькаснаму

| НАЗВА ШКОЛЫ | Колькасць піонэраў у школе | Колькасць піонэраў ударнікаў | Процант піонэраў ударнік. да агульнай колькасьці | Удзельная вага піонэраў у школе | Удзельная вага ўдарн. у школе | Удзельная вага піонэраў-ударнікаў у школе | Удзельная вага ўдарнікаў сярод ударнікаў | Колькасьць комсамольцаў у школе | Колькасьць комсамольцаў ударнікаў | Процант комсамольцаў ударнік. да агульнай кольк. комсамольцаў | Удзельная вага комсамольцаў у школе | Удзельная вага комсамольцаў ударнікаў | Удзельная вага комсамольцаў ударнікаў сярод ударнікаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Круглянская беларуская ШКМ . | 63 | 6 | 9,5 | 36,6 | 7 | 3,5 | 46,1 | 11 | 2 | 18,1 | 6,4 | 1,1 | 15,3 |
| 2. Талочынская беларуская ШКМ . | 120 | 13 | 18,3 | 45,2 | 10,5 | 4,9 | 34,1 | 12 | 4 | 33,3 | 4,5 | 1,5 | 10,5 |
| 3. Цяцерынская " " . | 34 | 5 | 14,7 | 27,8 | 19,6 | 40,1 | 20,4 | 27 | 8 | 24,6 | 22,1 | 6,5 | 33,3 |
| 4. Талочынская польская ШКМ . . | 34 | 22 | 64,7 | 49,2 | 65,2 | 32 | 46,6 | 14 | 12 | 85,7 | 20,3 | 17,4 | 26,6 |
| 5. 1-я Мсьціслаўская беларуск. ШКМ | 44 | 18 | 40,9 | 48,8 | 20 | 46,6 | 41,8 | 27 | 18 | 66,6 | 30 | 20 | 44,4 |
| 6. 2-я " " " . | 87 | 40 | 45,9 | 18 | 18 | 6,6 | 35 | 64 | 14 | 21,8 | 30,1 | 6,6 | 35 |
| 7. 3-я " яўрэйская " . | 26 | 5 | 19,2 | 49 | 49 | 9,4 | 19,1 | 18 | 15 | 83,3 | 34 | 28,3 | 57,7 |
| 8. Парыцкая беларуская ШКМ . . | 29 | 8 | 27,5 | 22,6 | 39,8 | 62,5 | 15,6 | 17 | 12 | 70,5 | 13,2 | 9,3 | 23,5 |
| 9. Рэчыцкая беларуская ФЗС. . . | 108 | 81 | 75 | 73,5 | 69,4 | 55,1 | 78,4 | 7 | 7 | 100 | 4,8 | 4,8 | 6,8 |
| 10. Чачэрская ШКМ . . . . . . | 136 | 94 | 69 | 61,8 | 60,4 | 42,7 | 70,6 | 10 | 5 | 50 | 45,4 | 2,2 | 3,7 |
| 11. Школа Комуны БВА. . . . . | 47 | 12 | 25,5 | 60,2 | 33,3 | 15,3 | 46,1 | 12 | 7 | 58,3 | 15,3 | 9 | 26,9 |
| 12. Любаньская беларуская ШКМ. . | 55 | 12 | 21,8 | 32,1 | 33,3 | 15,3 | 46,1 | 23 | 6 | 26 | 13,4 | 3,5 | 17,1 |

ахопу ўдарніцтвам дзяўчаты некалькі адстаюць ад хлапцоў, іменна: адстаюць на 7 проц. Такое адставаньне, хаця яно і зьяўляецца нязначным, неабходна зьнішчыць.

Процантныя суадносіны паміж хлапцамі і дзяўчатамі ў піонэрскай організацыі па школе складаюць для першых 55,8 проц. а для другіх—41,6 проц.. Значыцца, сярод піонэрау большасьць належыць хлапцам. Тое-ж самае назіраецца і сярод комсамольцаў вучняў: на долю хлапцоў тут прыпадае 62,6 проц., а на долю дзяўчат—37,3 проц. Па групе піонэраў-ударнікаў хлапцы складаюць 37,8 проц., а дзяўчаты—36 проц.. Апошнія некалькі адстаюць ад хлапцоў. Затое па групе комсамольцаў-ударнікаў на долю хлапцоў прыходзіцца значна менш, а іменна: 43 проц., тады як на долю дзяўчат—53,2 проц. Сярод комсамольцаў-вучняў па 12 школам дзяўчаты ахоплены ўдарніцтвам ў большай ступені, чымся хлапцы. Аднак, рабіць адсюль якія-небудзь абагульненьні, зразумела, пакуль што немагчыма, паколькі наш матар'ял абмежаваны невялікай колькасьцю школ. На падставе гэтага матар'ялу магчыма сказаць толькі адно: дзяўчаты, хаця часамі і адстаюць ад хлапцоў, але праяўляюць ня меншую актыўнасьць па ўдарніцтву, чымся хлопцы.

Вышэй мы ўжо пакалалі (стар. 54), якая ўдзельная вага ўдарнікаў сярод вучняў па 12 школам. Лічбы ўзяты з анкетнага матар'ялу, яны разыходзяцца некалькі з данымі, якія мы атрымалі ад загадчыкаў школы. Таму мы скарыстаем і гэтыя даныя для таго, каб дасягнуць найбольшай об'ектыўнасьці. Па 12 школам, аб якіх мы гаварылі вышэй, налічваецца 576 ўдарнікау з агульнай колькасьці вучняў ў 1.733 чалавек, што складае 33,2 проц.

Напамінаем, што гэтыя лічбы маюць дачыненьне толькі да другога концэнтру. Возьмем дадатковы матар'ял па абодвым концэнтрам наступных школ:

| Назва школы | Колькасьць вучняў у школе | Колькасьць ударнікаў у школе | Процант |
|---|---|---|---|
| 1. Гарадкоўская | 246 | 82 | 33 |
| 2. Бялыніцкая | 319 | 278 | 86 |
| 3. Уборкаўская | 251 | 32 | 126 |
| 4. Пухавіцкая | 225 | 75 | 33 |
| 5. Шылавіцкая | 180 | 23 | 13,5 |
| 6. Ленінская | — | — | 45 |
| 7. Дзьмітроўская | 130 | 30 | 23 |
| 8. Сялібская | — | — | 75 |
| 9. Цараўская | 225 | 160 | 62,7 |
| 10. Кастрычнікава, Слуцкага р. | 218 | 60 | 27,1 |
| 11. Сураская | 151 | 134 | 29,7 |
| 12. Константоўская | — | — | 30 |
| 13. Горацкая беларуская | 272 | 31 | 11,4 |
| 14. Новасёлкаўская | 267 | 148 | 51,6 |
| 15. XI Нова-Барысаўская | 316 | 194 | 61,3 |
| 16. Старадароская | 221 | 119 | 53,8 |
| Па 13 школам разам, апроч Ленінскай, Сялібскай і Константоўскай, па якім у нас няма поўных вестак. | 3351 | 1360 | 40,5 |

Табліца паказвае, што згодна даных загадчыкаў школ, сярэдні процант ўдарнікаў складае 40,5 проц. Гэты процант некалькі вышэй коэфіцыенту 33,2 проц., які мы атрымалі на падставе вучнёўскіх анкет па 12 школам. Відавочна, сярэдні коэфіцыент ударніцтва па школам БССР на працягу 1931/32 навучальнага году хістаецца ў межах 30—40 проц.

Калі аб'яднаць ўсе школы, па якім мы маем матар'ял, адносна процанту ўдарнікаў, у нас тады будзе 28 школ. Гэтыя школы разьмяркоўваюцца па процантным групам ў наступным выглядзе:

| Процант | Колькасьць школ | |
|---|---|---|
| 1— 20 | 8 | 17 |
| 21— 40 | 9 | |
| 41— 60 | 4 | 11 |
| 61— 80 | 6 | |
| 81—100 | 1 | |

Большасьць школ мае коэфіцыент ударніцтва да 40 проц.

Школы нацыянальных меншасьцяў па ступені ахопу вучняў соцпаборніцтвам і ўдарніцтвам ня ўступаюць беларускім школам. 3-я Мсьціслаўская яўрэйская школа дае 49 проц. ударнікаў, Талочынская польская ШКМ—65,2 проц., XI Нова-Барысаўская расійская ФЗС—61,3 проц. Гэтыя прыклады сьведчыць аб даволі высокім коэфіцыенце ўдарнікаў у нацыянальных школах.

Якім чынам выяўляюцца ўдарнікі ў школе? Вучні могуць зрабіцца ўдарнікамі толькі добраахвотна: якія-небудзь прымусы тут зусім недапушчальны. Спробы вербаваць ударнікаў пад нажымам вучнёўскіх організацый або пэдагогаў зьяўляюцца самым тыповым бюракратычным скажэньнем ленінскага разуменьня соцпаборніцтва і ўдарніцтва. Самі вучні павінны ўсьвядоміць неабходнасьць ударніцтва, як лепшага мэтоду выкананьня і перавыкананьня плянаў з тым, каб у моц уласнага пераконаньня ўжыць гэты мэтод найбольш шырока і поўна ў процэсе соцыялістычнага спаборніцтва. Але для таго, каб вучні самі дайшлі да такога пераконаньня, нельга разьлічваць на самацёк: неабходна ў школе разгарнуць адпаведную выхаваўчую работу з актыўным удзелам піонэраў і комсамольцаў. У пляне дзейнасьці піонэрскіх і комсамольскіх організацый абавязкова павінен быць пункт аб наладжваньні агітацыйна-пропагандысцкай работы сярод вучняў у кірунку мобілізацыі іх на соцпаборніцтва і ўдарніцтва. Таксама і пэдагогі павіны ўдзяліць значную ўвагу гэтай справе. Толькі пры сумесным уплыве пэдагогаў, піонэраў і комсамольцаў, можна разьлічваць на тое, што соцпаборніцтва і ўдарніцтва шырока будуць распаўсюджаны ў школе. Побач з гэтым трэба стварыць яшчэ і адпаведныя стымулы для заахвочваньня вучняў ударніцтвам. Тут магчыма рэкомэндаваць два тыпы стымулаў: па-першае, належны сыстэматычны вучот вынікаў соцпаборніцтва

і ўдарніцтва, па-другое—пэўная ўзнагарода за пасьпяховае вырашэньне пастаўленых задач пры ўжываньні ўдарніцтва.

Вучні павінны дабраахвотна абвяшчаць сябе ўдарнікамі, узяўшы на сябе конкрэтныя абавязкі па выкананьню і перавыкананьню плянаў. Некаторыя вучні думаюць, што можна зрабіцца ўдарнікам, ня ўступіўшы ў соцспаборніцтва. Такія выпадкі сустракаюцца, напрыклад, у Талочынскай беларускай ШКМ па групе 5 „А“, у Цяцерынскай ШКМ па групе 6 і г. д. Гэтыя выпадкі сьведчыць аб тым, што вучні яшчэ не зразумелі да канца сутнасьці соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Пэдагогічны колектыў (разам з піонэрамі і комсамольцамі) павінен паклапаціцца аб зьнішчэньні паказанага недахопу. Бываюць і такія выпадкі, калі вучні, абвяшчаючы сябе ўдарнікамі, не бяруць на сябе ніякіх дадатковых абавязкаў у параўнаньні з тым, што ўскладзена на іх па соцспаборніцтву. Тут ударнік нічым не адрозьніваецца ад вучня няўдарніка, які ўступіў у соцспаборніцтва. Трэба растлумачыць вучням, што ўдарнікі павінны быць настолькі добрымі вучням, каб выконваць заданьне ўдарнымі тэмпамі, даваць вышэйшыя якасныя паказальнікі, будучы самымі перадавымі рэбятамі, весьці за сабою ўсіх астатніх вучняў па школьнай рабоце. Ударнікі павінны высоўваць сустрэчны плян, даваць найлепшыя ўзоры паводзін і дысцыпліны, браць на грамадзкі буксір адстаючых, быць у першых радох па ліквідацыі прарываў, праяўляць ініцыятыву па вынаходзтву і рацыяналізацыі школьнай працы. Школа павінна выхаваць у вучняў пачуцьце адказнасьці за выкананьне сваіх абавязкаў і рашуча выкрываць ілжэўдарнікаў.

Тыя вучні, якія жадаюць зрабіцца ўдарнікамі, звычайна абвяшчаюць аб гэтым праз насьценны друк або на агульных сходах і на паседжаньнях вучкому. Для прыкладу пададзім матар'ял Старадароскай ШКМ па 6-й клясе. І-шы гурток гэтай клясы зьмясьціў у насьценнай газэце наступную аб'яву пад назвай: „Абязуемся і выклікаем“:

„Мы, вучні шостай клясы (гурток № 1), зразумеўшы карысьць ударніцтва і соцспаборніцтва, аб'яўляем свой гурток ударным і абавязуемся зрабіць наступнае:

1) Здача сваечасова заданьняў.
2) Трымаць належную дысцыпліну ў ляборэторыях.
3) Дапамагаць адстаючым вучням гуртка.
4) Ніводнага спазьненьня бяз уважлівых прычын.

Выклікаем на соцспаборніцтва гурток № 4 Герасімовіча і гурток № 3 Жукаўца“ (подпісы).

Гурткі № 4 і № 3 выклік гуртка № 1 на соцспаборніцтва і ўдарніцтва прынялі і ў сваю чаргу выклікалі па тым-жа пунктам гурткі № 2 і № 5. Апошнія таксама ўзялі на сябе абавязкі ўдарніцтва. Дзякуючы ініцыятыве гуртка № 1 уся шостая кляса зрабілася ўдарнай. У Старадароскай ШКМ назіраецца ня толькі колектыўнае, але і індывідуальнае соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Напрыклад, адзін вучань піша: „Я, Ярота Янка, абавязуюся быць ударнікам па ўсім дысцыплінам навукі. Па грамадзкай рабоце абавязуюся: 1) завербаваць 5 падпісчыкаў на газэты; 2) распаўсюдзіць на 10 рублёў акцый Трактарацэнтру; 3) быць упаўна-

важаным па падпісцы на газэты ў сваёй клясе“. Такія-ж аб‘явы робяць і іншыя вучні. Адна дзяўчына піша: „Я, вучаніца 6-ай групы См... кая З., абязуюся распаўсюдзіць акцыі Трактарацэнтру на суму 15 руб. і выклікаю ўсіх комсамольцаў 6-ай клясы“. У Пухавіцкай ШКМ брыгада № 1 5-ай клясы, выклікаючы на соцспаборніцтва брыгаду № 4 той-жа клясы, абвясьціла сябе ўдарнай па наступным пунктам:

„1. Не спазьняцца на лекцыі.
2. Не прапускаць лекцый бяз уважлівых прычын.
3. Здаваць сваечасова заданьні.
4. Не шаліць на лекцыях.
5. Слухаць настаўнікаў.
6. Дапамагаць адстаючым вучням.
7. Добра адносіцца да людзей іншых нацыянальнасьцяў.
8. Выконваць грамадзкую работу.
9. Быць удзельнікамі якой-небудзь грамадзкай организацыі.
10. Не займацца як у школе, так і па-зашколай рознымі дрэннымі справамі.
11. Пісаць заметкі ў школьную ільлічоўку.
12. Кожнаму вучню быць у радох піонэр-організацыі.
13. Кожнаму вучню выпісваць 1 экзэмпляр той ці іншай газэты, або журналу.
14. Кожнаму вучню набыць 5-ці або 2,5 рублёвыя аблігацыі дзяржаўнай пазыкі“ (падпісала 5 вучняў).

Зараз мы ня спыняемся на аналізе зьместу соцумовы. Тут нас цікавіць толькі форма заключэньня ўмовы па ўдарніцтву. Сама брыгада па сваёй уласнай ініцыятыве вызначае задачы, якія яна павінна вырашаць у процэсе соцспаборніцтва. Гэтыя задачы формуліраваны настолькі ў агульным выглядзе, што ня відаць, чым іменна ўмова па ўдарніцтву адрозьніваецца ад умовы па соцспаборніцтву. І сапраўды, у даным выпадку мы не назіраем гэтых адрозьніваньняў. Наогул, вучні часта не адрозьніваюць соцспаборніцтва ад ударніцтва, ня бачаць асаблівасьцяў таго і другога. А гэта зьяўляецца вынікам недастатковага і слабага кіраўніцтва выхаваўчай работай у школе.

Хаця вучні самастойна і добраахвотна ўступаюць у рады ўдарнікаў, аднак, нельга прадставіць іх самім сабе, пакінуўшы бяз усякага кіраўніцтва: наадварот, неабходна сыстэматычна кіраваць іх работай, стала ўлічваць ход ударніцтва, абагульваць вынікі соцспаборніцтва, змагацца з ілжэўдарнікамі. Гэтыя задачы кіраўніцтва ў значнай ступені ўскладаюцца на вучком, які і павінен у якасьці першапачатковай інстанцыі вырашаць, хто іменна з вучняў зьяўляецца сапраўдным ударнікам і хто ілжэўдарнікам. Напрыклад, вучком Крычаўскай яўрэйскай школы на сваім паседжаньні ад 25 сакавіка 1932 году разьбіраў пытаньне аб ударніках і ілжэўдарніках у школе. Па протоколу вучкому зацьверджана 11 ударнікаў. У якасьці ільжэўдарнікаў адзначаны 8 вучняў за кепскія паводзіны, за спазьненьне і ненаведваньне лекцый, за слабую акадэмічную работу. Для таго, каб ухіліцца па магчымасьці паўтарэньня памылак, карысна пастановы вучкому аб ударніках і ілжэўдарніках выносіць яшчэ на абгава-

рэньне агульных сходаў вучняў, а потым канчаткова зацьвердзіць на школьным савеце.

Работа ўдарнікаў павінна знаходзіцца на асаблівым вучоце вучнёўскага самакіраваньня. Некаторыя школы практыкуюць раздачу спэцыяльных картак ударнікаў. У тым выпадку, калі вучань ня выконвае сваіх абавязкаў па ўдарніцтву, вучком адбірае ў яго картку ўдарніка. Наколькі гэтая мера мае выхаваўчы характар—цяжка сказаць, бо няма дастатковай практыкі. Памойму, значна больш карысьці будзе вывешваць на асаблівай дошцы сьпіс вучняў, якія ўступілі ў соцпаборніцтва, і другі сьпіс, у якім адзначаюцца ўдарнікі. Аб ударніках павінна ведаць уся школа. Для гэтай мэты можна скарыстаць і насьценную газэту. Тут-жа, на паказанай дошцы, сыстэматычна праз пэўны вызначаны час, скажам праз месяц, абвяшчаюцца паказчыкі па выкананьню соцумовы і заданьняў па ўдарніцтву кожным ударнікам паасобку. У тых выпадках, калі вучань ня выконвае абавязкаў па ўдарніцтву, ён проста здымаецца з сьпісу ударнікаў. Аб ілжэўдарніках мэтазгодна даваць інформацыю ў насьценнай газэце. Вучні выносяцца на дошку ўдарнікаў, альбо здымаюцца з яе толькі па пастанове вучкому, па ўзгадненьню пытаньня з загадчыкам школы.

Дардак і Ерафееў

# Клясавая барацьба ў школе БССР

## I

„Вялізарныя прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы соцбудаўніцтва, растучая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў і правільная лінія партыі поўнасьцю забясьпечваюць такое разгортваньне вытворчых сіл социялістычнай гаспадаркі ў другой пяцігодкі, на падставе якога будуць канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты СССР.

Конфэрэнцыя лічыць, што асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавае соцыялістычнае грамады“ (з рэзолюцыі XVII-й партконфэрэнцыі).

Проблема „зьнішчэньня прычын, якія параждаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей“ зьвязана з абвастрэньнем клясавае барацьбы на паасобных участках соцыялістычнага будаўніцтва. Політэхнічная школа, як адзін з участкаў соцыялістычнага будаўніцтва, павінна стаць адным з магутных рычагоў перамаганьня перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей.

Клясавая барацьба, якая адбываецца ў краіне Саветаў, ня можа мінаваць і народнай асьветы: тэорыі, і практыкі школьнага будаўніцтва.

Бясспрэчна, што клясавая барацьба мае свой адбітак у тэорыі пэдагогікі і ў школе.

Гістарычныя пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе зьяўляюцца прыкладам ленінскай барацьбы на два фронты, супроць правых, якія цягнуць школу назад да старой славеснай, схолястычнай, жадаюць праз школу захаваць у сьвядомасьці падрастаючага пакаленьня капіталістычныя элемэнты. Правыя опортуністы ставяць стаўку на адрыў навучаньня ад політыкі і практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, жадаюць політэхнічную школу Маркса і Леніна ператварыць *у рамесьніцка-профэсіянальную.* Гістарычная пастанова ЦК аб школе падкрэсьлівае, што пасьпяховае перамаганьне правай, як галоў-

най, небясьпекі магчыма толькі пры ўзмацненьні барацьбы з „левым“ опортунізмам у тэорыі і практыцы школьнага будаўніцтва. „Левыя“ опортуністы жадаюць растварыць школу ў акаляючым жыцьці, гэта значыць, ліквідаваць школу. Ліквідаваць асноўную функцыю школы—навучаньне. Ліквідаваць дзіцячае самакіраўніцтва. Ліквідаваць настаўніка. Падпарадкаваць тэорыю практыцы, дзякуючы чаму яны зьніжаюць ролю тэорыі і выхалашчваюць зьмест практыкі. Жадаюць ператварыць політэхнічную школу ў цэх заводу, колгасу. Замест політэхнізацыі, пропагандуюць тэорыю тэхніцызму, тэхнолёгізму і раньняй спэцыялізацыі дзяцей. Пропагандуюць буржуазны мэтод проектаў, як асноўны мэтод організацыі пэдагогічнага процэсу, які зьяўляецца мэтодам адміраньня школы. „Левыя“ фактычна льлюць ваду на млын правых у справе захаваньня старой школы, захаваньня капіталістычных элемэнтаў у сьвядомасьці дзяцей.

Тэорыя правых і „левых“ опортуністаў зьяўляюцца вынікам нажыму клясава-варожых сіл супроць політыкі партыі ў галіне народнае асьветы.

## II

## Характар і формы клясавае барацьбы ў школе

Тактыка клясавага ворага-кулака, клерыкалаў розных масьцей і іх агентаў-опортуністаў—у барацьбе за ўплыў на школу і дзяцей прымае рознастайныя формы.

Клясавы вораг выступае пераважна пад шыльдай рэволюцыйных фраз, маркса-ленінскіх цытат, з „абаронай“ інтарэсаў рабочых і працоўных, а ў цэлым радзе выпадкаў зусім сурпоць політыкі партыі ў галіне школьнага будаўніцтва, супроць мерапрыемстваў партыі і ўлады ў справе комуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

Галоўнейшымі ўчасткамі школьнага будаўніцтва, куды клясавы вораг накіроўвае свой агонь, зьяўляюцца: інтэрнацыяналяна-пролетарскае выхаваньне падрастаючага пакаленьня, антырэлігійнае выхаваньне, усеагульнае навучаньне, політэхнізацыя школы і ў барацьбе супроць дзіцячай комуністычнай організацыі.

### Клясавы вораг супроць інтэрнацыянальнага выхаваньня

Нацыянальная політыка комуністычнай партыі і савецкай улады, якая зьяўляецца непадзельнай часткай социялістычнага будаўніцтва і накіравана на выхаваньне сьвядомых барацьбітоў за пабудову бясклясавае грамады шляхам канчатковага зьнішчэньня клясаў у другой пяцігодцы, сустракае з боку клясавага ворага шалёнае супраціўленьне. Клясавы вораг выступае супроць ленінскай нацыянальнай політыкі ў вопратцы вялікадзяржаўнага мясцовага шовінізму.

Вялікадзяржаўны шовінізм, як галоўная небясьпека, характарызуецца т. Сталіным на XVI партзьезьдзе наступным чынам:

„Сутнасьць вялікадзяржаўнага шовінізму састаіць у імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і абласьцей, падарваць прынцыпы нацыянальнага роўнапраўя і разьвянчаць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі прэсы, школы ды іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый".

Характарызуючы сутнасьць вялікадзяржаўнага шовінізму, т. Сталін ускрывае карэньні клясавае прыроды гэтага шовінізму, указваючы, што ён „адбівае імкненьне аджываючых клясаў, панаваўшай раней вялікарускай нацыі, вярнуць сабе ўтрачаныя прывілеі. Адсюль небясьпека вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўная небясьпека". (Вопросы ленинизма, стар. 562).

Пасьпяховая барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам магчыма толькі з узмацненьнем барацьбы супроць мясцовага шовінізму—беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, яўрэйскага, польскага, латыскага, літоўскага ды шовінізму іншых масьцей.

Сутнасьць мясцовага шовінізму т. Сталін характарызуе як „імкненьне абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай скарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, у імкненьні абараніцца ад вялікадзяржаўнага шовінізму шляхам адыходу ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяў СССР і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць друг ад друга".

Характарызуючы клясавую прыроду мясцовага шовінізму, т. Сталін гаворыць: „Ухіл да мясцовага нацыяналізму адбівае нездавальненьне аджываючых клясаў, раней прыгнечаных нацый, рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне.

Небясьпека гэтага ўхілу заключаецца ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, паслабляе адзінства народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыяністам" (Сталін—Вопросы ленинизма, 9-е выданьне, стар. 567).

Глыбокі марксыцка-ленінскі аналіз, даны т. Сталіным, як вялікадзяржаўнаму, так і мясцоваму шовінізмам, дае нам магчымасьць ускрыць клясавую сутнасьць гэтых шовінізмаў, якія прымаюць рознастайныя адценьні ў барацьбе супроць інтэрнацыянальнага выхаваньня ў школе, супроць пабудовы нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зьместу культуры.

Вялікадзяржаўны шовінізм у барацьбе з інтэрнацыянальна-клясавым выхаваньнем выступае супроць беларусізацыі школы, супроць выкладаньня беларускай мовы ў школах нацменшасьцяў,—супроць прынцыпу роднай мовы ў школе, абвяшчае беларускую мову, як мову „халопскую" і штучна насаджаную.

Вялікадзяржаўны шовінізм выступае супроць політыкі партыі ў разгортваньні сеткі беларускіх школ,—выданьня падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове, абгрунтоўваючы гэта фінансавай немэтазгоднасьцю. Вялікадзяржаўны шовінізм выступае супроць комплектаваньня школ па прынцыпу роднай мовы, за

комплектаваньне расійскіх школ за кошт беларускіх, за ўвядзеньне выкладаньня расійскай мовы ў першых групах усіх пачатковых школ.

Вялікадзяржаўныя шовіністы імкнуцца распаліць варожасьць паміж дзецьмі розных нацыяпальнасьцяў, указваючы, што дзеці вялікарускай нацыі быццам лепшыя і інтэлектуальна больш разьвітыя, чымся дзеці іншых нацыянальнасьцяў. Прычым апошняе характэрна для рознага віду шовінізмаў.

Вялікадзяржаўныя шовіністы выступаюць супроць уключэньня ў навучальныя програмы гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай літаратуры, лічачы, што наогул такой *ня існуе*.

Даволі яркім прыкладам вялікадзяржаўнага шовінізму зьяўляецца выступленьне настаўніка Жыткавіцкай яўрэйскай школы, кіпучая нянавісьць якога прымусіла выступіць з такой заявай: „Прашу РайАна зьняць мяне з работы, таму што я няздольны працаваць у якасьці настаўніка, аб гэтым могуць сказаць вам і дзеці. Падругое, не хачу жыць у Беларусі, *там дзе праводзіцца штучная беларусізацыя,* хачу працаваць на вытворчасьці ў РСФСР. Беларуская мова ня жыцьцёвая. Ніхто на ёй не гаворыць, бо вынік таго, што я не магу гаварыць па-расійску, гэта толькі дзякуючы беларусізацыі. Усе школы, як школы нацыянальныя, так і беларускія мы павінны паступова русіфікаваць“ („Зьвязда“ ад 16/IV-1931 г.).

Вось програма разьюшанай контррэволюцыі ў барацьбе супроць ленінскай нацыянальнай політыкі. Чудзінаўшчына распрацоўвае тактыку клясавай барацьбы супроць беларусізацыі школ, шляхам паступовай русіфікацыі як нацыянальных, так і беларускіх школ.

Чудзін ў сваёй практычнай рабоце змагаўся супроць увядзеньня беларускай мовы ў яўрэйскай школе, выкладаючы замест беларускай расійскую нават у 3-й групе, прычым усё гэта праводзіў замаскавана. І таму ня дзіўна, што ў Жыткавіцкай школе быў цэлы рад выпадкаў нацыянальнай розьні паміж дзецьмі беларускай і яўрэйскай школ.

Уся работа Чудзіна ў гэтай школе была накіравана на тое каб даказаць „штучнасьць“ беларускай мовы і змагацца супроць політыкі партыі і савецкай улады ў галіне школьнага будаўніцтва. Пролетарская грамадзкасьць дала рашучы адпор вылазкам махровага вялікадзяржаўнага шовініста. Чудзін зьняты з работы і выключаны з саюзу Працасьветы.

Карэньні чудзінаўшчыны зьяўляюцца карэньнямі „аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарускай нацыі“.

Пакуль не ліквідаваны клясы, мы будзем мець, у тым ці іншым выглядзе, вылазкі вялікадзяржаўных шовіністаў.

Хаця маса настаўніцтва ў сваёй аснове змагаецца за правільнае правядзеньне нацыянальнай політыкі ў сваёй практычнай рабоце, але сярод іх маецца некаторая частка, якая варожа настроена і нездаволена рэжымам дыктатуры пролетарыяту.

За апошнія часы мы мелі цэлы рад вылазак з боку студэнтаў навучальных установ, будучых настаўнікаў.

Так, у Рэчыцкім рабфаку мы мелі такія выпадкі, калі студэнт Басюк, абураючыся супроць студэнтак-яўрэек Міхлінай і Гурар'е, якія гутарылі на яўрэйскай мове, сказаў наступнае: „Як вам ня сорамна гутарыць на яўрэйскай мове, мне ўжо і так ад яе галава адурана. Каб вас сабралася яшчэ болей, дык зрабілі-б тут цэлы гармідар".

Калі гэта пытаньне было ўзьнята на лекцыях грамадазнаўства настаўнікам Надасекіным, студэнты Савасьцян і Навара выступілі ў абарону Басюка. Навара пачаў даказваць „правату" Басюка наступным чынам: „Да расійскай нацыі павінна быць больш павагі, бо яна колькасна большая і таму ўсе астатнія нацыі павінны прымірыцца, так як прыміраюцца да французаў іншыя нацыі" („Рэчыцкая праўда" ад 19 лютага 1932 г.).

У даным выпадку мы маем стык антысэмітызму з вылазкай махровага вялікадзяржаўнага шовініста Навара, які процістаўляе нацполітыцы сваю, па сутнасьці імпэрыялістычную політыку ў адносінах да нацый. Ён прапануе ўтварыць у СССР адносіны паміж вялікарускай нацыяй і іншымі нацыянальнасьцямі па тыпу і падобію адносін імпэрыялістычнай Францыі да сваіх колёний.

Старая чорнасоценная песьня Пурышкевічаў і яму падобных знайшла свайго пасьлядоўніка ў сьценах Рэчыцкага рабфаку. З гэтай контррэволюцыйнай вылазкі Басюка і Навары Рэчыцкі рабфак не зрабіў своечасова політычных вывадаў, каб выхаваць на гэтым факце масу студэнцтва ў барацьбе з усякімі спробамі клясава-варожых вылазак, асабліва з вылазкай вялікадзяржаўных шовіністаў і антысэмітаў.

Такога-ж зьместу зусім нядаўна была вылазка студэнта Гомельскага рабфаку Тышкевіча, які ў час абгаварэньня на заключнай конфэрэнцыі пытаньня аб праве нацый на самавызначэньне па матар'ялам 8-га зьезду РКП(б) заявіў: „для чаго патрэбна пісаць у програме партыі пункт аб самавызначэньні нацый, калі гэтага быць ня можа, бо фактычна ніякіх межаў паміж БССР і іншымі рэспублікамі ня існуе".

У падмацаваньне гэтай думкі Тышкевіч спасылаецца на тое, што „калі СВУ (Саюз Вызваленьня Украіны) пажадаў вызваліцца ад дыктатуры пролетарыяту, дык ДПУ яго разграміла". Тышкевіч згодзен з Пятаковым, які на 8-м зьезьдзе РКП(б) гаварыў, што самавызначэньне зьяўляецца „дыплёматыяй і комэдыяй". Пятакоў тады прымыкаў да групы „левых" комуністаў, якія змагаліся супроць ленінскай нацыянальнай політыкі.

Ленін у адказ т. Пятакову, адстайваючы прынцып самавызначэньня нацый, указваючы на Фінляндыю, сказаў наступнае:

„Савецкая рэспубліка, якая ўтварылася ў той краіне, царызм якой прыгнечваў Фінляндыю, павінна сказаць, што яна паважае права незалежнасьці нацыі. З чырвоным Фінскім урадам, які існаваў кароткі час, мы заключылі ўмову, пайшлі на пэўныя тэрыторыяльныя ўступкі, з-за якіх я чуў ня мала супярэчаньняў, чыста шовіністычных, „там, моў, добрыя рыбныя промыслы, а вы іх аддалі". Гэта такія супярэчаньні, па поваду якіх я гаварыў: паскрэбці іного комуніста і знойдзеш вялікарускага шовініста" (Ленін—1-е выд., том XIX, стар. 215).

Гэтыя словы якраз у вока трапляюць вялікадзяржаўнаму шовіністу Тышкевічу, які падтрымоўвае пункт погляду Пятакова і прапануе выкрасьліць з програмы партыі пункт аб самавызначэньні нацый.

Фактычна-ж Тышкевіч выступае супроць утварэньня Саюзу ССР, у які на дабраахвотных пачатках уступаюць розныя нацыянальныя рэспублікі.

Тышкевіч і яму падобныя ня бачаць ленінскага дыялектычнага разуменьня права нацый на самавызначэньне, якое зьяўляецца ня толькі актам разьяднаньня, але (і што самае галоўнае) аб'яднаньня народаў у барацьбе супроць буржуазіі для супольнага пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Вось чаму буржуазным імкненьням СВУ вызваліцца ад дыктатуры пролетарыяту ў мэтах аб'яднаньня і падпарадкаваньня дыктатуры фашысцкай Польшчы пролетарскай дзяржавай, працоўнымі Украіны быў нанесены руйнучы ўдар.

Акрамя вышэйнапісаных адкрытых вялікадзяржаўных шовіністычных вылазак, мы маем цэлы рад выступленьняў ў замаскаваным выглядзе.

Настаўніца 4-ай школы Воранава (Менск) дэкляруе так: „Я не шовіністка, мне ўсёроўна на якой мове гаварыць: яўрэйскай, францускай, але аддаю перавагу расійскай таму, што гэта мова больш нежная, а беларуская грубая" („Комвыхаваньне" № 5, стар. 10).

Гэты факт клясава-варожай вылазкі па сутнасьці не адрозьніваеца ад аткрытай вылазкі, але па форме ён прыкрыты „эстэтыкай", прынцыпам падзелу моў на „больш нежныя", больш „грубыя", больш культурныя і менш культурныя. Гэта тая-ж Ваганянаўская тэорыя барацьбы дзьвёх культур — паміж культурай гораду — расійскай высокай і культурай вёскі — адсталай, грубай, неразьвітай. Ваганян з гэтага зрабіў свой контррэволюцыйны вялікадзяржаўніцкі вывад. На яго думку, трэба адмовіцца ад будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу і будаваць адзіную пролетарскую культуру.

Воранава падзяляе мовы на „нежныя" і „грубыя", што політычна азначае змаганьне супроць ленінска-сталінскага палажэньня — будовы культуры нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу. Гэта ёсьць ні што іншае, як нацыянал-шовіністычная вялікадзяржаўніцкая тэорыя.

Такіх вылазак у замаскаваным выглядзе можна многа знайсьці ў адказах студэнтаў і вучняў па анкетам адносін да нацыянальнай політыкі партыі, якая (анкета) была праведзена ў БДУ ў 1929 г. і ў цэлым радзе школ БССР.

Напрыклад, вучань у анкеце піша: „Лічу непатрэбным ведаць беларускую мову, але лічу грунтоўнай мову расійскую, таму што 7-ка настолькі беларусізавана, што калі гаварыць і пісаць па-расійску, дык выяўляецца калецтва".

Другі вучань піша: „цяжка адначасова займацца дзьвума мовамі, лепш было-б займацца толькі расійскай" (вучань 5 групы 5 ФЗС, Менск).

„Беларусізацыя перашкаджае вучобе, бо цяжка здаваць залікі на беларускай мове, лічу што яна зусім непатрэбна“ — гаворыць студэнт БДУ. Такія-ж факты мы мелі і ў Рэчыцкім Белпэдтэхнікуме, дзе студэнтка Лявонава дэманстрацыйна сарвала аб'яву, у якой яе прозьвішча было напісана па-беларуску, гаворачы: „не жадаю, каб маё прозьвішча пісалі па-беларуску, мае бацькі і браты гаварылі па-расійску і я не жадаю беларусізавацца“.

У той-жа Рэчыцы ў цэнтральнай вячэрняй школе вучні аднэй групы, выступаючы супроць увядзеньня беларусізацыі, заявілі: „давайце нам формальныя веды, а не беларусізацыю“ („Комвыхаваньне“, № 5, стар. 10).

Усе прыведзеныя намі факты сьведчаць і паказваюць на тактыку клясавага ворага супроць беларусізацыі нашай школы.

Тактыка клясавага ворага заключаецца, па-першае: у жаданьні сарваць беларусізацыю ў школе, шляхам абвяшчэньня беларускае мовы „грубай“ „някультурнай“.

Унядрэньне ў сьвядомасьць дзяцей нядбайных адносін да вывучэньня беларускай мовы, гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай літаратуры зьяўляецца жаданьнем узьдзейнічаньня на вучняў з мэтай падрыхтоўкі з іх змагароў за вялікадзяржаўны шовінізм. Гэта тактыка ў большсьці выпадкаў атрымлівае рашучы адпор як з боку вучняў, так і з боку масы настаўніцтва.

Па-другое, вялікадзяржаўныя шовіністы высоўваюць тэорыю немагчымасьці адначасовага вывучэньня дзьвюх моў: расійскай і беларускай. Яны хочуць унядрыць у сьвядомасьць дзяцей, што ў школе трэба вучыць толькі расійскую мову, выкрэсьліваючы ўсе іншыя мовы, таму, што пры выкладаньні дзьвюх моў вучні будуць няпісьменымі.

Факты няпісьменнасьці ў нашай школе вялікадзяржаўныя шовіністы імкнуцца тлумачыць вывучэньнем адначасова дзьвюх моў, „блізкіх па дыялекту“.

Па-трэцяе, тактыка клясавага ворага заключаецпа і ў тым, што яны, праводзячы сваю ўстаноўку на барацьбу паміж дзяцьмі, розных нацыянальнасьцяў, выстаўляюць свой тэзіс аб тым, што ня існуе беларускай мовы, што гэта ёсьць толькі жаргон — сапсаваная расійская мова.

І па-чацьвертае, вялікадзяржаўныя шовіністы ў час выкладаньня пасобных дысцыплін стараюцца падручнікі на белмове замяніць падручнікамі на расійскай мове, абвяшчаючы ўсе беларускія падручнікі нацдэмаўскімі. У гэтым кірунку мы мелі нават такі факт, калі адна віцебская настаўніца дэманстрацыйна падала думку спаліць усе беларскія кнігі.

Далейшае разгортваньне наступленьня па ўсяму фронту соцыялістычнага будаўніцтва патрабуе „павысіць пільнасьць да вылазак праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, і арганізаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з ім, наносячы руйнуючы ўдар па опортуністычным і абавацельскім прымірэнцтве да вялікадзяржаўнага шовінізму (пастанова ЦК і ЦКК КП(б)Б ад 25 сьнежня 1931 г.).

Разьвенчваньне тактыкі клясавага ворага ў вопратцы вялікадзяржаўнага шовініста дае нам магчымасьць перамагаць атакі яго на нацполітыку партыі ў школе.

## Нацдэмы і барацьба супроць інтэрнацыянальнага выхаваньня

Контррэволюцыйныя нацдэмы,—агенты польскага фашызму—распрацавалі конкрэтную програму барацьбы супроць клясава-інтэрнацыянальнага выхаваньня ў школе. Нацыянал-дэмократы выступаюць супроць прынцыпу роднай мовы ў школе, лічачы, што адзінай дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская.

Яны таксама, як і вялікадзяржаўныя шовіністы, выступаюць супроць роднае мовы, але ў іншым кірунку.

Нацдэмы лічаць, што нельга выкладаць расійскую мову ў школах таму, што гэта мова „маскалёў". У гэтых адносінах контррэволюцыйныя нацдэмы падтрымоўваюць вялікадзяржаўных шовіністаў, што выкладаньне дзьвюх суаецкіх моў „пэдагогічна немэтазгодна". Беларускія контррэволоцыйныя нацдэмы выступаюць супроць політыкі партыі і савецкай улады ў галіне разгортваньне сеткі школ нацыянальных меншасьцяў. Яны лічаць, што на дзяржаўным і мясцовым бюджэце павінны ўтрымоўвацца толькі беларускія школы ў той час, як школы нацыянальных меншасьцяў могуць быць толькі прыватныя.

Выступаюць супроць выданьня падручнікаў на мовах нацыянальных меншасьцяў, лічачы гэта (таксама як вялікадзяржаўныя шовіністы ў адносінах да беларускіх падручнікаў) фінансава-немэтазгодным.

Таму зусім ня дзіўна, што політыка былога нацдэмаўскага кіраўніцтва Белдзяржвыдавецтва накіравана была на падаражаньне нацменкніжкі ў параўнаньні з беларускай.

Нацдэмы змагаюцца супроць комплектаваньня школы па прынцыпу роднае мовы, высоўваючы пашпартны прынцып, адкуль іх баявы лёзунг „беларускія школы для беларусаў".

Нацдэмы, як і вялікадзяржаўныя шовіністы, процістаўляюць ленінскай нацполітыцы клясава-інтэрнацыянальнага выхаваньня нацдэмаўскую політыку — нацыяналістычна-буржуазнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня, — гэтым самым імкнуцца распаліць варожасьць паміж дзяцьмі розных нацыянальнасьцяў. Супроць ленінскага прынцыпу — нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу культуры, нацдэмы высоўваюць лёзунг — нацыянальная па форме і буржуазная па зьместу культура. Беларускую нацыю нацдэмы лічаць адзінай, у якой адсутнічае клясавая барацьба; гэты прынцып яны жадалі прывіць дзецям праз свае падручнікі, праз некаторых настаўнікаў,—стаўленікаў нацдэмаў,—і програмы, якія выдаваліся былым нацдэмаўскім кіраўніцтвам НК Асьветы на чале з Баліцкім.

Тэмпы культурнага будаўніцтва, а гэта значыць, і школьнага будаўніцтва па програме нацдэмаў павінны ісьці па патухаючай крывой. Напрыклад, нацдэмы меркавалі ўсеагульнае пачатковае абавязковае навучаньне закончыць у 1934-35 г. у той час, калі мы закончылі ўсеагульнае навучаньне за 4-годку ў 1932 г., пера-

вялі ў радзе раёнаў усенавуч на вышэйшую ступень — на базу сямігодкі. Канчатковым пунктам павялічэньня росту падрыхтоўкі кадраў для прамысловасьці і сельскай гаспадаркі па пляну нацдэмаў зьяўляўся 1929/30 год.

Для больш яскравай характарыстыкі гэтага „пляняваньня" прывядзем невялічкую таблічку.

| Галіна прамысловасьці | 27/28 | 28/29 | 29/30 | 30/31 | 31/32 | Усяго за 5-годку |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць неабходных кадраў | | | | | |
| Мэталёапрацоўчая . . | 80 | 170 | 160 | 25 | 45 | 489 |
| Будаўнічая . . . . . | 132 | 60 | 86 | 81 | 69 | 428 |
| Тэкстыльная . . . . . | 31 | 40 | 200 | 350 | 180 | 801 |
| Тарфяная . . . . , . | 200 | 516 | 600 | 571 | 300 | 2187 |

(Матар'ялы к пяцігадоваму пэрспэктыўнаму пляну народнай гаспадаркі БССР на 27/28—31/32 г., стар. 243).

Уплыў контрэволюцыйнага беларускага нацдэмократызму асабліва адбіўся на культасьветных установах, тым больш, што гэтаму спрыяла былое нацдэмаўскае кіраўніцтва БАН (раней Інстытут беларускай культуры), НКА і Белдзяржвыдавецтва.

Ня гледзячы на вялізарную зробленую работу па выкарчоўваньню рэшткаў нацдэмократызму ў культасьветных установах, мы яшчэ на сёнешні дзень сустракаем вылазкі нацдэмаў па тым ці іншым пытаньням. Так, у Гомельскім рабфаку ў факце раней апісаным намі пра Тышкевіча адзін з студэнтаў, Курылін, пачаўшы з абароны вялікадзяржаўнай вылазкі Тышкевіча па пытаньню самавызначэньня нацый, скаціўся на позыцыю контррэволюцыйнага беларускага нацдэмократызму.

Курылін дэкляруе: „якое там самавызначэньне, калі БССР цалкам залежыць ад Масквы, калі дзяржаўны апарат БССР працуе па дырэктывам цэнтру. Паспрабуй БССР ня выканаць дырэктыў цэнтру, дык дадуць па шапцы. Калі-б БССР пажадала зьнізіць тэмпы, як-бы на гэта рэагавала Масква" і Курылін высоўвае „тэорыю" неабходнасьці зьніжэньня тэмпаў („Палеская Праўда", Гомель, 18/IV-1932 г.).

Палітычная ацэнка такога выступленьня павінна быць такою, што Курылін і іншыя яму падобныя змагаюцца з прынцыпамі нацыянальнай палітыкі партыі і ўлады, выступаюць супроць Саюзу савецкіх соцыялістычных рэспублік, у якім БССР знаходзіцца на роўных правах з іншымі брацкімі соцыялістычнымі рэспублікамі і пропагандуе ідэю незалежнасьці БССР ад СССР, што фактычна азначае ўтварэньне буржуазнай Беларусі пад протэктаратам фашысцкай Польшчы.

Вылазка Курыліна ёсьць нішто іншае як „нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечанай нацыі (беларускай буржуазіі—*Д. і Е.)* рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх

імкненьне абасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне“ (Сталін). Курыліны культывуюць буржуазны нацыяналізм, паслабляюць адзінства народаў СССР і граюць на руку інтэрнацыялістам. Вылазка была асуджана Гомельскім Гаркомам КП(б)Б, Тішкевіч і Курылін выключаны з партыі, але факт вылазкі сьведчыць аб яшчэ няўжытых астатках нацдэмократызму сярод, праўда, малой часткі клясава-варожай нам вучнёўскай моладзі.

На гэтым факце мы павінны выхаваць вучнёўскую масу, паказаўшы карэньні і сутнасьць гэтай контррэволюцыйнай вылазкі.

У Грэскай ШКМ, Слуцкага раёну зусім нядаўна настаўнік Бабарэка, вядомы нацдэм, замест марксысцка-ленінскага выхаваньня скарыстоўваў у сваёй рабоце нацдэмаўскі матар'ял: сказы для практыкаваньняў, матар'ял для чыткі. Рэшткі нацдэмократызму знаходзяць у гэтым факце адбітак жаданьня рэваншу.

Нацдэм Бабарэка і Казак ціхай сапай жадаюць прывіць у сьветапогляд дзяцей нацдэмаўскія ўстаноўкі пры выкладаньні белмовы, шляхам ігнараваньня сказаў і прыкладаў з соцыялістычнага будаўніцтва, бо соцыялістычнае будаўніцтва няпрыемна Бабарэкам, але прычым тут паклёп на вучняў.

У гэтым сутнасьць тактыкі нацдэмаў, якія змагаюцца супроць марксысцка-ленінскага інтэрнацыянальнага выхаваньня, абвяшчаючы соцыялістычнае будаўніцтва не нацыянальным.

Замест Магнітагорскаў, Асінбудаў нацдэмам куды з большай прыемнасьцю высунуць пры выкладаньні кулацкі хутар, індывідуальную кулацкую гаспадарку і інш.

Ускрыцьце сутнасьці данага факту дапамагае нам змагацца супроць вылазак контррэволюцыйнага нацдэмократызму, за клясава-сьвядомае ленінскае выхаваньне.

Прыкладам таго, як рэшткі нацдэмаў яшчэ ў 1932 г. дамагаюцца прывіць дзецям кулацкія настроі барацьбы супроць колгаснага будаўніцтва, можа зьяўляцца агіднейшы факт вылазкі кулацкіх агентаў ў Прапойскім раёне—настаўніка Жураўкова Ўладзімера, бацька якога індывідуальна абкладзены, які вёў агітацыю сярод дзяцей супроць колгаснага будаўніцтва, шляхам распаўсюджаньня шкодных, контррэволюцыйных паклёпаў і частушак супроць колгасаў.

Разьюшаная контррэволюцыя, адчуваючы апошнія часы свайго існаваньня, бачачы рост і замацаваньне колгаснага будаўніцтва, адкрыта выступае супроць гэтага будаўніцтва.

Яна спрабуе ўцягнуць дзяцей у контррэволюцыйную справу барацьбы з колгасным рухам, жадаючы ператварыць савецкую школу ў агітпункт супроць мерапрыемстваў партыі і ўлады на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Гэты, так званны „настаўнік“ Жураўкоў, каб настроіць дзяцей супроць мерапрыемстваў савецкай улады, каб зганьбіць мерапрыемствы па організацыі гарачых сьнеданьняў ў школе для дзяцей, атрыманыя 10 фунтаў цукру для вучняў прадаў па высокім цэнам, кажучы дзецям, што ў яго ёсьць дырэктыва савецкай улады прадаваць цукар па кулацкіх цэнах.

Ва ўнісон гэтаму сьпеваку нацдэмаўскай контррэволюцыі гучыць антысавецкі выпад настаўніцы сямігодкі гэтага-ж раёну Ружэчка.

У самым Прапойску ў ШКМ мы адначасова маем вылазку вялікадзяржаўнага шовінізму. Вучаніца Шурхіна, дачка арандатара млыну і гандляра, увесь час імкнулася падарваць мерапрыемствы, правадзімыя дзіцячым самакіраваньнем ў школе, і калі ў адносінах да яе былі ўжыты пэўныя меры, яна сказала: „мужыцкім установам і батрацкай уладзе падчыняцца ня буду“ („Колгасны шлях“ Прапойск, 1 мая 1932 г.).

Тут цікава спыніцца на благадушшы кіраўніцтва школы і РайАНА ў адносінах да яскрава выражанай контррэволюцыйнай вылазкі Шурхінай. Замест таго, каб завастрыць увагу ўсіх дзяцей і паказаць клясавую сутнасьць гэтай вылазкі, павесьці растлумачальную работу па барацьбе з рознага колеру шовінізмамі, каб на гэтым факце ўзмацніць клясавую пільнасьць у справе клясава-інтэрнацыянальнага выхаваньня, РайАНА ў асобе Жураўкова і кіраўніцтва школы аднесьліся да гэтага факту, як да недамысьлія і балаўства „младзенца“ Шурхінай. Нічога тут дзіўнага няма, што загадчык РайАНА Жураўкоў на гэтыя факты не рэагуе.

Сам Жураўкоў, загадчых РайАНА, зьяўляецца сынам кулака і братам „настаўніка“—сьпевака контррэволюцыйных частушак—Жураўкова Ўладзіміра, аб якім ўжо ішла гутарка раней.

Загадчык РайАНА Жураўкоў, зьяўляючыся агентам клясавага ворага, ня мог не прымірэнча аднесьціся да комплексу вышэйапісаных вылазак. Жураўкоў патурау і змазваў вастрыё палітычнае шкоднасьці антысэміцкіх і нацыянал-шовіністычных вылазак у Прапойскім раёне.

Прапойскі Райком КП(б)Б, даўшы належную палітычную ацэнку клясава-варожым вылазкам, зрабіў цэлы рад арганізацыйных вывадаў у адносінах да носьбітаў антысэмітызму, нацыянал-шовінізму і прымірэнцтву да іх.

Чырвонаштандартнае настаўніцтва БССР дасьць належны руйнуючы ўдар па розных Жураўковых, якія пралезьлі ў рады настаўніцтва з мэтай апарочваньня яго.

Факты Прапойшчыны павінны стаць урокам для кожнае школы БССР у справе барацьбы за інтэрнацыянальнае выхаваньне.

Прапойскі райком партыі правільна адзначае ў сваёй пастанове, „што прарывы ў культурным будаўніцтве, а таксама скажэньні нацпалітыкі, праяўленьні вялікадзяржаўнага шовінізму, антысэмітызму і шовінізму розных колераў—тлумачыцца тым, што ў гэтых школах была дрэнна пастаўлена выхаваўчая работа сярод вучняў“... дзякуючы чаму клясавы вораг вольна сябе адчувае ў гэтых школах і не атрымаў руйнуючага адпору з боку саміх вучняў і асабліва піонэрарганізацыі. Гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе з усёй ленінскай яскравасьцю падкрэсьлівае, што:

„У пэрыод соцыялізму, калі пролетарыят ажыцьцяўляе канчатковае зьнішчэньне клясаў ва ўмовах абвостранага клясавага змаганьня, выключна важнае значэньне набывае вытрыманае

комуністычнае выхаваньне ў савецкай школе і ўзмацненьне змаганьня супроць усякіх спроб прышчапіць дзецям савецкай школы элемэнты антыпролетарскай ідэолёгії".

Прыведзеныя намі факты сьведчаць аб тым, што ў гэтай галіне ў нас, ня гледзячы на цэлы рад дасягненьняў, маюцца і прарывы. Абсьледваньне, праведзенае НДІ комвыхаваньня ў 1931 г., адносін дзяцей да рознага роду шовінізмаў, паказала, што ў школах маецца цэлы рад небясьпек.

Па 3-й анкеце аб аднсінах дзяцей да беларускага контррэволюцыйнага нацдэмократызму, якая была праведзена, пачынаючы з 3-й групы і якой ахоплена 8 школ розных раёнаў БССР, атрымана адказаў больш чым ад 1.000 дзяцей. Дакладная апрацоўка анкет Інстытутам дае права констатаваць, што:

1. Вялікі процант дзяцей сьвядома і зусім правільна даюць адказы на пытаньні, што такое нацдэмократызм, у чым яго сутнасьць і шкоднасьць для рабочае клясы, для соцыялістычнага будаўніцтва, прычым, чым больш дарослыя дзеці запаўнялі анкеты, тым больш правільнымі былі іх адказы аб нацдэмократызьме. Так, калі процант правільных адказаў ў дзяцей 10—12 год складае толькі 25,8, то ў дзяцей 13—15 год гэты процант раўняецца 45,38, а ў дзяцей 16—18 год—71,64.

2. Вялікі процант дзяцей, якія запаўнялі анкету, ня мае дастатковых ведаў аб нацдэмах. Такіх дзяцей ва ўзросьце 10—12 год каля 3 проц., 13—15—каля 5 проц., 16—18—1,5 проц., а частка зусім нічога ня ведае аб беларускім контрэволюцыйным нацдэмократызьме і ў анкеце адказвае „ня ведаю". Такіх дзяцей ва ўзросьце 10—12 год ёсьць 56,45 проц., 13—15 год—45,10 проц. 16—18 год—25,37 проц. Гэта сьведчыць аб тым, што ў радзе школ ня была праведзена з вучнямі дастатковая вычарпальная работа па растлумачэньню сутнасьці нацдэмократызму, яго контррэволюцыйнасьці, ня была мобілізавана ўвага вучнёўскіх мас на барацьбу з рэшткамі нацдэмократызму.

3. Дзеці рабочых, колгасьнікаў і служачых далі найбольш сьвядомыя і правільныя адказы па большасьці запытаньняў анкеты; іншыя-ж соцгрупы далі менш сьвядомыя адказы.

4. Дастатковай клясавай пільнасьці ў абсьледаваных школах (а гэта, можна сказаць характэрна і для іншых школ БССР) у барацьбе і ўскрыцьці нацдэмаўшчыны няма.

5. Дзеці ў большасьці выпадкаў адказваюць правільна, што нацдэмы ворагі, што нацдэмы змагаюцца супроць савецкае ўлады, указваюць на тыя або іншыя адзнакі нацдэмаў, але поўнага адказу па ўскрыцьцю тактыкі нацдэмаў у барацьбе супроць савецкае ўлады ні ў водным адказе няма.

Тактыка беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў у галіне школьнага будаўніцтва заключаецца:

1. Высоўваючы лёзунг „беларускія школы для беларусаў", адмаўляючы клясавую барацьбу ў беларускай нацыі, нацдэмы жадаюць прывіць дзецям, што ў беларускай нацыі няма клясаў, што беларуская нацыя адзіная, што галоўным ворагам беларускай нацыі зьяўляецца Масква, адсюль іх імкненьне злучыцца з буржуазным Захадам пад протэктарыятам фашысцкай Польшчы.

Усе іх падручнікі і праграмы былі мэтанакіраваны на гэтую асноўную ідэю.

2. Жадаючы сарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР пад лёзунгам сваеасаблівасьці Беларусі, як краіны, якая ў моц „натуральна-гістарычных умоў“ павінна застацца аграрнай краінай з дробнай індывідуальнай сельскай гаспадаркай, нацдэмы ў школе прывіваюць дзецям, што колектывізацыя і соцыялістычная індустрыялізацыя ёсьць „насаджэньне Масквы“ і таму яны ў сваіх падручніках, праграмах і ў выступленьнях нават у 1932 годзе (Жураўкоў, Прапойскі і інш.), жадаюць уключыць дзяцей у барацьбу супроць колгаснага будаўніцтва і індустрыялізацыі краіны.

3. Контррэволюцыйныя беларускія нацдэмы пад сьцягам абароны беларускай культуры, нацыянальнай па форме і буржуазнай па зьместу, выступаць супроць будаўніцтва школ для дзяцей нацменшасьцяў, супроць выкладаньня ў беларускіх школах расійскай мовы як прадмету, жадаюць прывіць дзецям шовіністычны настрой супроць роўнапраўя моў БССР.

4. Нацдэмы імкнуцца разгарнуць, замест клясавай барацьбы беларускага пролетарыяту і працоўнага сялянства з усімі ворагамі савецкае ўлады, барацьбу паміж нацыямі, жадаючы прывіць дзецям антысэмітызм, нянавісьць да расійскага пролетарыяту і працоўных і да пролетарыяту і працоўных іншых нацыянальнасьцяў.

5. Нацдэмы яра выступаюць супроць соцыялістычнага будаўніцтва і тым самым супроць будаўніцтва савецкай політэхнічнай школы, жадаючы прывіць дзецям, што бальшавікі ўзялі немагчымыя тэмпы і таму агітуюць за зьніжэньне тэмпаў, гэтым самым імкнучыся выхаваць з дзяцей змагароў супроць соцыялістычнага будаўніцтва.

Вядучы барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, мы павінны ўзмацніць барацьбу з рэшткамі контррэволюцыйнага беларускага нацдэмократызму і іншымі колерамі і масьцямі шовінізму.

Ускрываньне клясавай сутнасьці нацыянал-шовінізму і яго тактыкі дае нам магчымасьць больш рашуча павесьці барацьбу супроць спроб клясавага ворага сарваць наша будаўніцтва, супроць спроб прывіцьця падрастаючаму пакаленьню контррэволюцыйных шовіністычных настрояў і элемэнтаў антыпролетарскай ідэолёгіі, за пабудову сапраўднай нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу культуры, за сапраўднае выхаваньне пролетарскіх інтэрнацыяналістаў.

## Яўрэйскія, польскія і інш. шовіністы супроць інтэрнацыянальнага выхаваньня

Яўрэйскі шовінізм, як і шовінізм іншых масьцей і колераў мясцовага характару, адбівае нездаволеньне аджываючых клясаў рэжымам дыктатуры пролетарыяту. Яўрэйскі шовінізм мае сваю спэцыфічнасьць. У цэлым радзе пытаньняў яўрэйскі шовінізм стыкаецца з вялікадзяржаўным шовінізмам. Яго асноўныя ўста-

ноўкі ў школьным будаўніцтве можна сформуляваць наступным чынам:

1. Яўрэйскі, як і вялікадзяржяўны шовінізм, выступае супроць політыкі партыі ў галіне беларусізацыі школ, мотывуючы гэта тым, што беларуская мова ёсьць дыялект расійскай, а таму яны (яўрэйскія шовіністы) прапануюць замест таго, каб займацца „сапсаваным дыялектам", лепей займацца сапраўднай „приличной" расійскай мовай.

2. Яўрэйскія шовіністы выступаюць супроць выкладаньня беларускай мовы ў нацыянальных школах, абгрунтоўваючы гэта тым, што дзеці ўсёроўна ў дальнейшым будуць займацца ў РСФСР і таму нечага „абцяжарваць" памяць дзяцей яшчэ аднэй мовай.

3. Яўрэйскія шовіністы ў цэлым радзе момантаў выступаюць супроць прынцыпу роднае мовы. Яны прапануюць большасьць яўрэйскіх школ перавесьці на расійскую мову з выкладаньнем яўрэйскай мовы, як прадмету.

4. Яўрэйскія шовіністы змагаюцца супроць комплектаваньня школ па прынцыпу роднае мовы, жадаючы дзяцей накіраваць у расійскія, і ў крайнім выпадку, у беларускія школы.

5. У програмах і выкладаньні „яўрэйскіх прадметаў" высоўваюць тэорыю аб адзінстве яўрэйскай нацыі, выходзячы з таго, што ў яўрэйскай нацыі як-быццам ніколі ня было клясаў і клясавай барацьбы, а з часу іх „выгнаньня з роднай краіны" яны заўсёды былі „прыгнечаны", „многа страдалі", „іх ненавідзілі" як багатых, так і бедных.

6. Распаўсюджваюць тэорыю „абранасьці яўрэйскае нацыі", тым самым узмацняюць варожасьць паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяў і пераносяць гэта ў дзіцячае асяродзьдзе.

7. Выступаюць супроць нацыянальнай на форме і пролетарскай па зьместу культуры, высоўваючы лёзунг „нацыянальнай культуры", што фактычна азначае—нацыянальная па форме і буржуазная па зьместу культура.

Некалькі год таму назад у Менску быў організаваны дашкольным колектывам „інтэрнацыянальны" вечар дашкольнікаў. Програма гэтага вечару ўключала ў сябе і яўрэйскі танец „хасіцкі", які быў названы „нацыянальным" танцам. Сутнасьць гэтага танца заключалася ў тым, што дзяцей 5-6 год апраналі ў рэлігійную вопратку—„хасіцкі касьцюм". Дзеці на сцэне танцавалі па сутнасьці рэлігійна-буржуазны танец. Гэта выдавалася за нацыянальную культуру, за інтэрнацыянальнае выхаваньне.

Такая вылазка, якая заключаецца ў ідэалізацыі старога, аджыўшага, буржуазнага, зьяўляецца характэрнай рысай популярызацыі буржуазнай культуры рознымі шовінізмамі і асабліва яўрэйскім шовінізмам. Класавая сутнасьць такіх вылазак заключаецца ў тым, што вораг—яўрэйскае кулацтва і дробная буржуазія, праз сваіх агэнтаў жадае прывіць дзецям шовіністычны настрой шляхам гэтай-жа ідэалізацыі.

Прыкладам таго, як яўрэйскія шовіністы выступаюць супроць політыкі партыі, можа служыць і такі факт: калі ў Тураве некалькі год таму назад інспэктар НКАсьветы ў дакладзе аб політыцы партыі ў школьным будаўніцтве ўказаў на тую ненормаль-

насьць, што ў школе да 5 гр. не выкладаецца беларуская мова і што расійская мова выкладаецца пачынаючы з 1-й групы, настаўнікі выступалі ў абарону сваёй установкі. Абгрунтавалі такое здарэньне тым, што гэта ёсьць „запатрабаваньне бацькоў“, „гэта зьяўляецца зусім нормальным“, таму што дзеці, скончыўшыя Тураўскую школу, паедуць займацца ў РСФСР. Таму дзецям больш патрэбна вывучыць расійскую мову, чымся беларускую. Гэта тая-ж вылазка супроць палітыкі партыі, але ў больш замаскаваным выглядзе ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Замест увядзеньня выкладаньня беларускаў мовы, як прадмету, пачынаючы з 3-й групы, яны ўвялі беларускую мову з 5 групы. Замест увядзеньня расійскай мовы з 4 групы, яны ўвялі яе, як аказалася, з 1 групы. На конфэрэнцыі яўрэйскіх культработнікаў БССР у 1931 г. дакладчык па пытаньню інтэрнацыянальнага выхаваньня прывёў цэлы рад прыкладаў, як яўрэйскія шовіністы змагаюцца супроць клясава-інтэрнацыянальнага выхаваньня дзяцей шляхам ідэалізацыі старога быту. У цэлым радзе падручнікаў праводзілася ідэалізацыя Бунду. Бунд трактавалі як рэволюцыйную організацыю рабочых. На самай-жа справе, Бунд, па характарыстыцы Леніна, зьяўляецца „дробна-буржуазнай, калямарксысцкай опортуністычнай групай“ (Ленін—том 19, стар. 65, выд. 1-е).

Тактыка яўрэйскіх шовіністаў, як і тактыка іншых шовінізмаў, заключаецца ў барацьбе супроць социялістычнага будаўніцтва, гэтым самым супроць нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу культуры, за нацыянал-шовіністычнае выхаваньне дзяцей.

Барацьба з яўрэйскім шовінізмам такая-ж неадкладная задача, як і з нацыянал-дэмократызмам, антысэмітызмам і вялікадзяржаўным шовінізмам, як больш небясьпечным.

Яўрэйскі шовінізм лье ваду на млын, як вялікадзяржаўнага шовінізму, так і беларускага контррэволюцыйнага нацдэмократызму.

Няма патрэбы характарызаваць асобна польскі, латыскі, літоўскі і інш. шовінізмы, бо ў асноўных рысах, маючы адны карэньні, яны вельмі падобны да вышэй апісаных шовінізмаў толькі з тэю ці іншай разьніцаю. Мы ўсё-такі прывядзем прыклад, як польскі шовінізм, злучаючыся з антысэмітызмам, вядзе барацьбу супроць асноў школьнага будаўніцтва, супроць падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў.

У „Піонэры Беларусі“ № 110 ад 5/XII-30 г. апісваецца такі факт: „Прыкладам шовінізму і антысэмітызму можа быць настаўнік-сьпявак Сьцяпанаў. Сьцяпанаў у час сваіх музычных лекцый заяўляе наступнае: „Раскройте свои еврейские души. В польской школе дисциплина хорошая, потому что польская нация благородная, воспитанная“.

Калі яму задалі пытаньне аб мэтах мастацтва ў пролетарскай дзяржаве, Сьцяпанаў заявіў наступнае: „Искусство только для искусства, но не для масс“.

Сьцяпанаў мае свой асобны погляд на пытаньне падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў. Калі Сьцяпанаву задалі пытаньне, чаму гэта асабліва зараз не хапае настаўнікаў, то ён упэўнена адказаў: „Когда колхозьников принимают в педтехникумы и на курсы, то

какие с них будут учителя". Гэты факт даволі яскрава сьведчыць аб тым, што польскі шовінізм, як і шовінізмы іншых масьцей, супадае з антысэмітызмам. Разьвіваючы цэлы рад буржуазных тэорый аб дысцыплінах, якія выкладаюцца ў польскіх школах, напрыклад, тэорыю „мастацтва для мастацтва", адмаўляючы партыйнасьць, клясавасьць у мастацтве, буржуазную тэорыю аб тым, што мастацтва толькі для „избранников", а не для мас, гэтым самым жадаючы трымаць працоўныя масы ў культурным рабстве і нявуцтве, чаго фактычна дамагаюцца ўсе шовіністы. Гэтыя-ж шовіністы выступаюць супроць палітыкі партыі ў галіне пролетарызацыі навучальных устаноў і падрыхтоўкі новай тэхнічнай інтэлігенцыі. Ім няпрыемна тое, што ў нашы навучальныя установы ідуць колгасьнікі і пролетарыі, яны жадаюць, каб нашы навучальныя ўстановы сталі цытадэляю выхананьня буржуазных сынкоў і дачок, каб навучальныя ўстановы распаўсюджвалі і агітавалі за тэорыі накшталт „мастацтва для мастацтва".

Барацьба з польскім шовінізмам, таксама як і з іншымі шовінізмамі, ускрыцьце іх клясавай сутнасьці зьяўляецца адной з безадкладных задач ва ўмовах БССР яшчэ і таму, што ў цэлым радзе пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва польскія шовіністы, нацкаваныя польскімі фашыстамі, выступаюць у мэтах зрыву пасьпяховага нашага будаўніцтве, каб гэтым падрыхтаваць сябе на выпадак капіталістыснай інтэрвэнцыі супроць краіны Саветаў.

Ускрытая намі тактыка клясавага ворага супроць інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня зьяўляецца адным з участкаў абвостранай клясавай барацьбы на культурным фронце. Аджываючыя клясы імкнуцца разбурыць савецкую школу з усіх бакоў, змагаючыся за ўплыў на падрастаючае пакаленьне.

## Клясавы вораг супроць усенавучу

Клясавы вораг не абмяжоўваецца толькі барацьбой супроць інтэрнацыянальнага выхаваньня, ён вядзе барацьбу і на іншых участках школьнага будаўніцтва. Другім асноўным участкам барацьбы клясавага ворага зьяўляецца ўсеагульнае абавязковае навучаньне.

Усеагульнае абавязковае навучаньне дзяцей, як адзін з галоўнейшых участкаў культурнай рэволюцыі, зьяўляецца неад'емнай часткай усяго соцыялістычнага наступу па ўсяму фронту на капіталістычныя элемэнты. Вось чаму 16-ты партыйны зьезд, падкрэсьліваючы правільнасьць высунутага пытаньня на 15 зьезьдзе аб разгортваньні культурнай рэволюцыі, адзначыў, што „тэмпы разгортваньня культурнага будаўніцтва ў краіне яшчэ зусім недастатковыя, зьезд зьвяртае ўвагу на іх узмацненьне.

Правядзеньне ўсеагульнага пачатковага абавязковага навучаньня і ліквідацыя няпісьменнасьці павінна стаць баявой задачай партыі ў бліжэйшы пэрыод." (Рэзолюцыя XVI зьезду—Стэногр. справаздача, стар. 715).

Хуткія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва патрабуюць усямернага ўзмацненьня тэмпаў правядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня.

БССР, з дапамогай брацкіх рэспублік СССР, у 1932 навучальным годзе заканчвае ўсеагульнае пачатковае абавязковае навучаньне і ўжо ўводзіць у цэлым радзе раёнаў і пролетарскіх цэнтраў усеагульнае абавязковае 7-гадовае навучаньне.

Проблема ўсеагульнага абавязковага навучаньня ёсьць ня толькі проблема стопроцантнага ахопу дзяцей школай, а і задача палепшаньня якасьці ўсёй работы школы на падставе пастановы ЦК.

Для ажыцьцяўленьня гэтай неадкладнай задачы культурнай рэволюцыі неабходна ўтварэньне цэлага раду ўмоў, як-та:

а) падрыхтоўка неабходных пэдагогічных кадраў;

б) забесьпячэньне неабходнымі для школы памяшканьнямі;

в) форсаванае разгортваньне школьнай сеткі, каб поўнасьцю ахапіць дзяцей школай;

г) стварэньне належнай вучэбна-гаспадарчай базы для школы з мэтай ліквідацыі адсеву дзяцей і карэннага недахопу школы.

У гэтай галіне намі дасягнуты цэлы рад добрых паказчыкаў: па даным НКА на 1/I-1932 г. ахоплена дзяцей пачатковай школай 99,6 проц. Па школам нацменшасьцяў на 1/I-32 г.—97,8 проц. У раёнах, дзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне на базе сямігодкі, ахоп на 1/I-32 г. складае 99,8 проц., па школах нацменшасьцяў на 1/I-33 г.—99,8 проц. Забясьпечаньне памяшканьнем на 83,7 проц.

У 1931-1932 г.г. перадана пад загад органаў нарасьветы шмат кулацкіх дамоў.

Уведзены ў шмат якіх пачатковых школах гарачыя сьнеданьні.

Усеагульнае абавязковае навучаньне праводзіцца па прынцыпу роднае мовы.

Бюджэтныя асыгнаваньні на культурнае будаўніцтва ў 1931 г. раўняліся 40 проц. усяго бюджэту. У той час, калі ў фашысцкай Польшчы бюджэт міністэрства „рэлігійных спраў і народнай асьветы“ (Ministerstwa W. K. i O. P.) у 1931-32 навучальным годзе займае ўсяго 15 проц. бюджэту, прычым большая частка гэтых выдаткаў ідзе на ўтрыманьне рэлігійных установ (6 проц.) і адміністрацыйных 3,6 проц. 26 мільёнаў злотых польская фашысцкая дзяржава траціць на ўтрыманьне 14.121 ксяндзоў—гэтых агентаў чорнай сотні, функцыі якіх заключаюцца ў зацямненьні працоўных мас і барацьбе з рэволюцыйным рухам. („Oświata i wychowanie“. Czasopismo Ministerstwa wyznań religijnych i oświecenia publicznego, № 5, стар. 401, 403).

Клясавы вораг, усімі фібрамі „душы“ ненавідзячы наша соцыялістычнае будаўніцтва, у тым ліку і нашы посьпехі на фронце культурнай рэволюцыі, вядзе работу па падрыву ўсеагульнага навучаньня.

Тактыка клясавага ворага па падрыву ўсенавучу ідзе па шляху:

а) непасрэднага шкодніцтва—падпал школьных памяшканьняў,

б) забойства і замах на лепшых ударнікаў настаўнікаў.

Апрача чыста адкрытых шкодніцкіх контррэволюцыйных выступленьняў мы маем выступленьні клясавага ворага ў замаскаваным выглядзе. Да такіх выступленьняў адносіцца:

а) пропаганда за зьніжэньне тэмпаў правядзеньня ўсенавучу;

б) спроба атрыманыя ад дзяржавы вопратку і абутак затрымаць, мотывіруючы гэта тым, што пакуль усе дзеці ня будуць забясьпечаны, беднату забясьпечваць нельга;

в) жаданьне сарваць організацыю горачых сьнеданьняў і падвозку дзяцей ў школу і тым самым сарваць усенавуч, утварыць умовы для адсеву дзяцей;

г) жаданьне ажыцьцявіць у школе старыя мэтоды ўзьдзейнічаньня на дзяцей (палачная дысцыпліна);

д) супраціўленьне організаванай дапамозе адстаючым дзецям, жадаючы павялічыць другагодніцтва ў школе і гэтым самым зьніжаючы тэмпы ўсеагульнага абавязковага навучаньня.

Прыкладам адкрытых выступленьняў клясавага ворага супроць настаўнікаў актывістаў можа служыць нядаўні факт па Крупскаму раёну, дзе кулак замахнуўся на настаўніка, які акактыўна ўдзельнічаў у правядзеньні ўсенавучу і вёў вялікую грамадзкую работу па колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Таемна падкраўшыся, кулак жадаў цаглінай забіць настаўніка, але толькі параніў яго.

Падобны факт мы ведаем і з Мсьціслаўскага раёну, калі кулак кінуў праз вакно ў сядзячую на прэзыдыуме сельсавету актыўную настаўніцу камнем і разьбіў ёй вока.

Справа Ельшчыны, якая атрымала ўсесаюзнае значэньне,—гаворыць нам аб разьюшанасьці клясавых ворагаў.

Тактыка індывідуальнага тэрору, каб сарваць усенавуч, зьвязана з выступленьнем кулакоў супроць тых настаўнікаў, якія праводзяць грамадзкую работу і асабліва па колектывізацыі.

Акрамя адкрытых выступленьняу—індывідуальнага тэрору— клясавы вораг вядзе падрываючую работу ўнутры некаторых школ, шляхам ужываньня палачнай дысцыпліны, застрашваньня дзяцей. Ёсьць і такія факты, якія могуць характарызаваць яшчэ палачную дысцыпліну ў некаторых школах, як факт з настаўнікам Акаловічам і іншымі, які апісаны ў газ. „Колгасная Праўда" (Гарадок) ад 4 сакавіка 1932 году. Рэдакцыя піша, што атрыманыя ёю заметкі і запіскі сьведчаць аб вылазках гэтых кулацкіх агентаў.

Так, напрыклад, былі паданы дзьве запіскі:

1. Настаўніца Вайханскага сельсавету Кісель цягае вучняў за валасы, б'е іх.

2. Што патрэбна рабіць з тым настаўнікам, які перашкаджае організацыі гурткоў па падвышэньню пасьпяховасьці вучняў? Прозьвішча гэтага настаўніка Грунвальд з Вайханскага сельсавету.

Больш яскравай, больш агіднай вылазкай клясавага ворага зьяўляецца факт з настаўнікам Акаловічам.

Вось што піша селькор Н-К аб Езярышчанскім сельсавеце: „Настаўнік Акаловіч усё сваё „выхаваньне" ў школе прасякае рэлігійнымі настроямі. Ён, напрыклад, даказвае, што Ісус Хрыстос зьяўляецца вялікай гістарычнай асобай, які вучыў людзей мудрасьці і пастрадаў за род чалавечы".

Па тлумачэньню Акаловіча, рэлігійнае сьвята „Коляды заслугоўваюць розуму і сэрца ўсяго чалавецтва, як час успаміну аб жыцьці і дзейнасьці вялікай асобы і вялікага гістарычнага часу". Аб паказаным сьведчаць вучні двух апошніх выпускаў.

Прышоўшы ў 5-ю групу сямігодкі яны вось ужо другі год пытаюць, якой-жа школе верыць: „нам-жа настаўнік Акаловіч аб Хрысьце казаў зусім іншае". Дзеці пачынаюць расказваць аб тым эвангельскім портрэце Ісуса Хрыста, які намаляваў Акаловіч на пласьцінках маладога дзіцячага розуму...

„Вывучае настаўнік Акаловіч гісторыю, толькі ня гісторыю клясавае барацьбы, а гісторыю жыцьця і „слаўнай" дзейнасьці цароў і іх прысьпешнікаў".

Дзікія прыёмы ўзьдзейнічаньня практыкуюцца ім зараз у яго выхаваўчай дзейнасьці.

„Нас Акаловіч біў, ставіў на калені, драў за вушы і г. д."— заяўляюць у адзін голас яго выхаванцы—вучні 5-6 групы сямігодкі. Гэтай контррэволюцыйнай вылазцы з боку Акаловіча ня была дана належная палітычная ацэнка, ня была мобілізавана грамадзкая думка, каб з гэтай вылазкі зрабіць адпаведныя вывады. Таму ня дзіўна, што роўна праз чатырнаццаць дзён гэты-ж самы Акаловіч скарыстаў адну з сваіх лекцый для таго, каб прымусіць вучняў сьпісаць з дошкі (гэта ў яго лічылася урокам чыстапісаньня) наступнае:

„Тав. Рэдактар.

Мы, вучком і вучні местачковай школы, просім Вас, тав. рэдактар, напісаць наступнае. У „Колгаснай Праўдзе" ад 4 сакавіка гэтага году за № 13/28 маецца заметка пра нашага настаўніка тав. Акаловіча, аб яго нядобрых паводзінах да нас, вучняў

Мы, вучком местачковай школы, у ліку 56 асоб сьцьвярджаем сваімі ўласнымі подпісамі, што нам настаўнік Акаловіч зьяўляецца ня толькі настаўнікам, але і бацькам, што ніякіх бояў, драньня за вушы і г. д. Акаловіч над намі не зрабіў, ні пра якога Ісуса з намі гутаркі ня вёў, бо ён зьяўляецца настояшчым бязбожнікам. Акаловіч наладзіў нашу школу, заняткі вядзе вельмі добра.

За два гады сваёй працы не прапусьціў ніводнага дня і кожны дзень дае 5-6 лекцый. У гэтым навучальным годзе ён вядзе заняткі з 4-ма групамі. П'яным наш настаўнік ніколі ня быў. Уся заметка хлусьня. Мы просім належныя ўстановы і РайАНА высьветліць гэтую заметку".

Пад гэтай заметкай ідзе тытульны сьпіс кіраўнікоў самакіраваньня і трыццаць подпісаў дзяцей.

У гэтай вылазцы даволі яскрава выяўляецца ўся тактыка клясавага ворага ў барацьбе супроць усеагульнага абавязковага навучаньня. Жаданьне выхоўваць дзяцей у рэлігійным кірунку, жаданьне рэволюцыйную барацьбу замяніць ідэалізацыяй цароў і іх прысьпешнікаў і наогул усяго аджыўшага старога. Акаловіч гэтым самым працягваў у школу буржуазныя тэндэнцыі.

Ён таксама ўжываў палачную дысцыпліну, бо гэта выцякае з усёй яго ўстаноўкі на адурманьваньне дзяцей, што можна зрабіць толькі пры дапамозе старой палачнай дысцыпліны. Уся ўстаноўка Акаловіча была накіравана на зрыў усенавучу, на дыс-

крэтацыю савецкай школы, на падрыхтоўку паслушных „рабоў" чыноўнікаў кулацтва.

Гэтай вылазцы ў Гарадокскім раёне ня даны належны адпор,—ня ўскрыта клясавая сутнасьць гэтай вылазкі. Не пастаўлена перад настаўніцтвам і дзецьмі пытаньне аб адпоры такім вылазкам. Ня зроблены сваечасовыя вывады, каб на гэтых агіднейшых фактах і вылазках вучыць клясавай пільнасьці настаўніцтва і дзяцей.

Факты ўжываньня палачнай дысцыпліны мы маем і ў некаторых іншых школах.

Так, у газэце „Піонэр Беларусі" № 114 ад 19/XII-30 г. пішацца наступнае:

„Настаўніца Якімавіцкай школы Мазырскага раёну дрэнна абыходзіцца з вучнямі. Вучні, якія спазьніліся на лекцыю, стаяць у кутку да наступнай перамены. Здараюцца і такія выпадкі, калі настаўніца астаўляе дзяцей „без абеду" да позьняга вечару, або выганяе на двор, ці ставіць на калені".

Такія-ж факты мы мелі і ў 1931 годзе ў Вузьдзенскай яўрэйскай сямігодцы, дзе ў часе свайго прыезду інспэктар НКАсьветы ўбачыў у калідоры да дваццаці дзяцей, якія правінаваціліся па тым або іншым прычынам. У часе адбыцьця меры „пакараньня" дзеці організавалі ў калідоры рознага роду гульні, перашкаджаючы тым самым займацца ў клясах настаўнікам.

Усе гэтыя факты, якіх можна налічыць яшчэ многа, сьведчаць аб тым, што замест разгортваньня мэтодаў соцспаборніцтва ў барацьбе за якасьць вучобы, увядзеньня сьвядомай дысцыпліны, каб змагацца за эфэктыўнасьць усенавучу, частка настаўніцтва (праўда, зусім нязначная) уводзіць палачную дысцыпліну, часткова спрыяючы гэтым самым павялічэньню другагодніцтва і зьніжэньню эфэктыўнасьці ўсенавучу і якасьці вучобы. Об'ектыўна такія факты зьяўляюцца вылазкай клясавага ворага супроць усенавучу.

Другой формай зрыву ўсенавучу зьяўляюцца спробы з боку паасобных коопэрацыйных работнікаў, гаспадарнікаў, часамі настаўнікаў несваячасова забясьпечваюць вопраткай і абуткам дзяцей беднаты.

Так, „Піонэр Беларусі" ад 25/XI-30 г. піша: „Дваццаць вучняў пры Традавіцкай школе не знаходзяцца ў сьценах школы таму, што настаўніца зрывае ўсенавуч. Коопэрацыя адпусьціла 8 пар абутку дзеля таго, каб настаўніца дала вучням, але яна трымала гэта ў шафе. На агульным сходзе піонэры ўзьнімалі гэта пытаньне, а настаўніца адказала: „Няхай будзе больш, тады задаволім усіх разам".

Неразуменьне палітычнага значэньня забесьпячэньня дзяцей беднаты ў першую чаргу абуткам і вопраткай об'ектыўна вядзе да зрыву ўсенавучу, грае на руку кулаку.

У Зарыбніцкай школе Віцебскага раёну на ўсю школу адпусьцілі 12 пар абутку, але і тыя раздалі вучням сераднякоў, а беднота засталася без абутку („Піонэр Беларусі" № 114 ад 19/XII-31 г.).

Тое-ж самае пішуць аб інтэрнатах: „пры Любаньскай ШКМ ёсьць інтэрнат, але туды загадчык школы замест бедных вучняў

зьмясьціў дзяцей серараднякоў"—паведамляе тая-ж газэта і ў тымжа нумары.

„Пры Гарбацэвіцкай школе (ШКМ) ёсьць агульнае памяшканьне, у якім жывуць толькі 40 вучняў. Значная частка беднаты не атрымала агульнага жыцьця і ім прыходзіцца нанімаць кватэры прыватныя ў 5—7 р. за месяц. Між тым яшчэ ўвосень 1930 г. для агульнага жыцьця быў адпушчаны кулацкі будынак. Але гэты будынак зусім не агледжаны і ў ім не пастаўлены печы. Для таго каб будынак прывесьці ў парадак, трэба зусім невялікая колькасьць сродкаў. Толькі ў выніку безадказных адносін адміністрацыі вучні беднаты вымушаны жыць у прыватных кватэрах і плаціць вялікія грошы"—паведамляе „Піонэр Беларусі" ў № 9 за 1931 г. Усе гэтыя факты сьведчаць аб руціне і коснасьці ў некаторых месцах у адносінах да сапраўднага стварэньня належнай матар'яльнай базы для ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Гэтая руціна і коснасьць вядуць да зрыву ўсенавучу. Ва ўсіх гэтых, на першы погляд, „дробязях" прасочваецца імкненьне клясавага ворага і яго агентаў сарваць адно з важнейшых мерапрыемстваў культурнай рэволюцыі, як органічнай часткі соцыялістычнага будаўніцтва.

Часта некаторыя органы і работнікі лібэральнічаюць у адносінах да гэтых зьяў, абвяшчаючы гэта, або „недамыслем", або „недаацэнкай", ня ўскрываючы тактыкі клясавага ворага, якая прымае рознастайныя формы ў барацьбе супроць культурнага будаўніцтва. Ускрываючы і аналізуючы ўсе гэтыя факты, мы хочам завастрыць увагу на барацьбе супроць гэтых клясававорожых праяў.

Усенавуч ва ўмовах СССР праводзіцца, у першую чаргу, на якаснай аснове.

Асноўнай адзнакай нашага ўсенавучу зьяўляецца політэхнізацыя школы, куды клясавы вораг з мэтай зрыву таксама накіроўвае свой агонь.

## Клясавы вораг супроць політэхнізацыі школы

Пастанова ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе адзначае, што *„ўсялякія спробы адарваць* ад сыстэматычнага і цьвёрдага ўсваеньня навук, асабліва фізыкі, хэміі і матэматыкі, выкладаньне якіх павінна быць пастаўлена на аснове строга вызначаных і распрацаваных праграм, навучальных плянаў і праводзіцца па строга ўстаноўленым раскладам". І далей у гэтай-жа пастанове паказана, што: „уся грамадзкая вытворчая работа павінна быць падпарадкавана навучальным і выхаваўчым мэтам школы".

Гэтая пастанова пра політэхнізацыю вынікае з вядомых ленінскіх нататак на тэзісы Н. К. Крупскай, дзе У. І. Ленін проблему політэхнізацыі школы зьвязвае з проблемай падрыхтоўкі комуніста, уладаючага асновамі навук, умеючага пераапрацаваць багацьці, накопленыя чалавецтвам, і ўладаючага пачаткамі асноў політэхнічнай адукацыі. Гэтыя даволі яскравыя ўстаноўкі паасобнымі „тэорэтыкамі" былі скажоны. Сутнасьць асноўных скажэньняў заключаецца ў тым, што клясавы вораг праз сваіх ідэолёгаў

і агентаў жадаў сарваць пабудову політэхнічнай школы. Правыя опортуністы, якія ў асноўным адбіваюць кулацкія імкненьні і настроі, прапанавалі:

а) адтэрмінаваць увядзеньне політэхнізацыі школы, мотывуючы гэта тым, што БССР на працягу дзесяткаў год застанецца дробна-сялянскай краінай і адсюль не політэхнічная школа нам патрэбна, а профэсіянальна-рамесьніцкая;

б) увесьці працоўныя процэсы ў буржуазным сэнсе, выступаючы супроць політэхнічнага навучаньня;

в) адарваць школы ад соцыялістычнае вытворчасьці, выступаючы супроць прымацаваньня школы да прадпрыемстваў, фабрык, заводаў, савгасаў, МТС, колгасаў і г. д.;

г) недапушчаць да вытворчай працы дзяцей, прапануючы гаварыць аб вытворчай працы славесна, а не на практыцы;

д) адарваць навучаньне ад практыкі і задач соцыялістычнага будаўніцтва, тым самым робячы навучаньне ў школе беспрадметным і практыку дзяцей сьляпой.

Цікава адзначыць, што гэтыя асноўныя ўстаноўкі правых опортуністаў уключылі ў свой арсэнал барацьбы супроць пабудовы савецкай політэхнічнай школы беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы.

Так, Байкоў, Баліцкі і інш. у цэлым радзе артыкулаў фактычна аргумэнтавалі супроць увядзеньня політэхнізацыі тымі-ж паказаньнямі.

Так, Баліцкі ў 1928 г. дэкляруе: „што політэхнічная школа— гэта справа далёкага будучага“. Зараз-жа, на думку Баліцкага, замест політэхнічнай школы павінна разгортвацца профэсіянальна-рамесьніцкая школа.

Гэтым самым нацдэмы, як агенты фашыстаў, жадалі ў БССР утварыць буржуазную па форме і па зьместу школу. Шкодніцкім вылазкам быў даны рашучы адпор з боку пролетарскай грамадзкасьці. Рэшткі-ж нацдэмаўшчыны і праявы правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі ў справе політэхнізацыі школы, патрабуюць больш пільнасьці да ўсялякіх такіх вылазак.

Пасьпяхова перамагчы правы опортунізм магчыма толькі на аснове бязьлітаснай барацьбы з „левымі“ опортуністамі ў справе політэхнізацыі школы, якія прапанавалі:

а) усё навучаньне ў школе падпарадкаваць вытворчай рабоце на прадпрыемстве, тым самым зрабіць школу цэхам заводу, фабрыкі, колгасу, а гэта значыць—ліквідаваць школу;

б) каб дзеці супольна з дарослымі ўдзельнічалі ў ліквідацыі прарываў у выкананьні прамфінплянаў, што вяло да зрыву навучальнага пляну школы і ператварэньня дзяцей у рабочых прадпрыемства;

в) замест вывучэньня галоўных галін вытворчасьці, жадалі абмежаваць адной фабрыкай або колгасам, тым самым падтрымоўвалі правых у справе падрыхтоўкі вузкага профэсіяналіста, жадалі ператварыць політэхнізм у тэхніцызм;

г) даць ласкутныя, адарваныя, павярхоўныя веды дзецям, прычым такія веды, якія неабходны для выкананьня прамфінпляну і для ўласнай „практыкі дзіцяці“, чым „левакі“ агітавалі за мэха-

нічнае перанясеньне ў савецкую школу буржуазных мэтодаў проектаў, накіраваных на выхаваньне амэрыканскага „дзялягі“;

д) адарваць удзел дзяцей у соцыялістычным будаўніцтве ад тэорытычнага ўсьведамленьня значэньня гэтага будаўніцтва, гэтым самым ставілі стаўку на зьніжэньне ролі тэорыі і на выхалашчваньне рэволюцыйнай практыкі.

Такія „тэорыі“ ў БССР распаўсюджвалі кіраўнікі НДІ комвыхаваньня, паасобныя работнікі НКАсьветы.

Напрыклад, суаўтар гэтага артыкулу, тав. Дардак, у сваім дакладзе на І-м Усебеларускім політэхнічным зьезьдзе разьвіваў тэорыю „падпарадкаваньня ўсяго навучаньня рабоце па конкрэтнай вытворчасьці, уключэньня школы ў прамфінплян заводу і г. д.“.

Тэорыя адмаўленьня майстэрань у школах (Панкевіч).

Ня гледзячы на тое, што т. т. прызналі свае памылкі, але гэтыя „тэорыі“, як адбітак уплыву клясавага ворага, у той або іншай форме, працягваюцца ў практыцы некаторых школ.

Пасьпяховая політэхнізацыя школы магчыма пры ўскрыцьці тых загібаў, якія мы мелі ў тэорыі і практыцы будаўніцтва політэхнічнае школы.

Прыкладам таго, як правы опортунізм адбіваецца ў справе барацьбы супроць політэхнізацыі, можа служыць выступленьне аднаго настаўніка матэматыка (Менск) Файнбэрга, які на сходзе дэкляраваў наступнае: „Політэхнізацыя—гэта чарговы соус. У мінулым годзе колектывізацыя, у гэтым політэхнізацыя“!!.

Такое выступленьне мае на ўвазе дыскрэдытаваць мерапрыемствы партыі і савецкай улады, накіраваныя на рэконструкцыю сельскай гаспадаркі і будаўніцтва політэхнічнай школы.

Гэта кліч кулака на дэмобілізацыю мас у барацьбе за ажыцьцяўленьне асноўнае ўстаноўкі партыі ў школьным будаўніцтве. Файнбэргі жадалі адтэрмінаваць увядзеньне політэхнізацыі школы з мэтай захаваць старую „схолястычную“ школу.

Прыкладам выступленьня супроць вытворчага навучаньня дзяцей быў выпадак у 1931 г. у Віцебску, калі некаторыя рабочыя фабрыкі „Дзьвіна“ і чыгункі пад уплывам клясава-варожых элемэнтаў ня пушчалі сваіх дзяцей на вытворчасьць, кажучы: „ня пусьцім дзяцей на завод, гэта прымусовая праца“. Такія выступленьні, бясспрэчна, льлюць ваду на млын клясава-варожых сіл.

Такія-ж факты жаданьня зрыву політэхнізацыі і адрыву школы ад соцыялістычнага будаўніцтва мы на сёнешні дзень маем па Дуброўне, дзе дырэкцыя фабрыкі зусім і блізка не дапускала дзяцей да вытворчасьці. Маюцца выпадкі па Барысаву, па Менску і па іншым гарадам БССР, калі політэхнізм у некаторых школах ператвараюць у гутаркі пра політэхнізм, выяўляецца жаданьне адмацавацца ад фабрыкі і спыніцца ў большасьці сваёй на саматужнай майстэрні, чым парушаюць пастанову ЦК аб школе, у якой гаворыцца, што разьвіцьцё сеткі майстэрань павінна быць увязана з прымацаваньнем школы да заводаў, фабрык, на падставе ўмовы.

Гэтыя факты гавораць аб узмацненьні правай небясьпекі ў справе політэхнізацыі.

Пасьпяховае змаганьне з галоўнай небясьпекай—правым опортунізмам—магчыма шляхам узмацненьня і выкарчоўваньня „лявацкай“ практыкі, якая мела шырокае распаўсюджваньне і ў БССР.

Прыкладам таго, як нават інспэктары нарасьветы і палітасьветы распаўсюджвалі „лявацкую“ практыку скарыстаньня дзяцей, як рабочай сілы, можа служыць прывадзімы ніжэй докумэнт, які быў напісаны 10/Х-30 г. райпалітінспэктарам Чэрвеньскага раёну:

„Загадчыку Лядзенскай школы.

Прапануецца спыніць заняткі 3 і 4 групы і выйсьці на поле. Захапіць з сабою нават з 2-й групы больш дарослых. Голых пакінуць. Аднаму з настаўнікаў застацца ў школе, а аднаму, разам з дзецьмі, выйсьці на поле.

Упаўнаважаны (подпіс)“

Гэты докумэнт гаворыць нам аб тым, як некаторыя кіраўнікі нарасьветы жадалі прымусам, загадамі ператварыць школу ў цэх заводу, колгасу. Цікава, што нават пасьля пастановы ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе, мы мелі факты такога-ж характару па Копыльшчыне, Мазыршчыне і інш. раёнах. У часе ўборачнай кампаніі ў 1931 годзе аддаваліся загады аб закрыцьці школ і выхадзе дзяцей на ўборку ў поле. Нядбайныя адносіны да палітэхнізацыі школы былі на заводзе Домбаля ў Барысаве. Там, як піша Дзятко ў „Піонэры Беларусі“ ў № 109 ад 21/XII-30 г., „частка адміністрацыі не ўявіла сутнасьці палітэхнізацыі, з першых дзён працы на заводзе вучням прышлося прыбіраць і падмятаць двор заводу. Капаць ямы для вадаправоду. Але на працягу часу ім далі „лепшую працу“.

Частку рэбят паставілі працаваць ва ўпаковачным цэху, дзе яны мыюць і выціраюць шклянкі. Частку ў красільні, якія там ставяць розныя каляровыя пробкі на шкланках. Загадчык мэханічнага цэху т. Мацьвееўскі прымушае падмятаць падлогу цэху, калі вучань ня добра падмяце, ён крычыць: „гэта ня чыста, іязыком падмяці“.

Хаця гэта было ў 1930 годзе, але факты жаданьня некаторых адміністратараў, гаспадарнікаў скарыстаць дзяцей у якасьці рабочай сілы мы маем яшчэ і на сёнешні дзень.

Газэта „Эмэс“ ад 24/II-32 г. піша: „Да магілеўскай швэйнай фабрыкі імя Валадарскага прымацавана 1-я школа. Выдзелены спэцыяльны інструктар па палітэхнізацыі, але большага чым прышываць гузікі або складваць і пераносіць гатовую продукцыю з месца на месца дзеці ня робяць. Дзеці нават ня маюць уяўленьня аб ходзе конвэеру, не гаворачы ўжо аб вывучэньні экономікі, тэхнікі і арганізацыі вытворчасьці“. Гэта таксама адзін з фактаў, які сьведчыць аб нязжытых тэндэнцыях да скарыстаньня дзетвары ў якасьці рабочай сілы.

Факты нядбайных адносін да справы палітэхнізацыі мы маем і па Гомельшчыне. Так, у „Эмэс“ ад 9 студзеня 1932 г. корэспондэнт з Гомелю, Марголін (Арнольдзі), піша: „Знадворна ўсё ў парадку. Амаль што ўсе школы гораду заключылі ўмовы з прад-

прыемствамі. Уключылі належныя пункты, але па сутнасьці політэхнізацыя ўведзена формальна. Праілюструем гэта некаторымі фактамі: 9-я чыгуначная школа, якая налічвае 500 вучняў, прымацавана да Гомсельмашу, але належнай сувязі паміж школай і прадпрыемствам няма. Дзьве групы дзяцей сяк-так дапускаюцца на завод, але для ўсяго колектыву настаўнікаў далі толькі два прапускі, так што настаўнікі ня маюць магчымасьці політэхнізавацца. Дапамагчы школе організаваць рабочы пакой прадпрыемства катэгорычна адмаўляецца. Вылучаныя рабочыя для сувязі школу не наведваюць.

Калі брыгада зьвярнулася да старшыні фабкому за растлумачэньнямі, то ён крыкнуў: „Што вы прышлі нас рэвізаваць?“

Такія-ж факты мы мелі і ў Нова-Беліцкай школе, якая прымацавана да запалкавай фабрыкі „Вэзуві“, дзе ўзаемаадносіны паміж фабрыкай і школай былі даволі нацягнутыя.

Пасьля таго, як пастановай ЦК аб школе катэгорычна забаронена ўсякае скарыстаньне дзяцей, як рабочай сілы, як дана ўстаноўка на падпарадкаваньне ўсёй грамадзка-вытворчай работы навучальным і выхаваўчым мэтам школы, некаторыя гаспадарнікі, якія лічылі дзяцей „рэзэрвнай рабочай сілай“, на выпадак ліквідацыі прарываў па выкананьню прамфінпляну, пачынаюць ахалоджвацца і часамі ставяць рагаткі ў правядзеньні політэхнізацыі.

„Лявацкія“ жаданьні скарыстаньня дзяцей, як рабочую сілу, калі гэтыя жаданьні не ўдаюцца, пераходзяць у правы опортунізм —у недаацэнку політэхнізацыі, недапушчэньне дзяцей і настаўнікаў на вытворчасьць. Прыкладам таго, як і самі некаторыя настаўнікі не разумеюць політэхнізацыі, можа служыць факт ужо раней апісаны ў „Эмэс‘е“. Настаўнік прыродазнаўства заносіць у свой рабочы плян па пытаньню аб азнаямленьні дзяцей з конскім заводам, да якога прымацавана школа, наступнае: „Быць на заводзе ў конскім хляве і азнаёміць дзяцей з процэсамі прадпрыемства і вытворчасьці“. Гэты факт сьведчыць аб тым, што настаўнік ня ўсьвядоміў значэньня і прынцыпу політэхнізацыі.

Гэты факт яшчэ і сьведчыць і аб тым, што ў сэнсе прымацаваньня школы да прадпрыемства існуе яшчэ блытаніна.

Конскі завод можа быць скарыстаны ў якасьці об‘екту для экскурсіі, але ні ў якім разе ён ня можа служыць об‘ектам для прымацаваньня школы. Гэтай школай, як відаць, ня былі ўлічаны асноўныя прынцыпы прымацаваньня школы да прадпрыемства. Настаўнік формальна і механічна перанёс асноўныя ўстаноўкі ў вывучэньні вытворчасьці на „конскі хлеў“. Нельга ня спыніцца на заключэньні ўмовы паміж Чачэрскай 7-гадовай школай, з аднаго боку, і колгасам „Сталінец“—з другога.

У разьдзеле „абавязкі школы“ апошняя бярэ: „П. 8. Актыўна ўдзельнічаць у выкананьні вытворчага пляну колгасу, пашырэньні і пераводзе яго на вышэйшую ступень у барацьбе з прагуламі. За ўдзел школы ва ўсіх грамадзка-політычных кампаніях, за падняцьце ўраджайнасьці, за правільную організацыю працы і правільнае разьмеркаваньне ўраджаю, шляхам уцягненьня ў члены колгасу настаўнікаў і вучняў, організацыю ўдарных брыгад, удзел вучняў у вытворчай працы колгасу і выкананьня заказу.

Учыніць наступную дапамогу:

У вясеньнюю пасеўную і ўборачную кампанію сабраць попелу 130 т., ачысьціць насеньне, апрацаваць гароду 10 га, саду—14 га і гадавальнік. Дапамога ў пасадцы бульбы, уборка сенажаці, уборка саду, уборка бульбы, гароду, удзел у сілосаваньні". Гэты докумэнт, які зьяўляецца характэрным ня толькі для Чачэрскай школы, але і для раду нашых іншых школ, сьведчыць аб тым, наколькі „лявацкія" ўстаноўкі яшчэ ня зжыты. У гэтым докумэнце няма асноўнага, барацьбы за вучобу, за якасьць гэтай вучобы, за сьвядомую дысцыпліну. Абавязкі, запісаныя ў п. 8, выходзяць з „лявацкай" устаноўкі—скарыстаньня дзяцей, як рабочай сілы для колгасу, з падпарадканьня навучаньня вытворча-грамадзкай працы ў колгасе.

Закранаючы пытаньне ўмовы, мы павінны зазначыць, што, ня гледзячы на даную ўстаноўку НКАсьветы ў тыповай умове паміж школай, прадпрыемствам і колгасам, што асноўнымі абавязкамі школы зьяўляецца барацьба за вучобу, за якасьць вучобы, за выкананьне пастановы ЦК аб школе, гэтыя ўмовы ў радзе месц ня сталі докумэнтам, мобілізуючым пролетарскую грамадзкасьць навокал пытаньня выхаваньня комуністычнай зьмены.

## Клясавы вораг супроць антырэлігійнага выхаваньня

Высунутая 17-й партконфэрэнцыяй проблема ліквідацыі рэштkaў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, з асаблівай вастратой ставіць пытаньне барацьбы з рэлігійнымі перажыткамі ў школе.

Ленін, як і заўсёды, у барацьбе супроць скажэньняў марксызму даваў геніяльныя прыклады строгай прынцыповасьці і злучэньня яе з конкрэтнасьцю гэтай барацьбы ў інтарэсах рабочае клясы. Яшчэ ў 1909 годзе ў артыкуле „Аб адносінах рабочай партыі да рэлігіі" Ленін дае бліскучы аналіз социяльных карэньняў рэлігіі, указваючы, што: „усе сучасныя рэлігіі і царквы, усе і ўсялякія рэлігійныя організацыі марксызм разглядае заўсёды, як органы буржуазнай рэакцыі, служачыя абароне экsплёатацыі і адурманеньню рабочае клясы"... і далей Ленін указвае на прынцыпы разгорнутай барацьбы з рэлігіяй, дае асноўныя ўстаноўкі ў гэтай барацьбе.

„Марксызм ёсьць матар'ялізм". У якасьці такога ён таксама бязьлітасна варожы рэлігіі, як і матар'ялізм энцыклёпэдыстаў 18 веку і матар'ялізм Фэербаха. Гэта бясспрэчна, але дыялектычны матар'ялізм Маркса і Энгельса ідзе далей энцыклёпэдыстаў і Фэербаха, прыстасоўваючы матар'ялістычную філёзофію ў галіне гісторыі, у галіне грамадзкіх навук. Мы павінны змагацца з рэлігіяй. Гэта азбука ўсяго матар'ялізму, а значыць і марксызму. Але марксызм ня ёсьць матар'ялізм, які спыніўся на азбуцы. Марксызм ідзе далей. Ён гаворыць: трэба ўмець весьці барацьбу з рэлігіяй, а для гэтага трэба матар'ялістычна растлумачыць крыніцу веры і рэлігіі ў масах.

Барацьбу з рэлігіяй нельга абмежаваць абстрактнай ідэолёгічнай пропаведзьдзю, нельга зводзіць да такой пропаведзі, гэтую

барацьбу трэба паставіць у сувязь з конкрэтнай практыкай клясавага руху, накіраванага да зьнішчэньня соцыяльных карэньняў рэлігіі. І ў далейшым Ленін паказвае, як трэба весьці барацьбу супроць буржуазных прогрэсістаў, радыкалаў і буржуазных матар'ялістаў, гаворачы: „Чаму трымаецца рэлігія ў адсталых слаёх гарадзкога пролетарыяту, у шырокіх слаёх паўпролетарыяту, а таксама ў масе сялянства? Па невучтву народу—адказвае буржуазны прогрэсіст, радыкал, або буржуазны матар'яліст. Значыць, далоў рэлігію, няхай жыве атэізм, распаўсюджваньне атэістычных поглядаў—ёсьць галоўная наша задача. Марксыст кажа—няпраўда. Такі погляд ёсьць павярхоўнае, буржуазна-абмежаванае культурніцтва. Такі погляд недастаткова глыбокі, не матар'ялістычны, а ідэалістычна растлумачвае карэньні рэлігіі. У сучасных капіталістычных краінах гэта карані, галоўным чынам, *соцыяльныя*.

Соцыяльная прыгнечанасьць працоўных мас, нібы поўная бездапаможнасьць іх перад сьляпымі сіламі капіталізму, які прычыняе штодзенна і штогадзінна ў тысячу раз больш самых страшных пакут, самых дзікіх мучэньняў радавым рабочым, чым усякія з раду вон выходзячыя здарэньні накшталт войн, землетрасеньняў і г. д., вось у чым самы глыбокі сучасны корань рэлігіі. „Страх стварыў багоў". Страх перад сляпой сілай капіталу, якая сьляпая, бо ня можа быць прадугледжана масамі народу,—якая на кожным кроку жыцьця пролетарыя і дробнага гаспадара пагражае прынесьці яму і прыносіць „внезапное", „нечаканае", „выпадковае" разарэньне, гібель, ператварэньне ў жабрака, у паўпэра, у проститутку, галодную сьмерць—вось той корань сучаснай рэлігіі, які, перш за ўсё і больш за ўсё, павінен мець на ўвазе матар'яліст, калі ён не жадае заставацца матар'ялістам падрыхтоўчай клясы.

Ніякая асьветная кніжка ня вытравіць рэлігіі з забітых капіталістычнай катаргай мас, залежачых ад сьляпых разбураючых сіл капіталізму, пакуль гэтыя масы самі не навучацца аб'яднана, організавана, плянамерна змагацца супроць рэтага карэньня рэлігіі, супроць панаваньня капіталу ва ўсіх формах.

Ці вынікае з гэтага, што асьветная кніжка шкодна, або лішня? Не. З гэтага вынікае зусім ня тое, з гэтага вынікае, што атэістычная пропаганда соцыял-дэмократыі (у тыя гады бальшавікоў называлі соц. дэмократамі—*Д. і Е.)* павінна быць падпарадкавана яе асноўнай задачы: разьвіцьцю клясавае барацьбы эксплёатуемых мас супроць эксплёататараў". Ленін далей выступае і супроць анархістаў, указваючы, што ў справе барацьбы з рэлігіяй мы павінны змагацца як з опортунізмам, так і з анархізмам.

„Марксыст павінен быць матар'ялістам, г. зн. ворагам рэлігіі, але матар'ялістам дыялектычным, г. зн. ставячым справу барацьбы не абстрактна, не на глебе адцягненай, чыста тэорытычнай, заўжды роўнай сабе пропаведзі, а конкрэтна, на глебе клясавай барацьбы, якая ідзе на справе і выхоўвае масы больш за ўсё і лепей за ўсё. Марксыст павінен улічваць усю конкрэтную абабстаноўку, заўжды знаходзіць мяжу паміж анархізмам і опортунізмам (гэтая мяжа адносная, рухлівая, пераменная, але існуе), не ўпадаць ні ў абстрактны славесны на справе пусты „рэволю-

цыянэрызм анархіста“, ні ў абывательшчыну і опортунізм дробнага буржуа або лібэральнага інтэлігента, які баіцца барацьбы з рэлігіяй, забывае аб гэтай сваёй задачы, мірыцца з верай у бога, кіруецца не інтарэсамі клясавае барацьбы, а дробным, мізэрным рашчотцам: не пакрыўдзіць, не адпіхнуць, не спалохаць прамудрым правілам „жыві і жыць давай другім і г. д. і інш.“ (Ленін— том II, першае выданьне, стар. 251, 253 і 255).

Указаньні Леніна маюць актуальнае значэньне на сёнешні дзень і ў адносінах да школы. Клясавы вораг, змагаючыся супроць антырэлігійнага выхаваньня дзяцей у нашай савецкай школе, высоўвае цэлы рад тэорый па зрыву гэтага выхаваньня. Клясавы вораг прытрымліваецца таго мудрага правіла, што „жыві і жыць давай другім“. Такая „тэорыя“ арэлігійнага выхаваньня, сутнасьць якой заключаецца ў тым, што мы не павінны зьвязваць выхаваньня ваяўнічага антырэлігійніка з рухам клясавае барацьбы і раіць займацца буржуазным культурніцтвам, „прасьвяшчэньнем“ аб адсталасьці, някультурнасьці рэлігіі і г. д. Побач з гэтым мы маем „тэорыі“, якія скочваюцца да адміністрацыйнай барацьбы з рэлігіяй і адмаўляюць ролю асьветы ў антырэлігійным выхаваньні.

Прыкладамі арэлігійнага выхаваньня зьяўляецца нават ліст, выданы дзяржаўным вучоным Саветам РСФСР (1924 г.). Гэты ліст меў вялікае распаўсюджаньне сярод настаўніцтва. Частка настаўніцтва і на сёнешні дзень разумее справу барацьбы з рэлігіяй, як справу чыста культурніцкага парадку. Так, у выбарачнай анкеце, праведзенай НДІ комвыхаваньня ў 1931 г. па школах БССР, ня гледзячы на вялізарнейшы рост атэізму ў нашых дзяцей, можна падкрэсьліць факты „культурніцкіх“ адносін школьнікаў да справы рэлігіі.

На 9-е пытыньне: „Ці верыш ты ў бога?“ 90 проц. дзяцей адказвае—не. Толькі 10 проц. адказваюць або—да, або ня ведаю. Цікава адзначыць, што гэтыя 10 проц. прыпадаюць на долю дзяцей служачых, сялян і інш. Дзеці рабочых на 100 проц. даюць адказ — „не“. Цяперака зьвернемся да 10-га пытаньня: „Чаму ня верыш?“. Тут, побач з яскравымі адказамі дзяцей, якія сьведчаць аб усьведамленьні імі социяльных карэньняў рэлігіі, як, напрыклад: „Рэлігія дурман для народу“, што ў рэлігіі зацікаўлены кулакі, былое духавенства, што рэлігія перашкоджае нашаму будаўніцтву — мы маем адказы чыста „культурніцкага“ парадку, якія паказваюць, што частка дзяцей яшчэ ня ўсьвядоміла клясавай сутнасьці рэлігіі, як, напрыклад: „Рэлігія не дае карысьці“, Рэлігія ня прыносіць карысьці“, „Рэлігія рабочаму чалавеку непатрэбна“. Такіх адказаў сярод дзяцей мы маем 32,1 проц. Гэта зьяўляецца вынікам сям-там правадзімага арэлігійнага выхаваньня ў школе.

Арэлігійнае выхаваньне ў школе ёсьць пэўная тактыка клясавага ворага.

Каб паслабіць антырэлігійнае выхаваньне „арэлігійнікі“ прапануюць адарваць антырэлігійнае выхаваньне ад социялістычнага будаўніцтва, выставіць рэлігію толькі, як ненавуковае абгрунтаваньне пабудовы сьвету, як нешта „безабіднае“ і тым самым

даюць магчымасьць пранікненьня рэлігійнага дурману ў дзіцячае асяродзьдзе, тым самым жадаюць мобілізаваць дзяцей супроць социялістычнага будаўніцтва.

Тактыка клясавага ворага заключаецца, ня толькі ў выступленьнях у замаскаванай форме ў выглядзе арэлігійнага выхаваньня, але ў цэлым радзе выпадкаў клясавы вораг выступае адкрыта. Ён жадае прывіць дзецям рэлігійныя настроі, рэлігійны „сьветапогляд“. Аб гэтым яскрава сьведчыць апісаны намі вышэй факт з Езарышчанскага сельсавету, Гарадокскага раёну з настаўнікам Акаловічам, які адкрыта ў школе І-га концэнтру навучае рэлігіі.

Тут мы маем махровую контррэволюцыйную вылазку клясавага ворага, які жадае працягваць у нашу школу рэлігію, каб мобілізаваць дзяцей супроць соцыялістычнага будаўніцтва праз рэлігійнае выхаваньне.

Мы сустракаем і такія здарэньні, калі ксяндзы, папы і рабіны вядуць агітацыю супроць усенавучу, за наведваньне дзяцьмі царквы, касьцёлу, сынагогі. Так, у Хойніцкім раёне, дзякуючы агітацыі ксяндза, значная частка школьнікаў-палякаў наведвала ў свой час касьцёл. Гэты ксёндз разьвіваў такі погляд сярод дзяцей, што можна быць „піонэрам, комсамольцам, нават партыйцам і наведваць касьцёл. Адно другому не перашкаджае“. Дзякуючы такой агітацыі і слабай пастаноўцы антырэлігійнага выхаваньня ў польшколе, ксяндзу ўдалося зацягнуць частку піонэраў і нават комсамольцаў у касьцёл.

Падобны-ж факт мы мелі ў Менску, калі частка вучняў 33 польшколы ў 1932 г. хадзіла на споведзь да ксяндза.

Праводзячы ў школе антырэлігійнае выхаваньне, трэба рашуча змагацца з тактыкай перагібаў, някультурнасьці. Нікуды ня варта тактыка барацьбы з рэлігіяй, якая мела месца ў мястэчку Сьмілавічы, дзе вучні ганяліся за папом і дразьнілі яго. У Капылі разьбілі шкло ў вокнах касьцёлу.

Такія формы барацьбы з рэлігіяй ня маюць нічога супольнага з нашым сапраўдным антырэлігійным выхаваньнем у школе.

Ленін такія вылазкі называў „пустым рэволюцыянэрызмам анархістаў“, з якім павінна праводзіцца штодзенная барацьба.

Такі від барацьбы, як біцьцё шкла ў царкве, дражненьне служкаў рэлігіі, фактычна вядзе да ўзмацненьня рэлігіі і грае на руку капіталістычным элемэнтам.

Барацьба на два фронты—супроць „тэорыі“ арэлігійнага выхаваньня, супроць адміністраваньня ў справе антырэлігійнага выхаваньня — зьяўляецца безадкладнай задачай школы ў справе барацьбы за сапраўднае выхаваньне ваяўнічага атэіста-матар‘яліста, актыўнага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва.

## Клясавы вораг супроць дзіцячай комуністычнай організацыі

Дзіцячая комуністычная організацыя, як масавая комуністчная організацыя дзяцей, задачы якой весьці барацьбу за комуністычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня шляхам удзелу дзяцей у соцыялістычным будаўніцтве, у ажыцяўленьні пастановы ЦК аб школе, у барацьбе за якасьць вучобы, за высокі політычны

ровень дзяцей, за сьвядомую дысцыпліну ў адносінах да вучобы і работы, сустракае з боку клясавага ворага шалёнае супраціўленьне.

Тактыка клясавага ворага ў барацьбе супроць дзіцячай комуністычнай організацыі прымае наступныя формы: а) жаданьне ліквідацыі піонэрорганізацыі праз растварэньне яе ў школе, імкнучыся гэтым зьнішчыць выхаваўчую і палітычную ролю дзіцячай комуністычнай організацыі, кіруемай компартыяй праз комсамол; б) разбурыць піонэрорганізацыю знутры шляхам організацыі сярод піонэраў, вучняў клясава-варожай групоўкі на прадмет зрыву піонэрскай работы ў школе; г) жаданьне супроцьставіць піонэрскай організацыі масу неорганізаванай дзетвары; д) імкненьне ліквідаваць узьдзейнічаньне піонэрорганізацыі на дзіцячае самакіраўніцтва ў школе, высоўваючы „тэорыю“ падзелу работы паміж піонэратрадам і самакіраўніцтвам. На іх думку піонэратрад займаецца толькі „палітыкай“, а самакіраўніцтва толькі вучобай. Тым самым пропагандуе буржуазную тэорыю аполітычнасьці вучобы; е) разгортваньне нацыянальнай розьні паміж дзецьмі розных нацыянальнасьцяў у атрадзе, выступаючы супроць правядзеньня работы на роднай мове ў атрадах.

Уся гэтая тактыка клясавага ворага накіравана на тое, каб стварыць перашкоду ў разгортваньні работы дзіцячай комуністычнай організацыі, каб разбурыць гэтую організацыю і тым самым перашкаджаць выхоўваць дзяцей, здольных канчаткова ўстанавіць комунізм.

У БССР, на падставе праведзенага абсьледваньня Ц. Б. Юных Піонэраў становішча работы піонэрорганізацыі ў г. Барысаве, прадстаўнік Ц. Б. Юных Піонэраў, т. Васьковіч, апісвае наступнае:

„Клясавы вораг увесь час імкнецца скарыстаць асобныя недахопы ў рабоце піонэрорганізацыі і накіроўваць дзяцей на падрыў піонэрработы і комуністычнага выхаваньня. Тыя факты, з якімі мы сустрэліся ў Барысаве, яскрава гавораць за гэта. На працягу апошніх год (1929, 1930) у Барысаўскай чыгуначнай школе сустракаюцца факты адкрытага выступленьня клясавага ворага, які праз прывіцьцё дзецям чуждай ідэолёгіі імкнецца сарваць работу. Яшчэ ў мінулым (1929) годзе ў гэтай школе можна было знайсьці портрэты Мікалая II, выкладаньне з-за вугла закону божага. У гэтым 1930 г. у канцы сьнежня месяца ў школе зьяўляюцца лёзунгі такога зьместу: „Вы вучні спачувайце прампартыі, вы будучая яе зьмена“, „далоў ударныя брыгады, далоў піонэрорганізацыю“.

У гэты-ж самы час у школе зрываецца ўся работа. Група вучняў школы, абвясьціўшая сябе „партыяй храбрых“, систэматычна вяла разбураючую работу ў школе. Гэтай групай вывешваліся вышэйназваныя лёзунгі.

У сваёй програме „храбрыя“ намячалі конкрэтныя формы барацьбы з ударніцкім рухам у школе і піонэрорганізацыяй. Для гэтага члены „партыі храбрых“ павінны былі ўступіць самі ва ўдарныя брыгады, каб знутры падарваць работу піонэрскай організацыі ў школе, быць у курсе ўсіх мерапрыемстваў піонэр-

організацыі і перашкодзіць іх ажыцьцяўленьню. „Партыя храбрых“ суправаждала ўсю сваю работу фізычным зьнішчэньнем маемасьці, як ламаньне школьных прылад, парт, вакон і г. д. Актыўнымі ўдзельнікамі групы зьяўлялася 8 чалавек. З іх—сын служачага чыгункі, высланага кулака, заможных сялян і 2 чалавекі—дзеці рабочых, з іх 2 піонэры. Гэты факт, раскрыты—ў Барысаве, зьяўляецца характэрным у сэнсе таго, як клясавы вораг скарыстоўвае слабую пастаноўку работы ў некаторых піонэратрадах, праводзіў работу па стварэньню сваёй клясава-варожай дзіцячай організацыі з пэўнымі палітычнымі ўстаноўкамі ў мэтах барацьбы супроць комуністычнага выхаваньня дзяцей, за падрыхтоўку дзяцей у буржуазным кірунку.

Цікава падкрэсьліць, што на чале гэтых „храбрых“ стаяў сын раскулачанага кулака. Тут мы павінны адзначыць, што на гэты факт ня было зьвертута дастаткова ўвагі піонэрорганізацыяй Беларусі, каб на ім выхоўваць дзяцей супроць вылазак клясавага ворага, пад якой-бы шыльдай яны не рабіліся.

Падобныя-ж факты мы мелі і ў Менску, дзе некаторыя вучні 1-й і 18-й школ, пад уплывам буржуазных элемэнтаў, організоўвалі зрыў портрэтаў правадыроў партыі і савецкай улады. Слабая пастаноўка выхаваўчай работы ў 1-й і 18-й школах спрыяла таму, што некаторыя дзеці ня толькі зрывалі портрэты, але былі ўцягнуты ў клясава-варожыя групоўкі, мэтай якіх было барацьба з піонэрорганізацыяй.

Ускрываючы соцыяльныя карэньні і палітычны зьмест усіх гэтых вылазак супроць піонэрорганізацыі, наша задача заключаецца ў тым, каб на гэтых і падобных ім фактах выхоўваць пільнасьць сярод саміх дзяцей у барацьбе з клясава-варожымі плынямі, каб узмацніць комуністычнае выхаваньне дзяцей, змагацца за добраякасную здаровую, клясава-сьвядомую зьмену.

## III. Задачы комуністычнага выхаваньня ў школе

Прыведзеныя ў гэтым артыкуле факты паказваюць, што клясавы вораг у сваёй барацьбе са школай карыстаецца сваімі асаблівымі прыёмамі.

Наша задача заключаецца ў тым, каб выкрыць тактыку клясавага ворага, паказаць яго прыёмы барацьбы з мэтай больш моцнага ўдару па гэтых вылазках і гэтым самым дапамагчы партыі і ўладзе ў барацьбе з імі і пабудаваць сапраўдную політэхнічную школу, рыхтуючую ўсебакова разьвітых людзей, здольных канчаткова ўстанавіць комунізм.

Вялізарнейшыя посьпехі, якія мы маем у барацьбе за політэхнічную школу, падкрэсьлены ў пастанове ЦК КП(б)Б аб школе, якія заключаюцца ў тым, што: 1) За час існаваньня савецкай улады ў БССР рабочая кляса, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, дасягнула вялікіх посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва і, у прыватнасьці, у справе пашырэньня пачатковай і сярэдняй школы і перабудовы яе працы.

Усеагульным абавязковым навучаньнем ахоплена 97 проц. дзяцей школьнага ўзросту, прыступлена да ўвядзеньня ўсеагуль-

нага абавязковага навучаньня ў аб'єме сямігодкі. Дзеці ўсіх нацыянальнасьцяў, насяляючых БССР, забясьпечаны навучаньнем на роднай мове. Ёсьць значныя дасягненьні ў галіне клясава-інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня дзяцей; праведзена вялікая работа па ачышчэньню праграм і падручнікаў ад клясава-варожых і у прыватнасьці, ад нацдэмаўскіх установак, якія былі там у мінулыя гады. Школа дабілася вялікіх посьпехаў у справе прыцягнаньня дзяцей да практычнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, прычым значна павысілася адносная вага школы ў грамадзкім жыцьці. Праведзена, галоўным чынам, за апошні год значная работа па політэхнізацыі школы; вялізарная большасьць школ да сучаснага моманту прымацавана да прамысловых і сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў, прычым некаторыя пакуль што, праўда, нямногія школы паказалі прыклады добрай організацыі політэхнічнага навучаньня ў школе" (з пастановы ЦК КП(б)Б аб школе).

Але побач з гэтымі посьпехамі, пастанова ЦК адзначае і карэнныя недахопы ў рабоце школы, якія заключаюцца ў тым, што „навучаньне ў школах не дае выстарчальнага аб'ёму агульнаасьветных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і вышэйшых школ зусім пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук: фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, географія і г. д." (з пастановы ЦК КП(б)Б аб школе).

Асноўнай задачай ліквідацыі гэтага недахопу зьяўляецца—барацьба за якасьць вучобы, як асноўнага зьвяна ў справе падрыхтоўкі людзей, адказваючых тым вялізарным запатрабаваньням, якія прад'яўляюцца соцыялістычным будаўніцтвам.

Ленін, яшчэ на 3-м зьезьдзе комсамолу, кажучы аб задачах выхаваньня, падкрэсьлівае неабходнасьць аўладаньня ведамі. Ён піша: „Адмаўляючы старую школу, пітаючы зусім законную і неабходную нянавісьць да гэтай старой школы, цэнячы гатоўнасьць разбурыць старую школу, мы павінны зразумець, што на месца старой вучобы, старой зуброжкі, старой муштры, мы павінны паставіць уменьне ўзяць сабе *усю суму* чалавечых ведаў і ўзяць так, каб комунізм ня быў-бы ў нас чымсьці такім, што завучана, а быў-бы тым, што вамі самімі прадумана, быў-бы тымі вывадамі, якія зьяўляюцца нязьбежнымі з пункту гледжаньня сучаснай адукацыі.

Вось як трэба паставіць асноўныя задачы, калі мы гаворым аб задачы навучыцца комунізму" (Ленін—том XVII, перш. выд., стар. 319).

Тут Леніным даецца даволі яскравая ўстаноўка ў сэнсе барацьбы за якасьць ведаў, патрабуючы ад комсамолу аўладаньня ўсёй сумай ведаў, набытых чалавецтвам, і падпарадкаваць іх асноўнай задачы—пабудове комунізму.

Ленін указвае, што сума ведаў павінна быць прэпаднесена дзецям ня ў выглядзе зуброжкі, ня ў выглядзе гатовых форм, а шляхам сувязі гэтых ведаў з нашым соцыялістычным будаўніцтвам.

Пастанова ЦК аб школе, якая завастрае пытаньне на ажыцьцяўленьні гэтых ленінскіх указаньняў, дае разгорнутую крытыку і асуджае ўсе спробы зьніжэньня ведаў у нашай школе, ласкутнасьць іх і патрабуе падвышэньня роўню агульнаадукацыйных ведаў у нашай школе.

Сапраўднае ажыцьцяўленьне задачы падвышэньня роўню ведаў, накопленых чалавецтвам, залежыць ад правільнай пастаноўкі выкладаньня паасобных прадметаў, марксысцка-ленінскай іх прапрацоўкі, сувязі і прасякненьня ўсіх прадметаў мэтодолёгіяй дыялектычнага матар'ялізму і партыйнасьцю—вось тыя вузлавыя пункты барацьбы за якасьць ведаў і вучобы.

---

П. Д. Каляда і Раецкі

# Становішча політэхнічных ведаў у ФЗС і ШКМ БССР

## Пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе і задачы політэхнізацыі школы

Гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, якая зьяўляецца програмай будаўніцтва савецкай політэхнічнай школы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі, дае цэлы рад конкрэтных паказаньняў адносна кірунку шляхоў і форм політэхнізацыі школы.

ЦК прапануе нам у гэтай пастанове ў справе політэхнізацыі школы кіравацца ўказаньнямі Леніна, данымі ім яшчэ ў 1920 годзе ў нататках на тэзісы Н. К. Крупскай.

1. „Ізьбягаць раньняй спэцыялізацыі, распрацаваць аб гэтым інструкцыю.

2. Пашырыць ва ўсіх профтэхшколах агульнаадукацыйяй прадметы.

3. Бязумоўным заданьнем паставіць безадкладны пераход да політэхнічнай адукацыі, ці вярней, безадкладнае ажыцьцяўленьне раду даступных зараз-жа крокаў да політэхнічнай адукацыі.

Нам патрэбны сталяры, сьлесары, зараз-жа, бязумоўна, усе павінны быць сталярамі, сьлесарамі і г. д., але з такім-та дадаткам агульнаадукацыйнага і політэхнічнага мінімуму. Задача школ другой ступені (12—17), вярней вышэйшых груп другой ступені, даць упаўне ведаючага сваю справу, упаўне здольнага стаць майстрам і замяніць практычна падрыхтаванага для гэтага столяра, цесьляра, сьлесара і г. д. з тым, аднак, каб гэты рамесьнік меў шырокую адукацыю (ведаў мінімум асноў такіх-та і такіх-та навук, указаць точна якіх), быў комуністам (точна ўказаць, што павінен ведаць), меў політэхнічны кругазор і пачаткі асноў політэхнічнай адукацыі, іменна:

а) асноўныя паняцьці аб электрычнасьці (точна вызначыць якія);

б) аб прымяненьні электрычнасьці да мэханічнай прамысловасьці;

в) таксама да хэмічнай;

г) таксама аб пляне электрыфікацыі;

д) наведаў ня менш 1—3 раз электрычную станцыю, завод савгас;

е) ведаў такія-та асновы аграноміі і г. д. (распрацаваць дэтальна мінімум ведаў)".

Барацьба за выкананьне гэтай пастановы ЦК аб школе зьявілася асноўным напрамкам у рабоце школы ў 1931/32 навучальным годзе. Выкананьне гэтай постановы патрабавала ад кожнае школы:

1. Зьнішчыць карэнны недахоп школы, які выяўляецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульнаадукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшае школы зусім пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, географія і інш.).

2. Ліквідаваць адрыў політэхнізацыі школы ад сыстэматычнага цьвёрдага засваеньня навук.

3. Перавесьці работу школы на строгія расклады, строга расрацаваныя навучальныя програмы і пляны.

4. Ужыць у школе розныя новыя мэтоды навучаньня, праверaныя на практыцы, якія могуць садзейнічаць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва, рашуча змагаючыся з мэтодычным прожэкцерствам, з насаджэньнем у масавым маштабе мэтодаў загадзя на практыцы неправераных, што асабліва яскрава ў апошнія гады выявілася ва ўжываньні так званага мэтаду „проэктаў".

5. Організаваць пры школе рабочыя пакоі, майстэрні, прымацаваць школы да прадпрыемстваў (завод, фабрыка, савгас, колгас, МТС) на аснова дагавароў.

6. Усю грамадзка-вытворчую работу вучняў падпарадкаваць навучальна-выхаваўчым мэтам школы.

7. Організаваць політэхнічны музэй.

8. Весьці жорскую барацьбу супроць ўсякіх спроб прышчапіць дзецям савецкае школы элемэнты антыпролетарскай ідэолёгіі.

9. Біцца за політэхнічную адукацыю, якая зьяўляецца асноўнай часткай комуністычнага выхаваньня і якая павінна даць вучням асновы навук, знаёміць іх у тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці, праводзіць цесную сувязь навучаньня з работай на вытворчасьці. Зусім зразумела, што ажыцьцяўленьне гэтых указаньняў ЦК магчыма толькі шляхам разгорнутай барацьбы супроць опортуністычных антыленінскіх скажэньняў політыкі партыі ў галіне школьнай работы, з права-опортуністычнымі скажэньнямі, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, якія вядуць да адмовы ад політэхнізацыі школы, да спроб захаваньня старой слоўнай школы, да разрыву паміж тэорытычным навучаньнем і практыкай, з „лева"-опортуністычнымі скажэньнямі, з тэорыямі „адміраньня школы" і зьніжэньня ролі настаўніка.

З мэтай выяўленьня і абагульненьня практыкі барацьбы нашай савецкай школы за выкананьне пастаноў ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе, політэхнічным сэктарам Навукова-дасьледчага інстытуту комуністычнага выхаваньня БССР было праведзена спэцыяльнае абсьледваньне становішча конкрэтнай работы ў шко-

лах па політэхнізацыі школы і становішча політэхнічных навыкаў і ведаў вучняў 7-й выпускной групы.

Для абсьледваньня ўзяты наступныя школы:

Па гораду Менску—5 ФЗС, 9 ФЗС і 25 узорная ФЗС.

Па раёнах БССР—Рэчыцкая ФЗС імя Леніна і наступныя ШКМ: Талочынская, Парыцкая, Чачэрская, Гарадкоўская, Любаньская раённая ШКМ і Любаньская ШКМ імя Комуны БВА, Цяцерская ШКМ, 2-я Мьціслаўская і Круглянская ШКМ.

Абсьледваньне праводзілася шляхам пасылкі спэцыяльных прадстаўнікоў інстытуту па гэтых школах. Для выяўленьня становішча політэхнічных ведаў і навыкаў было праведзена абсьледваньне па выяўленьню ведаў і навыкаў па электратэхніцы, сельскай гаспадарцы, дрэваапрацоўчай і мэталяапрацоўчай прамысловасьці.

## Веды і навыкі па электратэхніцы

Для выяўленьня ведаў і навыкаў вучняў 7-й групы ФЗС і ШКМ была праведзена анкета ў 16 пытаньняў.

Анкетай было ахоплена 345 вучняў 7-й групы. Ня гледзячы на тое, што ўсе гэтыя пытаньні выцякаюць з програмы матар'ялу, ніводзін з 345 вучняў на ўсе 16 пытаньняў па электратэхніцы правільна не адказаў.

На першае пытаньне анкеты, якія вядомы крыніцы электрычнасьці—правільныя адказы далі 102 чал., няправільныя—243.

На пытаньне—якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік—правільна адказала—167, няправільна—178 чал.

На пытаньне—якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток—правільных адказаў дана—197 ч., няправільных—148 ч.

На пытаньне—якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнага току—правільна адказала—68 вучняў, няправільна—287.

На пытаньне—якія існуюць способы ўключэньня электрычных лямпачак у ланцуг—правільна адказала—135 ч., няправільна—210.

На пытаньне—якія вядомы магніты—правільна адказала—270 чал., няправільна—75 чал.

На пытаньне—месца электрамагніта ў электратэхніцы і тэхніцы—правільна адказала—122 ч., няправільна—223 ч.

На пытаньне—якая розьніца паміж сталым і зьменным токам—правільна адказала—73—няправільна—272 ч.

На пытаньне—чым адрозьніваецца мотор-генэратар сталага току ад мотор-генэратара зьменнага току—правільна адказала—42, няправільна—303 ч.

На пытаньне—з якіх частак складаецца мотор-генэратар—правільна адказала—61 ч., няправільна—284 ч.

На пытаньне — як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці—правільна адказала—36 ч., няправільна—309.

На пытаньне — як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы—правільна адказала—24 вучні, няправільна—321.

На пытаньне—што ты ведаеш аб пляне ГОЭЛРО—правільна адказалі—141 вучань, няправільна—204.

На пытаньне—якая збудавана пры савецкай уладзе буйная электрастанцыя ў БССР—правільна адказала—328 чал., няправільна—17.

На пытаньне—якая збудавана пры савецкай уладзе гідраэлектрастанцыя ў СССР—правільна адказала—133 вучні—няправільна—212.

На пытаньне—якая намячаецца да пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлекстрастанцыя ў сьвеце—правільна адказала—98, няправільна—247 ч.

Аналіз гэтых даных паказвае, што справа з аўладаньнем ведаў па электратэхніцы ў нашых школах стаіць на нізкім роўні. Колькасьць атрыманых правільных адказаў на тыя або іншыя пытаньні сьведчаць, што, напрыклад: у крыніцах электрычнасьці разьбіраецца вельмі малая колькасьць вучняў. Значная колькасьць ня мае ўяўленьня аб крыніцах электрычнага току, адзінках вымярэньня электрычнага току, способах уключэньня электрычнага току, аб розьніцы паміж сталым і зьменным токам. Вучні амаль усіх школ ня ведаюць розьніцы паміж моторгенэратарам сталага і зьменнага току, а таксама з якіх галоўных частак яны складаюцца. Надзвычайна слаба ўяўляюць вучні тое, як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці, у сельскай гаспадарцы.

На вялікі жаль, многія вучні зусім ня чулі нават пра плян ГОЭЛРО. Маюцца школы, дзе ня ўсе вучні ведаюць аб Асінбудзе, зараз Белдрэс, ня кажучы пра электрастанцыі, якія пабудаваны і якія проектуюцца да пабудовы ў СССР.

На пытаньне аб крыніцах электрычнасьці вучні Цяцерскай школы адказалі: „мотор нутранога згараньня“, а вучні большасьці школ, нават Менскіх ФЗС, як 5, 9, 25, на гэтае пытаньне адказалі, што крыніцай электрычнасьці зьяўляецца „торф, вугаль, вада“.

На пытаньне, якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток, вучні Талачынскай школы адказвалі—„рэостатам“.

На пытаньне аб магнітах былі такія адказы: „магніты бываюць максымальныя, мінімальныя, выпадковыя, вобразныя, поўныя і няпоўныя“. Вучні Гарадкоўскай школы Глускага раёну, Парыцкай ШКМ, Цяцерскай ШКМ зусім нічога ня ведалі аб способах уключэньня лямпачак у ланцуг. На пытаньне, якія способы існуюць уключэньня электрычных лямпачак, вучні Круглянскай ШКМ адказваюць, што ўключэньне „ўтвараецца праз гальванічны элемэнт“. На пытаньне, якая розьніца паміж сталым і зьменным токам, вучні адказваюць—„зьменны ток сьвету даваць ня можа, ён зьменны“ (Гарадкоўская, Парыцкая, Чачэрская ШКМ), „сталы ток ужываецца толькі ў лямпачках“ (Талочынская школа). На пытаньне, як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы, вучні адказвалі: „усе трактары базуюцца на зьменным току“ (Гарадкоўская, Парыцкая, Мсьціслаўская школы).

Аб пляне ГОЭЛРО вучні давалі такія адказы: „ГОЭЛРО ёсьць пабудова раённай станцыі“ (Круглянская ШКМ).

Калі-ж мы возьмем адказы вучняў на пытаньне электра-тэхнікі толькі па адным ФЗС, то атрымаем наступныя даныя:

| ПЫТАНЬНІ | Процант правільных адказаў |
|---|---|
| 1. Якія вядомы крыніцы электрычнасьці . . . . . | 46,36 |
| 2. Якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік . . . . . . . . . . . | 47,75 |
| 3. Якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток . . . . | 41,10 |
| 4. Якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнага току . | 34,45 |
| 5. Якія існуюць способы ўключэньня электрычных лямпачак у ланцуг . . . . . . . . . . . . | 45,55 |
| 6. Якія вядомы магніты. . . . . . . . . . | 82,20 |
| 7. Месца электарамагніта ў электратэхніцы і тэхніцы . . | 50,00 |
| 8. Якая розьніца паміж сталым і зьменным токам . . . | 43,30 |
| 9. Чым адрозьніваецца мотор-генэратар сталага току ад мотор-генэратора зьменнага току . . . . . . . | 28,85 |
| 10. З якіх частак складаецца мотор-генэратар. . . . | 35,55 |
| 11. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці . . . . . . . . . . . . | 16,65 |
| 12. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы . . . . . . . . . . . . | 12,20 |
| 13. Што ты ведаеш аб пляне ГОЭЛРО . . . . . | 24,45 |
| 14. Якая пабудавана пры Савецкай ўладзе буйная электрастанцыя ў БССР . . . . . . . . . . | 97,75 |
| 15. Якія пабудаваны пры Савецкай ўладзе гідраэлектрастанцыі ў СССР . . . . . . . . . . . . | 52,20 |
| 16. Якая намячаецца да пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлектрастанцыя ў сьвеце . . . . . . . . | 7,75 |
| Разам . . . . . . . . | 41,65 |

Гэтыя даныя паказваюць, што вучні ФЗС слаба ўяўляюць асновы электратэхнікі, даўшы 41,65 проц. правільных адказаў. Яшчэ больш нізкі процант правільных адказаў вучні ФЗС даюць па наступных пытаньнях: якая намячаецца для пабудовы самая буйная электрастанцыя ў СССР (7,75 проц. правільных адказаў), як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы—12, 20 проц. правільных адказаў, як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці—16,65 проц. правільных адказаў, што вядома аб пляне ГОЭЛРО—24,45 проц. правільных адказаў.

Калі-ж узяць адказы вучняў на пытаньні электратэхнікі па адным ШКМ, то мы атрымаем наступнае:

| Пытаньні | Процант правільных адказаў |
|---|---|
| 1. Якія вядомы крыніцы электрычнасьці | 23,90 |
| 2. Якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік | 47,00 |
| 3. Якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток | 62,71 |
| 4. Якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнага току | 14,51 |
| 5. Якія існуюць спосабы ўключэньня электрычных лямпачак у ланцуг | 36,85 |
| 6. Якія вядомы магніты | 76,55 |
| 7. Месца электрамагніта ў электратэхніцы і тэхніцы | 30,15 |
| 8. Якая розьніца паміж сталым і зьменным токам | 13,33 |
| 9. Чым адрозьніваецца мотор-генэратар сталага ад мотор-генэратара зьменнага току | 6,25 |
| 10. З якіх частак складаецца мотор-генэратар | 11,00 |
| 11. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці | 8,00 |
| 12. Як выкарыстоўваецца электраэнэргія ў сельскай гаспадарцы | 5,25 |
| 13. Што ты ведаеш аб пляне ГОЭЛРО | 27,32 |
| 14. Якая пабудавана пры савецкай уладзе буйная электрастанцыя ў БССР | 94,10 |
| 15. Якія пабудаваны пры савецкай уладзе гідраэлектрастанцыі ў СССР | 33,65 |
| 16. Якая намячаецца да пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлектрастанцыя ў сьвеце | 36,00 |
| Разам | 33,00 |

З гэтай таблічкі відаць, што на ўсе пытаньні анкеты вучні далі правільных адказаў 33 проц. Па некаторых пытаньнях электратэхнікі вучні далі яшчэ больш нізкі процант. Напрыклад: як выкарыстоўваецца электраэнэргія ў прамысловасьці—правільных адказаў дана—8 проц. і далей, як выкарыстоўваецца электраэнэргія ў сельскай гаспадарцы—вучні далі правільных адказаў 5,25 проц. На пытаньне, якая розьніца паміж мотор-генэратарам сталага і зьменнага току, правільных адказаў далі вучні 6,25 проц., а таксама на пытаньне, якая розьніца паміж сталым і зьменным токам, далі правільны адказ 13,33 проц.

Калі параўнаць веды па электратэхніцы вучняў ШКМ з ФЗС, то трэба адзначыць, што вучні ФЗС даюць значна большы паказчык правільных адказаў. Сярэдні процант правільных адказаў па ФЗС складае 41,65, а па ШКМ дасягае толькі 33. На пытаньні, якія вядомы крыніцы электрычнай энэргіі, вучні ФЗС даюць 46,66 проц. правільных адказаў, а ШКМ—23,90 проц. На пытаньне, якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнага току, вучні ФЗС далі правільных адказаў—34,45 проц., а ШКМ—толькі 14,51 проц. і г. д.

Цікавыя даныя атрымліваюцца, калі параўнаць адказы па электратэхніцы 25-й Менскай узорнай школы ФЗС з іншымі ФЗС. Аб гэтым будзе сьведчыць наступная таблічка:

| Пытаньні | 5-я Менская ФЗС | 9-я Менская ФЗС | 25-я Менская ўзорная ФЗС | Рэчыцкая ФЗС |
|---|---|---|---|---|
| | (у процантах) | | | |
| 1. Якія вядомы крыніцы электрычнасьці | 5,5 | 73,6 | 30,3 | 84,2 |
| 2. Якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік | 36,8 | 63,1 | 27,2 | 79 |
| 3. Якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток | 63,1 | 73,6 | — | 57,8 |
| 4. Якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнага току | 57 | 42 | 21,2 | 26,3 |
| 5. Якія існуюць спосабы ўключэньня электрычных лямпачак у ланцуг | 57,8 | 31,5 | 39,3 | 57,8 |
| 6. Якія вядомы магніты | 79 | 73 | 94 | 73,6 |
| 7. Месца электрамагніта ў электратэхніцы і тэхніцы | 63,1 | 47,3 | 57,5 | 26,3 |
| 8. Якая розьніца паміж сталым і зьменным токам | 10,5 | 15,7 | 94 | 15,7 |
| 9. Чым адрозніваецца матор-генэратар сталага току ад матор-генэратара зьменнага току | 0,00 | 0,00 | 78,7 | 0,00 |
| 10. З якіх частак складаецца матор-генэратар | 36,8 | 5,5 | 72,7 | 0,00 |
| 11. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці | 0,00 | 26,3 | 15,5 | 26,3 |
| 12. Як выкарыстоўваецца электраэнэргія ў сельскай гаспадарцы | 15,7 | 21 | 3,3 | 15,7 |
| 13. Што ты ведаеш аб пляне ГОЭЛРО | 10,5 | 57,8 | 24,4 | 5,5 |
| 14. Якая пабудавана пры савецкай уладзе буйная электрастанцыя ў БССР | 100 | 100 | 100 | 89,4 |
| 15. Якія пабудаваны пры савецкай уладзе гідраэлектрастанцыі ў СССР | 42 | 36,8 | 96 | 0,00 |
| 16. Якая прызначаецца да пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлектрастанцыя ў сьвеце | 0,00 | 0,00 | 21,2 | 0,00 |
| Разам | 36 | 41,7 | 48,5 | 34,8 |

Аб чым сьведчыць гэтая таблічка? Яна яскрава сьведчыць аб тым, што справа з ведамі вучняў 7-й групы па электратэхніцы ў 25-й Менскай узорнай ФЗС у параўнаньні з іншымі ФЗС— абстаіць лепш у той час, як сярэдні процант правільных адказаў па электратэхніцы па Рэчыцкай ФЗС складае толькі 34, 5-ай Менскай ФЗС—36, 9-й менскай ФЗС—41, па 25-й узорнай менскай ФЗС—ён дасягае 48,5 проц.

На паасобныя пытаньні электратэхнікі вучні 25-й узорнай ФЗС у параўнаньні з іншымі ФЗС даюць яшчэ большы процант правільных адказаў. Значна лепш разьбіраюцца ў пытаньнях

розьніцы паміж сталым і зьменным токам, чым адрозьніваецца мотор-генэратар сталага току ад мотор-генэратара зьменнага току, з якіх частак складаецца мотор-генэратар. Бязумоўна, ёсьць і такія пытаньні электратэхнікі, аб якіх вучні 25-й узорнай школы даюць нізкі процант правільных адказаў. Такімі пытаньнямі будуць: прылады для вымярэньня электрычнага току, выкарыстоўваньне электрычнай энэргіі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці.

Цікава таксама прасачыць паказчыкі адказаў на паасобныя пытаньні паміж вучнямі ШКМ і ўзорных ШКМ. Аб гэтым сьведчыць наступная таблічка:

| Пытаньні | Усе ШКМ | Любаньская ўзорная ШКМ |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 1. Якія вядомы крыніцы электрычнасьці . . | 23,9 | 100,0 |
| 2. Якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік . . . . | 47 | 96,7 |
| 3. Якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток. | 62,7 | 87,0 |
| 4. Якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнасьці . . . . . . . . | 14,0 | 19,3 |
| 5. Якія існуюць спосабы ўключэньня лямпачак у ланцуг . . . . . . . | 36,8 | 93,5 |
| 6. Якія вядомы магніты . . . . . . | 76,5 | 100,0 |
| 7. Месца электрамагніта ў электрычнасьці і электратэхніцы . . . . . . . . | 30,0 | 35,0 |
| 8. Якая розьніца паміж сталым і зьменны токам | 13,3 | 51,6 |
| 9. Чым адрозьніваецца мотор-генэратар сталага току ад мотор-генэратара зьменнага току . | 6,2 | 48,3 |
| 10. З якіх частак складаецца мотор-генэратар . | 11,0 | 48,3 |
| 11. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці . . . . . . . | 8,0 | 6,4 |
| 12. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы . . . . . . | 5,8 | 0,0 |
| 13. Што ты ведаеш аб пляне ГОЭЛРО . . | 27,3 | 93,5 |
| 14. Якая пабудавана пры савецкай уладзе буйная электрастанцыя ў БССР . . . . | 94,0 | 100,0 |
| 15. Якія пабудаваны пры савецкай ўладзе гідраэлектрастанцыя ў СССР. . . . . | 33,6 | 61,2 |
| 16. Якая прызначаецца да пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлектрастанцыя ў сьвеце . | 36,0 | 100,0 |
| Разам . . . . . . . | 33,0 | 65,0 |

Гэта таблічка сьведчыць аб тым, што Любаньская ўзорная школа ў параўнаньні з іншымі ШКМ дае пераважна большыя

паказчыкі правільных адказаў. Калі сярэдні процант правільных адказаў па электратэхніцы па ўсіх абсьледваных ШКМ—33—у Любаньскай узорнай школе ён дасягае 65, апрача пытаньняў: як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, па якіх Любаньская ўзорная школа дае ніжэйшы процант правільных адказаў ў параўнаньні з іншымі ШКМ, а па ўсіх астатніх пытаньнях анкеты, яна дала пераважна большыя паказчыкі правільных адказаў.

Так, вучні Любаньскай узорнай ШКМ даюць больш правільных адказаў на наступныя пытаньні электратэхнікі: а) якія вядомы крыніцы электрычнасьці; б) якія вядомы магніты; в) якая пабудавана пры савецкай уладзе буйная электрастанцыя ў БССР; і г) якая прызначаецца да пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлектрастанцыя ў сьвеце—100 проц. А на такія пытаньні, як, якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік—96,7 проц.; якія існуюць способы ўключэньня лямпачак у ланцуг—93,5 проц.; што ты ведаеш аб пляне ГОЭЛРО—93,5 проц. і г. д.

Наогул трэба адзначыць, што Любаньская ўзорная школа ў сэнсе ведаў вучняў па электратэхніцы ў параўнаньні з іншымі ШКМ ідзе ўперадзе.

Калі-ж параўнаць веды па электратэхніцы вучняў 25-й узорнай Менскай ФЗС, з аднаго боку, і вучняў Любаньскай узорнай ШКМ, то мы атрымаем наступнае:

| ПЫТАНЬНІ | 25-я Менская ўзорная ФЗС (у процантах) | Любаньская ўзорная ШКМ (у процантах) |
|---|---|---|
| 1. Якія вядомы крыніцы электрычнасьці . . | 30,0 | 100,0 |
| 2. Якія дзеяньні ўтварае электрычны ток пры праходжаньні праз праваднік . . . . | 27,2 | 96,7 |
| 3. Якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток. | 0,0 | 87,1 |
| 4. Якія існуюць адзінкі для вымярэньня электрычнасьці . . . . . . . . | 21,2 | 19,3 |
| 5. Якія існуюць способы ўключэньня лямпачак у ланцуг . . . . . . . . | 39,3 | 93,5 |
| 6. Якія вядомы магніты . . . . . . | 94,0 | 100,0 |
| 7. Месца электрамагніта ў электратэхніцы і тэхніцы . . . . . . . . . | 57,5 | 35,4 |
| 8. Якая розьніца паміж сталым і зьменным токам | 94,0 | 51,6 |
| 9. Чым адрозьніваецца мотор-генэратар сталага току ад мотор-генэратара зьменнага току . | 78,7 | 48,3 |
| 10. З якіх частак складаецца мотор-генэратар . | 72,4 | 48,3 |
| 11. Як скарыстоўваецца электраэнэргія ў прамысловасьці . . . . . . . . | 15,1 | 6,4 |

| Пытаньні | 25-я Менская ўзорная ФЗС (у процантах) | Любаньская ўзорная ШКМ (у процантах) |
|---|---|---|
| 12. Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы | 3,3 | 0,0 |
| 13. Што ты ведаеш аб плане ГОЭЛРО | 24,2 | 93,5 |
| 14. Якая пабудавана пры савецкай ўладзе буйная электрастанцыя ў БССР | 100,0 | 100,0 |
| 15. Якія пабудаваны пры савецкай уладзе гідраэлектрастанцыі ў СССР | 96,0 | 61,2 |
| 16. Якая прызначаецца для пабудовы ў СССР самая буйная гідраэлектрастанцыя ў сьвеце | 21,2 | 100,0 |
| Разам | 48,5 | 61,2 |

Такім чынам, параўнаньне паміж 25-й Менскай узорнай ФЗС і Любаньскай узорнай ШКМ надзвычайна цікава ў сэнсе паказаньня на тое, што засваеньне ведаў па электратэхніцы ў Любаньскай узорнай ШКМ абстаіць лепш, чым у 25-й Менскай узорнай ФЗС і наогул лепш у параўнаньні з усімі абсьледванымі школамі.

Любаньская узорная ШКМ дала правільных адказаў на ўсе пытаньні электратэхнікі 65,21 проц., тады як 25-й Менская узорная ФЗС—48,5 проц.

На паасобныя пытаньні электратэхнікі Любаньская ўзорная ШКМ дала яшчэ большыя паказчыкі правільных адказаў. Напрыклад: на пытаньне, якія вядомы крыніцы электрычнасьці—Любаньская школа дала 100 проц. правільных адказаў, у той час як 25-я Менская ўзорная ФЗС толькі—30,3 проц. На пытаньне, якімі прыладамі вымяраецца электрычны ток—у 25-й Менскай узорнай ФЗС ніводзін вучань ня даў правільнага адказу, а Любаньская ўзорная ШКМ дала 87,1 проц. правільных адказаў. На пытаньне аб пляне, 25-я Менская дае 24,2 проц., а Любаньская—93,5 проц.

## Веды вучняў па сельскай гаспадарцы

Па лініі выяўленьня ведаў і навыкаў вучняў 7-й групы ФЗС і ШКМ было праведзена абсьледваньне сярод 408 вучняў 14 школ БССР.

Абсьледваньне праводзілася шляхам запаўненьня вучнямі анкеты па сельскай гаспадарцы з 22 пытаньнямі.

Даныя адказаў вучняў на анкету па сельскай гаспадарцы, атрыманыя па школах, даюць наступны малюнак:

На пытаньне, якую перавагу мае буйная соцыялістычная гаспадарка—правільна адказала—93 проц., няправільна—6,4 проц. і зусім не адказала—0,6 проц.

На пытаньне, для чаго праводзіцца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі—правільна адказала 78, проц. няправільна—18,5 проц., зусім не адказала—3,5 проц.

На пытаньне, ад чаго залежыць ураджайнасьць—правільна адказала 96,5 проц., няправільна—3,5 проц.

На пытаньне, якія віды ўгнаеньня ведае—правільна адказала 98,5 проц., няправільна—1,5 проц.

На пытаньне, назваць машыны для ачысткі і сартыроўкі насеньня—правільна адказала 95,5 проц., няправільна—3 проц., ня дала адказу—1,5 проц.

На пытаньне, назваць гатункі жыта, аўсу, бульбы, ільну—правільных адказаў дана 70 проц., направільна—18 проц., зусім не адказала—12 проц.

На пытаньне, якія ведае машыны для апрацоўкі глебы, для засеву насеньня, для ўборкі палявых расьлін—правільна адказала 98 проц., няправільна—1,4 проп., ня дала адказу—0,6 проц.

На пытаньне, назваць асноўныя часткі плуга, сеялкі, малатарні—правільна адказала 77,5 проц., няправільна—12,5 проц., зусім не адказала—10 проц.

На пытаньне, якую ролю адыгрывае МТС у сельскай гаспадарцы—правільна адказала 86,4 проц., няправільна—13 проц., зусім не адказала—0,6 проц.

На пытаньне, якая розьніца паміж савгасам і колгасам—правільна адказала—87 проц., няправільна—12,4 проц., зусім не адказала—0,6 проц.

На пытаньне, назаві асноўныя часткі трактара—правільна адказала 60 проц., няправільна—13 проц., зусім не адказала—27 проц.

На пытаньне, для якіх мэт скарыстоўваецца трактар у сельскай гаспадарцы—правільна адказала 91,4 проц., няправільна—8 проц., не адаказала—0,6 проц.

На пытаньне, колькі можа ў сярэднім узараць трактар за гадзіну—правільна адказала 57 проц., няправільна—24,5 проц., зусім не адказала—18,5 проц.

На пытаньне, на якім паліве працуе трактар—правільна адказала 87,2 проц., няправільна—15,5 проц., зусім не адказала—1,3 проц.

На пытаньне, колькі высяецца ў сярэднім на 1 *га* жыта, бульбы, ільну—правільна адказала 44 проц., няправільна—34 проц.,. зусім не адказала—22 проц.

На пытаньне, якія віды жывёлы павінны разьвязаць мясную проблему ў БССР—правільна адказала 94,3 проц., няправільна—4 проц., зусім не адказала—1,7 проц.

На пытаньне, назваць малочныя і мясныя пароды рагатай жывёлы БССР—правільна адказала 69 проц., няправільна—24 проц., зусім не адказала—7 проц.

На пытаньне, якія вядомы нормы кармленьня сьвіней—правільна адказала 2,3 проц., няправільна—19 проц., зусім не адказала—78,7 проц.

На пытаньне, якія кармы адносяцца да грубых, сакавітых і концэнтраваных—правільна адказала 75,5 проц, няправільна—8,5 проц., зусім не адказала—16 проц.

На пытаньне, што робіцца з расьлінамі ў сілоснай яме—правільна адказала 57 проц., няправільна—28,5 проц., зусім ня дала адказу—14,5 проц.

На пытаньне, якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай камунай і сельска-гаспадарчай арцельлю—правільна адказала 62 проц., няправільна—24 проц., зусім не адказала—14 проц.

На пытаньне, якія асноўныя мерапрыемствы па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў праводзяцца партыяй і савецкай уладай—правільна адказала 62,7 проц., няправільна—21,3 проц., зусім не адказала—16 проц.

Гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што вучні нашых школ у галіне асноў сельскай гаспадаркі зусім ня ведаюць такога важнага пытаньня, як існуючыя нормы кармленьня сьвіней, даўшы 2,3 проц. правільных адказаў, зусім ня дала адказу на гэта пытаньне 78,7 проц. і 19 проц. няправільных адказаў.

Слаба ўяўляюць вучні аб колькасьці насеньня розных культур неабходнага на 1 *га,* а таксама слаба ўяўляюць вучні, колькі можна ўзарацаць глебы трактарам у 1 гадзіну.

Трэба-ж наогул адзначыць, што ў такіх пытаньнях сельскай гаспадаркі, як, напрыклад: перавагі буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі над дробнай, залежнасьць ураджайнасьці, віды ўгнаеньняў, машыны для ачысткі і сартыроўкі насеньня, машыны для апрацоўкі глебы, для засеву насеньня і ўборкі палявых культур, скарыстаньне трактароў у сельскай гаспадарцы, жывёлы, якія павіны вырашыць мясную проблему ў БССР—вучні абсьледваных школ досыць добра разьбіраюцца, даўшы больш чым 90 проц. правільных адказаў.

Калі мы параўнаем паказчыкі адказаў па сельскай гаспадарцы паміж вучнямі ФЗС і ШКМ, то атрымаем наступныя даныя:

| П ы т а н ь н і | Усе ШКМ | Усе ФЗС |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 1. Якую перавагу мае буйная соцыялістычная сельская гаспадарка перад дробнай . . | 96,2 | 80,8 |
| 2. Для чаго праводзіцца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі . . . . . . . | 88,3 | 49,5 |
| 3. Ад чаго залежыць ураджайнасьць . . . | 97,2 | 93,9 |
| 4. Якія віды ўграеньня ведаеш . . . . | 99,0 | 97,0 |
| 5. Назаві машыны для ачысткі і сартыроўкі насеньня . . . . . . . . . | 98,0 | 89,0 |
| 6. Назаві гатункі жыта, аўсу, бульбы, ільну . | 84,0 | 41,0 |
| 7. Якія ведаеш машыны для апрацоўкі глебы, для пасеву насеньня, для ўборкі палявых культур . . . . . . . . . | 96,0 | 92,0 |
| 8. Назаві галоўныя часткі плуга, сеялкі, малатарні | 95,0 | 33,0 |
| 9. Якую ролю адыгрывае МТС у сельскай гаспадарцы . . . . . . | 88,0 | 77,0 |

| Пытаньні | Усе ШКМ | Усе ФЗС |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 10. Якая розьніца паміж савгасам і колгасам . | 93,0 | 72,0 |
| 11. Назаві асноўныя часткі трактара . . . | 69,0 | 29,0 |
| 12. Для якіх мэт скарыстоўваецца трактар у сельскай гаспадарцы . . . . . . | 92,0 | 84,0 |
| 13. Колькі можа ў сярэднім узараць трактар за гадзіну . . . . . . . . | 66,0 | 35,0 |
| 14. На якім паліве працуе трактар . . . | — | 63,0 |
| 15. Колькі высяецца ў сярэднім на 1 *га* жыта, бульбы, ільну . . . . . . . | 59,0 | 8,0 |
| 16. Якія віды жывёлы разьвяжуць мясную проблему ў БССР . . . . . . . | 96,0 | 89,0 |
| 17. Назаві малочныя і мясныя пароды рагатай жывёлы . . . . . . . . . | 83,0 | 52,0 |
| 18. Якія табе вядомы нормы кармленьня сьвіней . | 2,0 | 2,0 |
| 19. Якія кармы адносяцца да грубых, сакавітых і концэнтраваных . . . . . . | 84,0 | 44,0 |
| 20. Што робіцца з расьлінай ў сілоснай яме . | 64,0 | 38,0 |
| 21. Якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай комунай і сельска-гаспадарчай арцельлю . . | 79,0 | 20,0 |
| 22. Якія асноўныя мерапрыемствы па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў праводзяцца партыяй і савецкай ўладай. . | 75,0 | 29,0 |

Аб чым сьведчыць гэтая табліччка? Яна сьведчыць аб тым, што вучні ШКМ значна лепш ведаюць сельскую гаспадарку, чым вучні ФЗС, даючы больш высокі процант правільных адказаў.

Для прыкладу прывядзем наступнае пытаньне: якую перавагу мае буйная соцыялістычная сельская гаспадарка перад дробнай—вучні ШКМ далі—96 проц. правільных адказаў, а вучні ФЗС—87 проц. Для чаго праводзіцца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі—вучні ШКМ на гэта пытаньне далі 88 проц. правільных адказаў, а вучні ФЗС—49 проц. Аб гатунках жыта, бульбы, аўсу, ільну—вучні ШКМ далі 84 проц. правільных адказаў, а вучні ФЗС –41 проц., аб сельска-гаспадарчых машынах—плуг, сеялка, малатарня—вучні ШКМ—далі 95 проц. правільных адказаў, вучні ФЗС—толькі 33 проц. Аб асноўных частках трактара—вучні ШКМ далі 69 проц. правільных адказаў, вучні ФЗС—29 проц. Якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай комунай і сельска-гаспадарчай арцелью—тут вучні ШКМ далі 79 проц. правільных адказаў, а вучні ФЗС—20 проц. Якія асноўныя мерапрыемствы па организацыйна-гаспадарчаму замацаваньню колгасаў праводзяцца партыяй і савецкай уладай,—вучні ШКМ далі 7 проц. правільных адказаў, а вучні ФЗС—29 проц.

Цікавыя паказчыкі атрымліваюцца пры параўнаньні адказаў па асноўных пытаньнях сельскай гаспадаркі паміж ШКМ і ўзорнымі ШКМ, аб чым можа сьведчыць наступная табьлічка:

| ПЫТАНЬНІ | Узорная ШКМ | Звычайная ШКМ |
|---|---|---|
| | (у працантах) | |
| 1. Якую перавагу мае буйная соцыялістычная гаспадарка перад дробнай | 98 | 95 |
| 2. Для чаго праводзіцца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі | 81 | 90 |
| 3. Ад чаго залежыць ураджайнасьць | 98 | 9 |
| 4. Якія віды ўгнаеньня ведаеш | 100 | 11 |
| 5. Назаві машыны для ачысткі і сартыроўкі насеньня | 100 | 10 |
| 6. Назаві гатункі жыта, аўсу, ільну | 100 | 79 |
| 7. Якія ведаеш машыны для апрацоўкі глебы, для пасеваў насеньня, для ўборкі палявых культур | 100 | 95 |
| 8. Назаві галоўныя часткі плуга, сеялкі, малатарні | 100 | 94 |
| 9. Якую ролю грае МТС у сельскай гаспадарцы | 92 | 86 |
| 10. Якая розьніца паміж саўгасам і колгасам | 89 | 94 |
| 11. Назаві асноўныя часткі трактара | 70 | 69 |
| 12. Для якіх мэт скарыстоўваецца трактар у сельскай гаспадарцы | 98 | 90 |
| 13. Колькі можа ў сярэднім трактар узараць за гадзіну | 98 | 58 |
| 14. На якім паліве працуе трактар | 93 | — |
| 15. Колькі высяецца ў сярэднім на 1 *га* жыта, бульбы, ільну | 82 | 53 |
| 16. Якія віды жывёлы разьвязваюць мясную проблему ў БССР | 100 | 98 |
| 17. Назваць малочныя і мясныя пароды рагатай жывёлы | 98 | 79 |
| 18. Якія табе вядомы нормы для кармленьня сьвіней | 0 | 2 |
| 19. Якія кармы адносяцца да грубых, сакавітых і концэнтраваных | 89 | 83 |
| 20. Што робіцца з расьлінай у сілоснай яме | 90 | 56 |
| 21. Якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай комунай і сельска-гаспадарчай арцельлю | 92 | 76 |
| 22. Якія асноўныя мерапрыемствы па гаспадарча-організацыйнаму ўмацаваньню колгасаў праводзяцца партыяй і савецкай уладай | 87 | 71 |
| Разам | 89 | 64 |

Гэтыя паказчыкі кажуць аб тым, што вучні ўзорных ШКМ далі правільныя адказы на ўсе пытаньні анкеты—89 проц., тады калі вучні звычайных ШКМ—64 проц.

Яшчэ больш яскравыя паказчыкі мы атрымліваем, калі параўнаем адказы вучняў на паасобныя пытаньні анкеты па сельскай гаспадарцы.

Возьмем такія пытаньні, ад чаго залежыць ураджайнасьць— узорная ШКМ дае 98 проц., а наогул ШКМ—9 проц. Віды угнаеньняў і машыны для ачысткі і сартыроўкі насеньня—на гэтыя пытаньні вучні ўзорных ШКМ—далі 100 проц. правільных адказаў, тады калі вучні наогул ШКМ—даюць—11 проц. і 10 проц. правільных адказаў.

Наогул неабходна адзначыць, што вучні ўзорнай ШКМ, за выключэньнем норм кармленьня сьвіней, даюць у параўнаньні з звычайнымі ШКМ больш высокі процант правільных адказаў па ўсіх пытаньнях сельскай гаспадаркі.

Паказчыкі, атрыманыя з абсьледваньня ФЗС, як звычайных, так і ўзорных, амаль што нічым не адрозьніваюцца паміж сабою. На ўсе пытаньні, вызначаныя ў анкеце, 25-я менская ўзорная школа ў параўнаньні з іншымі ФЗС дала сярэдні процант— 56,75, у той час як звычайныя ФЗС далі 55,64 проц. правільных адказаў.

Надзвычайна цікавыя паказчыкі атрымліваюцца пры параўнаньні ведаў па сельскай гаспадарцы вучняў ШКМ і ФЗС, аб чым сьведчыць ніжэй паданая таблічка:

| Пытаньні | Узорная ШКМ | Узорная ФЗС |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 1. Якую перавагу мае буйная соцыялістычная сельская гаспадарка перад дробнай . . | 98 | 62 |
| 2. Для чаго праводзіцца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі . . . . . . . . | 81 | 51 |
| 3. Ад чаго залежыць ураджайнасьць . . . | 98,4 | 100 |
| 4. Якія віды ўгнаеньня ведаеш . . . . | 100 | 100 |
| 5. Назаві машыны для чысткі і сартыроўкі насеньня . . . . . . . . . . | 100 | 88 |
| 6. Назаві гатункі жыта, аўсу, ільну . . . | 100 | 80 |
| 7. Якія ведаеш машыны для апрацоўкі глебы, для пасеваў насеньня, для ўборкі палявых культур . . . . . . . . . . | 100 | 94 |
| 8. Назаві галоўныя часткі плуга, сеялкі, малатарні | 100 | 37 |
| 9. Якую ролю адыгрывае МТС ў сельскай гаспадарцы . . . . . . . . . . | 92 | 68 |
| 10. Якая розьніца паміж савгасам і колгасам . | 89 | 77 |
| 11. Назаві асноўныя часткі трактара . . . | 70 | 25 |

| Пытаньні | Узорная ШКМ | Узорная ФЗС |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 12. Для якіх мэт скарыстоўваецца трактар у сельскай гаспадарцы | 98 | 77 |
| 13. Колькі можа ў сярэднім трактар узараць за гадзіну | 98 | 37 |
| 14. На якім паліве працуе трактар | 93 | 60 |
| 15. Колькі высяецца ў сярэднім на 1 *га* жыта, бульбы, ільну | 82 | 17 |
| 16. Якія віды жывёлы разьвяжуць мясную праблему ў БССР | 100 | 82 |
| 17. Назваць малочныя і мясныя пароды рагатай жывёлы БССР | 98 | 65 |
| 18. Якія табе вядомы нормы для кармленьня сьвіней | 0 | 0 |
| 19. Якія кармы адносяцца да грубых, сакавітых і концэнтраваных | 89 | 62 |
| 20. Што робіцца з расьлінай ў сілоснай яме | 90 | 37 |
| 21. Якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай комунай і сельска-гаспадарчай арцельлю | 92 | 11 |
| 22. Якія асноўныя мерапрыемствы па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў праводзяцца партыяй і савецкай уладай | 87 | 11 |
| Разам | 89 | 56 |

Калі сярэдні процант правільных адказаў па ўзорных ШКМ 89, то ўзорная ФЗС—дае 56.

Пры параўнаньні адказаў на асобныя пытаньні анкеты, узорная ФЗС дае значна ніжэйшы паказчык, чым узорная ШКМ. Так, напрыклад: якія асноўныя мерапрыемствы па організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў праводзяцца партыяй і савецкай уладай, узорная ШКМ дае 87 проц., а ўзорная ФЗС—11 проц. На пытаньне, якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай комунай і сельска-гаспадарчай арцельлю, узорная ШКМ дае 92,18 проц., а ўзорная ФЗС—11,42 проц. На пытаньне аб асноўных частках трактара—узорная ШКМ дае 70 проц., а ўзорная ФЗС—25 проц. правільных адказаў.

На пытаньне, якія галоўныя часткі плуга, малатарні і сеялкі, узорная ШКМ дала 100 проц. правільных адказаў, а ўзорная ФЗС—37 проц. На пытаньне, якую ролю адыгрывае МТС у сельскай гаспадарцы, узорная ШКМ дала правільных адказаў 92 проц., а ўзорная ФЗС—68 проц.

Агульны вывад мы можам зрабіць такі, што веды вучняў у ШКМ значна вышэй чым у ФЗС па сельскай гаспадарцы,

а ва ўзорнай ШКМ—яны вышэй чым ва ўзорнай ФЗСі ШКМ няўзорных.

**Веды і навыкі вучняў па мэталяапрацоўчай прамысловасьці**

Па лініі выяўленьня ведаў вучняў 7-х груп ФЗС і ШКМ па мэталяапрацоўчай прамысловасьці была праведзена ў 13 школах БССР адпаведная анкета ў 14 пытаньняў.

Атрыманыя даныя адказаў вучняў на пытаньні анкеты па мэталяапрацоўчай прамысловасьці даюць наступны малюнак ведаў вучняў:

| Пытаньні | Процант правільных адказаў па ўсіх школах |
|---|---|
| 1. Назаві мэталі, якія ты ведаеш . . . . . . . | 100 проц. |
| 2. Назаві мясцовасьці, дзе здабываюцца мэталі . . . | 95 " |
| 3. Які рост намечаны па мэталях на 2-ю пяцігодку . . | 31 " |
| 4. Якая розьніца паміж мэталяапрацоўчай і мэталюргічнай прамысловасьцю . . . . . . . . . | 56 " |
| 5. Якое прызначэньне мае ліцейны цэх на мэталюргічным заводзе . . . . . . . . . . | 60 " |
| 6. Якое прызначэньне мае модэльны цэх на мэталаапрацоўчым заводзе . . . . . . . . . . | 49 " |
| 7. Назаві асноўныя і дапаможныя цэхі на мэталяапрацоўчым заводзе . . . . . . . . . . | 29 " |
| 8. Якая розьніца паміж жалезам і чыгуном, паміж жалезам і стальлю . . . . . . . . . . | 19 " |
| 9. Якая розьніца паміж вагранкай і доменнай печчу . . | 12 " |
| 10. Назаві станкі, на якіх апрацоўваецца мэталь . . . | 57 " |
| 11. Назаві асноўныя часткі такарнага станка . . . . | 13 " |
| 12. Якая розьніца ў апрацоўцы мэталю на такарным і сьвідравальным станкох . . . . . . . . | 48 " |
| 13. Назаві асноўныя часткі сьвідравальнага станка . . . | 18 " |
| 14. Для якіх мэт скарыстоўваюцца мэталі ў народнай гаспадарцы . . . . . . . . . . | 86 " |

Гэтыя даныя кажуць аб тым, што вучні нашых абсьледваных школ даюць найбольшыя паказчыкі па мэталяапрацоўчай прамысловасьці па наступных пытаньнях: аб мэталях—100 проц.; аб мясцовасьцях, дзе адбываюцца мэталі—95 проц.; выкарыстоўваньне мэталяў у народнай гаспадарцы—86 проц.; якое прызначэньне мае ліцейны цэх на мэталяапрацоўчым заводзе—60 проц. Найбольш слабым месцам у нашых школах па мэталяапрацоўчай прамысловасьці зьяўляюцца наступныя пытаньні: аб такарным

станку, яго асноўных частках і карыстаньні ім—13 проц. правільных адказаў; асноўныя часткі сьвідравальнага станка і карыстаньне ім—48 проц. правільных адказаў. На пытаньне, якая розьніца паміж вагранкай і доменнай печчу—вучні далі 12 проц. правільных адказаў. Розьніца паміж чыгуном і жалезам, жалезам і сталью—19 проц. правільных адказаў.

Параўнаем паказчыкі, якія атрыманы з абсьледваных ШКМ і ФЗС:

| Пытаньні | Па ФЗС | Па ШКМ |
|---|---|---|
| | (у процантах) | |
| 1. Назаві мэталі, якія ты ведаеш . . . | 100 | 100 |
| 2. Назаві мясцовасьці, дзе здабываюцца мэталі . | 96 | 95 |
| 3. Які рост намечаны па мэталю на другую пацігодку . . . . . . . . . | 28 | 33 |
| 4. Якая розьніца паміж мэталяапрацоўчай і мэталюргічнай прамысловасьцю . . . . | 46 | 60 |
| 5. Якое прызначэньне мае ліцейны цэх на мэталюргічным заводзе . . . . . . | 51 | 64 |
| 6. Якое прызначэньне мае модэльны цэх на мэталяапрацоўчым заводзе . . . . . | 56 | 46 |
| 7. Назаві асноўныя і дапаможныя цэхі на мэталяапрацоўчым заводзе . . . . . . | 34 | 27 |
| 8. Якая розьніца паміж жалезам і чыгуном, паміж жалезам і стальлю . . . . . | 4 | 24 |
| 9. Якая розьніца паміж вагранкай і доменнай печчу . . . . . . . . . | 39 | 2 |
| 10. Назаві сганкі, на якіх апрацоўваецца мэталь . | 79 | 49 |
| 11 Назаві асноўныя часткі таварнага станка . | 34 | 4 |
| 12. Якая розьніца ў апрацоўцы мэталю на такарным і сьвідравальным станкох . . . . | 68 | 40 |
| 13. Назаві асноўныя часткі сьвідравальнага станка | 23 | 16 |
| 14. Для якіх мэт скарыстоўваюцца мэталі ў народнай гаспадарцы . . . . . . | 68 | 93 |
| Разам . . . . . . | 52 | 46 |

Лічбы гэтыя нам кажуць, што вучні ФЗС па ўсіх пытаньнях, пастаўленых анкетай, па мэталяапраоцўчай прамысловасьці далі 52 проц. правільных адказаў. Прычым больш высокія паказчыкі па наступных пытаньнях: якія вядомы мэталі—100 проц., месцазнаходжаньня мэталю—96 проц., станкі для апрацоўкі мэталяў—79 проц., розьніца паміж такарным і сьвідравальным станком—68 проц., тое самае аб выкарыстаньні мэталяў у народнай гаспадарцы—68 проц. правільных адказаў.

Найбольш слабым месцам у ФЗС па мэталяапрацоўчай прамысловасьці зьяўляецца розьніца паміж жалезам і стальлю, жалезам і чыгуном—4 проц. правільных адказаў. Намётка на 2-ю пяцігодку па мэталю—28 проц. правільных адказаў.

Па ШКМ, як гэта відаць з таблічкі, сярэдні процант правільных адказаў на ўсе пастаўленыя пытаньні па мэталяапрацоўчай прамысловасьці раўняецца—46.

Вучні ШКМ лепш разьбіраюцца ў наступных пытаньнях мэталяапрацоўкі: якія вядомы мэталі—100 проц., дзе здабываюцца мэталі—95 проц., ужываньне мэталяў у народнай гаспадарцы—93 проц., розьніца паміж мэталяапрацоўчай і мэталюргічнай прамысловасьцю—60 проц. правільных адказаў.

Найбольш слабым участкам па лініі ведаў вучняў 7-й групы ШКМ па мэталяапрацоўчай прамысловасьці зьяўляецца розьніца паміж вагранкай і доменнай печчу—2 проц. правільных адказаў, такарны станок—4 проц., сьвідравальны станок—16 проц., асноўныя і дапаможныя цэхі на заводзе—27 проц. правільных адказаў.

Вывад мы можам зрабіць такі, што справа з ведамі вучняў па мэталяапрацоўчай прамысловасьці ў ФЗС абстаіць лепш чым у ШКМ.

Такія-ж самыя вывады трэба зрабіць, калі параўнаць веды вучняў 25-й Менскай узорнай ФЗС і Любаньскай узорнай ШКМ. Вучні 25-й Менскай узорнай ФЗС даюць лепшыя паказчыкі ў ведах па мэталяапрацоўчай прамысловасьці: сярэдні процант правільных адказаў на ўсе пытаньні, пастаўленыя анкетай,—61,63, а вучні Любаньскай узорнай ШКМ даюць сярэдні процант правільных адказаў на ўсе пытаньні анкеты—48,48.

### Веды вучняў па дрэваапрацоўчай прамысловасьці

У мэтах выяўленьня ведаў вучняй 7-й групы ў галіне дрэваапрацоўчай прамысловасьці была праведзена анкета, якой было ахоплена 17 школ з іх—7 ФЗС і 10 ШКМ з агульнай колькасьцю вучняў у 346.

З атрыманых матар'ялаў відаць, наколькі слаба ўяўленьне вучняў выпускной 7-й групы ў галіне дрэваапрацоўчай прамысловасьці.

Няма ніводнай школы з 17 абсьледваных, якая-б дала адказы на ўсе пытаньні анкеты. Аналіз гэтых адказаў паказвае, што справа з аўладаньнем ведаў па дрэваапрацоўчай прамысловасьці ў нашых школах абстаіць ня зусім добра. Гэта можна бачыць з наступнай табліцы:

| ПЫТАНЬНІ | Процант правільных адказаў па ўсіх школах |
|---|---|
| 1. Назаві, якія ты ведаеш пароды дрэў . . . . . | 76 |
| 2. Якая розьніца паміж хваёвымі і лісьцянымі пародамі дрэў. | 25 |
| 3. Пералічы, якія ты ведаеш галіны дрэваапрацоўчай прамысловасьці . . . . . . . . . . . . | 65 |
| 4. Якая розьніца паміж дрэваапрацоўчай і мэталяапрацоўчай прамысловасьцю. . . . . . . . . . | 10 |
| 5. Для якіх мэт скарыстоўваецца дрэва ў народнай гаспадарцы | 85 |
| 6. Якія маюцца асноўныя і дапаможныя цэхі на дрэваапрацоўчым заводзе . . . . . . . . . . | 30 |
| 7. Назаві станкі, на якіх апрацоўваецца драўніна ў лесапілцы | 33 |
| 8. Назаві асноўныя часткі лесапільнай рамы, строгальнага, фрэзэрнага і шліфавальнага станкоў . . . . . | 4 |
| 9. Якая розьніца паміж маятнікам і цыркуляркай . . . . | 7 |
| 10. Якая розьніца ў апрацоўцы дрэва і мэталю . . . . | 15 |
| 11. Якая розьніца ў апрацоўцы дрэва на такарным і фрэзэрным станкох . . . . . . . . . . | 1 |
| Разам . . . . . . . . | 32 |

Гэтая табліца паказвае, што на пытаньне, якая розьніца паміж дрэваапрацоўчай і мэталяапрацоўчай прамысловасьцю, дана 10 проц. правільных адказаў, а на пытаньне, якая розьніца ў апрацоўцы дрэва на такарным і фрэзэрным станкох—1 проц.

Трэба наогул азначыць, што па дрэваапрацоўчай прамысловасьці вучні маюць зусім слабыя веды.

Становішча політэхнічных ведаў і навыкаў вучняў ФЗС і ШКМ на сёнешні дзень паказвае, што выкананьне пастановы ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе ад 5/IX-1931 г. праводзіцца слаба.

Матар'ялы па абсьледваньню школ сьведчаць аб тым, што ў справе політэхнізацыі школы маецца цэлы рад опортуністычных скажэньняў лініі партыі.

У дагаварох паасобных школ, заключаных з прадпрыемствамі, маюцца лявацкія ўстаноўкі.

У дагаварох заключаных 8-й Менскай ФЗС і заводамі імя Варашылава ў разьдзеле аб абавязках, якія бярэ школа, запісана: актыўна ўдзельнічаць у вытворчай рабоце заводу і ў выкананьні прамфінпляну:

а) выкананьне вытворчых заказаў;

б) організаваць збор рабочых прапаноў па рацыяналізацыі вытворчасьці і апрацоўка іх;

в) збор мэталялому на тэрыторыі заводу;

г) масавая работа ў кірунку барацьбы з прагуламі, п'янствам, спазьненьнямі на работу, бракам, за зьніжэньне сабекошту;

д) організаваць пасты небясьпекі, сыгналізуючы аб тым ці іншым прарыве на заводзе, мобілізуючы вучняў для адпаведнай работы з рабочымі ў мэтах хуткай ліквідацыі яго;

е) організаваць сіламі школы распаўсюджаньне кніжак, газэт сярод рабочых заводу.

Удзельнічаць ў правядзеньні і абслугоўваньні ўсякага роду кампаній на заводзе—лёзунгі, плякаты, насьценгазэты і інш.

У дагаворы першай Талочынскай ШКМ таксама ў разьдзеле аб абавязках, якія бярэ на сябе школа, значыцца:

„Актыўна ўдзельнічыць у вытворчай рабоце колгасу і выконваць прамфінплян шляхам:

1) выкананьня вытворчых заданьняў;

2) організаваць збор вытворчых прапаноў колгасьнікаў па рацыяналізацыі вытворчасьці і апрацоўваць іх;

3) організаваць пасты трывогі, якія павінны сыгналізаваць аб тых або іншых прарывах у колгасе шляхам мобілізацыі вучняў для адпаведных работ з іх бацькамі для хуткай ліквідацыі, для чаго організаваць пасты з 5-ці чалавек;

4) збор тары 300 адзінак.

У паасобных школах замест вывучэньня на практыцы галоўных галін вытворчасьці, у прыватнасьці сельскай гаспадаркі, вучні Чачэрскай ШКМ скарыстоўваюцца ў колгасе, як рабочая сіла, адсутнічае ўвязка тэорыі з практыкай.

Колгас вызначае работу для вучняў школы, у якой больш адчуваецца недахоп рабочай сілы ў колгасе.

Ушацкая МТС катэгорычна заяўляе, што калі школа будзе рыхтаваць ёй трактарыстаў, то МТС дапусьціць вучняў школы да работы ў сваіх майстэрнях.

Разам з гэтым трэба адзначыць і дадатныя бакі дагавароў паміж школамі і прадпрыемствамі.

У дагаворы паміж Гарадкоўскай ШКМ Глускага раёну запісана: „колгас вылучае 2-х чалавек для ўдзелу ў рабоце школы.

Бярэ на сябе організацыю ў школе рабочага пакою, дастаўляе матар'ялы для майстэрні школы, прадстаўляе поўную магчымасьць школе праводзіць вытворчую работу ў колгасе".

Райкомбінат, да якога прымацавана Парыцкая ШКМ, „дапускае ў цэхі два разы ў дэкаду вучняў школы.

Бярэ абавязкі організаваць такарна-кавальскі цэх у мэйстэрні.

Вылучае на організацыю політэхнічнага музэю школы 100 р."

Трэба таксама адзначыць, што амаль ва ўсіх абсьледаваных школах соцумовы, заключаныя паміж школамі і прадпрыемствамі, не правяраліся.

У справе практычнага ажыцьцяўленьня політэхнізацыі школы вялікую ролю адыгрываюць школьныя політэхнічныя майстэрні.

Яны павінна па сваёй організацыі, абсталяваньню і рабоце дапамагчы школе азнаёміць вучняў з тэорыяй і практыкай з галоўнымі галінамі вытворчасьці.

Зусім зразумела, што майстэрні па сваёй організацыі і абсталяваньню павінны адбіваць гэтыя галоўныя галіны вытворчасьці.

Майстэрні, павінны быць мэханізаваны, павінны мець разьдзелы мэханічнай апрацоўкі матар'ялаў—валакна, дрэва, мэталю, хэмічнай апрацоўкі матар'ялаў, энэргетычныя лябораторыі і агробіолёгічную ляборатрорыю.

У абсьледаваных ФЗС і ШКМ школьныя майстэрні ў асноўным заключаюцца ў майстэрнях па дрэву, картанажна-пераплётнай справе і, у лепшым выпадку, сьлясарнай справе і носяць рамесьніцкі характар, з крайне мізэрным абсталяваньнем.

Прыкладам могуць служыць наступныя школы: Шапілеўская ШКМ мае майстэрню па дрэву, абсталяваньне наступнае: 4 станкі, 5 сталярных лучковых піл, 5 садовых нажовак, 4 стамескі, 1 тапор, 4 рубанкі, 1 фуганак, 3 вугольнікі і 1 уравень.

Чачэрская ШКМ мае сьлясарную і сталярную майстэрні, у якіх маюцца толькі ціскі і станкі.

Парыцкая ШКМ мае толькі 1 сталярную майстэрню з абсталяваньнем з 2 вінтавых станкоў і трох простых станкоў: фуганка, рубанка і стамескі.

Для прыкладу па організацыі школьных політэхнічных майстэрняў спашлемся на 20-ю Менскую ФЗС, хаця яна ў сучасны момант не зьяўляецца цалкам політэхнічнай, але 20-я Менская ФЗС стала на правільны шлях у сэнсе організацыі політэхнічнай майстэрні.

Якія-ж ляборатрорыі разьвіваюцца ў 20-й Менскай ФЗС? Энэргетычная ляборатрорыя і яна-ж зараз, за адсутнасьцю памяшканьня—ляборатрорыя машыназнаўства, ляборатрорыя матар'ялазнаўства.

Майстэрня мае два разьдзелы: мэханічная апрацоўка мэталю і мэханічная апрацоўка дрэва—ручная і машынная.

Паложаны пачатак організацыі політэхнічнага музэю.

Што датычыцца да рабочых пакояў для першага концэнтру, то яны, як правіла, ва ўсіх абсьледаваных школах адсутнічаюць.

Да організацыі політэхнічных музэяў, якія адыгрываюць вялікую ролю ў справе політэхнізацыі школы, амаль што ніводная школа не прыступіла, за выключэньнем 20-й Менскай ФЗС.

Адсутнічае конкрэтнае плянаваньне па вытворчаму навучаньню як у майстэрнях, так і на прадпрыемстве, як, напрыклад, у Гарадкоўскай, Кашалеўскай, Любаньскай і г. д. ШКМ.

Адсюль па некаторых школах вучні па-кампанейску працуюць на прадпрыемствах, як, напрыклад, у Гарадкоўскай ШКМ Глускага раёну вучні на рабоце ў колгасе заняты не абмежаваны час. Ніякіх падагульняючых гутарак аб іх рабоце не праводзіцца. У Круглянскай ШКМ вучні працуюць у колгасе брыгадамі, работай кіруе настаўнік з удзелам старэйшых брыгадзіраў адпаведных галін гаспадаркі колгасу.

У колгасе работаюць пераважна, як рабочая сіла, без тлумачэньняў, без папярэдняга абгаварэньня іх работы.

Ніякіх плянаў работы пры пераходзе з аднаго месца на другое няма.

Вельмі слаба абстаіць справа з вытворчымі экскурсіямі; яны, як правіла, праводзяцца асобнымі настаўнікамі сваіх дысцыплін.

Работаю па вытворчаму навучаньню ў асноўным кіруюць вылучаныя прадпрыемствамі (фабрыка, завод, савгас, колгас, МТС) рабочыя з вельмі слабай агульнаадукацыйнай і політэхнічнай падрыхтоўкай і няўзброеныя пэдагогічнай і мэтодычнай падрыхтоўкай.

Настаўнікі большасьці з абсьледваных школ разглядаюць політэхнізацыю, як ілюстрацыйны матар'ял для выкананьня сваіх дысцыплін.

Што трэба зрабіць, каб падняць справу політэхнізацыі на вышэйшую ступень?

Для таго, каб ператварыць нашу савецкую школу ў сапраўдную політэхнічную, школу і паскорыць выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, для гэтага, на нашу думку, неабходна зрабіць наступнае:

1. Безадкладна выдаць адзіныя дэтальна распрацаваныя праграмы па вытворчаму навучаньню для ўсіх ФЗС і ШКМ БССР.

2. Разработаць і выдаць сэрыю мэтодычных інструкцыйных лістоў па конкрэтных пытаньнях політэхнічнага вытворчага навучаньня.

3. Безадкладна прыступіць для складаньня падручнікаў, мэтодычных дапаможнікаў па політэхнічнаму навучаньню.

4. Ва ўсю шырыню паставіць пытаньне перад гаспадарчымі і профэсіянальнымі організацыямі аб узмацненьні матар'яльнай базы школьных політэхнічных майстэрань, рабочых пакояў, політэхнічных музэяў, аб стварэньні сцэцыяльнага політэхнічнага абсталяваньня на прадпрыемствах БССР і забесьпячэньне ім школ.

5. Разгарнуць работу па падрыхтоўцы інструктароў-пэдагогаў па вытворчаму навучаньню для ФЗС і ШКМ шляхам павялічэньня прыёму ў Менскі індустрыяльна-пэдагогічны тэхнікум, адкрыцьця спэцыяльных аддзяленьняў па падрыхтоўцы інструктароў-пэдагогаў пры лепш пастаўленых тэхнікумах і пэдінстытутах.

6. Організаваць і прапусьціць праз кароткатэрміновыя курсы (3-4 месяцы), лепш зарэкомэндаваўшых сябе маючыхся зараз інструктароў па вытворчаму навучаньню ФЗС і ШКМ.

7. Ажыцьцявіць політэхнічную перападрыхтоўку існуючага настаўніцкага складу нашых ФЗС і ШКМ як па першаму, так і па другому концэнтру.

8. Програмы па вытворчаму навучаньню павінны выконвацца так, як і програмы па фізыцы, матэматыцы, хэміі, грамадазнаўству і г. д.

9. Мэтодбюро разработаць конкрэтныя пляны работы ФЗС і ШКМ па вытворчаму навучаньню.

Трэба павесьці рашучую барацьбу на два фронты супроць правых, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, якія ігноруюць політэхнізацыю школы, зводзяць яе да славеснасьці, да набыцьця адных голых тэхнічных навыкаў, да рамесьніцтва, разглядаюць політэхнізацыю, як ілюстрацыйны матар'ял пры праходжаньні паасобных прадметаў ў школе.

Супроць „левых", якія адрываюць політэхнізацыю ад засваеньня асноў навук—матэматыкі, фізыкі, хэміі і г. д.—зводзяць політэхнізацыю да вытворчай работы па выкананьню прамфінпляну.

---

Іл. Капылянскі

# Практыка політэхнізацыі Ленінскай ШКМ Слуцкага раёну

Зьяўляючыся асноўнай часткай комуністычнага выхаваньня,— політэхнічнае навучаньне, „якое павінна даць вучням „асновы навук“, знаёміць вучняў „у тэорыі і на практыцы з усімі галоўным і галінамі вытворчасьці“, праводзіць цесную сувязь навучаньня з вытворчай працай“ (з паст. ЦК УсеКП(б) аб школе)—складае адну з асноўных умоў для выхаваньня „пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм“.

У большасьці школ Слуцкага раёну якасьць політэхнічна-вытворчага навучаньня яшчэ ня ўзьнята на ровень задач, што стаяць перад школай на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Аматары самацёку і бязьдзейнасьці, носьбіты правага ўхілу ў школьнай практыцы прыкрываюцца „об'ектыўнымі прычынамі“: слабасьцю вытворчай базы і недахопам політэхнічнага абсталяваньня, слабою політэхнічнаю кваліфікацыяй асьветнікаў.

„Левыя“ опортуністы адрываюць політэхнізацыю ад засваеньня дакладна сыстэматычнага і яскрава акрэсьленага аб'ёму ведаў, забываюцца на тое, што „комуністам можна зрабіцца толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданьнем тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва“ (Ленін, т. XXV, стар. 388).

А перадавыя школы, палажыўшы ў аснову свае работы 6 умоў т. Сталіна і пастанову ЦК аб школе, змагаючыся пад кіраўніцтвам парторганізацыі з усімі ўхіламі ад ленінскай лініі комуністычнай партыі ў будаўніцтве політэхнічнай школы,—дасягнулі значных посьпехаў у справе політэхнізацыі.

## I

У 25 км ад чыгункі—у самым кутку Слуцкага раёну працуе адна з лепшых школ раёну— Ленінская ШКМ.

Пры дапамозе пролетарска-колгаснай грамадзкасьці школа здолела мобілізаваць на месцы звыш 4-х тысяч руб. для стварэньня матар'яльнай базы політэхнічна-вытворчага навучаньня.

Адзін толькі невялікі прышкольны ўчастак (менш аднаго га зямлі) за апошнія два гады даў да 2-х тысяч руб. прыбытку.

На працягу апошняга навучальнага году набыты для школы, галоўным чынам, за кошт мясцовых сродкаў: кіно-апарат з дынама-

машынай, фото-ляораторыя, інкубатар, мэтэоролёгічная станцыя, радыё-ўстаноўка, значна папоўнены фізычны і хэмічны габінэты.

Пры школе маюцца зробленыя вучнямі парнікі на 20 рам. Ад колгасу атрымана памяшканьне пад майстэрню, у якой абсталявана 15 рабочых месц, галоўным чынам, па апрацоўцы дрэва.

Да пачатку навучальнага году школа занялася вывучэньнем вытворчай базы школьнага раёну: колгасу Леніна (з ім заключаны дагавор), МТФ колгасу, малочнага заводу, савгасу Дохтаравічы, бровару і ляботарыі пры ім. У плян было ўнесена выкарыстаньне трактара, сельска-гаспадарчых машын, пажарных насосаў, тэлефону і г. д.

Такім чынам, школа атрымала магчымасьць выкарыстоўваць вытворчыя об'екты пры праходжаньні тэорытычнага матар'ялу.

Падлік вытворчых процэсаў, якія вывучаліся ў сувязі з праходжаньнем програмнага матар'ялу, праводзіўся па наступнай схеме (тут-жа маецца і адзнака аб выкананьні):

| Програмная тэма | Назва вытворчых об'ектаў | Якая кляса выкарыстоўвае | Час. Хто кіруе вытворчай працай | Адзнакі аб выкананьні |
|---|---|---|---|---|
| Цяплічныя расьліны | **Работа ў парніку** 1) Падрыхтоўчая работа: зямля, гной, засеў, догляд 2) Досьледы па гною, зямлі, па гатунках | 5 кл. | Канец сакавіка і пачатак красавіка 1932 г. Кіруе Церашэнка | Закладзены паўцёплыя два парнікі на 16 рам з засевам раньняй капусты, памідораў і табакі. Адзін парнік халодны на 4 рамы з засевам капусты. Засеены раснік табакі—махоркі на плошчы 2-х ар для акаляючых колгасаў. |
| Культура паляводства і тэхнічных расьлін | **Засеў вопытнага поля** 1) Угнаеньне. 2) Пратручваньне насеньня. 3) Гушчыня засеву, сяўнік. 4) Тэрмін сяўбы. 5) Досьлед з пасевам бульбы (цэлай бульбінай палавай, чвэрткай і восьмай часткай. 6) Досьлед засеву кармовых буракоў расадай. 7) Пасадка і вывад гароднага насеньня. | 5 кл. | Пасеў у два тэрміны 15-га мая і 22-га мая. Кіруюць Лобан і Церашэнка. | Разьбіты адзін га на вопытныя ўчасткі. Велічыня кожнага ўчастку 1 ар. Засевы зроблены на розных угнаеньнях: органічных—гной, мінэральных—фосфарна-кіслыя, каліныйныя і азотныя. Гушчыня засеву зярна ад 1 да 12 пудоў на га. Праведзены досьлед над уплывам тэрміну засеву на ўраджайнасьць |

Політэхнічна-вытворчае навучаньне шчыльна ўвязана з вучэньнем фізыкі, хэміі, прыродазнаўства, тэхнолёгіі і, часткова, матэматыкі і грамадазнаўства. Складзены гадавы плян увязкі наву-

чальных дысцыплін з політэхнічна-вытворчым навучаньнем у майстэрні, колгасе, савгасе, на парнікох (жывёлагадоўля, перапрацоўка малочных продуктаў, паляводзтва, гародніцтва).

У схеме гадавога плянаваньня паказаны вытворчыя об'екты, якія выкарыстоўваюцца ў сувязі з тым або іншым разьдзелам тэорыі па кожнай групе і вызначаны каляндар на час работы. У квартальных і дэкадных рабочых плянах таксама пералічаны моманты політэхнічна-вытворчага навучаньня.

Прыводзім вынятку з агульна-школьнага навучальнага пляну, якая паказвае наколькі школай падлічаны вытворчыя об'екты школьнага раёну, што скарыстоўваюцца пры вывучэньні тэорыі

| ФІЗТЭХНІКА | |
|---|---|
| Тэма тэарытычная | Вытворчыя об'екты<br>Практычная работа |
| 1. Вадкасьць | 1) Пажарны насос м. Леніна<br>2) Лактомэтр м. Леніна<br>3) Насосы Дохтаравічы<br>4) Дыстыляцыя і фільтры<br>5) Сьпіртомэтр Дохтаравічы |

II

Мэханічная апрацоўка матар'ялаў (пераважна апрацоўка дрэва і, часткова, мэталю)—вывучалася, галоўным чынам, у майстэрні пры модэляваньні прылад, прадугледжаных праграмай па фізтэхніцы. Вучнямі зроблены і працуюць модэлі паравой турбіны, падліўнога кола, пэрыскопу. Пабудаваны рад прылад з разьдзелу „Электрычнасьць" і, у сувязі з праходжаньнем разьдзелу „Оптыка", брыгадай вучняў 7-й групы сконструяваны з розных адкідаў надзвычайна ўдалы фото-апарат з дыяфрагмай, мехам і аўтаматычным затворам. Апарат цяжка адрозьніць ад фабрычнага. Да рэчы, на раённай школьнай выстаўцы Ленінская ШКМ дэманстравала яшчэ рад фото-апаратаў, зробленых вучнямі, і вучнёўскія фотоздымкі. Як відаць, фото-справа глыбока захапіла вучняў.

Апрача гэтага, у майстэрні зроблена мэтэоролёгічная будка для школьнай мэтэоролёгічнай станцыі, 9 ложкаў для інтэрнату, 2 шафы і рамы для школьных парнікоў.

Хэмічныя зьявы, акрамя хэмгабінэту, вувучаліся на малочным заводзе (аналіз малака і яго апрацоўка), на бровары савгасу Дохтаравічы і ў лябораторыі пры заводзе (азначэньне крухмальнасьці, цукрыстасьці, кіслотнасьці і сьпіртнасьці).

Вялікую ўвагу аддала школа вывучэньню электрычнасьці. Электрастанцыі ў раёне школы няма. Апрача вывучэньня электрычнасьці на мясцовых вытворчых об'ектах (трактар, тэлефонная станцыя), вялікая ўвага была зьвернута на модэляваньне.

У майстэрні сконструяваны модэлі электрамотору, тэлеграфу, электрычнага званка, пабудаваны радыё-прыёмнік. Школа за сродкі, сабраныя пры дапамозе рабочых, колгасьнікаў, бацькоў вучняў, набыла дынамо-машыну.

У выкананьне пункту пастановы ЦК аб „скарыстаньні кіно для школы, асабліва для політэхнізацыі“, школа набыла кіно-апарат, падрыхтавала з ліку настаўнікаў кіно-мэханіка, які здаў экспэртызу на Бабруйскай базе Белдзяржкіно, і ў сучасны момант ШКМ рэгулярна атрымлівае кіно-карціны, якія абслугоўваюць ня толькі вучняў, дапамагаючы больш глыбокаму засваеньню ведаў, але і працоўнае насельніцтва школьнага раёну. Недахопам у гэтай рабоце зьяўляецца слабае аўладаньне мэтодыкай кіно-лекцый і, часамі, ня зусім адпаведны падбор фільмаў.

Вялікую работу правяла школа ў галіне вывучэньня асноў сельскай гаспадаркі ў сувязі з праходжаньнем праграмы па прыродазнаўству.

Асабліва неабходна падкрэсьліць, што сельска-гаспадарчая політэхнічная практыка вучняў, падпарадкаваная навучальным і выхаваўчым мэтам школы, носіць яскрава акрэсьлены характар грамадзкай работы, якая дапамагае колгасу ў справе організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня, узьняцьця ўраджайнасьці, падвышэньня ўдою кароў на малочна-таварнай фэрме і г. д.

Напрыклад, за час дэкаднай практыкі вучні 7-й групы на МТФ дабіліся значнага падвышэньня ўдойнасьці кароў у выніку кармленьня іх па нормах.

Эфэктыўнасьць харчаваньня кароў па норме бліскуча даведзена.

У выніку вытворчай практыкі складзена табліца, правільнасьць якой засьведчылі загадчык МТФ і старшыня колгасу. Вось гэтая табліца.

| № па чарзе | Назва кароў | Лактацыйны пэрыод | Жывая вага ў кг. | Да вопытнага кармленьня: Выдатак харчоў на 1 галаву ў дзень (у кг): Брага | Сакавітыя | Грубыя | Выхад малака ў літрах | Першы дзень вопытнага кармленьня: Выдатак харчоў на 1 галаву ў дзень (у кг): Моцныя | Сакавітыя | Грубыя | Выхад малака ў літрах | 10-ы дзень вопытнага кармленьня: Выдатак харчоў на 1 галаву ў дзень (у кг): Моцныя | Сакавітыя | Грубыя | Выхад малака ў літрах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Нора . | Перадойка | 315 | 1 вядро | 4 | 10 кг | 0,5 | 0,6 | 6 | 5 | 1,75 | 0,8 | 6 | 5 | 4 |
| 2 | Ліса . | Перадойка | 419 | „ | 4 | „ | 0,75 | 0,8 | 8 | 7 | 3 | 1 | 8 | 7,5 | 5 |
| 3 | Слава . | 1 пэрыод | 396 | „ | 4 | „ | 4,5 | 0,8 | 8 | 6 | 5,5 | 1 | 10 | 7 | 9,5 |
| 4 | Хваля . | „ | 399 | „ | 4 | „ | 6 | 1 | 10 | 7 | 9 | 1,4 | 12 | 7 | 13 |

З школьных парнікоў колгасы атрымалі 52.000 штук расады; насенны гадавальнік школы здаў колгасу звыш 40 кг насеньня буракоў. Удала прайшоў праведзены досьлед азімага засеву буракоў. На практыкавальна-дасьледчым участку школы (на зямлі колгасу) праводзяцца назіраньні над уплывам мінэральных угнаеньняў, гушчыні засеву раньняга і позьняга тэрміну сяўбы на ўраджайнасьць.

Школай па сваёй ініцыятыве абсталявана мэтэаролёгічная станцыя, якая рэгулярна, пры актыўным удзеле вучняў, праводзіць мэтэаролёгічныя назіраньні.

Вучні прымалі ўдзел у закладцы 2-х сілосных ям, у ачыстцы насеньня і г. д.

Школа трымае моцную сувязь з колгасам, праводзячы там культмасавую работу.

Так, у часе вытворчай практыкі на аборы вучні дапамаглі колгасьнікам выпусьціць 2 насьценгазэты прапрацавалі з колгасьнікамі пастанову СНК аб жывёлагадоўлі. Вучні сыстэматычна дапамагалі колгасу ў выпуску насьценгазэт, у разгортваньні работы грамадзкіх арганізацый, ліквідацыі няпісьменнасьці. Брыгады вучняў малодшых груп трымаюць сувязь з колгаснымі брыгадамі, пішуць лісты сваім бацьком-колгасьнікам, разгортваюць соцспаборніцтва, заклікаюць выйсьці на сяўбу ў дні рэлігійных сьвят.

Узор аднаго з такіх лістоў прыводзім цалкам:

„Дарагія бацькі!

Ваша брыгаднае заданьне будзе тады выканана, калі яно будзе закончана сваечасова і добраякасна. Ёсьць чуткі, што некаторыя вашыя сябры ня рыхтуюцца выходзіць на работу на так званага „Юр'я". Нам дзіўна, што сярод вас ёсьць яшчэ такія адсталыя, што трымаюцца рэлігійнага дурману. Мы з свайго боку работы ня спыняем, а яшчэ больш бярэмся за вучобу, каб зьнішчыць з карэньнем старое і хутчэй пабудаваць новую сьветлую будучыню. Заклікаем і вас пасьледваць нашаму прыкладу.

*Вашы дзеці—вучні 2-е групы Ленінскае Школы Колгаснай Моладзі (подпісы вучняў)*

5/V-32 г.

III

Былі ў рабоце і недахопы.

Асноўным трэба лічыць тое, што вытворчы практыкум часта ня ўкладваўся ў рамкі звычайнага раскладу.

Напрыклад; скарыстаўшы сеткавы лік лекцый школа правяла канцэнтрацыю гадзін політэхнічна-вытворчага навучаньня, і 7-я група праводзіла практыку на аборы бесьперапынна на працягу дэкады.

Майстэрня школы патрабуе значнага пашырэньня і папаўненьня абсталяваньнем, галоўным чынам, для апрацоўкі мэталю.

Якасьць політэхнічна-вытворчага навучаньня ў І-м концэнтры патрабуе карэннага паляпшэньня. Неабходна абсталяваць рабочы пакой, узмацніць сувязь паміж прапрацоўкай „асноў навук" і політэхнічна-вытворчым навучаньнем, падвысіць політэхнічную кваліфікацыю настаўнікаў, асабліва І-га концэнтру з тым, каб програмы політэхнічна-вытворчага навучаньня ў малодшых групах былі пасьпяхова прапрацаваны.

Але гэтыя недахопы ня зьніжаюць вялізарнай вартасьці праведзенай работы ў справе політэхнізацыі школы.

Гэтых дасягненьняў школа дабілася пад кіраўніцтвам партячэйкі, палажыўшы ў аснову сваёй работы 6 умоў т. Сталіна, разгортваючы соцыялістычныя мэтоды работы. Правільнае разуменьне сутнасьці адзінаначальля, багатая ініцыятыва, энэргічная адміністрацыйна-мэтодычная дзейнасьць загадчыка школы т. Дабравольскага, які на Усебеларускім конкурсе на лепшую політэхнічную школу і лепшага настаўніка мае права стаяць у першых радох лепшых барацьбітоў за рэалізацыю пастановы ЦК аб школе, адданасьць справе з боку лепшых настаўнікаў: агронома школы т. Церашэнка, выкладчыка фізыкі т. Радкевіча, зацікаўленасьць у рабоце інструктара політэхнічна-вытворчага навучаньня т. Турбана, а самае галоўнае—згуртаваная дружная работа ўсяго школьнага колектыву пад кіраўніцтвам партячэйкі— забясьпечылі посьпехі Ленінскай ШКМ у справе політэхнізацыі.

Выкарыстаўшы летні час для сталай падрыхтоўкі да новага навучальнага году, Ленінская ШКМ, ліквідуючы недахопы, улічваючы практыку году барацьбы за выкананьне пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, замацаваўшы дасягнутыя посьпехі, пойдзе па шляху далейшых перамог у справе пабудовы політэхнічнай школы, у ганаровай і адказнай справе „выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм".

---

# ХРОНІКА

## Работа школ і ліkпунктаў на Тураўшчыне ў 1931/32 навучальным годзе

У 1931-32 навучальным годзе ў Тураўскім раёне работала ўсяго 33 школы, з якіх ФЗС -адна, ШКМ—6 і школ чатырохгодак—26. Апошнія падзяляліся па колькасьці комплектаў так: чатырохкомплектных — 3, трохкомплектных — 5, двухкомплектных—8 і аднакомплектных—10. Павялічэньне шольнай сеткі ў мінулым годзе было на 12 комплектаў чатырохгадовых школ і 8 комплектаў ШКМ. Усяго навучалася дзяцей у школах чатырохгодках 3.579, што складае 99,2 проц. да агульнага ліку дзяцей, падлягаючых усеагульнаму навучаньню на базе чатырохгадовае політэхнічнае школы. У ФЗС і ШКМ усяго навучалася 659 чал.; пятымі групамі паказаных школ ахоплена 100 проц. дзяцей якія скончылі чатырохгадовыя школы ў 1930-31 навучальным годзе.

Колькасны і якасны склад пэдагогічных кадраў у раёне наступны: усяго настаўнікаў—117 чал., з іх настаўнікаў першага концэнтру—95, другога концэнтру—22; з іх мужчын—66, жанчын—51, членаў і кандыдатаў КП(б)Б—6, комсамольцаў—41, беспартыйных—60; па соцыяльнаму паходжаньню—рабочых 16, колгасьнікаў—35, сялян аднаасобнікаў—21, служачых—10 і іншых—5. Па адукацыі настаўнікі падзяляюцца: з вышэйшай адукацыяй—6, з няскончанай вышэйшай—2, сярэдняй—65 і скончыўшых кароткатэрміновыя курсы—54. Па нацыянальнасьці: беларусаў—77, яўрэяў—37, расійцаў—2 і ўкраінцаў—1. Па пэдагогічнаму стажу: працуючых да аднаго году—46, да двух год—33, да трох год—12, да пяці год—10, да дзесяці—8, да пятнаццаці і больш—8 чал. На працягу навучальнага году не хапала настаўнікаў для школ першай ступені—4 і для ШКМ—3 чал., што павялічвала нагрузку наяўнага складу настаўнікаў, якія, асабліва па другому концэнтру, мелі і так максымальную нагрузку, калі прыняць пад увагу тое, што пераважная большасьць іх апрача работы ў асноўных школах абслугоўвала вячэрнія школы і розныя курсы.

У пачатку навучальнага году ў раён прыбыла на работу 55 новых маладых настаўнікаў, частка з якіх да 10 чалавек былі практыканты-студэнты Мазырскага пэдтэхнікуму, якія па адбыцьці практыкі варочаліся назад у Тэхнікум для працягваньня вучобы, а на іх месца прыяжджала другая партыя практыкантаў.

У адносінах пэдкадраў трэба адзначыць, што пераважная большасьць іх гэта моладзь, частка недастаткова падрыхтавана. Але ўсё-ж такі пры належным мэтодычным кіраўніцтве з боку РайАНА і лепшых пэдагогаў-практыкаў значная частка моладзі ўпаўне спраўлялася з работай як у школе, так і па-за школаю, актыўна ўдзельнічаючы ў грамадзкім жыцьці. Недахоп у настаўніках у пачатку навучальнага году, асабліва па другому концэнтру, быў папоўнены вылучэньнем лепшых настаўнікаў першага концэнтру ў другі концэнтр. Усяго было вылучана 18 чалавек, 9 з якіх папярэдне праслухалі адпаведныя курсы. Для забесьпячэньня пэдкадрамі ў будучым у раёне адкрыты шасьцімесячныя пэдкурсы, на якіх навучаецца 32 чалавекі і якія будуць скарыстаны на рабоце ў школах першай ступені; для школ другога концэнтру 9 настаўнікаў паслана на кароткатэрміновыя перападрыхтоўчыя курсы ў Менск, Гомель і Віцебск. Як вялікі недахоп у справе падвышэньня кваліфікацыі настаўніцтва, трэба адзначыць зусім недапушчальную пастаноўку работы па разгортваньню завочнага навучаньня сярод настаўнікаў. У раёне зараз налічваецца толькі 28 завочнікаў, але што яны робяць і як робяць ні Раённы аддзел асьветы, ні Саюз Працасьветы добра сабе не ўяўляюць. На гэтую справу трэба зьвярнуць неадкладна самую сур'ёзную ўвагу.

У рабоце школ як першага, так і другога концэнтру адзначыўся значны пера-

лом у бок агульнага палепшаньня работы на аснове пасьпяховага ажыцьцяўленьня гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе. Гэты пералом вырашаецца перш за ўсё ў своечасовым пачатку заняткаў у школах і ў ходзе нормальнай работы большасьці школ на працягу ўсяго навучальнага году, зьніжэньні другагодніцтва, якое ў сярэднім па ўсім школам раёну ў параўнаньні з папярэднім навучальным годам зьніжана на 3 проц.—было 16 проц. стала 13 проц. У гэтых адносінах вылучаюцца наступныя школы: Кармянская, якая процант другагодніцтва давяла да 6, Бухчанская і Танеская—да 8. Але ёсьць і такія школы ў раёне, якія ў гэтых адносінах ганебна адсталі. Так, Чэрніцкая і Тураўская чатырохкомплектныя школы процант другагодніцтва ня толькі ня зьнізілі, а нават павялічылі яго ў параўнаньні з мінулым годам, пакінуўшы 25 проц. вучняў на другі год, а Слабодзкая школа—20 проц. Гэта тлумачыцца нядбайнымі адносінамі да сваіх абавязкаў з боку настаўніцтва паказаных школ.

Па-другое, гэты пералом у рабоце школ адзначаецца лепшаю пастаноўкаю навучальна-выхаваўчай работы пераважнай большасьці школ на аснове ўздыму якасьці школьнай работы, політэхнізацыі школ—увязкай тэорыі з практыкай, наладжваньнем унутранага распарадку ў школах, устанаўленьнем сьвядомай дысцыпліны, лепшай пастаноўкай інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня, разгортваньнем лепшых соцыялістычных мэтодаў работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, наладжваньнем школьнага друку і ўдзелам школ (настаўніцтва і вучняў) у грамадзка-карыснай рабоце. Амаль усе школы прымацаваны да прадпрыемстваў і колгасаў, з якімі яны заключылі адпаведныя дагавары. У сваёй практычнай рабоце школы скарыстоўвалі прадпрыемствы і колгасы для разгортваньня політэхнізацыі, праз арганізацыю адпаведных работ вучняў у цэхах, майстэрнях прадпрыемстваў і брыгадах колгасаў, праз вывучэньне іх работы, аказваючы ім належную дапамогу ў разгортваньні культурна-масавай работы. Таксама школы ў сваёй рабоце шырока скарыстоўвалі мясцовы краязнаўчы матар'ял па вывучэньню прыроды, гаспадаркі, культуры і практыкі работы па соцыялістычнаму будаўніцтву. Цэлы рад школ у канцы навучальнага году організавалі выстаўкі, якія характарызавалі прароблену работу за год. Да агляду гэтых выставак шырока прыцягваліся працоўныя масы. Частка лепшых матар'ялаў з выставак перадавалася ў раённы краязнаўчы музэй.

У адносінах лепшай пастаноўкі ўсёй работы заслугоўваюць увагі такія школы—Тураўская беларуская ШКМ, Букчанская 4-комплектная школа і Хільчыцкая 3-х комплектная, якія дасягнулі значных посьпехаў ва ўсёй пастаноўцы школьнай работы па паказаным вышэй паказчыкам. Прэзыдыум Тураўскага РВК адзначыў у сваёй спэцыяльнай пастанове гэтыя школы як лепшыя ў раёне і прэміяваў першую з іх грашыма ў суме 300 р., а апошнія дзьве па 100 руб. кожную. Прэміяваны таксама рад настаўнікаў за актыўную і адданую работу па ўздыму якасьці школьнае работы. Вось імёны лепшых настаўнікаў-ударнікаў: т. Трухан—заг. Танескай ШКМ, тав. Селіцкі—заг. Верасьніцкай ШКМ, тав. Сіўко—заг. Тураўскай ШКМ—за лепшую пастаноўку работы ў даручаных ім школах прэміяваны ганаровымі граматамі. Тав. Давідзенка—заг. Дзяржынскай школы, тав. Табакмахер—заг. Малешанскай школы—за лепшае змаганьне за організацыю школьнай работы, лепшыя якасныя паказчыкі вучобы прэміяваны грашымі па 100 руб. кожны. Таксама прэміяваны грашовымі сумамі настаўнікі Тураўскай яўрэйскай 7-годкі: тав. Кантар—75 руб., тав. Унук—настаўнік Дзяржынскай школы 70 руб. і настаўнік Шульман 50 руб.; т. Шут—настаўнік Сьляпецкай школы, тав. Чышчэнка і Лебядзінскі—Бярэжыцкай школы, т. Левус—Любавіцкай школы і т. Мікалаева—настаўніца Тураўскай ШКМ—па 50 руб. кожны. Прэміяваны пасылкаю ў дамы адпачынку настаўнікі Пушкарэвіч і Шаўчук, Недашкоўскі. Пасылкаю ў ВНУ прэміяваны настаўнікі Говар і Анісавец. За барацьбу па санітарна-гігіенічнаму ўтрыманьню школы і гаспадарчасьць прэміяваны вартаўнік Верасьніцкай ШКМ тав. Акуліч Карп грашыма ў разьмеры 50 руб.

Усе школы раёну забясьпечаны ўласнымі памяшканьнямі, неабходным абсталяваньнем, падручнікамі, пісьмовымі прыладамі і бесьперабойна забясьпечваліся палівам.

У мінулым годзе значна палепшана мэтодычнае кіраўніцтва школ у сэнсе наладжваньня работы Раймэтбюро, сельсавецкіх мэтодычных аб'яднаньняў, сыстэматычнага інструктажу з боку апарату РайАНА, узаемнай дапамогі малалым настаўнікам з боку больш спрактыкаваных настаўнікаў-практыкаў, праз прымацаваньне да апошніх першых. Раённы друк—газэта „Чырвоная Тураўшчына" на сваіх старонках шырока асьвятляла работу школ, настаўнікаў і органаў народнае асьветы, даючы ўзоры лепшай работы і выкрываючы карэнныя недахопы яе.

Работа ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці за мінулы год характарызуецца наступным: усяго падлягала навучаньню на ліквпунктах 2.390 чал., навучалася фактычна 2.116 чалавек. На працягу году працавала 42 ліквпункты пры школах, дзе работу праводзілі выключна настаўнікі ў парадку дадатковай нагрузкі і апрача таго для работы па ліквідацыі няпісьменнасьці было прыцягнута 162 культармейцы—пераважна комсамольцы і вучні старэйшых груп ШКМ.

Забесьпячэньне ліквпунктаў патрэбнымі прыладамі, падручнікамі і абсталяваньнем было здавальняючае. Горш справа абстаяла з забесьпячэньнем газай, з прычыны адсутнасьці апошняй часткі ліквпунтаў прымушана была спыніць работу зімою на два тыдні, што, бязумоўна, не магло не адбіцца на рабоце ў адмоўным сэнсе.

Выпушчана з ліквпунктаў у канцы навучальнага году 1.530 чал. У наступных паселішчах Тураўшыны: Азяраны, Бечы, Хачань, саўгас Зорка Захаду, Данілевіцкі Млынок, Рудня, Люболя, Карма, Поўчын, Хлупінская Буда, Бечанская Буда, Старажоўцы і Тураў ужо да першага мая бягучага году праведзена суцэльная ліквідацыя няпісьменнасьці. Работа па ліквідацыі няпісьменнасьці працягвалася і летам у наступных сельсаветах: Танежаскім, Дзяржынскім і Верасьніцкім. На работу на ліквідацыі няпісьменнасьці мобілізавана 130 культармейцаў. Раённыя ўстановы і організацыі прымаюць усе захады да поўнай ліквідацыі рэштак няпісьменнасьці к XV гадавіне Кастрычніцкай рэволюцыі. Неабходна тут адзначыць лепшыя школы і настаўнікаў, якія ўдарна праводзілі ліквідацыю няпісьменнасьці. Па Танежскаму сельсавету аддана работалі настаўнікі Вяршэня, Сакалоўская, Хацкалева; у Верасьніцкім сельсавеце—ліквідатар-культармеец тав. Кашман, у вёсцы Перароў—тав. Крыятаў і настаўнік Тарасьня, у вёсцы Азяраны—настаўнік Шульман. Але ёсьць настаўнікі, якія справу ліквідацыі няпісьменнасьці правалілі, як гэта ў Слабодзкай школе зрабілі настаўнікі Харытановіч і Гайчук.

За добрую пастаноўку работы па ліквідацыі няпісьменнасьці на раённым зьлёце культармейцаў прэміявана грашовымі сумамі і прамтаварамі 43 лепшых культармейцаў-ударнікаў.

Для далейшай вучобы скончыўшых ліквпункты ў папярэднія гады і для малапісьменных у раёне на працягу мінулага навучальнага году работала 32 школы малапісьменных, у якіх навучалася 1.224 чал., скончыла школу 1.004 чал. На ліквідацыю няпісьменнасьці і малапісьменнасьці асыгнавана па раённаму бюджэту 17.000 руб. і сродкаў грамадзкасьці на гэту справу сабрана 1.500 руб.

Вось кароткі, далёка няпоўны малюнак работы, праведзенай у галіне народнае асьветы на Тураўшчыне ў 1931 і 1932 навучальным годзе.

Т. Кулакоў.

## Работа брыгады Палескай экспэдыцыі па вывучэньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва

Палеская комплексная экспэдыцыя, організаваная Саюзнай і Беларускай Акадэміямі Навук для вывучэньня савецкага Палесься, праводзіла сваю работу ў Петрыкаўскім, Тураўскім, Лельчыцкім і Жыткавіцкім раёнах БССР. Работа экспэдыцыі непасрэдна ў раёнах працягвалася з 13 чэрвеня па 30 ліпня бягучага году. Перад організацыяй экспэдыцыі Народны Камісарыят Асьветы БССР абяцаў вылучыць сваіх работнікаў у склад экспэдыцыі спэцыяльна для вывучэньня нацыянальна-культурнага будаўніцтва і адпусьціць належныя сродкі на гэтую справу, але на справе ні першае ні другое ім зроблена ня было. Надаючы асабліва важнае значэньне вывучэньню пытаньня нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў сувязі з усебаковым вывучэньнем савецкага Палесься, кіраўніцтва Палескай экспэдыцыі прымушана было стварыць спэцыяльную брыгаду па вывучэньню паказанага пытаньня з наяўнага складу работнікаў экспэдыцыі, хаця апошнія мелі і свае спэцыяльныя заданьні. Кіраўніцтва брыгады ўзяў на сябе начальнік экспэдыцыі—Акадэмік Шчарбакоў, а асноўную работу ў гэтай галіне выконваў навуковы работнік т. Кулакоў, часткова дапамагала навуковая супрацоўніца Саюзнай Акадэміі Навук т. Дуізбург і апрача таго да актыўнага ўдзелу ў рабоце гэтай брыгады прыцягваліся мясцовыя работнікі органаў народнай асьветы і настаўніцтва.

Работа брыгады концэнтравалася, галоўным чынам, у раённых цэнтрах, дзе зьбіраўся і вывучаўся ўвесь фактычны матар'ял, характарызуючы агульнае становішча нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў даных раёнах, як-та: кіраўніцтва ў гэтым кірунку з боку раённых установ і організацый, работа органаў народнае асьветы, рост школьнай сеткі і яе работа, работа політасьветных установ, кульмасавая работа на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах, становішча кадраў народнае асьветы, работа па абслугоўваньню нацыянальных меншасьцяў, раённы і насьценны

друк, распаўсюджваньне газэт, часопісаў і інш. літаратуры, антырэлігійная работа, ліквідацыя няпісьменнасьці і інш. У кожным раёне перад пачаткам работы брыгада склікала пашыраныя нарады адказных кіраўнікоў, якія працуюць у галіне народнай асьветы і адпаведны актыў; на гэтых нарадах абмяркоўваўся плян работы брыгады па вывучэньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва і заслухоўваліся даклады аддзелу народнае асьветы аб станові шчы нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў даным раёне, а таксама і інформацыю іншых работнікаў. Такая пастаноўка работы давала магчымасьць брыгадзе ўдасканальваць плян сваёй работы і скарыстоўваць веды мясцовых работнікаў у сваёй рабоце. На такіх-жа нарадах вылучаліся работнікі для дапамогі ў рабоце брыгадзе. Гэта ў значнай меры аблягчала работу брыгады і давала магчымасьць ёй хутка орыентавацца ў мясцовых умовах і знаходзіць патрэбны матар'ял па тым ці іншым пытаньням. Для вывучэньня культмасавай работы ў колгасах, вёсках, работы школ і дамоў соцыялістычнай культуры ўжываўся анкетны мэтод. Брыгадай была складзена адпаведная анкета для запаўненьня яе настаўнікамі і другімі работнікамі народнае асьветы. Такіх анкет раздана ў Пятрыкове на настаўніцкай конфэрэнцыі больш 50 штук, у другіх раёнах гэтыя анкеты раздаваліся настаўнікам, з якімі спатыкалася брыгада, і дасылаліся яны брыгадай разам з аддзеламі народнай асьветы на месцы настаўнікам. Да запаўненьня такіх-жа анкет прыцягваліся курсанты пэдагогічных курсаў у Тураве. Усяго брыгадай сабрана запоўненых анкет больш 70 і частка яшчэ чакаецца ад настаўнікаў, якія ў часе экспэдыцыі былі ў адпачынку. Пры выездах членаў брыгады ў колгасы і вёскі на мясцох вывучалася работа школ, дамоў соцыялістычнай культуры, лікпунктаў, чырвоных куткоў і інш.

Трэба адзначыць, што мясцовыя работнікі раённых устаноў, сельсаветаў, настаўнікі, палітасьветныя работнікі і комсамольцы надзвычайна актыўна дапамагалі брыгадзе ў яе рабоце Дзякуючы гэтаму брыгада за параўнальна кароткі час змагла сабраць багацейшы, каштоўны матар'ял, які характарызуе сабою вялізарную работу ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва, праробленую працоўнымі савецкага Палесься пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў пасьлякастрычніцкаўскі пэрыод.

Брыгада сабрала надзвычайна каштоўны матар'ял па будаўніцтву працоўнай політэхнічнай школы, да якога адносіцца: пашырэньне і рост школьнай сеткі, ставішча пэдкадраў, пастаноўка работы ў школах, грамадзкая работа школ і настаўнікаў, матар'яльная база школ і забесьпячэньне настаўнікаў, работа вучнёўскага самакіраваньня, соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах, політэхнізацыя школ і інш. Далей сабраны матар'ял, які характарызуе работу ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці, работу палітасьветных устаноў, работу кіно, радыё, тэатраў, бібліотэк, культмасавыя работы на прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах, антырэлігійную работу, работу грамадзкіх організацый, а таксама работу па разгортваньню дашкольнага выхаваньня.

Ужо зараз на падставе сабранага матар'ялу можна паказаць на тыя надзвычайна вялікія дасягненьні і зрухі ў агульным уздыме політычна-культурнага ўзроўню працоўных мас Палесься. Гэтыя дасягненьні перш за ўсё выражаюцца ў ажыцьцяўленьні аднэй з важнейшых політычных задач партыі і савецкай ўлады—увядзеньня ўсеагульнага навучаньня на базе чатырохгодкі, правядзеньня падрыхтоўчай работы да ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня на базе сямігодкі і, па-другое, пасьпяховая барацьба з цяжкай спадчынай царызму—няпісьменнасьцю, якая ў радзе раёнаў, абсьледваных экспэдыцыяй, у асноўным скончана і зараз энэргічна працягваецца барацьба па зьнішчэньню рэштак няпісьменнасьці. Далей, разгортваньне сеткі палітасьветных устаноў, організацыя раённага і насьценнага друку, організацыя кніжнага гандлю, распаўсюджваньне сярод працоўных мас газэт і часопісаў, організацыя рабкораўскага і селькораўскага руху, разгортваньне сеткі дашкольных устаноў — усё гэта вынікі напружанай работы ў галіне культурнай рэволюцыі, здабытыя працоўнымі масамі савецкага Палесься пад непасрэдным кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў жорсткіх клясавых бойках.

Вялікая таксама праведзена работа ў савецкім Палесьсі па беларусізацыі і разгортваньню культурнага абслугоўваньня сярод нацыянальных меншасьцяў, якія жывуць у Палесьсі. За годы рэволюцыі адкрыты дзесяткі школ, хат-чыталень, клюбаў і дзіцячых устаноў, якія абслугоўваюць яўрэйскую, польскую, украінскую і нямецкую частку насельніцтва, пражываючага ў Палесьсі. Вялікая кольказсьць пабудавана новых і прыстасавана старых будынкаў для школ 4-годак, ФЗС, ШКМ і інш. культурна-асьветных устаноў.

Усе гэтыя дасягненьні ў галіне культурнага і нацыянальнага будаўніцтва ў савецкім Палесьсі—раней у часы царызму прыгнечаным, адсталым, цёмным, някультурным і забітым—значна садзейнічаюць

падцягваньню яго да перадавых частак Савецкае Беларусі, забесьпячаюць пасьпяховае socыялістычнае будаўніцтва ў галіне гаспадаркі і культуры, выціскаючы перажыткі праклятага мінулага,—цемру, рэлігійнасьць, розныя паверʻі, забабоны, і г. д.

Брыгада зараз прыступіла да разработкі сабранага матарʻялу і да падрыхтоўкі яго да друку.

*Т. К.*

## Удзел настаўніцтва ў работах Палескай экспэдыцыі

У работах Палескай экспэдыцыі Саюзнай і Беларускай Акадэміі Навук, праведзімых на тэрыторыі Пятрыкоўскага, Тураўскага, Лельчыцкага і Жыткавіцкага раёнаў на працягу чэрвеня і ліпня месяцаў бягучага году, прымалі самы актыўны ўдзел настаўнікі паказаных раёнаў. Гэты ўдзел заключаўся перш за ўсё ў тым, што настаўніцтва на мясцох заўсёды аказвала неабходную дапамогу ўдзельнікам экспэдыцыі ў сэнсе прадстаўленьня памяшканьня ў школах для работнікаў экспэдыцыі. Па-другое, настаўнікі давалі патрэбныя даведкі, знаёмілі работнікаў экспэдыцыі з мясцовымі ўмовамі, дапамагалі зьбіраць патрэбны матарʻял, паказвалі на лепшыя ўзоры работы ў колгасах, савгасах, прадпрыемствах, школах і дамох соцыялістычнай культуры, паказвалі месцы пакладаў карысных выкапняў, дапамагалі выяўляць лепшых мясцовых барацьбітоў грамадзянскай вайны—партызанаў, былых работнікаў валрэвкомаў, лепшых ударнікаў, вынаходцаў і інш. Многія з настаўнікаў прыходзілі пяшком за 7-10 кілёмэтраў і давалі надзвычайна каштоўныя матарʻялы паасобным брыгадам экспэдыцыі. Наогул большасьць настаўніцтва цікавілася работамі экспэдыцыі і імкнулася аказаць ёй пасільную дапамогу.

На заклік экспэдыцыі да настаўніцтва—запоўніць анкеты па вывучэньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва, вельмі многія з настаўнікаў жыва адгукнуліся, у самы кароткі тэрмін запоўнілі іх досыць падрабязна і старанна, чым аказалі надзвычайна вялікую дапамогу брыгадзе экспэдыцыі па вывучэньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў савецкім Палесьсі.

Па Пятрыкоўскаму раёну такіх анкет запоўнена 35 шт., па Тураўскаму запоўнена настаўнікамі 5 і курсантамі пэдкурсаў 27, па Лельчыцкаму—4, частку анкет экспэдыцыя чакае яшчэ ад настаўніцтва Лельчыцкага і Жыткавіцкага раёнаў.

Неабходна тут адзначыць тых настаўнікаў, якія актыўна дапамагалі ў рабоце экспэдыцыі.

Вось яны: Пырх Кастусь—настаўнік Мэхедаўскай школы Пятрыкоўскага раёну—запоўніў анкету, даў успаміны аб першых кроках організацыі савецкай улады ў раёне і барацьбе працоўных Петрыкаўшчыны з белапольскімі окупантамі і белабандытамі, даў каштоўныя весткі аб жыцьці і рабоце колгасу Сайбіт, аднаго з лепшых колгасаў у раёне; тав. Нягрэй—настаўнік Пцічскай школы, Пятрыкоўскага раёну—запоўніў анкету па мове і нацыянальна-культурнаму будаўніцтву, сабраў фольклёр і матарʻял, які характарызуе барацьбу кулацтва на вёсцы супроць колектывізацыі сельскае гаспадаркі, даў успаміны аб барацьбе мясцовых партызанаў у часе белапольскай окупацыі Палесься і інш., т. Дубік А.—настаўнік Гаравадзкай школы Пятрыкоўскага раёну—запоўніў анкету і даў весткі аб стане колгасу імя т. Уншліхта, т. Малец А.—настаўнік Конкавіцкай школы, Пятрыкоўскага раёну, запоўніў анкету і даў весткі аб месцазнаходжаньні жалезнай руды (на балотах вв. Конкавічы і Сьлінькі); тав. Навахацкі А.—настаўнік Чалюшчавіцкай школы—запоўніў анкеты, даў весткі аб актыўных удзельніках грамадзянскай вайны і інш.; тав. Аўчыньнікаў—заг. Капцэвіцкай ФЗС, Пятрыкоўскага раёну—запоўніў анкету і даў матарʻял, характарызуючы практыку ўзорнай работы па політэхнізацыі школы; тт. Лапета, заг. Пятрыкоўскай ФЗС і тав. Лабоцкі—настаўнік той-жа школы—аказалі вялікую дапамогу экспэдыцыі ў прадстаўленьні інтэрнату і азнаямленьні работнікаў экспэдыцыі з мясцовымі ўмовамі. Па Тураўскаму раёну: настаўнік тав. Недашкоўскі—запоўніў анкету і даў успаміны аб першых кроках організацыі савецкай улады ў былой Мілашэвіцкай воласьці, настаўнікі Страх А. і Багай С. запоўнілі анкеты і далі каштоўны матарʻял з жыцьця і работы колгасаў. У Лельчыцкім раёне актыўна дапамагаў у работах экспэдыцыі тав. Бубноў, політінспэктар Райана. Усе пералічаныя асобы абяцалі і надалей прымаць актыўны ўдзел у навукова-дасьледчай рабоце шляхам організацыі на мясцох краязнаўчай работы і ўдзелу ў часопісе „Савецкая Краіна“.

*Т. К.*

## На школьна-краязнаўчым фронце

— СНК БССР 1-га чэрвеня г. г. за № 304 выдана пастанова „Пра мераприемствы для разгортваньня краязнаўчага руху“ (надрукавана ў газэце „Савецкая Беларусь“, часопісе „Савецкая Краіна“

№ 6). Пастановай вызначана задача шырокага разгортваньня краязнаўчых ячэек пры ўсіх ВНУ, ВТНУ, тэхнікумах і школах, выданьня краязнаўчых дапаможнікаў для школ і краязнаўчай падрыхтоўкі настаўнікаў праз курсы і конфэрэнцыі. У пэдагогічных установах павінна быць уведзена выкладаньне мэтодыкі краязнаўства.

* * *

— Сэкцыя пэдагогічнай асьветы Дзяржаўнага вучонага сьвету прапанавала ўсім пэдагогічным ВНУ і пэдтэхнікумам з пачатку навучальнага году ўвесьці выкладаньне мэтодыкі краязнаўства, на што вызначана па 25 гадзін.

* * *

— Школьна-краязнаўчая ячэйка пры Асіпавіцкай ШКМ на чале і пад кіраўніцтвам актыўнага краяведа-настаўніка т. А. Немцава правяла значную работу па вывучэньню мінэральнай сыравіны свайго раёну: выяўлены пакяады чырвонага жалезьняку, які можна скарыстаць як фарбу, гліны і інш. Работа працягваецца.

На вялікі жаль, ячэйка працуе бяз усякай матар'яльнай дапамогі з боку мясцовых гаспадарчых організацый, між тым як у раёне колгасам маецца на мэце пабудова цагельнага заводу, а запасы і якасьць гліны ў раёне належным чынам не дасьледваны.

* * *

— На раённых настаўніцкіх конфэрэнцыях у Капылі, Узьдзе, Чэрвені, Воршы і інш. працаўнікамі ЦБК былі зроблены даклады аб школьна-краязнаўчай рабоце. Вызначаны конкрэтныя задачы ў галіне школьнага краязнаўства.

* * *

— ЦБК выданы зборнік програм і інструкцый па краязнаўству. Зборнік зьяўляецца неабходным дапаможнікам у рабоце кожнай школы і кожнага настаўніка. Вышаў з друку 7-8 нумар часопісу „Савецкая Краіна“, у якім зьмешчаны цэлы рад дасьледчых матар'ялаў па будаўніцтву політэхнічнай школы.

---

# Краязнаўчая бібліографія [1])

## I. Краязнаўства. Прырода і вытворчыя сілы

### 1. Краязнаўства

1. Ад **ЦБК** [аб вывучэньні энэргетычных і сыравінных рэсурсаў у БССР].— *Сав. Краіна*. 932, № 5, с. 3.

2. **В. П.** Становішча краязнаўчай работы ў Мсьціслаўскім і Крычаўскім раёнах.—*Сав. Краіна*. 932, № 4, с. 91-92. Хроніка.

3. **В. С.** Кожны піонэр і вучань павінен стаць разьведчыкам прыродных багацьцяў сваёй краіны.—*Сав. Краіна*. 932, № 5, с. 108—110.

4. **В. С.** Некаторыя заўвагі аб рабоце Бабруйскага краязнаўчага музэю.—*Сав. Краіна*. 932, № 4, с. 96-97. Хроніка.

5. Да комплекснага вывучэньня Койданаўскага раёну.—*Сав. Краіна*. 932, № 3, с. 74. Хроніка.

6. Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва паміж Цэнтральным бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук, Цэнтральным бюро краязнаўства РСФСР і Украінскім камітэтам краязнаўства на 1932 г.—*Сав. Краіна*, 932, № 4, с. 95-96. Хроніка.

7. За соцыялістычныя мэтоды ў краязнаўчай рабоце.—*Сав. Краіна*. 932, № 5 с. 131-132. Хроніка. (Пад арт. подпісы брыгады). Абавязкі ў парадку соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, узятыя на сябе 8 удзельнікамі 1-ай усебеларускай конфэрэнцыі па навукова-дасьледчай працы.

8. Заключэньне аб выніках соцыялістычнага спаборніцтва паміж ЦБК РСФСР, ЦБК БССР і Украінскім камітэтам краязнаўства на падставе дагавору, заключанага на X пленуме ЦБК РСФСР.—*Сав. Краіна*, 932, № 4, с. 92—94. Хроніка.

9. Зборнік праграм і інструкцый па краязнаўству. Вып. I. М-к. 932. 142 с. 75 к. (Бел. Акад. Навук. Цэнтр. бюро краязнаўства).

10. **К-ў.** Краязнаўчая работа ў Рэчыцкім дзяржаўным белпэдтэхнікуме.—*Сав. Краіна*. 932, № 1, с. 101.

11. Кавалёў, Н. Е. Як і дзе шукаць розныя карысныя выкапні па БССР (Кароткая інструкцыя для краяведаў і турыстаў).—*Сав. Краіна*. 932, № 5, с. 46-54.

12. Краязнаўчая работа на месцах (Па інформацыям з месц).—*Сав. Краіна*. 932, № 5, с. 135.

13. Краязнаўцы—у паход за сыравінай для ўстаноў прамысловасьці. [Зварот ЦБК].—*Сав. Краіна*. 932, № 3, с. 70-71. Афіц. аддзел.

14. **Л. П.-С.** Оўруцкая геолёга-разьведачная партыя—організатар краязнаўчай работы.—*Сав. Краіна*. 932, № 5, с. 134-135.

15. Ламака, П. Краязнаўчая праца ў Самахвалавіцкай школе колгаснай моладзі.—*Сав. Краіна*. 932, № 3, с. 74. Хроніка.

16. Па-бальшавіцку выканаць дырэктывы партыі. (Пастанова Сакратарыяту Віцебскага ГК КП(б)Б ад 11 красавіка 1932 г. аб рабоце Віцебскага музэю).—*Сав. Краіна*. 932, № 5, с. 130-131. Хроніка.

17. Палажэньне аб раённым бюро краязнаўства. М-к, 932, 11 с. 10 к. (Беларуская Акадэмія Навук. Цэнтральнае бюро краязнаўства).

18. Пастанова сакратарыяту Менскага гарадзкога камітэту КП(б)Б ад 10 сакавіка 1932 г. аб організацыі гарадзкога бюро краязнаўства.—*Сав. Краіна*. 932, № 3, с. 69. Афіц. аддзел.

19. Работа ЦБК за студзень—сакавік [1932 г.].—*Сав. Краіна*. 932. № 3, с. 75-76. Хроніка.

20. Рак-Міхайлоўскі. Усім дзяржаўным і краязнаўчым музэям БССР. [Аб антырэлігійнай пропагандзе].—*Сав. Краіна*. 932, № 4, с. 85-86.

21. Рэзолюцыя Усебеларускай нарады музэйных працаўнікоў па дакладу т. Серафімава „Музэй і краязнаўчая работа“.—*Сав. Краіна*. 932, № 3, с. 71-72. Афіц. аддзел.

[1]) Складзена Дзяржаўнай бібліотэкай і Бібліографічным інстытутам БССР імя Леніна.

